*ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ*
*І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ*
*ЧАСОПІС*

**9** (971)

*ВЕРАСЕНЬ*

# ПОЛЫМЯ

**Выдаецца
са снежня 1922 года**



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Мінск 2010

## *ЗМЕСТ*






ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»

## Іван КАРЭНДА



### ВЁСКА КРЫВІЧЫ

Мой радзімы куток,
Дзе мая пачыналася доля.
Чуйнай памяці крок…
Тут пазнаў смак і хлеба, і солі.

Тут на бераг ракі
Бегаў роснаю сцежкаю з вудай.
Нёман з шэптам ракіт
Для мяне быў і шчасцем, і цудам.

Як убачу буслоў
На пасаджанай мною таполі, —
Разумею без слоў,
Што такое і доля, і воля.

Толькі тут, у цішы,
Ля лугоў і бароў векапомных,
Лёгка, вольна душы
І на сэрцы надзіва спакойна.

Тут гасцінны абрус
Рассцілае на свята матуля…
Тут мая Беларусь…
Не забыць сюды сцежку святую.

---

***Карэнда Іван Арсеньевіч*** *нарадзіўся 17 верасня 1950 года ў вёсцы Крывічы Іўеўскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя Янкі Купалы (1971), аддзяленне журналістыкі Вышэйшай камсамольскай школы пры ЦК ВЛКСМ у Маскве (1976). Настаўнічаў у Ракавіцкай сярэдняй школе Шчучынскага раёна, працаваў у газеце «Чырвоная змена», быў на партыйнай і дзяржаўнай рабоце.*

*Аўтар зборнікаў лірыкі «Белы наліў» (1995), «Знічка» (2003), «Васількі надзеі» (2008), паэтычнай кнігі для дзяцей «На загадкі ёсць адгадкі» (2001), шэрага празаічных твораў, у тым ліку аповесці «Воплаўская госця».*

* * *

Я ў хату родную ўвайшоў —
Цяплом дыхнула печ старая,
А дзед з партрэта пазірае:
«Глядзіце, госць які прыйшоў!»

Я ў хату родную ўвайшоў —
З вачэй матуліных злятае
Сляза шчымлівая, святая:
«Сынок, як сцежку ты знайшоў?»

Я ў хату родную ўвайшоў —
Нібы нанова нарадзіўся.
Чаму так лёс распарадзіўся,
Што госцем я сюды прыйшоў?

Я ў хату родную ўвайшоў —
Які ж я госць? — я сёння дома!
Тут мне з маленства ўсё знаёма,
Хоць і даўно адсюль сышоў.

Я ў хату родную ўвайшоў —
Нібыта ў Боскі храм на споведзь.
Ды хто мае грахі тут помніць? —
Чысцюткім я сюды ўвайшоў.

Я ў хату родную ўвайшоў —
Цяпер няма куды спяшацца.
Не трэба большага мне шчасця.

…Я ў хату родную ўвайшоў.

## РОДНАЯ МОВА

У перашэпце каласоў жытнёвых
І шорганні няскошанай травы,
У пошуме дубровы стогадовай
І гомане няўрымслівай дзятвы,
У розгаласе рэха над ракою
І бульканні крынічкі пад гарой,
У звонкіх перапевах жаўруковых
І першым громе веснавой парой,
У скрыпе палазоў на снезе белым
І грукаце натруджаных млыноў,
У трэсканні каштанаў пераспелых
І перазвоне храмавых званоў, —
Паўсюдна чую роднай мовы гукі.
Яна — ад нараджэння і да смерці —
Найпершая і лепшая навука
І розуму майму, і сэрцу.

* * *

Дзе гнутка — там гнецца.
Дзе тонка — там рвецца.
Дзе поўна — там льецца.
Дзе смешна — смяецца.

Улада памераў,
Прасторы і меры.

Няма толькі меры
Для шчасця і веры.

* * *

Я верыў пракрокам, ішоў безаглядна
За імі ў нябачны, прыдуманы рай,
Ды ўсё аніяк за смугой непраглядай
Разгледзець не мог залаты небакрай.

Наіўны рамантык! Вясляр у паветры!
Дзе бераг жаданы? Што з чоўнам надзей?
Дарога жыцця — не гады-кіламетры,
А словы прарокаў у плыні падзей.

Паверыш прарокам — прамая дарога,
А рушыш ісці — непраходны гушчар.
Няма ні падтрымкі табе, ні падмогі,
А ззаду адно — пыл раструшчаных мар.

Зняверыцца — горш, чым калецтва якое, —
Лягчэй карчаваць пад прымусам тайгу.
Прыдумаў жа Бог пакаранне такое!
Я гэты прысуд зразумець не магу.

За што ашалела крумкач цвердадзюбы
Збалелае сэрца штодня мне дзяўбе?
Чаму, ненажэрны, так прагне ён згубы?..

Не верыць нікому — не верыць сабе...

* * *

*Н.В.*

Восень жоўтай хусцінкай
За акном прамільгне,
Успамін-павуцінку
Ціха дорачы мне.

Падарунак прыму я
І аддзячу як след:
Запішу-зарыфмую
Светлых згадак букет.

Зноў убачу я горы
І лістоту ў агні,
Пяцігорскія зоры
І дажджлівыя дні.

І курортную сцежку,
Дзіўны позірк вачэй,
Як маланку — усмешку,
Што за сонца ярчэй.

Мройны верасня поўдзень
У вачах праплыве,
І сустрэчная споведзь
Да драбніц ажыве.

Я вярнуся ў той вечар,
Нібы ў казачным сне…
Хоць даўно збег у вечнасць,
Не забыць яго мне.

Двое ў ціхім пакоі.
Дождж па шыбах бубніць.
А пачуцці — ракою,
Не стрымаць, не спыніць.

Трапяткое дыханне…
Нечаканы працяг…
Нараджэнне кахання —
Таямніца жыцця…

Успаміны — не рэчы,
Не адсунеш убок,
Не спрабуй — не адпрэчыш
Здумак-згадак клубок.

…Не згубілася ў часе,
Саграває душу
Тая песня пра шчасце,
Што прыдумаў Машук…

Долі я не пярэчыў…
Час стагуе тугу…
Восень нашай сустрэчы
Я забыць не магу.

## НОГІ, НОГІ…

*Показка*

Маладыя ногі —
Доўгія дарогі.
А старыя ногі —
З ложка да падлогі.

Маладыя ногі —
Лёгкія дарогі.
А старыя ногі —
Сто пудоў знямогі.

Маладыя ногі —
З песнямі дарогі.
А старыя ногі —
З торбаю трывогі.

Маладыя ногі —
Думкі пра дарогу.
А старыя ногі —
Споведзь перад Богам.

Маладыя ногі
Просяцца ў дарогу.
А старыя ногі
Просяць кій-падмогу.

Маладыя ногі —
Кожны дзень дарога.
А старыя ногі
Не судзіце строга…

* * *

Я не ўбачу цябе, не ўбачу…
Ну за што не ўзлюбіў так лёс?
Разрываецца сэрца, плача,
Захлынаецца ў моры слёз.

Я не ўбачу цябе, не ўбачу…
Праклінаць буду чорны дзень,
Што жыццё маё перайначыў,
Патушыў у душы спадзеў.

Я не ўбачу цябе, не ўбачу…
І чакаю сустрэч дарма.
Ростань жарам пячэ гарачым,
Хоць віны тут маёй няма.

Я не ўбачу цябе, не ўбачу…
Пад нагамі ходзіць зямля.
У сумётах бяды-няўдачы
Студзіць шчасце маё зіма.

## НЕ ЖУРЫСЯ…

*З народнага*

Не журыся, не журыся,
Сінявокая Марыся…

Сонца сядзе за пагоркам —
Выйдзі з хаты на вячоркі,

Дзе збіраюцца дзяўчаты,
Дзе гуляюць хлопцы-хваты.

Там і песні, і пацешкі,
Гульні, прымаўкі, пасмешкі.

А знарок запыніць жартам
Хлопец спрытны, зухаваты, —

Гэта сцежачка прамая —
На цябе ён вока мае.

Зразумееш і без слоў —
Правядзе цябе дамоў.

Не спяшайся, прыглядзіся.
З ім па вуліцы прайдзіся.

Падвядзе да самай брамкі,
Прастаіць з табой да ранку.

Усміхнецца — усміхніся,
А прыгорне — прыгарніся…

Прашапчы яму: «Кахаю…
І другога не шукаю…»

А як ён мацней прыцісне —
У гаі салоўка свісне…

Значыць, хлопец, сэрцу любы,
Павядзе цябе да шлюбу.

Уцякай хутчэй у хату…
З дня на дзень чакай у сваты…

Не журыся, не журыся,
Сінявокая Марыся.

* * *

Шкада дарог, што засталіся ззаду,
Дзе сёння мне не суджана ўжо быць,
Якіх не ўбачу я за даляглядам, —
Не хоча сэрца іх ніяк забыць.

Я, мабыць, з тых, хто лёс не дакарае,
Свой крыж цярпліва на зямлі нясе,
Хто Богу сваю сцежку давярае…

А сцежка карацее пакрысе.



Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ

# ВАЛОШКІ НА МЯЖЫ*

*(сямейная хроніка ў духу барока)*

## Частка трэцяя

### I

Устудзені прускаўцы разгаўляліся пасля Вялікага посту, калолі свіней. Кужалі таксама прыкончылі свайго вепручка. Добры вепручок — пудоў пад дзесяць, самы смак, бо і не худы, і не тлусты. Каўбас нарабілі розных — і пальцам пхануюю, і вантрабянку, і кашанку з бульбай ды крупамі, і сальцісон. Паляндвіца — само сабой. З задніх сцёгнаў неблагія шынкі атрымаліся. Пальцам пхануюю і шынкі трэба было падкапціць, і Лявон звярнуўся да Лявара — кашталяна паноў Падгурскіх, каб дазволіў пакарыстацца — не задарма, вядома, — панскай вяндлярняй. У паноў Падгурскіх была цагляная вяндлярня, якая тапілася альховымі дровамі і славілася тым, што надта добрая прадукцыя з яе выходзіла. Лявон капціў сам, развесіўшы каўбасы на тонкіх, але моцных тычках з маладога сасонніку. Назіраў, як кольцы спачатку акуратна падсохлі, потым сталі падрумяньвацца. Вэнджанне — справа адказная, патрабуе ўмельства і цярпення. Трэба было сачыць за полымем, зрэдку кідаць у печ палена-другое, збіваць полымя, калі яно залішне не ўзнімалася ўгору, класці лапікі ядлоўцу.

Клопатаў шмат. У вяндлярні ад натопленай печы стаяла гарачыня. Дроў ён больш не падкладваў, а толькі кінуў некалькі галінак ядлоўцу — ад яго і карысць, і прыемны пах. Калі ў печы засталося адно толькі расчырванелае вуголле, прыкрыў застаўку і, прычыніўшы скрыпучыя дзверы на засаўку, пайшоў дахаты падсілкавацца. Каўбасы, лічы, былі ўжо гатовыя, і можна было забіраць, але хай яшчэ трохі павісяць, адыдуць ад гарачыні. Калі абыходзіў прысыпаную снегам лужыну насупрацьураднікавага дома, дык з той палавіны, дзе жыла Верка, чуліся песні і чалавечая гамана. «Гуляюць людзі, — падумаў Лявон і міжвольна пасміхнуўся, — сёння аўторак, а яны з суботы пачалі і не спыняюцца». Перакусіўшы і вяртаючыся ў вяндлярню да сваіх каўбас, сустрэў Трахіма, які без шапкі, у накінутым на плечы кажушку выбег з ураднікавага дома. На нагах дабрэнныя боты са скрыпам.

— Прывітанне, Лявон! — Трахім ашчэрыўся ў шырокай і, як заўсёды, нахабнай усмешцы, павёў сваімі жаўтлявымі вачыма і хукнуў Лявону пад нос — хацеў паказаць, што выпіўшы, яму мора па калена.

— Прывітанне, — стрымана адказаў Кужаль, які, відаць было, не хацеў гэтай сустрэчы.

---

* Першая і другая часткі ў № 8, 9. 2009 г.

— Ты куды накіраваўся?

— Маю справу.

— Каўбасы вэндзіш?

— Каўбасы.

—Пс-с-с! Заглянь на хвіліну і пойдзеш! Ты ж у Веркі ніколі не быў?

— Не-е!

— Ну то заглянь! Вып'еш чарку і пойдзеш! Да сваіх каўбасаў…

Успомніўшы нядаўнія Трахімавы выхадкі, Лявон рашуча адмовіўся.

— Ну пойдзем! Я з Веркай дамовіўся, злот даў.

Як Лявон не ўпарціўся, Трахім не адставаў, узяў пад руку і амаль сілком узвалок на ганак, а потым і ў прасторныя сені, у сутонні якіх Лявон ужо сам намацаў клямку, адчыніў дзверы і пераступіў парог. У пакоі стаяла шумная гамонка, да якой час ад часу дадаваліся нечаканыя ўскрыкі зялёнага папугая з клеткі, што вісела ў кутку. Калыхнулася і ўдарыла ў ноздры хваля тытунёвага дыму і густы бражны дух. Кужаль разабраў постаці Цімошы і Цішкі Пахолка. З краю, у шырокім крэсле, сядзеў, прываліўшыся на бок, тоўсты, як калода, Шпронька. Сярод іх знаходзілася малодшая ўраднікава дачка Верка — ні то дзяўчына, ні то жанчына гадоў пад трыццаць, а, можа, і болей, круглатварая, з ружовымі шчочкамі і па модзе вышчыпанымі ў шнурочкі брывамі. Вочы — як у сукі: пахатлівыя і бессаромныя. Апранутая ў квяцістую сукенку з кароткімі рукавамі. Лявона сустрэла прыязна:

— Проша, проша.

Са з'яўленнем Лявона з Трахімам гамонка аціхла, і ўсе чамусьці нібы насцярожыліся, апроч Веркі, якая звонка засмяялася, павёўшы вачыма па стале, на якім стаяла гарэлка і закуска.

— Прабачце, — ледзь чутна, па-шляхетнаму вымавіла яна і апусціла вочы. — Надта ж накурылі. — З гэтымі словамі яна ўстала, падышла да печы і прытулілася да яе спінай.

— Сядай, дружа! — загаманіў Цімоша, расставіўшы рукі, як бы жадаючы залавіць даўняга прыяцеля, з якім ездзілі калісьці ў Амерыку.

Лявон павітаўся з кожным за руку і сеў на лаўку каля Цішкі. Зірнуў на стол: хлеб, квашаная капуста, салёныя гуркі, сала, у зеленаватай бутэльцы — гарэлка. Усе ўжо добра ўчырванелі і гулялі ў карты. Верхаводзіў Трахім — без яго ў Прусцы, здаецца, нішто не абыходзілася. Відаць было, што ён ужо на добрым падпітку, захмялелы. Гулялі ў «ачко». Банкаваў Цімоша, заціснуўшы ў руках замусоленую калоду. Пачаў раздаваць па карце.

— Яшчэ адну! — папрасіў Шпронька, калыхнуўшы тоўстым жыватом.

Цімоша асцярожна дастаў з-пад нізу карту і падаў лавачніку. Той узяў, глянуў на карту і скрывіў вусны:

— Перабор!

— Прайграў — плаці! — напомніў «банкір».

Шпронька паляпаў сябе па пукатым жываце і грудзях, твар яго прыняў заклапочаны выраз:

— Хлопцы, нешта няма грошай.

Усе ўзбурана загаманілі.

— Гэта ў цябе няма грошай? — напудзіўся на лавачніка Трахім. — Так мы табе і паверым!..

— Няма.

— Ты што?

— Як няма.

— Калі так, дык лезь у печ! Мы ж дамаўляліся: калі прайграў і няма чым плаціць, лезь у печ і брашы як сабака, — напомніў Цімоша. — Лезь!

— Лезь! — запатрабавалі астатнія.

— Не-е, — папрасіўся Шпронька, — я тоўсты, я туды не пралезу.

— Пралезеш. Калі не ў печ, дык пад печ!

— Хлопцы, я лепш адкуплюся! — узмаліўся лавачнік. — Куды мне з маім жыватом!

— Чым адкупішся?

— Верка, — кінуў Шпронька гаспадыні, — пастаў бутэльку за мой кошт!

— Гэта — іншая справа! — падабрэў Трахім. — Гэта можна. Правільна! Але спачатку гэтую дап'ём. Цішка! — звярнуўся ён да Пахолка. — Падай кілішак!

Цішка ўзяў кілішак і падсунуў яго бліжэй да Трахіма. Наліваючы, Трахім не пацэліў рыльцам бутэлькі ў кілішак, і гарэлка пералілася цераз край.

— Пс-с-с!..

— Не пераводзь дабра! — зрабіў заўвагу Цімоша.

— Што гэта? — спытаў Лявон.

— Як што? — не зразумеў Трахім.

— Гарэлка ці лакуўка?[1]

— Хто ж лакуўкай цябе частаваць ме? Гарэлка! — павысіў голас Трахім. — Сам бы піў, ды без людзей не разбярэш, што за смак. Аквавіта! Пакаштуй!

— А, можа, чалавек і сапраўды не п'е! — заступілася за Лявона Верка, какетліва павёўшы плячыма.

Трахім наставіў на яе асалавелыя вочы:

— Ён не п'е?

— Не п'е, але пры выпадку за каўнер не вылівае, — пасміхнуўся Шпронька.

Лявон узяў кілішак, панюхаў, паднёс да вуснаў:

— Ну, будзьце здаровы!

— На здароўе! — пажадаў Цімоша, назіраючы, як Кужаль выпіў, крактануў і са стукам паставіў пусты кілішак на стол. Выцер вусы, хрумснуў салёным гурком, дастаўшы яго з міскі.

— Удалася! — пахваліў Лявон гарэлку. — Толькі каб паліцыя не зайшла.

Паліцыі баяліся. Калі паліцыя знаходзіла самагонку, гаспадара бязлітасна штрафавалі. У такім выпадку бутэльку звычайна разбівалі, самагонка разлівалася.

— Не зойдзе! — запэўніў Трахім, у якога з усімі былі сувязі, у тым ліку і з паліцыяй.

— А што ёй тут рабіць? — азвалася Верка, незадаволеная, пэўна, тым, што ўспомнілі пра паліцыю, з якой у яе не было поўнага паразумення.

— Трэба Восіпа паклікаць са скрыпкай, хай пайграе! — прапанаваў Пахолак.

— Нашто ён тут? — запярэчыла Верка. — Зноў мараль будзе чытаць…

— Нудны ён, — згадзіўся Трахім, — але хай бы пайграў.

Трахім наліў сабе і, сказаўшы: «Ну, за нас, хлопцы! Лыкнем, бо адвыкнем!», выцадзіў поўны кілішак і пачаў закусваць. Сківіцы ў яго, як жорны: капуста ажно рыпіць на зубах. Шмыгнуў носам, агледзеў стол і скрывіўся:

— Няма чым закусіць!

— У Канадзе, хлопцы, я шакаляд еў, — пахваліўся Цішка.

— Хвалішся, — хмыкнуў у рудыя вусы Трахім. — Нешта я не веру.

— Еў! — пакрыўджана паўтарыў Цішка. — Там ён смачны — не тое, што тут.

---

[1] Дэнатурат (польск.).

— Шакаляду там хапае! — паблажліва махнуў рукой Лявон.

— Шакаляд — дарагая рэч, — сказаў прыціхлы Шпронька.

Трахім наліў яшчэ адзін кілішак, працягнуў Лявону, і той зноў не змог адмовіцца. Выпіўшы другі кілішак, адчуў сябе весялей і як бы крыху асалавеў. Верка на момант выйшла і тут жа вярнулася. Лявон падумаў, што яна пайшла па закуску, а яна прынесла бутэльку, тую, мусіць, якой лавачнік адкупіўся ад печы. Кампанія адразу ажыла, і Шпронька ўжо ўзяўся быў адкаркоўваць пляшку, але Трахім прыпыніў яго:

— Пачакай, Фаміч, не адкрывай, я зараз! — падняўся і кудысьці знік. Лявон таксама памкнуўся быў ісці, але Цімоша спыніў:

— Пабудзь! Пасядзі! Хлопцы, дзе карты? Давайце яшчэ перакінемся! У ачко!

— Я не гуляю, — запярэчыў Кужаль.

— Паглядзіш, як мы гуляем! — варухнуўся грузны лавачнік.

Гульня аднавілася, і за ёй цікава было назіраць. Нарэшце «банк» перайшоў да Шпронькі, і якраз у гэты момант у пакой зайшоў Восіп — Верчын брат. Даў «добры дзень».

— А мы ўжо меліся цябе клікаць! — засакатала Верка. — Госці хацелі, каб ты пайграў на скрыпцы.

— Давай спачатку ў «ачко» згуляем! — прапанаваў Шпронька і запрасіў Дзванарыка за стол. — Сядай!

Госць, пагардліва крывячы тоўстыя вусны, зірнуў на лаўку:

— А хто сядзеў на гэтым месцы?

— Трахім.

— Не-е, я там не сяду, не люблю пасля кагосьці на цёплае месца садзіцца. — Восіп узяў столак, што стаяў ля сцяны, падцягнуў да стала і сеў, гатовы прыняць удзел у гульні. Шпронька звыклым рухам кінуў яму карту, другую паклаў каля сябе.

— На колькі ідзеш?

— А колькі ў «банку»?

— Ужо дваццаць грошай.

— На ўсе! — сказаў Восіп і дадаў: — Толькі пры мне нічога няма, не ўзяў.

— Ну, што ж, палезеш у печ.

Усе засмяяліся.

— Як — у печ?

— У іх такая ўмова, — патлумачыла Верка, — калі грошай няма, дык лезеш у печ. Не палохайся — печ халодная, ужо не помню, калі тапіла.

Восіп зірнуў у той бок, дзе, пры ўваходзе, стаяла печ, а потым доўга ўглядаўся ў сваю карту, затуліўшы яе далонямі. Кончыкі пальцаў дробна калаціліся.

— Яшчэ! — нарэшце папрасіў ён.

Шпронька з-пад нізу калоды дастаў карту і падаў Восіпу. У пакоі ўсталявалася напружаная цішыня. Восіп узяў карту і, далучыўшы яе да першай, стаў лічыць «ачкі».

— Яшчэ! — нервова запатрабаваў ён. Пальцы задрыжэлі яшчэ больш.

— Смелы! — тоячы ўсмешку, падтрымаў Восіпа Шпронька.

— Сапраўдны гулец! — у тон яму дадаў Цішка.

— Ціха вы! — сыкнуў на іх Цімоша.

Шпронька моцна засоп, выняў з калоды карту і па стале перасунуў яе Восіпу. Той узяў і зноў напружана, шавелячы вуснамі, стаў лічыць і пра нешта меркаваць.

— Ці не перабор? — усумніўся банкамёт.

— Яшчэ! — бязгучна прашаптаў Восіп і тут жа атрымаў ад Шпронькі чарговую карту. Палічыў і зірнуў на Шпроньку:

— Сабе!

«Банкір» адкрыў сваю карту — гэта быў «туз».

— О-о! — азваліся гульцы.

Не доўга думаючы, Шпронька дастаў з калоды другую карту і звонка пляснуў яе на стол побач з першай. Ізноў «туз». Другі!

— Ачко! — загаманілі навокал. — Ачко! У дзвюх картах перабору няма! Два «тузы» — ачко!

— Прайграў — плаці! — поглядам пераможцы зірнуў на пабялелага Восіпа Шпронька.

— А ў мяне дваццаць, — унурыўшыся тоўстым носам у карты і растапырыўшы іх, апраўдваўся Дзванарык.

— Плаці! — узяў Шпронькаў бок Цімоша.

— Лёгка табе сказаць — плаці, бо ў самога грошай ніколі не было! — вызверыўся на яго Восіп. — А я свае дома пакінуў! І, апроч таго, у мяне зуб баліць. Во! — Восіп ткнуў пальцам у шчаку. — Вось тут! Верхні!

— Залазь ты, браце, у печ, і калі хто на парог — брахаць пачынай! — параіў Цішка. — А я тым часам клешчы прынясу і выцягну яго табе. Мне гэта раз плюнуць! Я нават каню выцягваў.

Восіп падняўся і раптам захістаўся так, нібы меў гумовыя ногі. Утрымаўся за стол.

— Не.

— Залазь! — падбадзёрыў яго Шпронька.

Верка ачысціла прыпечак ад нейкіх прычындалаў, што на ім стаялі, і як Восіп не ўпіраўся, давялося ўсё ж такі лезці.

— Вшыстко едно! — сказаў ён і спачатку ўзабраўся на прыпечак, затым прасунуў у пячны зеў ногі і асцярожна залез сам. Маленькі, ён схаваўся ўвесь, не відаць было нават галавы. Стаіўшыся, нейкі час маўчаў. Маўчалі, стрымліваючы смех, і прысутныя.

— Ну! — патрабавальна гукнуў лавачнік. — Чаго маўчыш?

— Гаў! — пачулася з печы.

Усе з прыемнасцю зарагаталі. Шпронька ад задавальнення ажно паляпаў сябе пульхнымі даланямі па жываце. Разам з усімі смяялася і Верка.

У сенях нехта затупаў, бразнулі дзверы, што вялі з сяней на кухню. Верка кінулася туды, і праз нейкі час з кухні выйшаў Трахім. Вочы прымружаныя, а па вуснах блукала хітраватая ўсмешка.

— Гаў, гаў! — зноў прагучала ў пакоі.

— Што такое? — не зразумеў Трахім.

Хата скаланулася ад рогату.

— У мяне жывот ад смеху баліць, — паскардзіўся Шпронька.

— Гаў, гаў! — данеслася з печы.

— Пс-с-с… — засмяяўся Трахім і няўцямна паціснуў плячыма. — Ашалеў ён ці што?

— Прайграў! — Лявон паказаў пальцам на печ.

Нарэшце да Трахіма дайшло, і ён зарагатаў разам з усімі. З яго прыходам стала яшчэ весялей, і асабліва кампанія развесялілася, калі Верка прынесла цэлую талерку свежай, нарэзанай кружочкамі каўбасы. Усе прагавіта пазіралі на прынесеную закуску.

— Ну, Мікола, адкрывай пляшку! — звярнуўся Трахім да Шпронькі, які адразу ж узяўся за справу і першаму наліў Трахіму. Той выпіў і пацягнуўся за каўбасой закусіць.

— Гаў, гаў! — напомніў пра сябе Восіп.

— Вылазь! — Трахім устаў і, жуючы каўбасу, падышоў да печы, заглянуў у нутро. — Дзе ты там? Вылазь! Чуеш? Чарку налью.

Восіп пачаў асцярожна вылазіць. Спачатку паказалася ўскалмачаная галава, запэцканыя ў сажу плечы, а потым і ўвесь прайграўшы «гулец» — вылез з прыпечка, як чорт, і скочыў на падлогу.

— Налі яму гарэлкі! — уступіўся за Восіпа і Пахолак. — Ён сваё адбыў.

Шпронька наліў. Восіп выцер аб анучу рукі, падышоў да стала, узяў кілішак і, ні на кога не зважаючы, выдуў да дна, потым ткнуў відэльцам у агурок, сунуў у рот і адкусіў. Выпілі па чарзе і ўсе астатнія, у тым ліку і Лявон. Разам з усімі выпіла і Верка, шчокі яе яшчэ больш паружавелі. Трахім падміргнуў ёй, кіўнуўшы галавой. Верка па-змоўніцку засмяялася, як бы яны ўдваіх пра нешта ведалі.

Закусвалі каўбасой, елі са смакам, каўбаса пахла часнаком і кменам. Адчувалася, што свежая, нават цёплая.

— А неблагая! — пахваліў Цімоша. — Умеюць рабіць!

— Гэта я на мінулым тыдні ў Камянцы быў, на базары, — блазнуючы, пасміхнуўся Трахім. — Чалавек прадаваў, я ў яго і ўзяў. Можа, думаю, пачастую каго. А сёння ўспомніў. Збегаў і прынёс. Хай, думаю, хлопцы пакаштуюць. Ну, як? — Трахім павярнуўся да Лявона. — Ці хоць свежая?

Прысутныя сцішана, але неяк не па-добраму, засмяяліся. Лявон адвёў вочы:

— Нічога. — Ён ужо зразумеў, адкуль каўбаса.

— Адкуль нам ведаць — свежая ці не свежая? — жуючы, гаманіў Шпронька. — Каб знайшоў у ёй кавалак учарашняй газеты, дык з упэўненасцю б сказаў, што свежая. А так — хто яго ведае…

— Каўбаса як быццам і не благая, толькі лою шмат, — зазначыў Цішка. — У Канадзе столькі не кладуць.

Цімоша пхаў у рот кавалак за кавалкам і браў яшчэ.

— Ты куды руку цягнеш? — вызверыўся на яго Трахім. — Дай усім пакаштаваць!

— Мужлан! — махнула рукой Верка.

— Восіп! — гукнуў Трахім Дзванарыку. — Зайграй на скрыпцы! Ну!

Восіп аб нечым быццам падумаў, важна ўстаў, натапырыўся і знік за дзвярыма. Праз хвіліну вярнуўся, прыставіў скрыпку да падбароддзя і запілікаў, кінуўшы смычок на струны. Усе навокал прымоўклі. У музыцы Восіп цяміў болей, чым у справах гаспадарчых. Іграў досыць хвацка і ўмеў неяк адразу ўхапіць мелодыю. На гэты раз пачаў нават напяваць — нешта польскае. Заспявае і нібы ў пацвярджэнне таго, пра што спяваў, павядзе смычком па струнах:

На стос!
На стос!
Мы перша брыгада
Пілсудскага дзяда,
На стос жуцілі мы
Свуй жыцця лёс!
На стос!
На стос!

Апошні акорд прагучаў асабліва рэзка, з падцінаннем — музыкант ускінуў рукі ўгору, трымаючы ў іх скрыпку і смычок.

— Брава! Брава! — пляснула ў далоні Верка.

— А ты ж, напэўна, і не ваяваў? — засмяяўся Трахім, маючы на ўвазе Восіпа, які так імпэтна выканаў марш легіёнаў.

— Толькі таму, што яшчэ дзецко[1] быў! — парыраваў Трахімаву насмешку Восіп.

— Хадзі выпі! — загаманіў Шпронька, запрашаючы Восіпа ў кампанію. Ап'янелы, Шпронька паводзіў сябе вальяжна і раскавана. Зноў чамусьці ўсім стала весела, а Шпронька нават зарагатаў.

— Мужланы! Накурылі! — бурчэла незадаволеная Верка.

Лявон выбраў момант і пакінуў кампанію. На гэты раз ніхто яго не затрымліваў: ідзі, маўляў, калі табе трэба. На вуліцы яго праняў дрыготкі холад, і ён шчыльней зашпіліў полы кажушка. Вяндлярня стаяла на месцы і, калі ён адчыніў дзверы, дыхнула сваім нацепленым нутром. Лявон адразу заўважыў: «Нехта быў!» Кругі лічыць не стаў, здагадаўшыся нарэшце, чыю каўбасу ён смакаваў у Веркі на стале. Здагадаўся таксама, чыя гэта была работа. «Падавіцеся, гады…» — мільганула ў галаве думка, але, падумаўшы, вырашыў, што вінаваты сам, што самому трэба было пачаставаць тую кампанію. Дробязь! Ён ужо даўно прывык не адчуваць сябе пакрыўджаным ці ўшчэмленым лёсам. Ведаў: трэба жыць і, па магчымасці, радавацца жыццю. А гэта — дробязь. Пасмяяліся — ну і на здароўе.

## II

Кузёмка не з'яўляўся на працягу ўсёй зімы і прыйшоў толькі пад вясну. Ён па-ранейшаму бадзяўся па гарадах і вёсках, па базарах, знаёміўся з людзьмі, размаўляў, слухаў і запамінаў.

Фёкла мыла бялізну, схіліўшыся над балеяй. Пачула за акном гаману — глянула і ўбачыла Кузёмку. За ім з крыкам бегла дзетвара: «Кузёмка! Кузёмка! Кузёмка!..» Мінала вясна, а ён апрануты быў яшчэ па-зімняму: авечая шапка-кучомка, падшытая аўчынаю і зашпіленая на драўляныя гузікі бравэрка, з-пад якой віднеліся блішчастыя боты, запэцканыя на гэты раз гразёю. Рукамі адмахваўся ад насядаўшай дзетвары. Нарэшце адчыніў весніцы і завярнуў да Кужалёў. На панадворку, упрытык да Мішынай хаты, рос малады разгалісты каштан, які калісьці, гадоў з дванаццаць назад, пасеяў Вася, высыпаўшы ў ямку поўную шапку спелых карычневых каштанчыкаў і прыкапаўшы іх цяжкай асенняй зямлёй. Каштан ужо адцвітаў, толькі тамсям паміж свежазялёнага лісця вытыркаліся ўжо не ружовыя, а добра пажоўклыя свечкі каштанавай квецені. Фёкла паклікала Лявона, і яны назіралі, як Кузёмка па-блазенску загледзеўся на каштан, дзівячыся магутнаму росту дрэва. За акном пачаў спакваля накрапваць дождж. У жырыле за Пахолкавай кузняй пераклікаліся жабы. Нарэшце вандроўнік накіраваўся ў хату, бразнуў клямкай і пераступіў парог.

— Ну, як дзялы? — спытаў, перахрысціўшыся на абразы і зняўшы перад гэтым шапку. На твары дзівака адлюстравалася нейкая строгасць і заклапочанасць.

— Так сабе, — адказаў гаспадар, — вясны дачакаліся. Хутка сенакос. Азімыя ў рост пайшлі.

— Вам трэба асушыць тую лужыну, што каля Кастантага, а то я вунь як упэцкаўся! — Кузёмка, рассунуўшы полы бравэркі, з прыкрай мінай на твары агледзеў свой забруджаны абутак.

— Даўно збіраемся, ды ўсё неяк не атрымліваецца.

— Трэба, трэба.

---

[1] Дзіця (польск.).

— А як ты пажываеш? — спытала Фёкла.

— Перад Вялікаднем грахі здаў і ўсяночную адстаяў! — пахваліўся Кузёмка, разглядаючыся па баках.

— І мы ў царкве былі.

— Нешта аднака кашаль даймае. — Госць нібы ў доказ таго кашлянуў і прымасціўся на ўслон. Паміж двайнымі шыбінамі акна заўважыў ажыўшую муху, якая марудна, з намаганнем паўзла па шкле: — Кратаецца, — паказаў пальцам на муху. — А ў вас як здароўе?

— Дзякаваць богу, — сказала Фёкла. — А што ў свеце чуваць? Што газеткі пішуць?

— Я па-польску чытаць не спрабаваў, але навіны я і без газет ведаю. Бо там-сям быў, і ў Варшаве быў.

Кузёмка прынёс навіну: памёр Юзаф Пілсудскі. Зрэшты, прускаўцы пра гэта ведалі, але падзея была настолькі значная, што да яе ніяк не маглі прывыкнуць.

— Маршалэк Пілсудскі пie żyje, — абвясціў Кузёмка чамусьці па-польску. — Цяпер замест яго — Рыдз-Смíглы. І старыя пані, і паненкі — плакалі…

— Мы пра гэта ўжо крыху чулі, — сказаў Лявон.

Фёкла пахітала галавой:

— Ой, што ж цяпер будзе?

— А што будзе? — умяшаўся ў размову Лявон. — Як было, так і будзе. Сябры ж засталіся, і ўсё засталося. Неяк будзе!

Госць расшпіліў бравэрку, зняў і павесіў на цвік. Відаць, меў намер крыху пабыць.

— Калі хавалі, дык чорная хмара закрыла ўсё неба. І сонца было не відаць.

— Няўжо?

— Так-так! Я маніць не буду, кажу, што было.

— Ой-ёй! — яшчэ больш напалохалася Фёкла. — Гэта нейкі знак.

— Перад смерцю аднака ажаніцца паспеў ды ў пратэстантызм перайсці, бо жонка пратэстанткай была. Жанчын любіў.

— Ну і правільна, — падтрымаў Пілсудскага Лявон.

— А хто яго ведае.

— А ты так і ходзіш адзін? — у словах Лявона, звернутых да Кузёмкі, прагучала шкадаванне, але той павярнуў размову ў іншы бок:

— А ў Берасці вуліцу ў яго гонар назвалі!

— Як назвалі? — не зразумела Фёкла.

— Іменем Пілсудскага. І слупкамі вымасцілі. Кацінымі ілбамі. Каменнымі. Тымі, што ў Картуз-Бярозе шліфуюць. У Картуз-Бярозе каменныя слупкі шліфуюць.

— У Картуз-Бярозе?

— А хіба пра Картуз-Бярозу не чулі? А я там быў! На свае вочы бачыў! Усё калючым дротам аблытана. Аж жах! І дзе столькі дроту набралі! — Кузёмка ад няўцямнасці аджно падняў уверх рукі. — А зняволеныя не ходзяць, а бегаюць. І смяяцца не дазваляюць. Ні плакаць, ні смяяцца, ні размаўляць паміж сабой. А калі парушыў што, дык прымушаюць скакаць, як жаба: скок, скок, скок. У святы, калі няма работы, дык увесь час, з невялічкімі перапынкамі, трэба стаяць. А калі што — на калені. І начальнік там, кажуць, такі кат, што жыць не дае, — Грэфнер нейкі. Надта ўкраінцаў не любіць. Каб мог, дык з'еў бы.

Кужалі толькі галовамі хіталі, а Кузёмка не пераставаў здзіўляць:

— Але што самае галоўнае!

— Што? — у адзін голас запыталі гаспадары.

— А вось што. Тэрмін знаходжання ў тым лагеры ніхто не ўстанаўлівае. Колькі хочуць — столькі трымаюць. Асабліва тых, хто па другім разе туды трапляе. Рацыдывістаў!

— Каго? — перапытала Фёкла, пачуўшы незразумелае слова. Кузёмка меў зазвычай устаўляць такія словы ў гаворку.

— Ну, хто паўторна правініўся, падаткі не плаціць ці яшчэ што. Тым надта дрэнна.

Пры гэтых словах Кузёмка набраў у лёгкія паветра і, схіліўшы на бок галаву, тоненькім голасам заспяваў:

Бачыш — вунь чырвань навокал ў палях,
Гэта ўзышлі амараты.
Слухай жа кажу аб страшных часах
У месцы гэтым праклятым.

Бралі ўначы ад дзяцей, ад бацькоў,
Гналі сюды, на Галгофу,
Гэй, ды не вецер над імі шумеў —
Кроў тут змяшалася з потам.

Спявак перавёў дыханне, хітнуў галавой і даспяваў песню:

Усю цаліну ўзаралі сабой,
Бораны самі цягалі.
Жах, шэры жах поўз над гэтай зямлёй,
З жалю мадрыны дрыжалі.

Гэй, ды не вецер над імі шумеў —
Кроў тут змяшалась з балотам,
І на дзесятках знямогшых ужо цел
У скокі йшлі дзякія боты…

— Гэта, кажуць, нейкі Гаўрылюк сачыніў, — сказаў Кузёмка, даспяваўшы песню.

Колькі хвілін усе маўчалі, і госць абвясціў яшчэ адну навіну:

— Зноў будуць выбіраць сейм, дык камуністы кажуць, каб усіх выкрэслівалі, бо нічога добрага ад гэтага сейма чакаць нельга.

— Адкуль ты ўсё ведаеш? — здзівіўся Лявон. — Ты ж, здаецца, не палітык.

— Ведаю.

Кузёмка казаў праўду: сапраўды, камуністы аб'явілі байкот выбарам у сейм і далі ўстаноўку выкрэсліваць прозвішчы ўсіх кандыдатаў.

— Дык што, — паціснуў плячыма Лявон, — змірыцца з усім гэтым трэба ці ўсё ж такі нешта рабіць?

Кузёмка маўчаў, пазіраў сабе пад ногі і нарэшце выказаў сваю думку.

— Мужык мусіць падпарадкавацца ўладзе. Нічога не зробіш, сіла ўслугоўвання патрабуе. Усюды так.

— А ў нас царкву абакралі, — сказала Фёкла.

— Я чуў. Мне за Камянцом казалі. Пагалоска пайшла далёка. Ай-яй-яй! Нават не верыцца…

— Праўда.

— І хто ж гэта?

— А хто ж яго ведае…

Ад ціхага, але глыбокага ўтрапення Кузёмка абхапіў галаву абедзвюма рукамі, а калматыя бровы палезлі ажно на лоб:

— Што ж з гэтага ўсяго будзе?

Лявон з Фёклай, апусціўшы вочы, маўчалі, папраўдзе не ведаючы, што і казаць. Госць, як біблейскі Іерэмія, стаў наракаць на сучасныя норавы:

— Забылі ісціну! Страх забылі! Бога не баяцца! Пра ўсё забылі!

— Забылі, — згаджаліся гаспадары, — забылі.

— З Адама пачалося! — абурана загаманіў Кузёмка. — Ён пачаў грашыць. З таго часу і не перастаем. І чым далей, тым больш! І канца не відаць. Не ведаю нават, што рабіць.

Падобна было на тое, што чалавек зусім страціў надзею наставіць чалавека, змяніць да лепшага яго прыроду, зласлівую і агрэсіўную.

Па вуліцы, міма вокан, на жоўтай брычцы праехаў Шпронька. Цяпер у яго быў за фурмана Мікіта — старшы Аляксееў сын. Вёз гаспадара ў лаўку. Кузёмка праводзіў брычку вачыма і скептычна скрывіў вусны:

— Гандляр! Адно, каб у кішэню. І сядзіць — на ўсю брычку. Прагны, як вош. А таго не ведае, што ўвесь свет набудзеш, а душу згубіш! Каму карысць ад гэтага? — пры гэтых словах дзівак уздыхнуў і бездапаможна махнуў рукой. — З сумам я гляджу на людское ўбоства. З сумам! Я ўсё бачу, ад мяне нішто не схаваецца.

Гаспадары не сталі з ім спрачацца. Фёкла прапанавала пахлёбаць гарачага баршчу, і госць згадзіўся.

— Да не аскудзее рука дающчага, — сказаў ён і прысунуўся бліжэй да стала, перахрысціўся, узяў у рукі лыжку і кавалак хлеба. Еў моўчкі. Працаваў лыжкай паважна, не спяшаючыся. Даеў хлеб. На завяршэнне папаскі выпіў кубак малака.

— А ў вас, я чуў, баптысты з'явіліся? — папытаў ён, рукавом выціраючы вусны, і нечакана так гучна iкнуў, што нават сам напалохаўся, абхапіў рукамі жывот і абвёў вачыма прысутных. — Малако, — патлумачыў ён, — малако ўтаймавацца не можа. Як малака вып'ю, дык ікаўка нападае.

Кузёмка не любіў баптыстаў за тое, што бліжэй за ўсіх хочуць быць да Бога, як бы сабе яго прысвоіць.

— Чытаў я, што ў іх на сцяне напісана…

— Што ж там напісана? — пацікавілася Фёкла.

— Паперы развешаны: «Бог ёсць любоў».

— Чым жа гэта дрэнна?

— Даражэнькая, Бог не толькі любоў, Бог — гэта страх!

Лявон і Фёкла слухалі.

— А яны паперамі хочуць адкупіцца. Не выйдзе! Калі ў душы чалавека ёсць Бог, то ён праведнік, а калі няма — то ніякія паперы не дапамогуць. З паперамі ў гміну ідзі.

— Маеш рацыю! — згадзіўся Лявон.

— Карае нас Усявышні за грахі нашы, — павёў далей сваю думку Кузёмка. — Раней жа было інакш! Некалі жыццё іншае было. Раслі буйныя дрэвы, стаяла высокая трава. Такая, што ў ёй коні хаваліся. І рыба была вялікая, і нашмат цяплей было. Усё з'іначылася. А чаму? А таму, што карае нас Усявышні за дзялы нашы. Вось так! Саветы ў Савецкім Саюзе ствараюць тэхніку, будуюць машыны, лічаць, што машына і накорміць, і напоіць…

— Я пра гэта калісьці ўжо чуў ад аднаго чалавека.

— Машына нішто супраць Бога!

— А ці ўмееш ты чытаць? — пацікавілася Фёкла. Сама яна не ўмела ні чытаць, ні пісаць і надта зайздросціла тым, хто ўмеў.

— Калі вялікімі літарамі напісана, то магу і прачытаць. Але мне гэта без патрэбы. Тое, што трэба ведаць, я і без чытання ведаю.

У хату зайшоў Васіль. Цэлы дзень яго не было, недзе гуляў. Даў «добры дзень».

— Дзе ж гэта ты быў? — пацікавілася Фёкла. Яе непакоіла дружба сына з Косцем Хлябічам.

За Васіля адказаў Кузёмка:

— Дзе быў? Да дзяўчат хадзіў! А што — не так? — на Кузёмкавым твары з'явілася звыклая блазнаватая ўсмешка.

— Яно пара ўжо і пра жонку падумаць… — як бы між іншым зазначыў Лявон.

— Пара ўжо мне і нявестку мець! — падтрымала яго Фёкла.

— Адна і тая ж песня! — збянтэжана павёў галавою хлопец. — Жаніся ды жаніся. Чаго вы да мяне прычапіліся?

— А да каго нам чапляцца? Сын ты нам ці не? — злёгку папракнула яго маці.

— Я ў Шпронькі бярвенне з хлопцамі згружаў. Ён новую лаўку будаваць збіраецца, паўзлота за работу абяцаў, — адказаў Васіль і падаўся на кухню. Няйначай, як добра прагаладаўся.

— Ажаніцца яшчэ паспее! — махнуў рукой Кузёмка. — Чаго добрага… А пагуляць трэба, бо ўсё адно ў войска забяруць. Ад войска не адкруцішся.

— Гэта яшчэ невядома, — запярэчыла Фёкла. — Ён у нас адзін. Можа, палёгку якую дадуць.

— Забяруць! — махнуў рукой Кузёмка, упэўнены ў тым, што сказаў.

Паступова вечарэла. Даўжэлі цені. Вандроўнік ужо збіраўся апранацца і пускацца далей у дарогу, як весніцы адчыніла суседка Хомчыха. Не заходзячы ў хату, пастукала ў акно:

— Кузёмка ў вас?

— У нас! — агукнулася Фёкла.

— Каму я там яшчэ спатрэбіўся? — пажвавеў вандроўнік.

— Кузёмка, даражэнькі, памажы! — пачулася з-за акна. — Ой, ой! У нашага каня нага забалела — кульгае. Зашапчы, Кузёмка! — слёзна прасіла жанчына.

Таго каня, што ўкралі, Хомчыха так і не знайшла, але за зіму так-сяк сабрала грошай (пазычыў і Трахім), і з Апанасам агоралі новага, ды нейкі хваравіты трапіўся: то есці нічога не хоча, то жывот яму забаліць, то нага. Жывот вылечыла бабка Васіліха палыном — запарыла, зрабіла адвар і напаіла жывёліну. Дапамагло. А цяпер нага — тут бабка Васіліха бездапаможна развяла рукамі, бо гэта была не яе спецыялізацыя.

А ў Кузёмкі — па акрузе пайшла чутка — новая здольнасць праявілася: ён пачаў лячыць жывёлу, зашаптаць мог і што карыснае параіць. Вандроўны ветэрынар!

— Учора і селядца яму давала, і не хоча!

— Што?

— Селядца.

— Нашла, аднак, чым карміць — селядцамі! Ну і бабы! Ты б яшчэ цукеркамі пакарміла.

— Гэта Дзякрэта да селядцоў прывучыла.

— Я колькі каля коней хаджу, а такога не чуў, каб конь селядцамі ласаваўся.

— Ён у нас вельмі рыбу любіць! — дадала жанчына. — Самі не ядзім, а ўсё яму.

Пачуўшы просьбу Хомчыхі, Кузёмка, здзіўлена круцячы галавой, хуценька апрануўся і выйшаў. Вярнуўся ад Хомчыхі нешта праз гадзіну і яшчэ крыху пасядзеў у Кужалёў.

— Разумная, але ўсё ж такі баба, — сказаў пра Хомчыху, — хоча каб конь адразу ж ёй наўскачкі пабег. Трэба час! Але селядцы і сапраўды любіць! Аднаго з'еў. Дзіва ды і толькі. Але ж селядцы дарагія.

— Гэта Дзякрэта выдумляе, — пасміхнулася Фёкла.

На прапанову заначаваць Кузёмка не згадзіўся, спаслаўшыся на іншыя планы. Сказаў між іншым: «Яшчэ спадзяюся Смаленск і Маскву наведаць». Апрануў бравэрку, зашпіліўшы на ўсе гузікі, глыбока насунуў на лысую галаву шапку-кучомку, развітаўся з гаспадарамі і пайшоў сваёй дарогай.

— Але ж столькі падзей у свеце, столькі падзей! — здзіўлена сказаў Лявон пасля таго, як вандроўнік пайшоў.

* * *

І яшчэ адна нечаканая падзея: прыйшоў ліст з Амерыкі, ад Піліпка. Таго самага Піліпка, з якім Лявон калісьці, амаль дваццаць гадоў назад, у пошуках заробку адправіўся ў Амерыку. Трэцім быў Цімоша. Лявон з Цімошам вярнуліся — Піліпко застаўся ў Амерыцы. Худзенькі, невысокага расточку, хваравіты, ён здаваўся мала прыдатным для амерыканскага жыцця, аднак прыжыўся. Рэдка, але пісаў родзічам. Таму прускаўцы тое-сёе пра яго ведалі. Ажаніўся ён, аказваецца, невядома з якіх прычын, на негрыцянцы, што вельмі азадачыла прускаўцаў. Ніхто не мог уявіць сабе, як выглядае іхні шлюб. Гадалі, якога колеру дзеці. Здзіўлена хіталі галовамі.

І вось Піліпко прыслаў ліст Лявону. Успомніў. Чыталі ліст разам з Фёклай. Напісаны быў па-руску. Радкі выглядалі не роўна — некаторыя Піліпковы словы паўзлі ўверх, узнімаліся на дыбкі, а некаторыя апускаліся ніжэй лінейкі. Як бы той, хто пісаў, быў на падпітку. Але не, па змесце ліст быў упаўне разважлівы і сур’ёзны.

*«У насъ была большая депресія, спадъ,* — пісаў Піліпко, карыстаючыся яшчэ старымі напаўзабытымі правіламі рускай арфаграфіі, якім навучыў калісьці настаўнік Прускаўскай прыхадской школы Фама Фаміч Шпронька. — *Сдесь въ США это называютъ кризисомъ и все страшно боятся. Однако въ конце прошлого года кризисъ сталъ заметно слабеть и появилась возможность отыскать работу, потому что много было безработных. А также разного хулиганья. Я уже посуды не мою, не моё это дело. Хватитъ. Пусть моют другіе. Выгляжу вполне солидно, поправился противъ прежнего, даже есть небольшое брюшко. Ты бы можетъ быть и не сразу бы узналъ. Я с семьёй живемъ окей, имею четырехэтажный дом, который здаю жильцамъ. Это еще не высоко. В 1931 г. в Нев-Йорке построенъ Эмпайръ Стэйтъ Білдінгъ на 102 этажа. Газъты пишутъ объ этомъ до сихъ поръ. Седьмое чудо свъта! Достигли многого. Помнишъ какъ ты мылъ окна? Теперь ихъ моютъ струей горячей воды. Да что говоритъ — поменялось многое. Я всё время надеялся, что вы с Тимошей вернетесь, но Богъ распорядился иначе. Онъ наказалъ гръшную Европу войной и революціей. Вами, что и говоритъ, пережито много. Мы отсюда очень удивлялись, что стало съ Россией. Газеты писали удивительные подробности. Ведь дошло до того, что пошелъ братъ на брата. Ужасъ. Теперь кажется все образумились и взялись за дъло. Слава Богу! Такъ не пора ли тъбе, Леонтій, вернутъся в этотъ благословенный Богомъ благодатный край! Спадъ ныне пошелъ на убыль. Приезжай заодно вмъсте с женой. Говорятъ, она у тъбя красавица, хотя и не изъ нашихъ местъ. В Америке много всяческого народа, и многие перемешались. На первый случай притулокъ будешь иметь у меня. Надеюсь, здоровье у тъбя еще хорошее. Я буду въсьма радъ...»*

— Не забыў! — здзівіўся Лявон.

У канцы ліста Піліпко прасіў перадаць паклоны агульным знаёмым і напісаць, як яны жывуць.

— Жыватом хваліцца! — зарагатала Фёкла.

— Амерыканец! — абараніў сябра Лявон. — Там тоўстых шмат.

— І пра мяне ведае! — здзівілася Фёкла.

— Няйначай як Цімоша напісаў. — Лявон склаў ліст у чатыры столкі і ўклаў яго ў жоўты амерыканскі канверт. — А, можа, і сапраўды ў Амерыку падацца? Прадаць усё, на параход і — туды!.. Цяпер шмат хто едзе — і ў Штаты, і ў Канаду, і ў Аргенціну…

— Патрэбен ты Амерыцы з адной рукой!..

— Нічога! Знойдзем работу!

— Кінуць усё, што нажывалі?

Лявон уздыхнуў: на гэтае пытанне адказу ў яго не было.

Васіль, відаць, бавіў час недзе з хлопцамі, і селі вячэраць без яго. «Амерыка, Амерыка… — круцілася ўвесь час у Лявонавай галаве. — І чаго я тады вярнуўся? Быў бы цяпер як Піліпко. Але хто яго ведае, як лепш…»

Пасля вячэры яшчэ раз перачыталі Піліпкоў ліст і нарэшце паклаліся спаць.

Заснуў Лявон не адразу, а толькі недзе апоўначы. Заснуў і ўбачыў сон. Яму прыснілася нешта такое, ад чаго ён прачнуўся і адчуў, як моцна б'ецца сэрца. Прыснілася яму маладая негрыцянка і свежыя гуркі, якія ён нёс з агарода ў плеценых кошыках. Негрыцянка глядзела на яго і рагатала, паказвала язык. Паводдаль стаяў і пасміхаўся фермер Грыцько Бузук. Фёкле такі сон не раскажаш…

Назаўтра Піліпкоў ліст прачытаў Васіль.

### III

Вясна, як звычайна, прыбавіла клопатаў. Васіль цяпер вёў гаспадарку нароўні з айчымам, дапамагаў ва ўсім. Гаспадарка ў Кужалёў, дзякуй богу, у параўнанні з мінулымі гадамі, пайшла ўверх. Неяк быў завітаў да Лявона Якаў Арыстархавіч. Даўшы звычайнае «маё шанаванне», паўзіраўся ў гаспадара, затрымаўшы яго руку ў сваёй, пахваліў:

— А ты малайчына! Так і трэба!

— А што такое?

— Салідна выглядаеш.

— Гэта толькі здаецца.

Госць агледзеў пакой, затрымаў позірк на высокіх падушках, што ляжалі на ложку ля супрацьлеглай сцяны. Белыя навалачкі былі прыгожа вышыты крыжыкамі.

— А ведаеш, Лявоне, чаго я да цябе прыйшоў?

— Н-не.

— Ты калісьці хацеў у Падгурскага зямлі купіць — купі ў мяне! Прадам табе той кавалак, што каля крухмальні. Мне яго абрабляць нязручна — за ракою. І сад не ўсцеражэш. А табе — усё пад бокам! Можа, і крухмальня спатрэбіцца.

Ад нечаканасці Лявон крыху нават разгубіўся, забыў запрасіць госця прысесці. Якаў Арыстархавіч зняў з галавы і павесіў капялюш, прыткнуў да сцяны «кульбу».

— Крухмальня?

— Але, — госць сеў на лаўку. — Месца добрае. Зямля!

Кужаль колькі часу маўчаў, не ведаючы, што і сказаць.

— Гаспадар ты выдатны — пацягнеш! — дадаў Якаў Арыстархавіч.

— Хто яго ведае.

— Ну? Зямлі ў мяне, скажу табе, хапае. Каб засеяць адно толькі тое поле, што мяжуе з Бранавічамі, мне трэба дванаццаць мяшкоў жыта! Зямля

таксама добрая! Родзіць у пяць разоў болей, чым пасееш. Людзей наймаю — з Шаліч, Гароднікаў, з Вялікай прыходзяць. З Бранавіч — не наймаю. Бранаўцы нічога добрага мне не жадаюць. Ад іх толькі прыдзіркі. Але пшадоўнік з Камянца сказаў мне: «Pane Jakube, niech się Pan nie przejmuje tym gównem!»[1]. Ім я не прадам.

— Зямля патрэбна! — згадзіўся Лявон. Ад хвалявання ён правёў даланёю па лбе, прыгладзіў чубчык: «Сапраўды, Вася жэніцца — што тады? Захоча на сваю гаспадарку ўзбіцца, а зямлі малавата…»

— Дык, хоба на яго, у чым справа? Па руках! — захваляваўся фальварковец, адчуўшы, што жалеза трэба каваць, пакуль яно гарачае.

— Колькі ты просіш?

— Тры з палавінай тысячы.

— Але ж гэта грошы.

— Ну, вядома. А хіба ў цябе няма? Ты гадуеш коней, а сёння, пасля Пілсудскага, пры ўладзе вайскоўцы, ім коні трэба. Дэфіляды[2] — адна за другой, і ўсё на конях! Пры Пілсудскім тое было, а зараз яшчэ больш.

— Я падумаю, трэба ўсё ўзважыць. А за прапанову вельмі ўдзячны.

— Адбудуеш — крухмал, хоба на яго, будзеш рабіць. Крухмал кругом патрэбны. Акупіцца.

«Чаму ж ты не адбудаваў?» — падумаў Лявон, але прамаўчаў. Нібы пачуўшы ягоныя думкі, фальварковец дадаў:

— Я б і сам, хоба на яго, адбудаваў, але ж усяго не схопіш: у мяне і пчолы, і сыраварня, і сад, і поле. Надта шмат клопатаў. А з Амброжыя які памочнік? Ён толькі пагаварыць любіць, паразважаць і не больш. Ну, але думай, думай!

Візіт Якава Арыстархавіча ўсхваляваў. Крухмальня яшчэ доўга не выходзіла з Лявонавай галавы — надта добрая была там зямля. Панская!

Такія-сякія грошы ў Кужалёў вяліся. Апроч таго, што здавалі малако Пацам, Лявон заняўся яшчэ і конегадоўляй. Проста збываць ураджай збожжа было нявыгадна: мяшок жыта каштаваў усяго толькі восем—дзевяць злотых. Іншая справа — коні. Іх куплялі вайскоўцы для патрэб арміі. Лявон не раз успамінаў містэра Грыцька з штата Ілінойс, на ферме якога працаваў калісьці, калі быў у Амерыцы. Фермер гадаваў коней, якіх у яго забіралі вайскоўцы. Гэтаксама пачаў рабіць і Лявон. Кавалерыя ў палякаў, як вядома, заўсёды была ў пашане, яшчэ са старых часоў. Ды і гарматы трэба было цягнуць. Ды мала што яшчэ! Вайскоўцы коней, добрых коней, цанілі. Няблага плацілі. За першага каня ён атрымаў трыста злотых, а за другога нават болей — трыста пяцьдзесят. Лепшых жарабятак пакідаў на племя. Акрэслілася, такім чынам, перспектыва, і ім зноў авалодала жыццёвая энергія, адчуванне здароўя і моцы. Нарэшце ўсё ж такі выбавіліся з беднасці. У гаспадарцы мелася ўжо некалькі коней, пяць кароў, дзесятак авечак, свінні. Лявон, каб па-сапраўднаму займацца коньмі, першым у Прусцы навучыўся сеяць канюшыну.

Гады два назад кабыла Ласка прывяла жарабя. Нарадзілася яно летнім часам на лузе. Кволае і бездапаможнае на пачатку, яно з цягам часу з аблеткаператварылася ў прыгожую і грацыёзную маладую кабылу. Назвалі яе Лялькай. Яна была не толькі прыгожая, але і выключна разумная і фізічна вынослівая. Упэўнена стаяла на сваіх стройных сухаватых нагах, абапіраючыся на высокія бурштынавыя капыты. І што яшчэ важна — была зусім не наравістая. Рабіла ўсё без прынукі. Ні Лявон, ні Вася ніколі на яе пугай не замахнуліся.

[1] Пане Якаў, няхай Пан не пераймаецца той дрэнню! (польск.)

[2] Парады (польск.).

— Ласкавая надта, — казаў пра яе пасынак, яшчэ калі яна была кволым жарабяткам. — Яна толькі гаварыць не ўмее, а разумець — усё разумее.

Любіла Лялька сакавіты мурог, асабліва смачную росную дзяцеліну. Путаў яе хлопец са шкадаваннем — дзеля гэтага навучыўся віць з пянькі мяккія путы, і Лялька давалася путаць.

Неяк пад вечар Лявон застаў пасынка, калі той завёў Ляльку ў хлеў і клаў ёй у яслі канюшыну. Васіль любіў падкінуць ёй абярэмак аўсянай саломы з сенам ці лішні ахапак канюшынкі, падсыпаць аўсу, пачысціць скрэблам спіну, расчасаць грыву, і айчым звычайна хваліў яго за гэта. Кабыла ільснілася так, што, здавалася, быццам бы яе толькі што выкупалі ў рацэ. Васіль абедзвюма рукамі абхапіў яе галаву, прытуліўся шчакою.

— Глядзі, капыты ў яе якія моцныя! — адзначыў Лявон, зірнуўшы на прыгажуню. Пра нешта, мусіць, хацеў пагаварыць з пасынкам, але той, відаць, некуды спяшаўся.

Лявон пасміхнуўся:

— Няйначай, з Косцем сустракаешся?

— З хлопцамі.

— А я падумаў, што з Косцем.

— Не.

Апошнім часам Лявон асабліва хваляваўся за пасынка, баяўся, каб з яго дружбы з Косцем не выйшла чагосьці дрэннага.

— Лішне яго не слухай, бо свой розум трэба мець. — Лявон узяў у рукі вілы і пачаў падграбаць нацярушаную салому.

— Ну, годзе, тато, не рабіце з мяне дзіця! Я ж ужо не маленькі.

— Не маленькі, — згадзіўся Лявон, — і ровар у цябе ёсць, і касцюма купіў, да дзяўчат ходзіш. Што табе яшчэ трэба?

— Я і сам не ведаю.

Хлопец казаў праўду. Ён і сам не ведаў, што з ім дзеецца, але ў галаве іншае было — не дзяўчаты. Унутры, недзе на самым дне душы, рос непакой, адчуванне стамляючай аднастайнасці жыцця. Яго маладая істота перажывала своеасаблівы крызіс. Айчымава постаць то падабалася яму, нават выціскала слязу жаласці, то, наадварот, рабілася чужой, невыноснай. «А што далей? А што далей?» — на гэтае пытанне не было адказу. А недзе ж людзі зусім па-іншаму жывуць. Вучацца, на заводах працуюць. Нават на самалётах лётаюць! А тут? Нейкае беспрасвецце. Эх, як так жыць, дык лепш у войска!»

— Жаніцца трэба, — парушыў маўчанне Лявон. Вася зірнуў на яго і зноў задумаўся. — Неяк днямі заходзіў Якаў Арыстархавіч, прапанаваў купіць у яго крухмальню.

— А што тая крухмальня, — Вася крыху пажвавеў, — адна цэгла. Руіны.

— Чаму адна цэгла? Там зямля, сажалкі, крыху сенакосу. Вось і будзе табе занятак.

Хлопец усміхнуўся.

— А тое, — айчым загаманіў зноў, — што Косця кажа, ты паміж вушэй прапускай. Гаворыць ён шмат, але не ўсё трэба слухаць.

— А я і не слухаю.

— Глядзі! А то паліцыя загляне пад нагавіцы…

Каб гэта хто іншы сказаў, не айчым, дык напэўна можна было б абразіцца і нават здачы даць, але на айчыма, які быў Васілю за бацьку і жадаў толькі дабра, не абразішся.

Хлопец аднак спахмурнеў і змоўк.

— Косцю я ведаю — гэта вялікі фантазёр. З бацькамі больш райся.

Фёкла кіравалася даіць кароў і, з вёдрамі, спынілася ля дзвярэй, падышла да мужчынаў.

— Што гэта вы абмяркоўваеце? Можа, і мне цікава будзе?

— Пра жыццё гаворым, — нахмурыў бровы Лявон.

— Пра Косцю Хлябіча, — пасміхнуўся Васіль, пазбягаючы матчынага позірку і пазіраючы сабе пад ногі.

— Ой, Вася-Вася, — скрушна пахітала галавой маці.

У канюшні запанавала цішыня, чутно было толькі, як Лялька, не спяшаючыся, хрумстала канюшынай.

— А, можа, мне ў Амерыку падацца? — сказаў раптам нібы самому сабе хлопец. — У Амерыку ці ў Парагвай… Цяпер у Парагвай усе едуць. Ці яшчэ куды.

Гэта прагучала даволі нечакана, і Лявон з Фёклай абмяняліся трывожнымі і занепакоенымі позіркамі.

— Яшчэ чаго! — апомнілася нарэшце Фёкла. — Лёня, ты чуў?

— Чуў.

— Ну як табе гэта падабаецца?

Усталявалася цішыня, нават Лялька перастала хрумстаць канюшынай. Лявон пачасаў патыліцу, прыгладзіў сіваваты чубчык на лбе:

— Трэба падумаць.

— Што тут думаць? Аднаго — не пушчу!

— Яму ж усё адно праз год у войска ісці. Калі ў войска, дык лепей у Амерыку. Гэта я па сабе ведаю, бо і ў войску быў, і ў Амерыцы. Узяў ды рызыкнуў. І бачыш — жывы.

— Пашанцавала. Але тым сам, Лёня, расказваў, што магло і не пашанцаваць.

— Трэба разлічваць на лепшае. Падумаць трэба.

Васіль, нічога не кажучы, пакрочыў на вуліцу, дзе яго чакалі сябрукі.

— Заробіць даляраў і вернецца. Гады на два, на тры… — дадаў Лявон. — А там і жэніцца. Сталасць прыйдзе, вопыт.

— Хто яго ведае, — Фёкла, бразгаючы вёдрамі, пайшла да кароў, удыхаючы цёплы дух, ужо як бы прадчуваючы пах сырадою. Апошнім часам гэты прыемны пах слаба яе цешыў. Перадалася, мусіць, сынава трывога, яна ўсё больш задумвалася над сваім жыццём. Жыццё яе склалася так, што звычайна на думанне і часу не хапала. Ды і пільнай патрэбы ў гэтым не было. А цяпер пачала думаць. Ці можна яе жыццё назваць шчасцем? Праца, праца, праца. Яна кахала Лявона. Кахала моцна і аддана. Каханне яе ўрасло ў гэтую штодзённую бясконцую работу, якая стала арганічнай і незаўважальнай часткай іх адносін паміж сабой. Інакш кажучы, і ён, і яна не бачылі за работай свету. А калі падумаць, дык які толк ад гэтай работы? Толькі болі ў спіне. Праўда, злот-другі заводзіцца, але што з таго…

Да размовы пра Амерыку яны вярнуліся ўжо ў хаце, скончыўшы працу і топячы печ. Сына дома не было. Першай загаманіла Фёкла. Зняла з галавы хусціну, прычасалася і крыху прыбралася. Выглядала значна памаладзелай.

— А я, Лёня, усё думаю.

— Пра што, Фяклуша?

— Слухай, а, можа, і сапраўды адправім яго ў Амерыку? Тады, можа, і войска абміне? А, можа, і лёс добра складзецца?

— Калі так, то Піліпку трэба пісаць, — Лявон зірнуў на жонку. — У Амерыцы добра! Там калі працуеш, дык маеш усё! І ўсе цябе паважаюць, шануюць.

— Каб жа так! — уздыхнула Фёкла. — Гэта ж цудоўна!

— А чаму ж не? Я ведаю! Гэта не перабольшанне. Нездарма кажуць, што ў Амерыцы нават самы бедны есць пірагі. Цудоўная краіна, і людзі цудоўныя. У мяне, паверыш, найлепшыя ўспаміны!

— Там, відаць, як і ў нас, у Расіі: чорнага хлеба не ядуць, а толькі белы. Зрэшты, гэта калісьці так было, цяпер, відаць, не…

— Амерыка — пшанічны край! — ударыўся ва ўспаміны Лявон. — Пшаніца і кукуруза! А якія гатункі!..

У расчыненае акно заляцеў нейкі пярэсты легкакрылы матыль і стаў гулліва кружыцца над сталом, быццам хочучы паведаміць нейкую навіну.

— А што гэта — ку-ку-ру-за? Нават вымавіць не проста. Амерыканскае нешта?

— Расліна такая. Вялікая вырастае, як лес! Сонца любіць. Уяві сабе: стаіць на сонцы зялёны лес, на кожнай сцябліне па некалькі пачаткаў, а ў пачатках — зерні, буйныя і жоўтыя, як воск. Надта ляпёшкі смачныя з кукурузы.

— Цікава!

— Яшчэ як цікава. Дык што? Можа, Піліпко выклік прышле, а там і сустрэне? Я пра Васю кажу.

— Можа, дапаможа на першых парах?

— Дзіва што — свой чалавек!

— Вася — кемны.

— Ён малайчына.

— А там, следам за Васем, і самі паедзем.

Лявон уважліва зірнуў на жонку:

— У Амерыку?

— А што? Прададзім гэтых кароў і паедзем. А то надаелі яны мне! І насіць малако надаела! І ты, і я — працуем, як катаржныя! А што толку?

— Дык што — можа, самім сепаратар купіць?

— Канкурэнцыі не вытрымаем, — уздыхнула Фёкла. — Лепш у Амерыку. У Расію вяртацца ўжо не будзем, паедзем далей!

— А, можа, і так! — Ён абняў жонку, пяшчотна прыціснуў да сябе, пацалаваў…

Паслаў Лявон Піліпку — быламу аднавяскоўцу і сябру ў Амерыку адказ на яго ліст. Распавёў пра сваё жыццё-быццё, пра сям'ю і гаспадарчыя справы, а таксама пра цэны на збожжа і жывёлу. Напісаў пра тое, што больш як пяць гадоў прабылі ў Расіі, у бежанстве, як ехалі туды і назад, як параніла на вайне, што ледзьве не аднялі руку. Але нічога, неяк абышлося. Падзякаваў за запрашэнне прыехаць на сталае жыццё ў Амерыку. Наконт гэтага пісаў:

*«Сам я з жонкай Фёклай пакуль што прыехаць не можам. Скрануцца з месца, ехаць за акіян і пачынаць усё з пачатку — справа нялёгкая. Гэта добра вядома і табе, і мне. Аднаму цяжка, а ўсёй сям'ёй? Яшчэ цяжэй. Сям'я ў мяне, праўда, не вялікая: я ды жонка Фёкла з сынам. Тут лепш за ўсё, мне здаецца, дзейнічаць паступова. Я паслаў бы к табе ў Амерыку свайго пасынка Васіля, каб ты яго на першых парах недзе прыстроіў, аказаў, па-зямляцку, дапамогу. Калі б усё так атрымалася, дык мы былі б табе ўдзячныя на ўсё жыццё. А там можна было б пaглядзець і самім, гэта значыць, нам з Фёклай. Хто яго ведае, як яно можа скласціся, але, думаю, рызыкнуць варта».*

У канцы напісаў: *«Кланяемся табе ад белага ліца да зямлі»*, і перадаў паклоны ад агульных знаёмых. Падпісаўся: *«Твой сябар Лявон Кужаль».*

Купілі спецыяльны канверт з дарагой маркай (белы арол на чырвоным фоне), паклалі ў яго ліст, і Васіль на ровары адвёз пісьмо ў Лышчыцы, спадзеючыся, што адтуль яно хутчэй дойдзе да адрасата.

Цяпер трэба было дачакацца адказу і рыхтавацца. Верылася ў новы паварот лёсу…

## IV

Сенакос у Прусцы пачынаўся звычайна ў чэрвені. Хоць і кажуць, што сенакос абуджае ў селяніне адчуванне свята, але праца гэтая ніколі не была для яго лёгкай. Наадварот, патрабавала не абы-якіх высілкаў, шырокага размаху душы і мускулаў, пастаяннай апоры і падтрымкі, цягавітых памочнікаў. Цяпер Лявону было на каго абаперціся: падрос пасынак. Ён і стаў памочнікам. Васіль ужо добра ўпраўляўся з касой — і сваё выкошваў, і да Паца наймаўся. Якаў Арыстархавіч у часе сяўбы і жніва, а таксама ў сенакос наймаў сезонных работнікаў. Фальварак — гаспадарка немалая, і без рабочай сілы не абысціся. Адных наймаў, іншым адрабляць даводзілася. Многія пазычалі ў Альберціне збожжа ці бульбу, асабліва на насенне. Пазычанае — вярталі. Пуд за пуд. Але пуд за пуд — гэта яшчэ не ўсё. За кожны пуд (бульбы, напрыклад) трэба было яшчэ адрабіць па тыдні. Адрабляў і Васіль. Каб справіць касцюм, давялося пазычыць у Якава Арыстархавіча дзесяць злотых. Васіль быў ужо кавалерам, стаў пакрысе заляцацца да дзяўчат. А які кавалер без касцюма? Ровара купіў айчым, а касцюм хлопец шыў у Камянцы, у яўрэя. Касцюм атрымаўся ўдалы: чорны ў белую палосачку, прыталены. Да касцюма дакупіў гальштук цёмна-вішнёвага колеру ў белую крапінку.

За дзесяць злотых трэба было дзесяць дзён працаваць. Ды яшчэ і зарабіць нешта таксама няблага.

Касьбу пачыналі рана, калі яшчэ не ўзышло сонца. Хлопцы падабраліся не слабакі, усе свае, прускаўскія, за выключэннем хіба што Міцькі Балабайкі, які жыў у Выгнанцы, але сябраваў з прускаўскай кавалеркай. Ростам ён не ўдаўся, але цягавіты. Выйшлі да снедання, узяўшы торбачкі са сняданкам з сабой. Збіраліся каля Шпронькавай лаўкі.

Апошнім далучыўся да касароў Оргій Ламака, больш вядомы як Багдан.

— Прывітанне!

Гэтай зімой Оргій паспеў ажаніцца на Сынклеце з Зінькоў. Сынклета была гадоў на пятнаццаць старэй за Оргія, але не гэта з’яўлялася галоўнай заганай у іх шлюбе, а тое, што жонка Оргія аказалася вельмі ж звяглівая і ў гэтым сэнсе вельмі падобная на свякроў. Звяглівая і ўладная. Дзе, калі і што рабіць — у полі, у клуні, на панадворку — вырашала Сынклета. Што прадаць і купіць, што апрануць і з’есці на абед — ведала толькі яна.

— Вось і Оргій прыйшоў, — пасміхнуўся Балабайка, пазіраючы на соннае аблічча сябра і на яго шырокую, як дзвярная засланка, грудзіну.

На ганку стаяў Мікіта Галёнка — Шпронькаў фурман. На заробкі да Паца ён не збіраўся, бо мог спатрэбіцца свайму гаспадару.

— Ну, што хлопцы? Пайшлі! — быццам скамандаваў Сяргей Сталетнік, які пачуваў сябе ў гурце лідарам.

Брыгада касцоў рушыла наперад. У паветры, кранаючы траву, яшчэ вісеў ранішні туман; студзіла ногі халаднаватая зямля. Перайшлі масток праз Плісу. Мінулі разбураную крухмальню, пацягнутыя зялёнай раскай ставы. Усё гэта належала цяпер братам Пацам, якія адкупілі і руіны крухмальні і ўсю прылеглую тэрыторыю разам са ставамі ў пана Падгурскага, а цяпер меліся прадаваць. Васіль адчуваў, як ранішні ветрык варушыць застылую ў жылах кроў, абуджае сілу і энергію, жаданне рухацца, рабіць. Агінаючы крухмальню, пайшлі краем старога панскага саду і ўбачылі малодшага Падгурскага — Вітальда.

— Добры дзень! — павіталіся з панічом, які нешта рабіў у садзе.

— Дзень добры! — адказаў той, прыўзняўшы над ілбом саламяны капялюш.

— Вітальд! Пайшлі з намі! — гукнуў Сталетнік.

— Што? — недачуў паніч.

— Касіць!

— Няма як! У мяне іншыя планы! — засмяяўся паніч.

— Так і пойдзе ён табе, чакай! — зарагатаў Хрысан і цішэй, каб не пачуў Вітальд, дадаў: — Падгурскія з «хобаю» на нажах.

«Хобаю» называлі Якава Арыстархавіча Паца, да якога зараз кіраваліся касіць.

Яны дайшлі да ракі, да той мясціны, якая называлася чамусьці Прыдушная (магчыма, таму, што тут Лосьна была асабліва глыбокая), і па сцяжыне, што бегла берагам, паўтараючы звівы ракі, павярнулі ў бок фальварка. Па берагах Лосьны стаяла высокая густая трава, драмалі кусты вербалозу, за якімі віднелася ружовая з раніцы вада. Буйная белая раса ззяла першароднай чысцінёй і свежасцю. Пацава сенажаць — па той бок Лосьны, паміж ракой і сасоннікам. Абіваючы босымі нагамі расу, яны падышлі да кладкі з доўгіх і не надта тоўстых сасновых бярвенняў, што ляжалі, змацаваныя жалезнымі скобамі, папярок ракі, нізка звісаючы над яе плынню. Забрахаў фальваркоўскі сабака, учуўшы, мусіць, што хтосьці пераходзіць кладку.

На другім беразе, каля ліпавых прысадаў, касцоў чакаў Якаў Арыстархавіч — «хоба», як называла яго ўсё наваколле. Апрануты ён быў у белы палатняны гарнітур, у фетравым капелюшы і пры гальштуку. У руцэ — «кульба», на якую ён аднак не абапіраўся, а трымаў для форсу. Побач стаяў Амброжый, брат, таксама ў капелюшы, але ў саламяным, і без гальштука. Не было пры ім і «кульбы». Прускаўцы прывіталіся яшчэ здалёк.

— О-о! Якія людзі да нас! — загаманіў Якаў Арыстархавіч, сустракаючы работнікаў. — Цяпер, хоба на яго, справа пойдзе! А то я ўжо зачакаўся. Маё шанаванне, хлопцы! Каб трава не перастаяла.

— Добрай раніцы! Добрай раніцы! — падхапіў Амброжый і крыху памахаў рукой.

Не марудзячы і ні пра што не распытваючы, яны павялі касцоў на сенажаць. Спыніліся каля высокага, разгалістага дуба, што стаяў на пагорку, на ўскрайку шырокага заліўнога луга. Адсюль відаць быў увесь луг, які ўяўляў сабою частку рачной поймы і раскінуўся паміж ракой і гэтым пагоркам, над якім узвышаўся дуб і, крыху далей, меднастволы сасновы лес. Касцы пачапілі на ніжнія дубовыя сукі мяшэчкі з харчам. Васіль паглядзеў на дрэва, на яго каструбаватую, парэпаную кару, у якой віднеліся глыбокія шраміны, што праціналі ўвесь камель, з верху і да самага нізу. Уверсе, у густой лістоце, мітусілася птаства: ружовыя шпакі з пеначкамі, крыжадзюбы, сойкі, івалгі, валавокі з рэмезамі. Казалі, што ў яго час ад часу цаляла маланка, але дуб стаяў, не падаў і не згінаўся. Волат — дый годзе! Міжвольна з'яўлялася думка, што гэты магутны зялёны велікан будзе стаяць тут вечна. Гэта наш нелень, — сказаў Амброжый, кіўнуўшы на дуб, — ён і на зіму не скідае лісця. Хлопцы яшчэ раз спаважна паглядзелі на дрэва.

Ніжэй ад дуба пачыналася мора травы. Тут было ўсё: мурожная аўсяніца, баршчэўнік, лугавы гарошак, вастрыца, браткі, мятліца з павітухай, дзівасіл, душыца, конскае шчаўе, віднеліся белыя кветкі мяты, любіста, цыкорый з чаборам, шалфей, рамонкі, хвошч з цімафееўкай… — усяго і не пералічыць. «Трава якая зялёная, — падумаў хлопец, аглядаючы гэтае мора, — свежая, сакаўная!» Прыемна на ўсю поўніцу дыхаць лугавой свежасцю, назіраць, як вакол кветак лугавой канюшыны круціліся рудаватыя пчолкі.

Але надта разглядацца не было калі. Якаў Арыстархавіч тут жа напомніў:

— Ну, хоба на яго, не марудзьце, бярыце косы і пачынайце! Час не жджэ! Пакуль раса!

— Так, час не жджэ! Як папугай, паўтарыў услед за братам Амброжый. Відаць было, што задарма плаціць яны не збіраліся. Касцы падаставалі з кішэняў брускі і, заціснуўшы косы пад левай рукой, пачалі іх мянташыць, як бы рыхтаваць да бою, пальцам спрабуючы вастрыню ляза. У Васіля каса адмысловая, айчым выбраў, калі ў Берасць ездзіў. Літоўка. Рэжа як брытва. Такую і тачыць не трэба, але ён усё ж такі правёў колькі разоў бруском.

— Васі-іль! — пачулася ззаду.

Хлопец павярнуўся: гэта ўсё той жа Якаў Арыстархавіч.

— Слухай сюды! — ён паклікаў касца пальцам і, калі Васіль наблізіўся, сказаў: — Ты першым стань! Чуеш? Лішні злот заробіш. Зразумеў?

А што тут не зразумець? Першы — ён вядзе. Ён дае хуткасць і разгон. Астатнія, хто ідзе за ім, мусяць паспяваць. У такім тэмпе можна шмат выкасіць. Нормы не было — фальварковец плаціў за дзень.

— Добра! — кіўнуў хлопец.

— Дык пачынай!

— Пара! — азваўся Амброжый.

Касцы пасталі ў рад, адзін за другім, Кужаль — першым. За ім Сяргей Сталетнік, Ахрэм Чапёрка, Хрысан і Ляксандр Гальяшы, Мішка Галёнка, Оргій Ламака, Міцька Балабайка, Арцік Каленік і яшчэ, і яшчэ. Апошнім вёў пракос Хвядзюшка Шпунт.

Васіль, ад чагосьці павесялелы і злёгку як бы апантаны, рэзка махнуў сваёй літоўкай — раз, другі, трэці, і за яго пятамі хутка пачаў слацца сувой свежаскошанай паласы.

Шырк! Шырк! Шырк! — ярылася яго каса, нібы даганяючы таго, хто ішоў перад ім. Не адставалі і іншыя, глыбока, як дазваляў размах плячэй, запускалі тугія, навостраныя косы ў траву і выварочвалі яе ў пракосы, часам нават з зямлёй. Асабліва стараўся высакарослы і шыракаплечы Ахрэм Чапёрка, які ішоў за Сталетнікам. Чуў, як за плячыма цяжка сапе Сталетнік. Дужы і цягавіты, ён не саступаў Васілю. Быў, па ўсім відаць, крыху ўкрыўджаны, што не яго паставілі паперадзе. Касьба патрабавала сілы і здароўя, і ўсе стараліся, кожны імкнуўся паказаць сваю лоўкасць і спрыт, выдаткоўваючы сябе, як тут казалі, без рэзервы. Прыгожа было і паглядзець, як ладзілася работа, як паддавалася іх дружным намаганням маўклівая, але і ўпартая ў сваёй маўклівасці трава. Гахкаюць хлопцы, шырока ўзмахваючы косамі. Толькі пара з плячэй валіць. Падае, кладзецца ў пракосы мурог. На зрэзах сцяблін з’яўляюцца дробненькія кропелькі вільгаці, падкошаная трава нібы плача свежым сваім сокам.

Фальваркоўцы стаялі ля дуба, пра нешта перамаўляліся. Якаў Арыстархавіч абмацаў на шыі гальштук, паправіў вузел пад падбароддзем і зняў чамусьці капялюш, падставіўшы пад сонца голую, падобную на тоўстае жаночае калена галаву. Амброжый стаяў, не здымаючы капелюша. Задзівіліся адзін і другі на сваіх работнікаў. А тыя шчыравалі. Нават дробненькі Міцька Балабайка няблага ўпісаўся ў агульны гурт і не паказваў сябе зломкам. Лёгка клалася пад касу ў пояс ростам асака і мяккая сакавітая трава ў гэтай вільготнай пойме, цяжэй даваўся сухі і цвёрды сівец па ўзлобінах і грудках. Час ад часу мянташылі косы. Першым пачынаў Васіль, за ім, як па камандзе, утыкалі ў мяккую зямлю касільны ўсе, хто ішоў следам, даставалі брускі і напраўлялі косы.

Ну вось нарэшце і бераг, але адпачываць няма калі. Упацелыя касцы толькі глянулі на спакойную, паружавелую ад ранішняга святла рачную плынь і зноў сталі ў строй. Якаў Арыстархавіч, залажыўшы рукі за спіну і трымаючы ў іх капялюш, падаўся ў напрамку фальварка. За ім пасунуўся і Амброжый.

Касцы працягвалі сваю работу, цяпер яны ішлі ў адваротным кірунку — да дуба. Потым зноў вярнуліся да ракі. Гэткім чынам, не забываючы

мянташыць косы, яны паўтарылі некалькі ходак туды-сюды, распалохаўшы стрыкуноў, што сядзелі ў траве. Пара было ўжо і паснедаць, перавесці дых, адпачыць. Дробненькія Міцька Балабайка і Хвядзюшка Шпунт прымарыліся яшчэ на першым заходзе, захацелася есці. Скоранька пакідалі косы ў траву, каб не ляжалі на сонцы і пакіравалі да дуба, дзе іх чакалі мяшэчкі з снеданнем. Падышлі астатнія. Дасталі з мяшэчкаў сняданак — па кавалачку варанага сала, хлеб, маладую, з зялёнымі пер'ямі цыбулю і бутэлькі з квасам. Зрабілі перакус. Васіль таксама дастаў з мяшэчка сала і хлеб.

— Што ён табе сказаў? — дапытваўся Міцька Балабайка, падсеўшы бліжэй да Кужаля. Васіль зразумеў, што ён мае на ўвазе ранішнюю размову з Якавам Арыстархавічам. Касцы сцішыліся, прыслухоўваючыся да таго, што ён адкажа на пытанне Балабайкі.

— Сказаў стаць першым, — прызнаўся Васіль, жуючы сала з хлебам.

— Але ж ты і гоніш! — незадаволена пакруціў носам Сталетнік.

— Ага! — у тон яму прабурчэў Хрысан. — Памалей трэба!

— Так і кішкі надарвеш! — дадаў хтосьці.

Васіль спрабаваў апраўдвацца і паабяцаў:

— Ну, калі так, я буду памалей.

Дзесьці ў высокім небе звонка заспяваў жаўранак. Касцы пазадзіралі галовы, каб адшукаць у бліскучай ад сонечных праменняў вышыні маленькую птушку, і не заўважылі, як з'явіўся Косця.

— Здарова, кавалерка!

— Здарова! — дружна адказалі хлопцы.

Косця прыйшоў, прыхапіўшы з сабой касу, якая яшчэ заставалася ў гаспадарцы бабкі Васіліхі.

— «Хоба» і мне наказваў прыйсці, але я крыху, халера на яго, заспаў. Ды пакуль касу адбіў, тое-сёе…

— Нічога! Станеце ззаду і даганяць будзеце! — жартуючы, падбадзёрыў Сталетнік, і ўсе дружна, як па камандзе, зарагаталі.

— А, можа, першым хочаце, замест Васіля? — дадаў Хрысан.

— А ў вас, я бачу, някепскі настрой, — пасміхнуўся і Косця, далучаючыся да кампаніі.

— Нічога! — азваўся Оргій Ламака, які ўжо з'еў сняданак і пачуваў сябе ямчэй.

— Ну што, закурым? — Косця дастаў з кішэні пачак папяросаў «Płaskie».

— Закурым! — за ўсіх адказаў Ахрэм Чапёрка і першы палез па папяросу. За ім працягнулі рукі іншыя. Закурыў і Васіль, хоць яшчэ і не быў прывучаны да гэтага зелля.

Перапынак на сняданак — кароткі, трэба было ўставаць і брацца за работу. Касцы падняліся і дасталі з травы косы, зноў пасталі ў рад, Косця — апошнім. Але працавалі ўжо без ранейшага імпэту, спакайней. Спакайней махаў сваёй літоўкай Васіль — тэмп працы ў многім залежаў ад вядучага. Блізіўся поўдзень. Адчувалася, як у сонечным зіхценні промняў больш і больш награваўся далягляд. Прайшоўшы яшчэ колькі гоней у адным і другім, адваротным, кірунку, паселі адпачыць, на гэты раз ля ракі ў тым месцы, дзе злева ад рачной плыні сінела нерухомай вадой затока — кавалак старога рэчышча.

З ружовай вада зрабілася блакітнай. Па нізкіх, размытых паводкай берагах затока зарасла сінімі касачамі, з вады вытыркаліся жоўтыя збаночкі і красаваліся белыя лілії. Востра пахлі аер з багуном, цягнуліся да сонца сітнякі і чарот, вечназялёная імшарніца і ўсюдыісная жорсткая асака, зязюлін лён, рагоз. На супрацьлеглым баку гайдаліся, паблiскваючы срэбрам лісця, густыя і разлапістыя кусты вербалозу. Навокал, на шырокай прасторы роўнымі зялё-

ымі валкамі разлегліся пракосы. Падпякала ўжо сонца, але касцы любілі спёку і не скардзіліся на гарачыню. Адно толькі косы апусцілі ў прахалоду рачной вады, каб не пакінуў гарт.

— Надта ты гоніш, Васіль Аляксандравіч, — не іначай, як злот атрымаў, — сказаў Косця, прысеўшы на траву побач з Кужалём.

У тым, што назваў па бацьку, быў, вядома, жарт, бо Васіля гэтак ніхто ніколі не называў. Хлопец паціснуў плячыма:

— Не-е, гэта вам, дзядзьку, з непрывычкі падалося. Косім павольна.

— З раніцы гналі барджэй! — пацвердзіў і Аляксандар Гальяш. — Ажно пара з плячэй ішла.

Тут Косця не стрымаўся і накінуўся на Аляксандра.

— Эксплуатуюць вас, а вы нічога не разумееце і нічога не цяміце! Сілу вашу выкарыстоўваюць! Разумееце? Сілу вашу ад вас адбіраюць, а плацяць усяго толькі злот. Нажываюцца за ваш кошт!

— Сілу не адбярэш, — не згадзіўся Хрысан. — Хто дужы, дык ён і будзе дужы. Галоўнае — добра пад'есці!

— Ну, ты мяне не папраўляй! — пакрыўдзіўся Косця, але спрачацца з Хрысанам не стаў.

Арцём Каленік, які доўга ўглядаўся ў бок хутара, выцягнуўшы шыю, забіў трывогу:

— Уставайце, хлопцы, — «хоба» ідзе, крычаць будзе!

Касцы паўскоквалі, дасталі з вады косы. Якаў Арыстархавіч абышоў сад і цяпер, апіраючыся на кульбу, накіроўваўся да іх. На гэты раз без Амброжыя.

— Ну, як вы тут, хоба на яго, не прытаміліся?

— Не! — за ўсіх адказаў Ахрэм Чапёрка.

— Дзіва што! Мацакі! — пахваліў фальварковец і, прыставіўшы далонь да вачэй, стаў углядацца ў неба, на якім там-сям пачалі з'яўляцца шэрыя хмаркі.

— Але ж і здароўя трэба! — умяшаўся Косця. — Яго трэба набраць! А дзе яго набярэш?

— Праца здароўя не адбірае! — парыраваў Якаў Арыстархавіч і, адвярнуўшы палу пінжака, дастаў з камізэлькі падобны на цыбуліну гадзіннік на сярэбраным ланцужку і, адкрыўшы вечка цыферблата, салідна пакруціў перад вачыма, узіраючыся ў стрэлкі.

Усе ўважліва слухалі, што казаў фальварковец, нават Косця маўчаў.

— Адаму што было сказана? «У поце ліца трудзісь…»! Гэта ўсім у назіданіе! А інакш, хоба на яго, не пражывеш! А здароўе што? Сала кавалак умні з хлебам, вадою запі і ўсё на месца стане.

— Я ўжо прагаладаўся, — напомніў Оргій Ламака, і ўсе з палёгкай зарагаталі.

— Праз гадзіну абед, — паведаміў Якаў Арыстархавіч, хлопнуўшы вечкам цыферблата, і сунуў гадзіннік у кішэню камізэлькі, — Хвядося раней не прыгатуе, толькі што з агарода прыйшла, працуе шмат. З цела нават спала.

— Дзіва што! — азваўся Ляксандар, жадаючы, мусіць, пахваліць гаспадыню ці, можа, паспачуваць ёй, што яна так улягае за працай. — Працавітая!

— Працы шмат, трэба ёй пакаёўку ў дапамогу, — як бы ўслых падумаў фальварковец.

Гарачыня між тым крыху атухла, але парнасць не змяншалася. Хмаркі ўсё шчыльней абступалі неба, і цені ад іх плылі па пракосах. Збіраўся, мяркуючы па ўсім, пакрапаць дождж.

— Ну, я пайду, а то, хоба на яго, пачнецца дождж, — заспяшаўся фальварковец, папраўляючы на галаве капялюш. — Хлопцы, каб тое, што за

затокай, — ён кульбай паказаў у бок затокі, — да дажджу скончылі і адразу ж прыходзьце палуднаваць. Не пазніцеся, а то Хвядося будзе чакаць. — Абагнуўшы затоку з жоўтымі збаночкамі, «хоба» павярнуў да фальварка.

— Ну і «хоба»! — засмяяўся Сталетнік. — Дажджу баіцца, касцюм можа намачыць…

— Баіцца, відаць, што ў касу маланка трапіць, — дадаў Хвядзюшка Шпунт, які сам надта ж баяўся маланкі і літаральна калаціўся ў час навальніцы.

І Косця загаманіў пра дождж, але па-новаму павярнуў гаворку:

— У нас дождж ідзе, калі яму захочацца, а бальшавікі самі могуць выклікаць дождж. У любы час! Па навуцы! А як вы думалі?

— Няўжо? — параскрывалі раты касцы. — Нешта не верыцца, не можа быць!

— Адсталы вы народ! Можа! Навука ўсё можа!

— А, скажам, прыпыніць? — устрапянуўся зацікаўлены Хвядзюшка Шпунт.

— Што прыпыніць? — не зразумеў Косця.

— Ну, дождж…

— А гэта яшчэ прасцей.

— Як? — яшчэ больш здзівіліся сябрукі.

— Бальшавікі маглі б разагнаць хмары — стрэліць у хмары з гарматы! Вось вам і дажджу канец…

— Раней і ў нас, — энергічна варухнуў галавой Ляксандар, — старыя людзі ведалі, як дождж выклікаюць. Загаворы зналі! Але гэта калісьці было, а цяпер усё забылі…

— Гэта забабоны, — махнуў рукой Косця.

— Ну, але давайце дакосім за затокай, — напомніў Сталетнік, — бо ўжо палуднаваць хочацца.

## V

Касцы шчыравалі да самага паўдня. Абкасіўшы вакол затравелай затокі, выцерлі косы травой, ускінулі на плечы і, не спяшаючы, усе разам пакіравалі ў бок фальварка. Ад поля сядзібу Пацаў аддзяляла доўгая чарада ліп, што стварала ўражанне ўтульнасці і гаспадарлівасці. На клуні, закідваючы чырвоную дзюбу ў неба, клекатаў бусел. Пачаў усё ж такі накрапваць дождж.

— Ну, нарэшце бальшавікі пастараліся, — з'едліва пажартаваў Хрысан.

— Лішняга не кажы, Хрысан, — пакрыўдзіўся Косця. — Усё на жарт зводзіш…

— А што я такога сказаў?

— Сказаў як звязаў! — адгукнуўся нехта ззаду.

Праз браму яны трапілі на падворак. Гаўкнуў, не ўцяміўшы, што адбываецца, Пацаў сабака, але Мірык, які стаяў да пояса голы (мусіць, загараў) на падворку, тут жа загнаў яго ў будку.

— Прывітанне, Мірык! — гукнулі касары.

— Прывітанне, — утаймаваўшы сабаку, Мірык кудысьці знік.

Падворак выглядаў пустым, толькі ўтравелым. Бо што на ім садзіць? Кветкі? Але Пацы не садзілі таго, што нельга было ўжыць, з'есці ці прадаць. На клуні ў шырокім гняздзе стаяў, выцягваючыся на доўгіх нагах і распраўляючы крылы, прыгажун-бусел і звонка клекатаў, шырока раскрываючы чырвоную касцяную зяпу. Для буслоў тут рай: у пойме Лосьны, у шматлікіх равах, азярынах ды старыцах, багата рознай спажывы: жабы, вужы, рыба... Паводдаль, злева, будавалася новая абора, якая не мела пакуль што даху. Уверх-уніз хадзілі па паветры, таўкліся, пчолы. Тут для іх было раздолле. Касцы ўгнулі галовы, асцерагаючыся, каб якая не ўджаліла, бо сярдзітай пчале давяраць нельга.

— Відаць, перад раеннем, — выказаў меркаванне Міцька Балабайка, азіраючыся навокал.

З-за хаты, з саду, выйшаў Якаў Арыстархавіч і, убачыўшы касцоў, гукнуў у расчыненыя дзверы:

— Хвядося, частуй хлопцаў абедам!

Каля хаты, амаль упрытык да сцяны, стаяў стол, збіты з негабляваных дошак, вакол яго — столакі, каб сесці. Касцы адзін за адным успёрлі косы на плот, што аддзяляў падворак ад саду, і падышлі бліжэй да стала. З хаты паказалася Хвядося — жонка Якава Арыстархавіча — з глыбокімі чарапянымі міскамі ў абедзвюх руках. У шырокай сіняй кофце яна выглядала дзябёлай маладзіцай, чарнабровай і абсмуглелай на сонцы. Але ў працу, відаць, лішне не ўлягала. Якаў Арыстархавіч ужо было нагледзеў у Камянцы ёй памочніцу — дабрэнную дзеўку, але Хвядося не згадзілася і ўпраўлялася з хатнімі клопатамі сама, з дапамогай жонкі Амброжыя Стэпы. Гаспадыня зрабіла колькі ходак у камору і з каморы, і на стале з'явіліся хлеб, сала, вараныя яйкі, зялёнае пер'е цыбулі. Касцы паздымалі шапкі і пасядалі вакол стала на столакі. Перш, чым есці, перахрысціліся, апроч Косці, які доўга ўладкоўваўся на столаку. Васіль таксама перахрысціўся, пацягнуўся па хлеб, кінуў у рот кавалак саланіны, пачаў жаваць.

— Перакусвайце! — даў сігнал Якаў Арыстархавіч. — Гэта яшчэ не ўсё, гэта — закуска, і яшчэ тое-сёе будзе…

Абед у Пацаў складаўся звычайна з трох страў: на першае давалі бацвінне, прыкрашанае шкваркай, на другое — прыбелены малаком крупнік, на трэцяе — жбень. Усё гэта Якаў Арыстархавіч прапанаваў і касцам, бо ведаў: каб пацягнуць касу, трэба добра пад'есці, інакш касавіца, чаго добрага, на тыдзень расцягнецца. Бацвінне спадабалася — смачнае. Ламака нават лыжку аблізаў, і астатнія не адставалі, сёрбалі, не маючы ніякай патрэбы ў дадатковай прынуцы. Апетыт у касцоў аказаўся такі, што можна было пазайздросціць, а гаспадыня чамусьці нават захвалявалася. Яна шчыра завіхалася каля іх. Не марудзячы, падала крупнік, шчодра заправіўшы яго малаком і разліўшы апалонікам па місках. Едакі шчыравалі, вышкрэбвалі посуд да дна.

— А я люблю найбольш прасяную кашу на малацэ, — сказаў Ламака, як бы на нешта намякаючы, але на яго словы ніхто ніяк не адрэагаваў.

Якаў Арыстархавіч таксама хацеў нешта сказаць ці расказаць, але назіраючы, як работнікі грымяць лыжкамі, пакуль што ад свайго намеру ўстрымаўся. Хай падмацуюцца.

— Якаў! Чуеш? Твае ракі зварыліся! — занепакоена гукнула з хаты Хвядося.

Якаў Арыстархавіч дастаў з кішэні хусцінку, выцер лоб і шыю, зірнуў на касцоў і патлумачыў:

— Люблю ракаў, хоба на іх, далікатэс, дае яснасць розуму.

Касцы, дахлёбваючы крупнік і шчыльна заядаючы яго хлебам, адно толькі падзівіліся дасведчанасці гаспадара і яго тонкаму густу, бо які там наедак з рака — лапкі ды хвост. Між тым Хвядося ўжо несла талерку з двума вялізнымі чырвонымі ракамі, і Якаў Арыстархавіч непаспешліва і з веданнем справы прыступіў да іх спажывання, абламаў і абсмактаў хвост, паморшчыўся.

— Варыць ты іх не ўмееш! — паўшчуваў жонку.

— Табе не дагодзіш! — апраўдвалася тая, завіхаючыся з абедам. — Як у рэстаране хочаш.

Косця наважыўся задаць гаспадару нейкае пытанне, але не паспеў, таму што ўвагу ўсіх адцягнуў вялізны пульхны жбень, што пасля крупніку з'явіўся

на стале. Прывалакла яго таксама Хвядося. Гэта быў тоўсты блін з пшанічнае мукі, замяшаны на яйках, малацэ і смятане і спечаны на вялікай блясе.

— Ешце, панове спадарства, — заахвочваў Якаў Арыстархавіч, кіўнуўшы на гэты створаны Хвядосяй цуд кулінарыі. — Каб на спажытак! — Сам гаспадар непаспешліва спажываў свае ракі, адломваў клешні і хвасты, грунтоўна высмоктваў ножкі і ўсю сярэдзіну, пакідаючы адно толькі шалупінне.

Касцы, разабраўшы жбень па кавалку, умялі яго ў адзін міг, незаўважна нават для сябе. Але на гэтым абед не скончыўся. Якаў Арыстархавіч, спакваля распраўляючыся з ракамі, шматзначна памахаў тоўстым пальцам і сказаў:

— Хвядося, пачастуй касцоў мэдам.

Гаспадыня, пакорпаўшыся ў каморы, прынесла, мусіць загадзя падрыхтаваную вялікую міску мёду і, карыстаючыся драўлянай лыжкай, пачала разліваць мёд у сподачкі. Янтарны струмень сцякаў з лыжкі і казытаў ноздры вострым мядовым пахам. Кожны атрымаў сподачак і лусту хлеба ў прыдачу. Нацадзіўшы мёду, Хвядося з пустой міскай вярнулася ў хату. Касцы пачалі частавацца, хваліць мёд: «Смаката!»

Мёд у Пацаў не выводзіўся — і па дзесяць, і па пятнаццаць вёдзер выкачвалі штогод. Частку спажывалі самі, трохі куплялі людзі (асабліва калі хто захварэе — ідуць да Пацаў), астатняе прадавалі ў Камянцы на базары.

— Мінулым летам, хоба на яго, чабор і верас густа цвілі, так што ўзятка была добрая, — сказаў Якаў Арыстархавіч.

Мёд у Пацаў і сапраўды быў вельмі смачны. Кужалю і ўсім касцам ён надта спадабаўся, — гэта відаць было па тым, як яны хутка апустошылі свае сподачкі, выцершы іх рэшткамі хлеба. Са сваёй хаты, што стаяла на процілеглым баку падворка, выйшаў, мусіць, паабедаўшы ўжо, Амброжый у кужэльнай, доўгай, навыпуск, сарочцы, падышоў да касцоў. Тыя ўжо збіраліся дзякаваць гаспадарам і ўставаць з-за стала.

— А ў мяне яшчэ мёд застаўся, даесці трэба, а як без хлеба? — затрывожыўся Оргій Ламака, бачачы, што абед заканчваецца.

— Глядзі! Селязёнку каб не сапсаваў! — папярэдзіў Амброжый.

— Хай ласуецца! — засмяяўся Якаў Арыстархавіч, даканчыўшы свае ракі і паціраючы пукаты жывот. — Хвядося! Прынясі яшчэ хлеба!

Хвядося прынесла лусту хлеба і паклала перад Оргіем. Той адламаў кавалак і зноў пачаў есці, намазваючы мёд на хлеб, на скронях выступіў пот. Чалавек еў шмат, быццам апошні раз у жыцці. Усе ўважліва, а некаторыя і не без зайздрасці, назіралі. Мёд хутка скончыўся, але заставаўся яшчэ хлеб. Оргій запытальна падняў галаву.

— Тут трошку хлеба засталося, — вінавата паскардзіўся ён, паказваючы ў руцэ невялічкі кавалачак.

— Хвядо-ося! — зноў паклікаў гаспадыню Якаў Арыстархавіч. — Яшчэ дай чалавеку мэду!

Хвядося пакорпалася ў хаце і прынесла слоік. Не выпускаючы яго з рук, адну лыжку аджалела Оргію, нацадзіўшы яму ў сподачак. Оргій узяўся быў за лыжку, як раптам заенчыў благім матам і схапіўся за вуха:

— Ой-ёй-ёй!

— Што такое? Што такое? — занепакоіліся навокал.

— Пчала ўкусіла!

— Каторая? — павярнуў да яго галаву Якаў Арыстархавіч. — Я ёй дам! — ён пагразіў кулаком.

Усе неяк раскавана засмяяліся.

Оргій між тым даеў хлеб і пазіраў на дно сподачка, дзе, мусіць, яшчэ заставаўся мёд.

— Што, яшчэ хлеба? — здзіўлена спытаў Амброжый.

Оргій насуплена маўчаў, упёршыся позіркам у дно сподачка, як бы не ведаючы, што рабіць з рэшткамі мёду, прасіць яшчэ хлеб ці на гэтым спыніцца.

— Хвядося, дай яшчэ!

— Чаго?

— Дай яму яшчэ кавалак! Ну, хлеба!

Хвядося прынесла лусту, але паўтарылася тое самае.

— Калантыр ты, я бачу! — сказаў урэшце Якаў Арыстархавіч. — Хопіць! Так, хоба на яго, і лопнуць можна!

— Ён не лопне, — запярэчыў брату Амброжый, — бо мэд у яго скрозь жывот выходзіць і вакол пупа збіраецца. Гэтак можна есці бясконца.

Касцы ад здзіўлення параскрывалі раты.

— Ну-ну, памацай, Оргій, памацай! — прычапіўся Сталетнік, які любіў пажартаваць, асабліва над слабейшым.

Оргій рукою палез пад сарочку і правёў далонню па жываце — раз, другі, трэці.

— Ну, што? — не адставаў Амброжый. — Як?

Оргій доўга вадзіў даланёй па жываце, але мёду не знаходзіў.

— Няма.

— Ну, годзе, пажартавалі і годзе! Знайшлі забаву! — абсек веселуноў Якаў Арыстархавіч. — Час не чакае! Прыступайце! Вастрыце косы!

— Ніякага мэду тут няма! — пакрыўдзіўся на перасмешнікаў Оргій. — Ён у сярэдзіне.

Касцы паўставалі з-за стала, дзякуючы за смачны абед, і ўжо стоячы пілі сыту — ваду, засалоджаную мёдам, якую прапанавала Хвядося.

— Дзядзьку Якаў, вось каб вас у сейм выбраць? — нечакана сказаў Сталетнік. — Га?

Хутчэй за ўсё гэта быў прыхаваны пад абалонкаю ўдзячнай зычлівасці жарт.

— То мы б ужо касілі вам з раніцы да вечара, — у тон Сяргею дадаў Косця. — З радасцю.

— Але ж, хоба на яго, дасціпныя вы хлопцы! — засмяяўся Якаў Арыстархавіч, устаючы разам з усімі і беручы ў руку кульбу. Адчувалася, што жарт яму спадабаўся.

— Вясёлы гэты чалавек! — кіўнуў на Косцю Амброжый.

— Вясёлы, але на пакосе адстае, — як бы сам сабе сказаў Якаў Арыстархавіч.

Пасля абеду кляпалі і наводзілі косы. У Бранавічах, пачуўшы звон жалеззя, азваліся брэхам сабакі.

Оргій Ламака спусціўся да ракі. Абед настолькі размарыў небараку, што Оргій вырашыў на хвіліну якую прысесці на беразе, каля кладкі. Сеў і адразу ж заснуў. Трэба сказаць, што ён любіў спаць і спаў пры першай магчымасці і ў любых умовах. І звычайна храпеў на ўсю сілу сваіх магутных лёгкіх. Вось гэты храп яго якраз і падвёў, бо яго ўчуў Якаў Арыстархавіч. Не адразу, праўда, зразумеў, што ж такое адбываецца і адкуль гэтыя дзіўныя гукі, бо храпун ляжаў за пагоркам, у самым нізе рачнога спуску, ля самай вады.

— Гэта Багдан, — падказаў Амброжый. — Лайдак! Мэду наеўся і спіць.

Мянушка Багдан дасталася Оргію ў спадчыну ад бацькі, дзякуючы жончынаму языку. Сынклета, калі Оргій у чым-небудзь правініцца (а такое здаралася часта), гаварыла яму нараспеў, працяжна: «Ба-агда-ан ты, Ба-агда-ан!..»

Якаў Арыстархавіч, абапіраючыся на кульбу, спусціўся да берага, падышоў да храпуна і крануў яго кульбай:

— Эй! Чуеш?

Оргій не адазваўся, бо, мусіць, не пачуў, і Якаў Арыстархавіч вымушаны быў падвысіць голас:

— Чаго ты ляжыш, завала? — і зноў тузануў кульбай. — Га?

— Што? — не зразумеў Оргій. — Што такое?!

Чалавек працягваў спаць.

— Паглядзіце, хоба на яго, на гэтага гультая! Лежань! — Якаў Арыстархавіч сплюнуў на дол. — Ну і ну!

Оргій нарэшце падняў галаву:

— Усё роўна дождж будзе.

— Які дождж? — затупаў нагамі Якаў Арыстархавіч.

Пачалі падыходзіць касцы з косамі на плячах — збіраліся прадоўжыць працоўны дзень.

— Хто ў дождж косіць, той у пагоду збірае! — напомніў Амброжый.

Оргію нічога не заставалася, як узяць касу і далучыцца да грамады. Калі выйшлі за сядзібу, Косця, глянуўшы на яго, пасміхнуўся:

— Ты што, баставаць уздумаў?

Гэта таксама прагучала як жарт, і касцы засмяяліся.

— У Расіі, кажуць, ніхто не бастуе, — зазначыў Васіль, каб чымсьці дагадзіць Косці, які быццам чакаў гэтага, бо адразу падхапіў:

— У Расіі людзі жывуць не тое, што ў нас. На сябе працуюць. Зарплату цвёрдую маюць. Атрымаўшы, у тэатр ходзяць, на прадстаўленне, ды смачны морс п'юць. А тут на «хобу» стараемся, на яго выжыльваемся. — Косця плюнуў і ціха вылаяўся. — Але нічога! Будзе час — не будзе ні паноў, ні фальваркоўцаў, ні лавачнікаў.

— Куды ж яны дзенуцца? — зарагатаў Хрысан.

— Дзенуцца! — упэўнена сказаў Хвядзюшка Шпунт.

— Хутка ўсё пераменіцца! — падтрымаў яго Міцька Балабайка. — У Берасці на першае мая вунь якая дэманстрацыя была — тысяча народу!

— Народу было шмат! — пацвердзіў Косця. — Са сцягамі. Усё, як трэба.

— Дык я чуў — разагналі, — зноў азваўся Хрысан.

— Ну, пакуль што ў іх сіла.

— Хлопцы, давайце пачынаць, — напомніў Ахрэм Чапёрка, — хопіць размоў! А то «хоба» прычэпіцца і каго іншага захоча наняць.

— З ім не паразмаўляеш, — згадзіўся Оргій.

І яны зноў узяліся за косы. Касілі, з невялікімі перапынкамі, да таго часу, пакуль сонца не пачало апускацца за лес. Доўгі дзень згасаў позна, але стомленым ніхто не выглядаў.

— А цяпер у ваду, купацца! — прапанаваў Косця, і ўсе дружна яго падтрымалі. Клалі косы, распраналіся і з разбегу, з радаснымі крыкамі, кідаліся ў раку.

Касілі ў Пацаў цэлы тыдзень, пакуль не выкасілі ўсё — і па гэты, і па той бок Лосьны, па ўсіх затоках. Частуючы касцоў развітальным абедам, Хвядося запрашала:

— На жніво прыходзьце, будуць гуркі з мэдам!

— Прыйдзем, прыйдзем, — абяцаў Оргій Ламака. Астатнія таксама былі не супраць, нават Косця.

На дарогу Якаў Арыстархавіч даў пляшку гарэлкі. Не сваёй «карчоўкі», а з магазіна. Расшчодрыўся. Трэба было яе распіць, і дайшоўшы да Іванішынай (так называлася ў гэтым месцы рачная затока), касцы спыніліся, адклалі ўбок косы і селі. Сяргей Сталетнік дастаў з кішэні пляшку і зубамі выцягнуў корак.

— Ну, хто першы? — абвёў прысутных вачыма. Першым ніхто не адважваўся.

— Пачынай! — як бы дазволіў Хрысан Гальяш.

Пілі з «гарла». Сяргей зрабіў некалькі глыткоў і перадаў Кужалю, які сядзеў побач. Васіль адпіў. Гарэлка здалася залішне цёплай і горкай, і ён аддаў пляшку суседу. Перадавалі адзін аднаму. Апошнім быў Косця. Ён патрымаў пляшку ў руцэ, як бы спрабуючы яе на вагу, потым паднёс да носа, панюхаў і скрывіўся, не пакаштаваўшы:

— Дурман!

Амаль побач з ім на купіну ўзлезла жаба і з цікавасцю пазірала на падпітую кампанію сваімі пукатымі вачамі. Косцю стрэльнула ў галаву нейкая думка, і ён імгненна падскочыў да жабы, і тая не паспела апомніцца, як ён спрытна злавіў яе правай рукой, у левай трымаючы пляшку з гарэлкай.

— О-о! О-о! — усклікнулі ўсе ад здзіўлення, бачачы, як Косця лоўка сціснуў жабе з бакоў пашчэнкі, і калі тая раскрыла зяпу, выпучыўшы налітыя чырванню вочы, уліў ёй туды добры глыток гарэлкі. Уражаныя касцы змоўклі і з прытоеным дыханнем чакалі, што з таго будзе. Гарэлка падзейнічала амаль імгненна, і жаба пачала падскокваць, усё вышэй і вышэй, і смешна трэсці лапкамі, як бы хто яе гэтаму вывучыў ці выдрэсіраваў. І сапраўды, убачанае было падобна на нейкі дзіўны тэатр. Жаба круцілася і крыўлялася, паварочвалася да касцоў спінаю, куля́лася. Што толькі не рабілася з бедным стварэннем! Гэта быў шалёны танец здурнелай ад гарэлкі жабы. Паветра скалануў магутны рогат. Смяяўся разам з усімі і Васіль.

— Весяліцца! — блазнаваў Оргій Ламака. — У мяне ад смеху жывот баліць.

— Нездарма кажуць — набраўся, як жаба гразі, — дадаў Ахрэм Чапёрка.

Нарэшце, жаба, відаць, змаглася, рухі сталі больш расслабленымі і стомленымі. Падскочыўшы ў апошні раз, яна абарвалася з купіны і абрынулася ўніз, у траву. Больш адтуль не вылазіла.

— Усё! — сказаў Сталетнік.

Далей ішлі з песнямі. Заспяваў Косця.

Мы брыгадай маладою
Выйдзем поле засява-аць…

Астатнія, ускінуўшы косы на плечы, падцягвалі. Асабліва стараўся Міцька Балабайка. Маладыя, моцныя, крыху грубаватыя, яны, відаць было, любілі жыццё, хацелі радавацца і цешыцца ім.

## VI

Скончылі ўжо і жаць, а адказу з Амерыкі на Лявонаў ліст так і не атрымалі. Прыйшоў ён толькі ў верасні, калі аралі пад жыта і рыхтаваліся капаць бульбу. За дзень перад гэтым Кужалі мачылі лён. Выбралі яго яшчэ ў канцы жніўня, і ён стаяў у снапках, прасушваўся на вераснёўскім ветрыку. Семя абкалацілі ў клуні, на таку, прачамі. Наладавалі высокі воз ільняных снапкоў і павезлі ў Лосьну, у затоку. Лявон падсадзіў жонку на воз і сеў сам. Зірнуў на Фёклу, разгарачаную працай. Пасмы валасоў прыліплі да яе павільгатнелага лба. З ільном работы шмат. Выехалі за вёску, за папоўскі сад, і моўчкі ўглядаліся ў восеньскі краявід.

Канчалася лета, перадаючы ўладу восені. У верасні, як вядома, ахалоджваюцца і ўтаймоўваюцца, уваходзяць у берагі чалавечыя жарсці, настае раўнавага, супакой.

— Прыгожа як! — ціха азвалася Фёкла.

Надвор'е і сапраўды ўсталявалася цудоўнае, якое звычайна і бывае ў гэтую пару, і дзень выдаўся пагодны, цёплы. Паветра чысцюткае і празрыстае, хоць

і лётаюць у ім, ззяючы на сонцы, тонкія павуцінкі. Яны ўсюды — па пожнях, лугах і агародах — сумна дзівяць чалавечае вока сваім бесклапотным, прамінальным бляскам. Ні хмаркі, ні аблачынкі, ні ветрыку, а павуцінкі лётаюць, пераносячы на сваіх нітачках плоймы дробных павучкоў. Пазалацелі прускаўскія ліпы. Іх — дзве, што ўзвышаюцца над вёскай, шырока раскінуўшы свае магутныя шаты. Відаць здалёк, як прыбраліся ў барвовыя і жоўтыя колеры зарэчныя лясы, зазелянела вераснёвая рунь, зрудзела некаш на паплавах. Ля дарогі, блізка папоўскага саду, красавалася некалькі арабін. Паміж рэдкага лісця віселі, як дзявочыя завушніцы, даспелыя гронкі ягад.

Час, здавалася, прыпыніў сваю хаду, а свет нібы пашырыўся: бачна ва ўсе бакі. Прасторна, мусіць, ад таго, што ўсё сабралі, скасілі, абцерабілі. Востра пахлі гароды, прывяленая зяляніна, палын і быльнёг. Збіраліся адлятаць птушкі, чуўся развітальны покліч жураўоў, а буслы адляцелі ўжо даўно. Пачалі ўжо спрабаваць галасы маладыя пеўнікі. З неба, на якім пачалі ўжо з’яўляцца рэдкія белыя аблачыны, на ўвесь гэты свет задумліва пазірала ласкавае, ужо крыху астылае сонца.

Кругом панаваў спакой, але на душы спакою не было, ціснула нейкая трывога, няпэўныя прадчуванні.

І вось ужо рака, воз уз’ехаў на бераг, які ў гэтым месцы, насупраць царквы і побач з затокай, быў асабліва высокі. І тут здарылася нечаканае. Зірнуўшы на далёкую ўнізе ваду, Фёкла ўстала і, рэзка адштурхнуўшыся нагамі, скочыла — проста з воза, на хаду, не распранаючыся, галавой уніз. Лявон і згледзець не паспеў, як перад ім мільганула яе постаць і, апісаўшы невялікую дугу, абрынулася ў рачную плынь. Высока ўзляцелі белыя пырскі. Гэта было самае глыбокае месца. Наступіла трывожная цішыня. Фёкла ўмела і любіла плаваць, і Лявон пра гэта добра ведаў яшчэ з тых часоў, калі ўпершыню пазнаёміліся ў Запалонным, калі разам купаліся ў Самарцы. Яна не прывыкла ўваходзіць у ваду паступова, а звычайна кідалася з берага — галавой уніз. Вось як зараз.

Нарэшце на супрацьлеглым беразе, пад лазовым карчом, паказалася яе галава, аблепленая мокрымі валасамі, і плаўчыха павярнула назад, шырока заграбаючы, нібы рассоўваючы ў бакі хвалі, сваімі моцнымі поўнымі рукамі.

— Ну і нырнула! — здзівіўся Лявон, калі жонка вярнулася, прыплыла да берага, дапамог вылезці з вады. Мокрая спадніца гладка аблягала сцёгны.

Потым Фёкла тлумачыла, што настрой быў такі, як бы нейкая «планіда» найшла, Самарка ўспомнілася, маладосць.

— І вада халодная! — непакоіўся Лявон.

— Не.

— Як не? Халодная. Верасень.

Пакідалі ў затоку ільняныя снапкі, якія павінны былі мокнуць некалькі дзён. Пасля можна было іх сушыць.

Пераапраналася Фёкла ўжо дома — памылася з мылам, абцерлася сухім ільняным ручніком. Пасля купання яна выглядала памаладзелай.

І вось нарэшце ліст з Амерыкі. Чыталі ўтраіх. Лявон надрэзаў ножніцамі сіні канверт і дастаў складзены ў чатыры столкі аркуш паперы. Перадаў пасынку.

— Ну што ён там піша? — нецярпліва прыспешвала Фёкла, якая хвалявалася, мусіць, больш за ўсіх, бо справа тычылася сынавага лёсу.

Васіль паднёс ліст да вачэй, прыкметна дрыжэлі рукі. Пачаў разбіраць па складах:

— *«Многоуважаемый и дорогой другъ Леонтий!*

*Сообщаю тебе, что я, слава Богу, живъ и здоровъ и тебе желаю отъ Бога всего хорошего в твоей жизне в нашей богоспасаемой Пруске. Ох, давно я не былъ на родине...»*

Піліпко дзякаваў за ліст і пісаў, што ў апошні час для эмігрантаў, хто едзе ў Амерыку, узніклі складанасці.

— *«...Теперь сдесь,* — чытаў Васіль, — *установили прочныя квоты и свыше квотъ не пускаютъ. Посему трудно чем-нибудь помочь, даже если бы я имелъ такую возможность. А приезжают сюда разныя, в том числе и такие, которым можетъ быть и не следовало ехать. Твой пасынокъ, прослышалъ я, из красной России, а в Америке, чтобы ты зналъ, большевиковъ не любятъ и даже боятся...»*

У гэтым месцы чытальнік спыніўся, яшчэ раз абмацаў вачыма радкі, якія толькі што прачытаў, і працягнуў пасля паўзы:

— *«...В России, как известно, коммуния, провозгласившая равенство состояний и право каждаго на чужое имущество. Большевики стало быть отнимаютъ собственность. Твое твоимъ стало быть ужъ не можетъ. Мы, американцы, таковыхъ, хто не уважаетъ законъ, считаемъ преступниками и суд определяетъ ихъ в тюрьму. Сдесь съ этимъ, какъ ты хорошо знаешь, строго. Кромъ всего протчего они безбожники убили царя, хотя это даже въ голове не помещается. Есть они и сдесь в Америке, но ихъ не такъ много и сущъствуютъ они на московские деньги. Объ этомъ постоянственно пишут газеты. Тутъ ихъ опасаются дабы не сделали сохрани Богъ чего плохого, ведь отъ нихъ всего можно ожидать. Газеты пишутъ, что в России катастрофа, большие трудности.*

*Сдесь одинъ дуракъ поехалъ все-таки в Россию, а потомъ вернулся и выпустилъ книжку, снискавшую многихъ читателей, в которой однако описываетъ, что в американской тюрьме даже аръстантъ живетъ и питается куда лучшъ, чемъ тотъ, кто на свободъ в России. Фамилия этого чудака (теперь ево знаютъ всъ) Фрэд Бил. Сначала ведь был с большевиками заодно, а потомъ отсталъ и отрекся. Селъ добровольно въ тюрму отбывать срокъ, къ которому его присудили еще до поездки в Россию. Тоесть предпочелъ тюрьму, чем ехать второй разъ туда. Они поделали колхозы в России (о чемъ американцы сдесь наслышаны) и повидемому с течениемъ времени доберутся и до васъ, хотя вы пока что под Польшей, которая неведомо откудова взялась...»*

Пра бальшавікоў Піліпко пісаў так, быццам асабіста іх ведаў і меў з імі справу. Праз колькі радкоў зноў папярэджваў: *«Отъ большевиковъ старайтесь быть как можно дальше».* Чалавек выглядаў так, як бы крыху з глузду з’ехаў ці да крайней ступені напалоханы.

У канцы ліста аўтар перадаваў прывітанні і паклоны агульным прускаўскім знаёмым, а таксама прасіў пісаць яшчэ.

— Ну вось і ўсё, — пасля хвіліны маўчання сказаў Васіль. Пакуль ён чытаў, яго далоні ўспацелі, а пад канец задрыжэў і голас. У хаце ўсталявалася гнятлівая цішыня. Праз акно, аздобленае свежымі фіранкамі, відаць было, як, павольна кружачыся, ападае з каштана лісце. Калі прыслухацца, дык можна было пачуць, як яно пры гэтым слаба пазвоньвае, чапляючыся за галіны, і марудна апускаецца на зямлю. Сад ужо таксама страсаў апошняе лісце. Пара было капаць бульбу.

— Хто ж гэта яму такое наплёў? — скрушна развяла рукамі Фёкла. — Мы ў Божым свеце невінаватыя! Нашто такое казаць? Якія бальшавікі?

— Гэта ён сам даведкі навёў — сам Піліпко, — з крыўдай у голасе азваўся Лявон, забарабаніўшы пальцамі па стале. — Нашы людзі зайздросныя і помслівыя. Гэта ўсё Трахім…

Васіль моўчкі загледзеўся ў акно, павярнуўшыся да бацькоў спінаю. Відаць, пра нешта думаў.

— Трахім дарогу перайшоў, — паўтарыў Лявон і ўздыхнуў: — Эх, Піліпко-Піліпко, забыў, як на параходзе ад марской хваробы пакутаваў, як бервяно

ў гамаку ляжаў, а я табе лякарствы з аптэкі цягаў, каб ты хоць трохі ачуняў, а цяпер… — Лявон устаў і прайшоўся па хаце.

— Дабро мала хто помніць, — у тон мужу сказала Фёкла. — Дабро забываюць.

— Ну, нічога, — уздыхнуў хлопец, як бы падсумоўваючы нейкія свае думкі, — яшчэ паглядзім! Калі што — дык і Піліпко не перапыніць…

Васіль выйшаў з хаты.

— Пакрыўдзіўся, — паспачуваў Лявон.

Не паспелі яны завяршыць размову, як убачылі, як міма калодзежа на прыгуменне завярнула чыясьці фурманка. Рухалася хутка, конь цягнуў жвава. На возе сядзеў з пугай у руках чырванашчокі дзябёлы, па-асенняму апрануты мужчына, раз-пораз азіраючыся на Лявонаў двор. Лявон пазнаў дзядзьку Хведара, сустрэў, дапамог распрэгчы каня, запрасіў у хату. Хведар, увішны і вясёлы, закрычаў з парога.

— Добры дзень!

— Добры дзень!

Скінуў шапку і світку, павесіў на цвік.

— Ну, як жыццё, як справы? — звярнуўся да гаспадароў, паціраючы далоні. — Нешта вы сумныя.

— Ліст з Амерыкі атрымалі, — Лявон кіўнуў на стол, дзе ў шуфлядзе ляжаў і ліст, і канверт.

— Ад каго?

— Ад Піліпка.

— Ад Піліпка?

— Ад яго.

— Ну і што піша?

— А! — Лявон махнуў рукой. — Нічога добрага не піша. Хацелі Васіля нашага ў Амерыку паслаць — хай бы свету пабачыў, дык Піліпко дапамагчы не хоча, адмаўляецца. А калісьці сябравалі, у Амерыку разам ехалі…

— Сябар? Каб на іх паморак — на такіх сяброў! — вылаяўся Хведар і, грукаючы тоўстымі ботамі, сеў на лаўку ля сцяны. — Я на хутары жыву і не трэба мне ніякіх сяброў. Абыдуся! Сёння сябар, а заўтра — не дагадзіў чымнебудзь — вораг.

— Здараецца і так.

— Найчасцей!

Лявон дастаў з шуфляды ліст ад Піліпка і прачытаў дзядзьку.

— Ну і брыдота! — чмыхнуў у вусы Хведар, даслухаўшы ліст да канца.

— Вось і я тое ж гавару, — адгукнулася Фёкла.

— А наконт камуніі ён правільна піша. Камунія — гэта трэба разумець так: каму на, а каму — не.

Лявон усміхнуўся.

Фёкла пачала збіраць на стол. Хведар дастаў з кішэні бутэльку самагонкі, заткнутую драўляным коркам, і таксама, са стукам, паставіў на стол. Пляменнік хацеў спыніць дзядзьку:

— У нас ёсць свая!

— А ты маёй пакаштуй — свішчоўскай!

— А, можа, і сапраўды свішчоўская смачнейшая?

— У карчах гнаў, з жыта. Жытнёвая!

— Ну, а як Ульяна? — спытала Фёкла пра Хведараву жонку.

— Байкі! А што з ёю зробіцца? Жыве!

— Хай бы прыехала і яна.

— Дык гаспадарка!

Яны селі за стол, паклікалі Васіля, які корпаўся ў садзе. Засмуціў яго, відаць, ліст ад Піліпка, сумным пераступіў хлопец парог.

— Васіль, хадзі выпі чарку! — гукнуў Хведар, паставіў перад сабой кілішак, адкаркаваў пляшку і наліў у кілішак. — Лявон, табе першаму!

Лявон узяў кілішак, панюхаў.

— Ну, будзем здаровы.

— На здароўе!

Лявон выпіў, пахваліў самагонку:

— Смачная!

Васіль сціпла сеў за стол. Хведар наліў і яму. Хлопец выпіў.

— Не бядуй! — паляпаў яго па плячы Хведар.

— А я не бядую.

Апошнім дзядзька наліў сабе — поўную як вока чарку.

— Ну, за нас! — сказаў ён і, не марудзячы, смачна перакуліў у рот.

Сталі закусваць. Пасярэдзіне стала, побач з іншай закуссю, стаяла талерка з памідорамі. Круглабокія, чырвоныя, яны прыгожа аздаблялі стол. Хведар са здзіўленнем загледзеўся на незвычайную гародніну:

— А гэта што ж такое?

— Памідоры! — у сваю чаргу падзівілася на яго пытанне гаспадыня. — А што, Ульяна, хіба, не садзіць?

— Яна садзіць гуркі, а памідоры — не! Да нас яшчэ не дайшло. — Хведар, распырскваючы сок, пакаштаваў памідор, скрывіўся і рэшту паклаў на стол.

— Ну, як? — папытала Фёкла.

— Кіслы.

— Гэта вы не прывыклі, дзядзьку, — усміхнуўся пляменнік, — у Амерыцы ніякае застолле без памідораў не абыходзіцца, там ядуць іх, як мы капусту.

— Усё адно каўбаса лепш! — стаяў на сваім дзядзька, тыцнуўшы відэльцам у кавалак каўбасы. — Дзе ж гэта вы яе трымаеце? Надта свежая яна ў вас…

— У бочцы з аўсом.

— Ого! — Хведар варухнуў галавой, смакуючы каўбасу, і перавёў пагляд на Васіля:

— Дык што, не атрымалася, кажаш?

— Нічога, перажывём.

— Гэта Трахім дарогу перайшоў, — патлумачыла Фёкла.

— Ён, — пацвердзіў і Лявон.

— Збуіч! — сказаў Хведар, маючы на ўвазе Трахіма. — Але нічога! Калі што якое, і яму дамо па карку. Сваё атрымае!

Васіль маўчаў, закусваў, думаў, відаць, пра сваё.

— Выпі і ты! — звярнуўся Хведар да гаспадыні і наліў у кілішак.

Фёкла аднеквалася, а потым узяла і выпіла, закусіла яблыкам.

— Не бяды! — зноў загаманіў госць. — Ажэніцца, жонку прывядзе, і не горш будзе, як у той Амерыцы. Дзяўчыну маеш?

Васіль пасміхнуўся і няпэўна варухнуў галавой.

— Гэта ўжо калі з войска вернецца, — сказала Фёкла.

— А што, маюць браць?

— Пэўна ж не пакінуць… — паціснуў плячыма Лявон, прыгладжваючы над ілбом чубчык.

— Мусіць, не, — згадзіўся дзядзька і зноў наліў. — А што — ён хлопец здаровы, такога і на каня можна пасадзіць!

— Дзіва што! — падтрымаў пляменнік.

Выпілі па чарзе, толькі Фёкла адмовілася: «Мне хопіць», — сказала.

Зноў пачалі закусваць.

— Вайны не будзе! — запэўніў Хведар.

— А хто ж яго ведае, — уздыхнула Фёкла.

— Не-е! Польшчу баяцца! У яе кавалерыя моцная! На кані каго хочаш дагоніш, а шабля сваё зробіць!

Фёкла выйшла на кухню.

— Цяпер тангі[1] ды арапланы, — сказаў Лявон.

— Усё адно кавалерыя лепш! — стаяў на сваім дзядзька, пляснуўшы нават далонню па стале. — Кавалерыя — ого! Пяхота паўзе як чарвяк. Пакуль яна дапаўзе… А ўланы — раз і гатова! І коні надта прыгожыя. Я ў Берасці іх бачыў.

Пляменнік не стаў спрачацца, вырашыўшы пакінуць дзядзьку пры яго думцы на карысць кавалерыі, тым больш што ён і сам мінулай восенню пару коней прадаў вайскоўцам.

— Я чаго прыехаў, — зноў загаманіў Хведар, — першае, каб пабачыцца, а другое, ці не прадаюць тут у вас зямлю. Я б купіў.

— Але ж далёка будзе ездзіць вам.

— Нічога, даеду або ў арэнду здам. Нешта ж буду мець!

— Тут Якаў Пац «крухмальню» хоча прадаць, дык я не ведаю…

— Гэты фальварковец? «Хоба»?

Лявон пасміхнуўся.

— Ён.

— Крухмальню? Гэта ж руіны. Нашто яны мне? Што я з імі рабіць буду? Ты што, смяешся?

— Не толькі руіны. Там і сад, і ставы. Рыба.

— А што з той рыбы? Лавіць яе будзеш?

— А я не супраць быў бы купіць.

— Гэтую «крухмальню»?

— А што?

— Глядзі, каб не прагадаў. А колькі ён хоча?

— Тры з палавінай тысячы.

— Ого!

— Можа, яшчэ і спусціць паўсотні…

— Трэба было б усё на месцы агледзець, але хіба ўжо іншым разам. Не спяшайся! Вада і руіны!

— Я не спяшаюся.

Дзядзька Хведар зірнуў на пляменніка:

— Дык, я бачу, у цябе ўсё ідзе ладам. Я рады. Каб так і надалей.

— Больш-менш.

Яны яшчэ выпілі па кілішку, пра сёе-тое пагаварылі.

Хведар зірнуў у акно і занепакоіўся:

— Але ж мяне Ульяна зачакалася.

— Пачакае, — стрымаў дзядзьку пляменнік.

Аднак Хведар наважыўся ехаць і разліў рэшту гарэлкі. Выпілі ўжо па некалькі чарак, але пры добрай закусцы ніхто не быў п'яны.

— Яшчэ маёй вып'ем, — прапанаваў Лявон.

— Не! — замахаў рукамі Хведар. — Паеду! Прыязджай да нас разам з жонкай, Ульяна будзе рада. — Ён стаў апранаць світку, насунуў на галаву шапку. Лявон праводзіў яго да фурманкі, дапамог запрэгчы каня, пасобіў узлезці на воз і сесці ў кельню. Незаўважна сунуў у салому пляшку гарэлкі.

[1] Танкі (мясц.).

— Ну, а як ты з жонкай жывеш? — пацікавіўся Хведар, ужо седзячы ў кельні.

— Добра.

— Ну, каб усё ладам! — пажадаў на развітанне дзядзька і паехаў, уладна торгнуўшы лейцы і цмокнуўшы на каня.

Вярнуўшыся ў хату, Лявон дапамог жонцы панасіць посуд на кухню, а пасынак кудысьці знік. Вядома, куды мог знікнуць — пайшоў да сябрукоў.

## VII

Васіль улёгся ў работу: ноччу пасвіў коней, днём араў, баранаваў, сеяў, спрынжынаваў, — клопатаў па гаспадарцы хапала. Час ад часу, вечарамі, з ім і з хлопцамі сустракаўся Косця. Ад яго, як звычайна, чакалі навінаў, але навінаў не было. Зрэшты яны былі, але не пра ўсё раскажаш. Не раскажаш, напрыклад, пра тое, што пасля правалаў у Берасці рады падпольшчыкаў значна парадзелі. Выдаў іх правакатар Дзёмка. Гэта пачалося яшчэ восенню 1934-га. Партыйныя функцыянеры знікалі адзін за адным. Становішча выглядала вельмі трывожным, і стала зразумелым, што ў шэрагах падпольшчыкаў дзейнічае вельмі небяспечны правакатар. Пад падазрэнне трапіў інструктар ЦК камсамола Заходняй Беларусі Якаў Стральчук — партыйная мянушка «Дзёмка». Назаўтра, пасля таго як Дзёмка наведаўся ў Берасце, паліцыя арыштавала камуністаў — Аляксандра Саванеўскага, Веру Мацвяюк, Фёдара Козела і іншых, на кватэрах у якіх ён пабываў. Вырашылі Дзёмку-Стральчука накіраваць у Мінск, нібы ён там тэрмінова патрэбен, — той згадзіўся, але раптам знік. Потым убачылі яго ўжо пад аховай паліцыі.

Пра ўсё гэта Косці расказаў Ігнат Лісак, з якім «марыканец» бачыўся ў Берасці.

— Справы, браце, дрэнь, — сказаў Ігнат, шкрабучы патыліцу. — Партыйная арганізацыя ў горадзе разгромлена, камсамол таксама панёс страты. Як там далей будзе, я не ведаю. Трэба пачакаць інструкцый і ўказанняў.

— З'явяцца новыя людзі, — падбадзёрваў «марыканец».

— Цяпер устаноўка на агульны фронт.

— Гэта я ведаю.

— Трэба збіраць подпісы супраць Картуз-Бярозы.

Косця кіўнуў галавой.

— Справаздачу падрыхтаваў? — крыху счакаўшы, спытаў Ігнат.

— А каму яе здаваць, калі нікога няма?

— І то праўда, — згадзіўся Ігнат. — Але на ўсякі выпадак падрыхтуй.

З Берасця Косця вярнуўся невясёлы, нават разгублены, але нейкія планы былі. Без планаў ён жыць не мог. Васіль убачыў яго каля Галёнкавай хаты. Ужо змяркалася. Косця адвёў хлопца ў бок.

— Ну, здароў!

— Здароў!

Паціснулі адзін другому рукі і падышлі да плоту, якім была агароджана бульба Сцяпана Сталетніка. Косця першы ўскочыў на хісткую жэрдку, якая завагалася пад ім, і прапанаваў:

— Сядай, пагаворым.

Хлопец пасміхнуўся:

— Двух яна, мусіць, не вытрымае, — ён кіўнуў на жардзіну, што прагнулася пад седаком.

— Вытрымае!

Але Васіль толькі ўспёрся бокам на плот, а сядаць не рашыўся. Зламаеш

жэрдку — тады клопатаў не абярэшся, гаспадар будзе незадаволены. Косця крутнуў галавой, у адзін бок зірнуў, у другі.

— Ну, як дзялішкі? — спытаў ён, бадзёра страсянуўшы рудой чупрынай.

— Так сабе, хваліцца няма чым, жывём патроху.

Чутно было, як недзе каля Чапёркаў завішчэла, ушчаміўшыся ў плоце, свіння.

— Твой айчым цябе эксплуатуе.

— Чаго гэта ён эксплуатуе — я сам на сябе раблю. Мы ж адна сям'я. Ён мне бацька, хоць і не родны.

— Сумны ты нейкі сёння. Відаць, з дзяўчынай не паладзілі? Дзяўчына ж у цябе, кажуць, ёсць?

— Ну, ёсць, — нехаця адказаў хлопец і апусціў галаву. Апошнім часам ён хадзіў да Полькі з Сухаволля. Пазнаёміліся на музыках. Падабалася Васілю: прыгожая, стройная, з тоўстай залацістай касой, якую яна какетліва перакідала з грудзей за спіну, а адтуль ізноў на грудзі. Шчочкі ружовыя, і поўныя, крыху вільготныя вусны. Праўда, крыху фанабэрлівая. Мікалаева Прося раўнавала. Мінулы раз, калі разыходзіліся з музыкаў, крыкнула яму наўздагон: «Усё роўна ты будзеш мой!»

— Ад мяне ўтойваць не трэба, — як бы параіў Косця.

«Не трэба? — пасміхнуўся ў думках хлопец. — А тое, што Нюрка штоночы ў клуню да цябе ходзіць, — пра гэта ж ты нікому не кажаш?»

— Але давай крыху пра справы пагаворым, — Косця зрабіў паўзу. — Я чуў, што ты ў Амерыку настроіўся? Ад цябе такога не чакаў…

Васіль апусціў галаву:

— А чаму?

— Нашто табе тая Амерыка, і тут спраў хопіць. Ізноў на ўздым пайшло!

— Што пайшло?

— Ну, наша з табой дзела. Цяпер ужо ўстаноўка на аб'яднаны народны фронт — ведаеш?

— А што гэта?

— У Маскве быў сёмы кангрэс Камінтэрна, вось ён і пастанавіў стварыць адзіны рабочы і антыфашысцкі фронт. Каб усім разам! Так што збіраем сілы. Нават хто з інтэлігенцыі — і тыя каб з намі.

— Я ў Амерыку не еду.

— Правільна! А што табе там рабіць? Ды пайшла яна к чорту! Падумаеш, Амерыка… Я ж там быў, ведаю. Эксплуатацыя самая жорсткая, ну, проста бессаромная, усе сокі з чалавека выціскаюць, усё дастаюць! Плюс яшчэ і крызіс, беспрацоўе. Куды ты там дзенешся?

— Толькі што бацька атрымаў ад Пілiпка ліст…

— Ад дзядзькі? Гэты Піліпко мне дзядзька. Ну і што там ён піша? Пузаты стаў там. Жонку чорную мае — негрытоску.

— Мяне туды не пусцяць. За бальшавіка лічаць, бо я з Расіі…

— Гэтак ён піша?

— Ну.

Косця абыякава махнуў рукой:

— Ім не да цябе, яны страшэнна крызісам напалоханы. У Амерыку яшчэ не час… Спачатку тут павінна загарэцца, у нас, у Еўропе, а потым ужо туды перакінецца. Не ўсё адразу… Спачатку тут уладу трэба ўзяць, і рабочы клас да гэтага рыхтуецца.

— А я ў войска збіраюся, — сказаў раптам Васіль, і гэта прагучала нечакана.

— У якое войска?

— У польскае. У якое яшчэ? Вясною быў у камісіі. Сказалі, што восенню забяруць. Такія вось пірагі.

Косця адказаў не адразу, падумаў і ціха загаманіў:

— У войска лепш за ўсё не ісці, ну, а калі пойдзеш, — вучыся трапна цэліць, вайсковай справе вучыся. Спатрэбіцца! Нас яшчэ, браце, чакаюць класавыя баі. Усё яшчэ наперадзе. Але я вось што думаю, — Косця падсунуўся бліжэй. — Ты ў Амерыку хацеў, а можа, — ён зрабіў паўзу, — у іншым кірунку цябе паслаць? У адваротным?

— У якім?

— Ну, на ўсход.

— У Саветы?

— У СССР.

— А мяжа?

— У Брэсце ёсць людзі, якія могуць у гэтым дапамагчы. Ты толькі нікому не кажы. І бацькам не кажы. Сам разумееш…

— Вы ж мяне ведаеце.

— Таму вось і кажу, што ведаю. А я тым часам са знаёмымі параюся. Пару тыдняў пачакай. Дамовіліся?

Прапанова сталася вельмі нечаканай, і хлопец быў як ашаломлены.

— Надта нечакана, дзядзьку, тое, што вы мне сказалі! Дайце падумаць. Я ж не магу вось так адразу.

— Дык ты ж, Вася, фактычна ўсё жыццё пра гэта думаеш, — пасміхнуўся Косця. — А што, хіба не так? Ну, скажы! Ты ж там нарадзіўся, а радзіма не забываецца…

— Думаць, можа, і думаў, але каб ехаць…

— Дык ты ўжо дарослы. У Варшаву ж хадзіў!

Васіль успомніў, як калісьці з сябрамі-аднакласнікамі пад кіраўніцтвам настаўніка Мандрашчака хадзілі віншаваць Пілсудскага з днём нараджэння. Косця не раз папракаў хлопцаў за гэта.

— Дык гэта з настаўнікам.

— Нашто той настаўнік! Тут лішніх не трэба.

Хлопец маўчаў, пазіраючы сабе пад ногі.

— Паедзеш! Я ж табе дабра жадаю. А каб сумна не было, пару падбяром.

— Якую пару?

— Ну, з хлопцаў каго-небудзь — разам яно весялей! З кім бы ты хацеў?

— Падумаць трэба. Можа, з Сяргеем Сталетнікам?

— А што, хлопец ён неблагі. Смышлёны.

— Кемлівы, — згадзіўся Васіль.

— Я таксама памяркую, — Косця з шумам і з палёгкай выдыхнуў паветра, відаць, хваляваўся таксама. — Ну, дык, будзем лічыць, дамовіліся! Тады — да сустрэчы. Да наступнага разу! На акупанта! — ён падняў уверх кулак.

— На акупанта! — адгукнуўся хлопец, і яны, па правілах канспірацыі, як вучыў «марыканец», разышліся ў розныя бакі.

* * *

І ён пачаў рыхтавацца. Знаходзіўся ў пастаянным напружанні. Доўга думаў, казаць ці не казаць бацькам. Вырашыў сказаць толькі маці, ды і то не сказаць, а толькі намякнуць. Выбраў момант, калі айчыма ў хаце не было, і загаварыў з ёю:

— Нешта мне ў Расію захацелася, мамо.

— Расія — твая родзіна, сынок, — разважліва адказала Фёкла, — але ж мяжа. Мяжа!

— Надаела ўсё…

— Так ужо і надаела. Супакойся! Усё ж ёсць — і хлеб, і да хлеба.

— Ад вас адно толькі і чуеш: супакойся ды супакойся!

— Ну а што? Ты ж бачыш, усе мы цяжка працуем. А што зробіш? І тое трэба, і гэта трэба — усё трэба! Але Бог дасць пабагацеем, тады, можа, лягчэй будзе…

Сын нічога не адказаў, насунуў на галаву кепку і выйшаў з хаты.

Косця тыдзень які адсутнічаў у Прусцы і, калі з'явіўся, яны зноў сустрэліся. Сяргей Сталетнік згадзіўся ахвотна, бо пытанне, куды падацца, стаяла таксама і перад ім, і яны пачалі збірацца ў дарогу. Трэба было ісці пяшком, а не ехаць на поездзе, як спачатку абяцаў Косця.

— Ідзіце, хлопцы, на Жабінку, а там уздоўж шашы да Баранавіч, — інструктаваў ён напаследак, у апошні вечар, — кіруйцеся на ўсход і ад шашы далёка не адыходзьце. Перад Баранавічамі паверніце налева, у лес і лесам дойдзеце да граніцы. Глядзіце, каб паліцыя не прычапілася. Калі што, кажыце, што ідзеце ў Баранавічы шукаць работу, але вось заблудзіліся. Бывае. Паверце, усё будзе добра. Адно толькі сцеражыцеся паліцыі. Калі што — уцякайце!

Хлопцы моўчкі слухалі. Косця, счакаўшы, яшчэ больш сцішана дадаў:

— Ну і на тым баку вуха трымайце востра. Ворагі — яны паўсюль. Класавы вораг шкодзіць пастаянна. Гэта майце на ўвазе!

Зніклі яны неўпрыкмет, на наступны дзень. Кінулі ў торбачкі па паўбулкі хлеба, пару цыбулін, па кавалку сала і пайшлі. Было ўжо пад вечар. Лёгкі вячэрні халадок нагадваў, што ў свае правы поўнасцю ўступіла восень. Ціха шумелі дарожныя прысады. У Жабінку ішлі праз Камянец. У вёсках па-асенняму свяцілі вокны хат, але ў вёсках яны не спыняліся, стараліся абыходзіць. Начавалі ў лесе, наслаўшы пад бакі сухога моху, або ў полі, зарыўшыся ў выпадковы стог сена ці саломы.

— Як яно ўсё будзе? — непакоіўся Сяргей. — Ці ўдасца?

— Паглядзім.

Доўга цягнецца халодная вераснёўская ноч. Шуміць лес. Ад балаціны лянiва паўзе туман, ціснецца да зямлі, ахутвае камлі дрэў. З лежбішча відаць туман і начное неба. На небе бялеюць буйныя зоры, не раўнуючы, як гусі на выгане ў пачатку восені, а пасярэдзіне распалавініў небасхіл Млечны Шлях. У тумане часам узнікне кароткі ўскрык — падасць голас нейкая птушка. Жахлівым, падобным на стогн хрыпам, быццам аднекуль з-пад зямлі, азваўся пугач. Усё ўнутры калацілася ад страху, але сябры бадзёрыліся:

— Затое ў Расіі зажывём! Я дык адразу на фабрыку пайду, а ты?

— А я вучыцца.

Пад раніцу, не дачакаўшыся ўзыходу сонца, пайшлі далей. Час ад часу спыняліся перакусіць. Жывіліся пераспелымі ягадамі і арэхамі, якія знаходзілі па ляшчынніках. У агародах, пры вёсках, траплялiся пажаўцелыя гуркі. Усё гэта спажывалі і шыбавалі далей.

Па лясах яшчэ поўна было нікім не чапаных асенніх грыбоў: сыраежкі, абабкі, краснюкі, ваўнянкі. Прускаўцы любілі збіраць лісічкі, але іх час, мабыць, ужо адышоў, лісічкі не сустракаліся. Зрэдку выбягалі насустрач чарнагаловыя баравікі, часам нават цэлымі сямейкамі. Каб гэта дома, дык падабралі б, а тут было не да грыбоў. Паміж сабой гаварылі чамусьці не шмат, і чым далей, тым менш. І адзін, і другі адчувалі, як расце неспакой, а разам з ім і страх, і ніяк не маглі пазбыцца гэтага непрыемнага пачуцця. На пяты дзень, абышоўшы Баранавічы, наблізіліся да граніцы, на лясным участку. З дрэў час ад часу падалі буйныя кроплі расы ці дажджу, і хлопцы не ў першы раз чулі, як халодныя струмені паўзлі па шыі і па спіне. Асцярожна рушылі

далей. Давялося ісці густым лесам, і тут іх чакала неспадзеўка. На лясной паляне стаяў хутар: хата, калодзеж, хлявы ў зарасніках папараці і дзікай маліны. Побач з хатай складзеная для прасушкі невысокая піраміда бярозавых дроў. Сябры пераглянуліся між сабой:

— Зойдзем?

Хутар выглядаў бязлюдным, нібы хтосьці яго пабудаваў, але не засяліў. Ні скаціны не відаць, ні каня, ні воза, нават куры кудысьці пахаваліся. Вокны ў хаце шчыльна занавешаны. Хто ж там, за вокнамі? Падарожнікі насцярожыліся, успомніліся Косцевы папярэджанні, пачуццё страхотлівасці яшчэ больш узмацнілася і разам з тым страшэнна цягнула зайсці.

— Зойдзем? — паўтарыў Сяргей.

Раптам дзверы адчыніліся, і з хаты паказаўся чалавек у паўвайсковым адзенні. Рукі трымаў у кішэнях і выгляд меў такі, быццам кагосьці зачакаўся. Пад носам чарнелі тонкія вусікі.

— Хто такія? — спытаў ён па-польску, не пераступаючы парог і не вымаючы з кішэняў рук.

Сяргей адказаў падрыхтаванай фразай:

— Мы збіліся з дарогі.

— А куды ідзеце?

— У Баранавічы.

— У Баранавічы? Чаго?

— Хочам уладкавацца на працу, — уключыўся ў гаворку Васіль, адчуўшы, як затрымцела ад страху сэрца.

— Адкуль вы, панове?

— З-пад Брэста.

— Але Баранавічы ў адваротным напрамку. Вы прайшлі Баранавічы.

Дзверы расчыніліся шырэй, і ў праёме замаячыў яшчэ адзін, лысаваты. Рукі таксама трымаў у кішэнях.

— А, можа, вы на ўсход накіраваліся? У Саўдэпію? — кусцістыя бровы яго амаль сышліся на пераносіцы. Хлопцы адмоўна пахіталі галовамі:

— Не-е.

Тыя, што стаялі ў дзвярах, зразумеўшы падман, зарагаталі, усім сваім выглядам паказваючы, што менавіта яны тут гаспадары становішча і што рыба, якая трапіла ў іхнія сеці, дробная і няварта увагі.

— Што будзем з імі рабіць? — звярнуўся першы да другога.

— Хай ідуць.

Васілю падалося, што яны перамігнуліся паміж сабой.

— Ідзіце! Заходзьце на зваротным шляху, мы вас гарбатай пачастуем! — і яны зноў зарагаталі.

Хлопцы пайшлі, радуючыся, што так удала выбавіліся з непрыемнай сітуацыі, бо тыя, хто знаходзіўся ў леснічоўцы, не вельмі падобныя былі на зычлівых людзей. Ці не дыфензіўшчыкі якія? Дзверы леснічоўкі яшчэ некаторы час не зачыняліся — за падарожнымі, мусіць, сачылі, і хлопцы пакіравалі адваротным шляхам, каб абысці леснічоўку з другога боку. Пастку, такім чынам, абмінулі. Азіраліся, ці не сочыць хто за імі, але нічога падазронага не заўважылі.

Прыпасы тым часам скончыліся, і надта захацелася есці.

— А, можа, вернемся? — завагаўся Сяргей.

Яны нейкі час думалі — адзін і другі. Нарэшце Васіль сказаў:

— Не, калі наважыліся ісці, то трэба ісці. Там накормяць. Дадуць есці. Ужо ж столькі прайшлі.

І яны рушылі ўперад. Яшчэ адну ноч пракантаваліся ў лесе, а на наступны дзень здалёк убачылі паласаты пагранічны слуп з намаляваным на ім белым

арлом. Сталіся ў кустах і агледзеліся. На ўсім абшары, паміж кустоў і нізкіх дрэў гаспадарылі палявы хвошч з асотам і малачаем. Пачало цямнець. Седзячы ў кустах, доўга назіралі, як ахоўваецца граніца. З-за дрэў вылецеў і пацягнуў па просецы глушэц. Вялікі, цёмны і, як здалося Васілю, барадаты, ён прасвісцеў крыламі над хлапечымі галовамі. Адзін і другі нават прыгнуліся. Перайшлі паласу пад раніцу. Лёгкі туманок ужо лавіў на сабе водбліскі далёкага, яшчэ нябачнага сонца.

Польскія пагранічнікі іх не ўпільнавалі, затое, ужо на савецкім баку, уладна аклікнуў чырвонаармеец. Яны якраз залезлі пад дрот, і Сяргей зачапіўся крысом сваёй світкі. Васіль дапамог яму адчапіцца, і ў гэты момант яны пачулі нечаканую і рэзкую каманду:

— Стой!

Яны азірнуліся і ўбачылі пагранічнікаў, якіх было двое, і абое наставілі на іх доўгія вінтоўкі з тонкімі, як іголкі, штыкамі.

— Рукі!

Хлопцы не зразумелі і паглядзелі на свае рукі.

— Рукі ўверх! — яшчэ грамчэй гукнулі пагранічнікі. — Давай на заставу! — і абое ўладна кіўнулі ў той бок, дзе знаходзілася застава.

Ішлі пад канвоем. Застава знаходзілася непадалёк ад чыгуначнай станцыі, і чутны былі грукат жалеззя і гудкі паравозаў. Ужо добра ўднела, і над будынкамі, на фоне ранішняга неба, яны ўбачылі высокую ажурную арку, над якой узвышаліся складзеныя з вялікіх металічных літар словы:

«КОММУНИЗМ СМЕТЕТ ВСЕ ГРАНИЦЫ!»

На заставе з затрыманымі гаварыў вайсковец у фуражцы з чырвоным аколышам. Распытваў, хто і адкуль, чаму парушылі граніцу. Хлопцы адказвалі ўсё, як ёсць, вайсковец паводзіў сябе падкрэслена афіцыйна, на твары ляжала пячатка адчужэння. Потым іх пакармілі хлебам з рыбнымі кансервамі і чаем, нейкі час пратрымалі ў асобным памяшканні і зноў выклікалі да начальства. Той жа вайсковец з чырвоным аколышам сказаў:

— Ну, вот што. Харошыя вы рабяты. Нашынскія! Савецкі Саюз вельмі вам рады. Уявіце сабе, таварышы, пяць шастых зямнога шара стогне пад пятой капіталу, і толькі адзіная свабодная часць свету — СССР! Работы ў нас многа! Але, — вайсковец зрабіў паўзу, — там, у сябе, вы больш патрэбныя.

Хлопцы стаялі ў поўнай разгубленасці. Ад думкі, што трэба вяртацца, моцна засумавалі і паніклі. Сяргей зусім звяў.

— Ідзіце, таварышы, рабіце там рэвалюцыю, а мы дапаможам. Дамовіліся? Вось і добра. Праз граніцу правядзём. Пойдзеце ноччу, а пакуль што адпачывайце!

Нейкі час яны стаялі ў нерухомасці, не ведаючы, што рабіць. Вайсковец, пазіраючы ім пад ногі, дадаў:

— Прыйсці на гатовае гэта і дурань зможа, а вось, каб і ў сябе такое ж жыццё саздаць!

«А, можа, ён і праўду кажа? — падумаў Васіль. — Сапраўды, на гатовае кожны зможа…»

Яны зноў, у суправаджэнні пагранічніка, апынуліся ў тым самым памяшканні, дзе знаходзіліся да гэтага. Не размаўлялі. Гняло адчуванне марнасці ўсіх намаганняў. Трэба было вяртацца дадому. Настрой — хоць утапіся. Да граніцы іх павялі, калі было ўжо далёка за поўнач. Тыя самыя двое, якія прывялі на заставу. Дайшоўшы да прызначанага месца, заляглі ў кустах і доўга чакалі. Калі адзін з пагранічнікаў, угінаючыся ледзь не да зямлі, падаўся наперад, бліжэй да паласы, каб разведаць абстаноўку, другі, маладзейшы, мусіць навабранец, ціха прамовіў:

— А ў нас, думаеце, лягко? Хапае ўсяго! Чырвоная мятла мяцёт! Маглі б і ў Сібір загрымець…

«Вораг!» — мільгнула ў Васевай галаве, і ён хацеў кінуцца на чырвонаармейца, але стрымаўся: той трымаў у руках вінтоўку. Між тым, вярнуўся той, што хадзіў у разведку.

— Парадак! — паведаміў ён. — Нікога няма! Можна ісці!

Хлопцы, забыўшыся ад хвалявання нават развітацца, папаўзлі…

## VIII

Лявон з Фёклай устрывожыліся: куды ён прапаў? І дзень няма, і два, і тры! Куды падзеўся? Лявон хацеў ужо заяўляць у паліцыю, але Фёкла спыніла:

— Лёня, пачакай. Гэта ён ці не ў Расію пайшоў.

— Праз граніцу?

— Можа і праз граніцу, а як жа яшчэ? — Фёкла ўздыхнула. — Гэта ж я ўспомніла — тыдні два назад ён мне казаў… Як бы грозіўся…

— Што казаў?

— Ну, што мае намер, што ў Расію пойдзе. Ой, як падумаю, дык у жар кідае! Ой, людкове! Што ж будзе?

Лявон пачасаў патыліцу:

— Пераймуць па дарозе. Гэта не так проста.

— Што ж рабіць?

Праз дзень даведаліся, што няма і Сяргея Сталетніка. Таксама кудысьці прапаў, нічога не сказаўшы бацькам. Фёкла кідалася туды і сюды, паслала Лявона да Косці: можа, ён што ведае, але таго таксама не было дома. Бабка Васіліха нічога не ведала і толькі скрушна хітала галавой, а потым пачала плакаць. Фёкла ні за што не магла ўзяцца, хадзіла як непрытомная і ўвесь час думала пра сына. Дзе ён зараз? Ой, Вася, Вася… Бач ты яго — як сказаў, так і зрабіў. Увесь у бацьку, у Аляксашку. Той быў такі ж непаседа, а цяпер сын… Жанчына не знаходзіла сабе месца. Нарэшце ўзялася лушчыць боб — гэты занятак хоць крыху супакайваў. Лявон прымасціўся ля парога папраўляць граблі.

Абое пачулі, як раптам забрахаў Марсік і тут жа радасна завіскатаў і змоўк. Лявон і Фёкла пераглянуліся: «Хтосьці свой!» На ганак нехта паднімаўся, асцярожна бразнула клямка, адчыніліся дзверы, і на парозе з'явіўся Васіль, схуднелы, нямыты, у добра пашарпанай і абадранай на рукавах світцы. На нейкі час у хаце запанавала цішыня.

— А вось і ён, — з усмешкай сказаў Лявон, — наш герой. А мы ўсё чакаем.

У вялікіх цемна-блакітных вачах Фёклы, як маланка, бліснула радасць. Яна кінулася да сына, моцна абняла яго, прытулілася і заплакала:

— Дзе ж гэта ты быў? Сыно-ок!

— Мы ўжо і надзею страцілі, — стрымана дадаў Лявон і таксама абняў хлопца. — Куды гэта ты падаўся?

Васіль зрабіў колькі крокаў і зняможана асунуўся на лаўку. Цяжка дыхаў. Пачаў расшпільваць світку, вінавата паглядаючы на бацькоў. Фёкла ачнулася і замітусілася, пабегла растапляць пліту. Паселі за стол, але Васіль больш маўчаў, чым гаварыў. Дастаў з-пад абруса буханку хлеба, адрэзаў скібіну і прагна стаў есці.

— Ну як вы тут?

— Цябе чакалі, — адказаў Лявон. — Ужо ў паліцыю хацелі заяўляць.

— Не трэба.

— Дык дзе ж ты быў, сынок? — зноў спытала маці, падаючы есці і з замілаваннем пазіраючы на сына.

— Хацелі з Сяргеем у Расію трапіць…

— Ну і што?

— Завярнулі нас назад.

— Хто?

— Саветы.

— А чым вы ім не спадабаліся? — уступіўся ў размову Лявон.

Васіль пацiснуў плячыма, колькі разоў кашлянуў.

— А палякі не перайнялі?

— Перайнялі, але адпусцілі.

Фёкла падавала есці і не адрывала вачэй ад сына, нібы бачыла яго ўпершыню. Хацелася даць яму праборку, але стрымалася. Беручы лыжку, Васіль зноў кашлянуў.

— Прастыў? — занепакоілася маці.

— Не. Начавалі ў лесе, у полі, у стагах, але нічога, цёпла было.

Нарэшце на стале з'явілася гарачая, толькі што звараная і перасыпаная скваркамі бульба, — тут ён ужо не мог стрымаць апетыту.

«Ён ужо зусім дарослы, — думала Фёкла, пазіраючы на сына, — вунь які прыгажун вырас. І чарнявы, як Аляксашка. Сам ужо можа адказваць за свае ўчынкі. Гэта ж хутка і ў войска ісці…»

— Негарэльскую арку бачылі, — пахваліўся Васіль. — Вялікімі літарамі напісана: «Камунізм змяцёць усе граніцы!» І ўсе бачаць і чытаюць.

— Што гэта цябе на прыгоды пацягнула? — пасміхнуўся Лявон.

— Я і сам не ведаю.

— Гэта Косця на іх уплывае, — азвалася з кухні маці, — што ні скажа, яны робяць. — Моладзь!

— Аўтарытэтаў слухай, — у голасе айчыма адчувалася настаўленне, — але свой розум трэба мець.

Пасынак вінавата маўчаў.

— Гэта — па-першае, а па-другое, браце мой, у кожнай справе важна своечасова спыніцца і не пераходзіць мяжы, — ушчуваючы яго, працягваў Лявон, нібы падводзячы вынікі таму, што адбылося.

У глыбіні душы Васіль быў з гэтым згодзен, але, мусіць, не зусім. У чымсьці хацелася пярэчыць.

— А вы ж, тато, самі кажаце, што калісьці ў Амерыку паехалі…

— Дык гэта ўсё з дукументамі было, як трэба, білет, шыф-карта, легальна. Але, помню, і амерыканскія памежнікі спыталі, ці не анархіст.

Потым вандроўнік адпачываў.

Назаўтра яны з Сяргеем хацелі аб сваіх прыгодах расказаць Косцю, але не знайшлі — кудысьці знік. Нават Цімоша не ведаў, куды ён падаўся.

У нядзелю, адпачыўшы пасля падарожжа, Васіль быў з хлопцамі ў Сухаволлі на музыках. Моладзь пачувала сябе досыць бесклапотна, танцавалі, спявалі песні, весяліліся. Бойкая Манька Базылюкова, адкінуўшы плечы, каб лепш вылучаліся пукатыя грудзі, махала хусцінкай і звонка выспеўвала прыпеўкі:

Ты да мяне не хадзі
І не заляцайся.
Я за цябе не пайду,
І не спадзявайся…

Вечная дзявочая тэма: пайду — не пайду…

Васіль танцаваў з Полькай, блізка прыціскаючы яе да сябе. Падабалася яна яму: высокая, стройная, чарнавокая, з тоўстай касой, якая таксама кружылася ў танцы, паднімаючыся за Польчынай спінай.

— О які цваны! — баранілася дзяўчына. — Не дам сябе мацаць! Супакойся!

— А што тут такога, калі ты мне падабаешся?

— Пэўна, выдумляеш?

— Чаму?

— Ой! — ружовыя шчочкі дзяўчыны ружавелі яшчэ больш.

На музыках была і Прося — стаяла сярод купкі дзяўчат бліжэй да сцяны. Васіль бачыў, як яна раз за разам пазірала ў яго бок. Але праводзіў ён Польку. Доўга стаялі каля яе хаты, старой, крытай саломай, з нізкімі вокнамі. Ён хацеў расказаць пра свой «паход» на ўсход, але ўстрымаўся: невядома, як бы Полька да гэтага паставілася.

— Ты мне ўсё больш падабаешся, — сказаў на развітанне.

— Гэта, мoжа, табе так здаецца.

— Напраўду.

— Але ж ты, кажуць, у войска пойдзеш?

— Пабачым.

* * *

Праз колькі дзён у чарговы раз да Кужалёў наведаўся Кузёмка. Тут ён быў як свой. Даў «добры дзень», зняў шапку, перахрысціўся на покут, дзе вісеў абраз. Не ўтрымаўся і зірнуў на свае выглянцаваныя боты і, здаецца, застаўся задаволены.

— Ну, як жыццё? — па Кузёмкавых вуснах, як звычайна, заблукала ўсмешка — не радасная і не блазнаватая, а хутчэй скептычная.

— Клопаты, клопаты! — адказаў Лявон, узіраючыся ў дробненькі Кузёмкаў тварык з носам-бульбінкай. З кухні, праз адчыненыя дзверы на госця паглядзела гаспадыня.

Не чакаючы запрашэння, падарожны сеў на лаўку.

— А якія клопаты? Што за клопаты?

— Гаспадарка, а тут Вася наш быў з дому сышоў. Колькі дзён не было, мы счакаліся, пару начэй не спалі.

— І куды ён хадзіў?

— Не кажа.

— Цяпер моладзь праз граніцу ў Саветы ідзе. Шчасця шукаюць. Думаюць, што там лепш. Але стогне люд і там.

Лявон з Фёклай насцярожыліся.

— А я ж зноў у Расеі быў!

— Няўжо?

— Ісцінны Бог! — Кузёмка размашыста перахрысціўся. — Пад дротам пралазіў.

— Ну і што? — у адзін голас запыталі гаспадары.

— Там паўсюль калхозы! Бязладдзе! Добрых гаспадароў усіх на белыя мядзведзі пазвозілі. Кулакамі такіх называюць. А ў калхозах ні насення, ні еміны! Моладзь дужа на старых сярдзітая.

— А чаго? — заварушыўся Лявон.

— Ну, старыя старога трымаюцца і таксама не ладзяць з моладдзю.

— Што ж такое робіцца? — няўцямна развяла рукамі Фёкла.

— Збылося прадказанне Івана Багаслова, — Кузёмка падняў вочы ўверх, як бы нешта ўспамінаючы: — «І не будут иметь покоя ни днем, ни ночью поклоняющиеся зверю…» Гэта ўсё за грахі. Награшылі!

У пакоі запанавала цішыня, гаспадары чакалі, што яшчэ скажа гэты блукальнік.

— Прыйдуць яны яшчэ і сюды!

— Хто? — не зразумела Фёкла.

— Саветы.

— Чаго гэта яны прыйдуць? — няўцямна паціснула плячыма жанчына. — Тут не Расея!

— От памянеце маё слова! — Кузёмка шумна ўздыхнуў. — Сумныя часы насталі, але горшае яшчэ наперадзе. Пабачыце!

— Адкуль табе гэта вядома?

— Вядома. Я бачу. Ужо сёння бачу, да чаго яно хіліцца.

— Ну ужо што будзе, тое будзе, — сумна прамовіў гаспадар.

Забегла Хомчыха, быццам учула, што прыйшоў Кузёмка, павіталася, прайшлася па хаце, метучы андараком падлогу, прысела на лаўку.

— Ну, як твой конь? — спытаў «ветэрынар». — Не кульгае?

— Паправіўся, дзякуй богу, не кульгае.

— Ну то добра.

— Селядцамі яго корміце?

— Не, гэта Дзякрэта давала яму следзяў, але я ёй забараніла.

— Ну то добра, — зноў ухваліў «ветэрынар», — каню авёс трэба, а не следзі.

Хомчыха прынесла навіну:

— А ў нас, кажуць, Косцю арыштавалі. Недзе за Камянцом перанялі і забралі. Вось як бывае! На дарозе.

— Няўжо? — не паверыў Лявон. — Адкуль гэта вядома?

— Кажуць… Ну няма ўжо яго столькі часу, дык куды ён мог падзецца?

— Яго ж нядаўна толькі выпусцілі! — пляснула ў далоні Фёкла.

— Няма на зямлі ні парадку, ні справядлівасці, — азваўся Кузёмка. Каб не Бог, то свет, пэўна б, даўно разваліўся. Дзякуй Усявышняму — трымае пакуль што, але калі пусціць, то будзе не прывядзі гасподзь…

У хаце на нейкі час зрабілася ціха.

— Ну што ты, так і не ажаніўся? — пацікавілася Хомчыха. У гэты момант ёй яўна бракавала такту, і гэта вывела Кузёмку з раўнавагі.

— Надакучыла! Кожны раз: калі жэнішся, калі жэнішся. А, можа, я не хачу? Ну і што ты мне зробіш? Солі на хвост насыплеш?

— Менш хадзіў бы, з жонкай бы бавіў час, — не адставала Хомчыха. — Жыў бы.

— Колькі вам тлумачыць можна — няма мне часу з жонкай жыць! Мне і там трэба быць, і там, і там! От людзі, от прывязаліся!

Гаспадыня падала боршч з буракоў, Лявон адрэзаў скібку хлеба. Госць зняў з плячэй магерку і падсунуўся бліжэй да стала. Сказаў малітву — «Ойча наш» і ўзяўся за лыжку і за хлеб. Пачаў сёрбаць. Пахваліў хлеб.

— Хлеб у вас смачны, як сыр.

— І боршч добра пахне! — падхапіла Хомчыха, шумна ўцягнуўшы ноздрамі паветра.

— То, можа, і табе наліць? — запытала гаспадыня.

— Не, дзякуй, я толькі што ад стала.

— Боршч яшчэ ёсць!

— Дзякуй!

Высербаўшы боршч і даеўшы хлеб, Кузёмка заспяшаўся ў дарогу, зняў са сцяны і насунуў на галаву шапку.

— Малака выпі! — замітусілася Фёкла, каб дагадзіць госцю, але той і напраўду кудысьці спяшаўся.

Гаспадар паспрабаваў яго затрымаць:

— Кузёмка! Дзівак-чалавек! Куды ты спяшаешся? Яшчэ што-небудзь расказаў бы…

Але вандроўнік быў няўмольны:

— Мне мусова трэба ісці. Мяне чакаюць.

— Ну што ж, калі чакаюць, дык ідзі, — згадзіўся Лявон.

Кузёмка апрануўся, пакланіўся гаспадарам, а Хомчыху быццам і не заўважыў.

— Бадзяецца ён, я гляджу, без ніякай мэты, — сказала Хомчыха, калі Кузёмка, развітаўшыся, выйшаў на вуліцу. — Пустадомак. Гэта ж трэба — нават малака не захацеў! Недарэка!

— Пакрыўджаны Богам чалавек, — уступілася за Кузёмку Фёкла. — Але людзям дапамагае…

— Чаму ты кажаш пакрыўджаны? Нармальны чалавек, — запярэчыў жонцы Лявон. — Крыху дзівакаваты, а хто з нас не дзівакаваты?.. Але ж усё бачыць!

* * *

Васілёва вандроўка на ўсход надоўга засталася яму ў памяці, але ставіўся хлопец да яе неадназначна. Правільна зрабіў, што пайшоў ці не правільна? Праз некалькі год ён разважаў: а можа, і добра, што гэта справа не ўдалася. Хто яго ведае, як бы склаўся лёс. Ці жыў бы? Некаторыя з уцекачоў, як ён потым даведаўся, траплялі ў савецкія канцлагеры і губляліся ў халоднай прасторы Гулага, а некаторыя яшчэ горай…

* * *

У Камянецкі пастарунак іх усё ж такі выклікалі, і яны, калоцячыся ад страху, пайшлі. Камендант паліцыі пшадоўнік пан Куркевіч, з самазадаволеным выглядам пазіраючы ў паперы, зверыў іх імёны і прозвішчы, месца нараджэння і пражывання, сказаў:

— Кужаль — расеец, і яго можна нават зразумець, але ты, Сталетнік, чаго туды пайшоў? Здурнеў? Думаеш, там лепш? Памыляецеся — і адзін, і другі!

Сяргей апусціў галаву. Ён і Васіль стаялі побач ля дзвярэй, камечучы ў руках шапкі, пазіралі сабе пад ногі.

— Мы ўсяго толькі шукалі работы, — ціха прамовіў Сяргей.

— Работы!? — вызверыўся на яго пан пшадоўнік. — А на гаспадарцы бракуе работы?!

— Ну што тая гаспадарка?

— Мы добра ведаем, у які бок ты глядзіш! — яшчэ больш узлаваўся пшадоўнік. Шчокі яго пайшлі чырвонымі плямамі, нават шыя пачырванела. — Камуніст, пся крэў! Нам усё вядома! І адзін, і другі — камуністы! У турме згнаю! Вось пабачыце!

«Чытае натацыі — падумаў Васіль, — страшыць». Інтуітыўна ён адчуваў, што самае страшнае ўжо мінулася. Пан пшадоўнік падняўся з-за стала і, залажыўшы рукі за спіну, прайшоўся па кабінеце. Гучна рыпелі, як бы спявалі, да бляску наваксаваныя боты. Калі ён параўняўся з хлопцамі, Васіль пачуў пах парфумы. «А каля савецкага афіцэра так не пахла», — зноў падумаў ён. Пан пшадоўнік павярнуў да ўцекачоў сваё нахабнае і самазадаволенае аблічча:

— Ну вось, вашага прыяцеля мы забралі, хутка і да вас чарга дойдзе. Гэта я, псямаць, абяцаю!

Хлопцы насцярожыліся: «На што гэта паліцыянт намякае?» Зноў зарыпелі боты — пан пшадоўнік глянуў у акно, як бы там што яго цікавіла.

— А Канстантэго Хлябіча мы раскалолі! — раптам, нібы хвалячыся сабой, абвясціў ён. — Цяпер ён нам не патрэбны, бо ўсё расказаў. Нават болей, чым трэба. Мы нават не чакалі ад яго такой гаварлівасці. Wyżej sra, niż dupę ma! Перададзім яго ў СССР — там ведаюць, што з такімі рабіць. А вас не пусцілі! Ха-ха-ха! А ведаеце — чаму? Бо вы не жыды! Жыдоў бы пусцілі!

Пан пшадоўнік адышоўся ад акна і зноў спыніўся каля ўцекачоў, упёрся паглядам у аднаго, у другога.

— Каму нашы парадкі не падабаюцца, таго сілком у Саветы адправім! Афіцыйна! Зразумела? А цяпер — марш адсюль! Марш, пся крэў! І не пападайцеся!

Хлопцам нічога не заставалася, як пакінуць пастарунак і накіравацца дахаты. У душы былі радыя, што пазбавіліся ад небяспекі. Па дарозе аднак больш маўчалі, выгаварыўшыся яшчэ, мусіць, тады, калі ішлі на ўсход, а потым вярталіся назад. Толькі мінуўшы Замасты, Васіль, не азіраючыся на прыяцеля, як бы падумаў услых:

— Няўжо Косця і праўда раскалоўся?

— Хто яго ведае! — пацінуў плячыма Сяргей.

На гэтае пытанне адказу ў іх не было.

## IX

У войска Васіля забралі позняй восенню 1935-га. Хлопцу пайшоў дваццаць першы год. На прызыўным пункце, у Высокім, аглядалі, мералі рост, аб'ём грудзіны, узважвалі. Дагала распранутых прызыўнікоў абмацваў, задаючы нязначныя пытанні пра здароўе, доктар. У выніку Базыль Кужаль — мяшканец вёскі Пруска Ратайчыцкай гміны прызнаны быў годным да службы ў войску.

Адыходзіў з апошнім прызывам. Збіралі бацькі. Лявон дастаў з гарышча драўляны куфэрак. Успомніў, што ён некалі з такім ехаў у Амерыку. У куфэрак паклалі пару бялізны, ручнік, кавалак мыла, брытву і шырокі пасак, каб правіць яе перад галеннем. І, як звычайна, булку хлеба, кавалак сала, каўбасу, сушаны сыр, некалькі яблыкаў. Маці дала ў дарогу лыжку і міску. Развітацца прыйшлі Іван з Фядорай, прыбегла Хомчыха. З'явіўся таксама Лявонаў сябар Павал Гальяш. Пасля ўсіх, апошнімі, прыйшлі Харытон з Барбарай, якія жылі за ракой, у Бранавічах.

Хомчыха заспявала ўжо пасля першай чаркі:

Па багатым сыну плача ўся радзіна,
А па сіраціне — малада дзяўчына-а…

Васіль падумаў пра Польку. Абяцала чакаць, але плакаць па ім, пэўна, не будзе. Гарэзніца.

Падаў голас Іван, які звычайна больш маўчаў, чым гаварыў:

— Ну, каб жывым вазвярнуўся! — і падняў кілішак. Выпіў і перадаў па кругу.

— Вунь які прыгажун вырас, — сказала Барбара. — А здаецца нядаўна з Берасця на руках несла, калі па бруку на возе ехалі, ды так трасе, а ён плача, дык я яго на рукі. Кволы быў, а цяпер!..

Васіль маўчаў.

— Каб толькі вайны не было, — сказала Фядора.

— Не будзе, — запэўніла Хомчыха, якая было ўжо, мусіць, на падпітку. — Яшчэ тая ў памяці, на якой мой Назар загінуў. Дужа цяжкая і брыдкая была тая вайна, каб на яе халера!

— Праўду кажаш, суседка, — падтрымаў Хомчыху Павал. — Мяне пэўна Бог ад смерці ўратаваў. Снарад амаль ля ног разарваўся! Як застаўся жывы — не ведаю. Бачыў нават, як ён разрываўся, як трэшчынкі па ім ішлі, з якіх яго распаленае нутро выцякала. Ой, як успомню, млосна становіцца!

— Вайны няма — вернецца! — супакоіў Харытон.

Фёкла ўздыхнула, выцерла вочы:

— Сёння — няма, а заўтра, глядзіш, ваююць. Такі свет!

Фядора, седзячы побач з Іванам, скрушна паківала галавой, таксама змахнула з-пад вока слязіну. Яна сябравала з залоўкай і спачувала ёй.

— Не ўгадаеш, як жыць, — пачаў развеждаць Павал. — Можа, каб камуністам быў, то і не ўзялі б, але ж і ў камуністаў доля не лягчэйшая. Вунь Косцю забралі, а што ён такога зрабіў? Каго ўкрыўдзіў?

— Косцю шкада, — згадзіўся Лявон. — І Васіліху, маці яго, шкада. Калі падумаеш, дык усіх шкада.

Фёкла не спускала вачэй з сына: вернецца ці не — невядома.

Ішоў ён не адзін. Разам з Васілём у войска ішлі Сяргей Сталетнік, а таксама Янэк Выжыкоўскі — парабак Падгурскіх. Ён жыў у чвураку.

Назаўтра Васіль разам з Сяргеем прайшліся па вёсцы, завіталі ў кожную хату, з кожным развіталіся. Так спрадвеку рабілі ўсе, хто адыходзіў у войска. Солтысу трэба было выдзеліць падводу, але Лявон не стаў чакаць кагосьці, а запрог Ляльку, кінуў у вазок пук сена, заслаўшы тканай посцілкай. Ад сена бруіўся тонкі пах аеру. Ззаду ў кельню Васіль паставіў свой куфэрак. Па зямлі ляніва слаўся туман. Густыя хмары, як скрозь сіта, сеялі і сеялі надакучлівую імжаку.

Вакол пачалі збірацца цікаўныя — хто праходзіў міма і хто спецыяльна ішоў праводзіць. Нават сусед Грышка Латушка выйшаў з хаты і абапёрся на плот. Навабранец у сваім падраным кажушку, адтапыраных у каленях картовых нагавіцах і збітых чаравіках выглядаў беднавата, але да такога выгляду ў Прусцы прывыклі. Не ў святочнае ж апранацца, ідучы ў войска, — там апрануць! Зашпіліўшы на ўсе гузікі кажушок, кінуў пагляд на сад за хатай: тамсям яшчэ віселі заскуравелыя ад непагадзі яблыкі. Каштан развітальна махаў аголенымі галінамі. Зелянеў яшчэ толькі шпарагус.

Чакаў, што з'явіцца Полька, але дзяўчыны не было. Зрэшты, развіталіся яны яшчэ ўчора — ён сядзеў з ёю ў хаце да трэціх пеўняў і вярнуўся дадому толькі пад раніцу. Абяцала чакаць, а прыйсці на провады пасаромелася. Ведама, дзяўчына…

— Ну, Васіль, трымайся! — падбадзёрыў Міцька Балабайка, які прыйшоў з Выгнанкі. Балабайку ў войска не бралі па прычыне вельмі малога — кату па пяту — росту.

— Начальства слухайся! — наказваў Фэдар-японец.

— Слухаць — слухай, але па-свойму рабі! — параіў Гамон. — Бо начальства пра сябе думае.

— А я прытварыўся, што на адно вока не так бачу, дык мяне і не бяруць, — пахваліўся Хвядзюшка Шпунт.

— Ну ўжо што будзе, тое будзе! — махнуў рукою навабранец.

Сяргея праводзіў бацька, запрэгшы ў павозку свайго Буланчыка. У воз да яго падсеў солтыс, звесіўшы з кельні ногі. Сцяпан, відаць, лічыў сваім абавязкам праводзіць навабранцаў і здаць іх дзяржаве. З другога боку сеў стары Сталетнік, трымаючы ў руках лейцы.

— Но-о! — цмокнуў ён сухімі губамі, і конь рушыў з месца, калёсы зачвякалі па гразі.

Васіля праводзілі айчым з шваграм Іванам. Фёкла доўга абдымала сына і плакала. Ён з Сяргеем не сядалі на падводы, а пайшлі ззаду. Фёкла, выціраю-

чы вочы хусцінай, рушыла следам. Дажджлівая восень расквасіла дарогу, пад нагамі хлюпала вада. Мінуўшы край вёскі, Шпронькаву краму і царкву, Васіль азірнуўся. Маці стаяла каля вярбы, сашчапіўшы на грудзях рукі. За мастком цераз Плісу да іх далучыўся Янэк Выжыкоўскі. Кожны быў крыху на падпітку, і яны, не змаўляючыся, крыху ўразброд, заспявалі «Паследні нонешні дзянёчак гуляю з вамі я, друзя…» Песня старая, яшчэ царская, знаёмая ўсім. Песню ведаў і Янэк, бо не раз чуў, як спявалі яе прускаўскія навабранцы. Ён адразу ж падхапіў: «Заплача ўся мая сям'я-я!..» Дапяваўшы песню, расселіся па падводах і ехалі да самых Лышчыцаў. Хаваючыся ад вільгаці, паднялі каўняры і сумна паглядалі па баках. Восень ішла ўжо да свайго канца, але паплавы заставаліся яшчэ зялёнымі. Прырода, відаць, не спяшалася расставацца з восенню, скрозь іней віднелася змёрзлая трава, шарэлі прыдарожныя дрэвы і кусты. Усё — шэрае, бляклае, аднастайнае. Падводы каціліся, правальваючыся ў калдобіны, асядаючы і расплёскваючы настаялую воду. Па дарозе амаль не перамаўляліся.

Нарэшце паказаліся Лышчыцы. Гэта было невялічкая станцыя сярод касагораў і пералескаў, назву яна атрымала ад аднайменнай вёскі, якая знаходзілася побач. Запахла дымком з паравознай топкі. Лявон успомніў, што з гэтай станцыі пачынаўся яго шлях у Амерыку, і вярнуўся ён таксама праз яе. На пероне ўжо стаялі такія ж, як і прускаўскія, з іншых вёсак навабранцы ў шарачковых світках, гаманілі ў чаканні вайсковага начальства. Накрапваў дождж. Нарэшце з'явіліся вайскоўцы ў доўгіх кавалерыйскіх шынялях на чале з капралам — маленькім пыхлівым чалавечкам у высокай фуражцы— рагатуўцы. Шынель апускаўся яму ажно на шпоры. «Пан капрал», — пачціва звярталіся да яго вайскоўцы. Пад носам у капрала задзірыста чарнелі вусы, а пры баку вісела вялікая, не па росце, шабля. Выгляд у яго быў такі, быццам ён уладарыў над усім наваколлем і ўсё яму падпарадкавалася. Іван успомніў выпадак, як гадоў з пятнаццаць таму назад ён сам прызываўся ў войска. Вось такі ж калантыр-капрал вёз іх, навабранцаў, на месца службы. Было гэта ў лютым месяцы. Прыехалі да Берасця. Апрануты Іван быў дрэнна. Вядомая справа: хто ж добра апранаецца, ідучы ў войска, — там выдадуць казённае. А мароз такі, што на вуліцы не ўтрымацца. А яны якраз знаходзіліся на плошчы з Граеўскага боку вакзала. Іван агледзеўся і кінуўся ў карчму, у якую то заходзілі, то выходзілі цёплыя людзі. Забег, сеў ля сцяны на ўслон і не заўважыў, як перад ім літаральна вырас, як з-пад зямлі прыўзнімаючыся на насках, капрал.

— Ты што тут сядзіш?!

— Грэюся, дзядзьку.

Абурэнню вайскоўца не было межаў. Азвярэлы, ён пырскаў сліной і стаў яго біць па чым папала, а потым ужо ў батальёне пастаянна нагадваў: «Дзе той нягоднік, што пагрэцца захацеў?»

Выбраўшы момант, калі Лявон некуды адвярнуўся, Іван дастаў з кішэні грошы — пяць злотых і сунуў Васілю.

— На! Спатрэбіцца!

Гэта было досыць нечакана, хлопец здзівіўся, але грошы ўзяў, падзякаваў.

— Я аддам!

— Неабавязкова.

Навабранцаў між тым паставілі ў дзве шарэнгі. Васіль стаў побач з іншымі, хто падыходзіў яму па росце. Маленькі капрал, як нейкі казачны чарадзей, набраў у лёгкія паветра, надуўся і скамандаваў, нават не скамандаваў, а натужліва заспяваў:

— Ба-ачнасць! Раўняй на-апра-а-ва!!!

Хлопцы закруцілі туды-сюды галовамі, бо не кожны ведаў, дзе тое «направа».

— Па гэтай камандзе, — тлумачыў капрал, — кожны павінен выцягнуцца ў струнку, рукі апусціць, грудзі выпрастаць, галаву павярнуць направа і стаць так, каб бачыць гузікі на мундзіры ў трэцяга ад цябе!

Каманда паўтаралася некалькі разоў. Недахопы строя выпраўлялі падначаленыя калантыру-капралу вайскоўцы. Затым навабранцаў строем прагналі некалькі разоў па пероне. Пасля чаго селі ў прызначаны вагон. Васіль не змог нават у апошні раз развітацца, толькі здалёк памахаў рукой.

* * *

З першым снегам Лявон пачаў малаціць збожжа. Махаючы цэпам, успацеў і не заўважыў, як яго прадзьмула скразняком. Пасля гэтага стаў кашляць, паднялася тэмпература, але бадзёрыўся. Балелі завалкі ў горле. Да доктара прускаўцы звычайна ісці не спяшаліся. Хварэлі, але пакуль маглі хадзіць, да доктара не ішлі. Падзялялі тую думку, што здароўя за грошы не купіш.

— Не палохайся, — супакоіў жонку. — Са мной і ў Амерыцы такое здаралася. Доктар казаў — флю[1]. Праз два дні буду здаровы.

Але прайшло і два, і тры дні, а здароўе не паляпшалася. Давялося легчы на ложак.

— Нешта сярэдзіна баліць, — паскардзіўся хворы.

Фёкла напаіла яго гарачым адварам ліпавага цвету і ў дадатак прапанавала:

— Давай банькі пастаўлю.

Яна ведала, як ставіць банькі. Гэтыя шкляныя прылады ажно ўпіліся ў Лявонаву спіну і паадвальваліся толькі тады, калі зусім астылі, пакінуўшы пасля сябе цёмныя кружкі. Потым ён піў і калінавы адвар, і адвар мацярдушкі. Умела Фёкла ў бядзе-хваробе лекавымі зёлкамі ўспамагчы. Бабка Васіліха, сустрэўшы яе на вуліцы, параіла:

— Багульніку адварыце, ад прастуды дапамагае, кашляць перастане.

Запас лекавых раслін у Фёклы даволі багаты, у каморы на сцяне віселі пучкі розных зёлак: ліпавы цвет і лісцікі мацярдушкі, якую тут называлі нагаткамі, крываўнік і палын, сушаны рамонак і шчнічнік, каліна і вораб, шыпшына і хмель і шмат іншых, а вось багульніку не было. Васіліха дапамагла, прынесла.

— Баліць? — спачувальна папытала яна. — Лепш за ўсё не звяртаць увагі — пройдзе. Нішто не вечнае ў гэтым жыцці, ні хвароба, ні нават гора. Усё пройдзе.

— І я думаю, што пройдзе, — паспрабаваў усміхнуцца хворы.

— Павінна прайсці.

Але не дапамог і багульнік. Стан хворага пагаршаўся. Кашаль узмацніўся, і пры кашлі пачала з’яўляцца кроў. Лявон заўважна пахудзеў. Нешта трэба было рабіць. Вось тады і ўспомнілі пра доктара Багуцкага. У Камянецкай бальніцы было два доктары — Багуцкі і Пракаповіч. Абодва ў свой час скончылі Львоўскі універсітэт імя Стэфана Баторыя, медыцынскі факультэт, але падабенства паміж імі, здаецца, на гэтым і канчалася. Больш давяралі Багуцкаму. Багуцкі надта не любіў, калі па дапамогу да яго звярталіся са спазненнем. Тады мог і крэпкае слоўца сказаць, і прысарамаціць, і нагой топнуць. Пракаповіч браў за візіт тры злотых, Багуцкі — пяць. Ішлі чамусьці больш да Багуцкага, хоць

[1] Грып (англ.).

ён браў даражэй. У адрозненне ад Пракаповіча ён лячыў і пасля таго, як чалавек пабудзе ў пастарунку. «Наш доктар крыху чырвоны», — гаварылі пра яго. У Камянец адвёз швагер Іван, з якім нядаўна праводзілі ў войска Васіля. Доктар Багуцкі прымаў у сваім кабінеце на другім паверсе шпітальнага будынка па Літоўскай вуліцы. Хворага сустрэў высокі, сярэдняга веку мужчына ў белым халаце і белай шапачцы. Ад яго круглых шэрых вачэй ва ўсе бакі праменнямі разыходзіліся маршчынкі. З кішэні халата тырчэў серабрысты градуснік.

— Ну, што скажаш? — спытаў ён, уважліва зірнуўшы на Лявона. — Захварэў? — з хворымі ён быў на «ты».

— У сярэдзіне баліць.

— Сядай! — Багуцкі паказаў на кушэтку, што стаяла ля сцяны. — Давай праверым пульс. — Ён сеў побач з Лявонам і абхапіў яго запясце сваёй сухой і жылістай рукой.

Хворы колькі разоў кашлянуў.

— Прашу распрануцца да пояса! — загадаў доктар, пасля чаго абстукаў Лявонавы грудзі і задаў некалькі пытанняў.

Хворы адказаў. На твары Багуцкага з’явіўся выраз заклапочанасці:

— У шпіталь трэба класціся. Трэба падлячыць лёгкія. У вас слабыя лёгкія. Пасля бальніцы — на курорт. Хаця б ва Уладаву. Гэта недалёка — за Брэстам.

— Не, пане Багуцкі, шпіталь, відаць, не па нашай кішэні.

Шпіталь каштаваў два злотых у суткі — гэта ведалі нават у Прусцы, таму ніхто ў той шпіталь і не клаўся. Давялося хварэць дома. Доктар Багуцкі прапісаў пасцельны рэжым і накіраваў у аптэку. Тут, па рэцэпце, Іван купіў лекаў, а дома сустрэла Фёкла. Хвароба абвастрыла ўспрыманне будзённага жыцця, гукі якога даносіліся з вуліцы, з панадворку. Цяжка дзень і ноч ляжаць на ложку, але час ад часу наведваліся сябры.

Аднойчы ў нядзелю, калі скончылася набажэнства ў царкве, завітаў Якаў Арыстархавіч. Не бачыліся даўно, але яго Лявон пазнаў адразу, яшчэ калі ён загаманіў з Фёклаю ў сенях.

— Маё шанаванне! От, хоба на яго, і ты хварцом стаў!.. — паспачуваў Якаў Арыстархавіч, пераступіўшы парог. Акуратна зачыніў за сабою дзверы.

— Стаў, — вінавата згадзіўся хворы і падаў госцю руку, якую той папрыяцельску заціснуў у сваёй пульхнай далоні. — Сядай! — Лявон кіўнуў на столак, што стаяў ля ложка.

Якаў Арыстархавіч зняў і павесіў на цвік сваю дубальтовую шапку, пасля чаго, не распранаючыся, а толькі расшпіліўшы світку і рассунуўшы полы, сеў на столак, не выпускаючы з рук «кульбы», якая заўсёды была пры ім.

— І што гэта ты, хоба на яго, хварэць уздумаў?

— Даводзіцца, — слаба ўсміхнуўся Лявон.

— Дарэмна ты гэта, дарэмна…

Сам Якаў Арыстархавіч укормлены і, як заўсёды, чырванашчокі. Падбароддзе зацягнута ў гальштук, а жывот увабраны ў ёмістую камізэльку, зашпіленую на мноства дробных гузічкаў. Да дактароў ён ніколі не звяртаўся па той простай прычыне, што ў яго ніколі нічога не балела. Нядаўна, праўда, наведаўся да пратэзіста. У роце ў яго цяпер замест жалезнай фіксы тырчэў шырокі залаты зуб.

— І ў доктара быў?

— Быў.

— А ў каго?

— У Багуцкага.

— О-о! Гэты добра лечыць.

— Агледзеў мяне, выстукаў, рэцэпт выпісаў і сказаў ляжаць. Кажа, што грудзі слабыя. Я і сам ведаю, што слабыя, я іх яшчэ ў Амерыцы ў шахтах надарваў…

— Барсуковы тлушч табе трэба піць, — параіў фальварковец. — Дапамагае! Ад усіх хвароб, хоба на яго, дапамагае. Бацька калісьці толькі ім і ратаваўся. Ото лякарства!

— Я чуў, але дзе яго дастанеш?

— Калі трэба, то дастанеш!

— Добра было б.

— А можа прапаліс паспрабуеш? Гэта — добрая ўспамога. Пчолы збіраюць з бярозавых почак. Вясною, калі почкі яшчэ не распусціліся, калі яны клейкія і пах даюць — густы, бярозавы.

— І пчолы з іх збіраюць?

— Збіраюць! Мы з Амброжыем фальварак бярозамі абсадзілі. Я табе гэты прапаліс перадам — ты яго ў чай дадавай!

— Хіба што паспрабаваць…

— І з арэшніку мёд карысны, і з вербалозу і з ліпы. З усяго! Заводзь пасеку! — Госць выняў з бакавой кішэні пакецік з ляндрынкамі, дастаў адну і кінуў у рот.

— Можа, ты хочаш?

Лявон адмоўна пахітаў галавой, і Якаў Арыстархавіч схаваў пакецік у кішэнь.

— А мяне нядаўна жыдкі абмануць хацелі.

— Якім чынам?

— Ты ж ведаеш, яны арандуюць у мяне сад. Прадаю ім увесь ураджай — яблыкі, слівы, грушы… Трыста злотых штогод! Але на гэты раз прагнаў арандатараў. Ураджай большае, а грошы — столькі ж! Не магу ж я дазволіць, каб хтосьці мяне абіраў.

— Не абмануў — не згандляваў, — пасміхнуўся Лявон.

— З Хайкай дамовіўся — яна лепшыя грошы дасць.

Смокчучы ляндрынку, Якаў Арыстархавіч перамяніў тэму:

— Я гляджу, як ваш Мікола Шпронька, хоба на яго, па драбіне на неба лезе.

— Новую лаўку будуе, — азваўся Лявон.

— Ну і гіцаль! Тухлымі селядцамі гандлюе. Амброжый аднаго разу купіў, дык Стэпку яго ажно прапаносіла… Ну і гіцаль!

— Шпронька свайго дамагаецца, вялікім панам хоча стаць. Калісьці ў сэнатары выбіраўся, але галасоў не хапіла, — сенатар Лявон вымаўляў на мясцовы лад, цвёрда: сэнатар.

— Можа і мне, хоба на яго, падавацца ў сэнатары? — услых падумаў Якаў Арыстархавіч. — Бацька б ухваліў!

— Напэўна б ухваліў, — згадзіўся Лявон.

— А я б там, у Варшаве, парадак навёў. Бо няма ў нас паўнапраўнага статусу!

—Ну, вядома няма.

— Ну то трэба падумаць, — Якаў Арыстархавіч, гаворачы, час ад часу даставаў з камізэлькі гадзіннік на сярэбраным ланцужку, узіраўся ў цыферблат. Нарэшце падняўся і сказаў, што трэба ісці.

— А ў нас жа Васіль у вайска пайшоў, без памочніка цяжка.

— Трэба падумаць, як яго з таго, хоба на яго, войска выбавіць. Я падумаю.

— І яшчэ навіна: Косцю Хлябіча пасадзілі.

— Я чуў. Тут цяжка дапамагчы — палітычная справа. Сам, хоба на яго, вылузаецца.

— Можа і вылузаецца…

Госць зашпіліў світку, падаў на развітанне руку, насунуў на галаву шапку і, абапіраючыся на кульбу, выйшаў.

Пакрысе Лявон усё ж такі паправіўся. Далечваўся барсуковым тлушчам і прапалісам. Але за час хваробы моцна знясілеў і схуднеў. Канчаткова дапамаглі выздаравець паветра, поле, калодзежная вада.

## X

Кавалерыйскі полк, у які трапіў Васіль, стаяў у Старагардзе, на ўсход ад Варшавы. Гэта быў славуты Другі ўланскі полк швалежэраў Ракітнянскіх. Кавалерыя заставалася асноўным родам войскаў у Польшчы. Існавала некалькі відаў, сярод якіх швалежэры мелі свае адрозненні, свой шарм. Шабля — доўгая і тонкая, з аксамітнымі кутасамі на рукаятцы, канцом даставала ажно да долу (відаць, каб далей дастаць і праціўніка). Доўгі, па самыя пяты, балотнага колеру шынель, які мог акрыць не толькі кавалерыста, але і яго каня, што, вядома, у непагадзь вельмі нават не лішне. На галовах у швалежэраў замест рагатувак — круглыя фуражкі з белымі аколышамі. Чаму так? Відаць, свая традыцыя.

У Пілсудскага яны лічыліся прывілеяваным войскам, як бы яго гвардыяй. Праславіліся яшчэ пад Ракітна, калі ваявалі на баку аўстрыйцаў. Ракітна — горад на Букавіне, каля якога атрады швалежэраў з Польскіх легіёнаў пайшлі ў атаку супраць рускіх войскаў і панеслі пры гэтым значныя страты, але бой выйгралі. Было гэта ў 1915 годзе. Рускія, казалі, беглі не азіраючыся.

Папаўненне адбіралі з мацакоў — рослых, дужых навабранцаў, хто ўдала, са свістам мог махнуць той доўгай швалежэрскай шабляй. Базыль Кужаль, відаць, падыходзіў. Яго вопратку памянялі на вайсковую, абмундзіравалі ва ўсё новае, а цывільнае здалі на склад. З прускаўскіх ён тут апынуўся адзін, з Сяргеем рассталіся ў Варшаве — яго павезлі кудысьці ў іншы бок. Побач з Васілём аказаўся такі ж малады, як і ён, але ёмкі хлопец з Палесся па прозвішчы Кацюбка. Сціпласць і паслухмянасць былі напісаныя ў яго на твары. Абодва яны трапілі ў другі швадрон першага батальёна.

Батальённая казарма — вялікая, светлая і прасторная. З партрэта пры ўваходзе глядзеў маршал Рыдз-Сміглы — з голай як калена, галавой і прыўзнятымі густымі чорнымі бровамі. За навабранцаў адразу ж узяўся капрал — невысокі, шыракаплечы здаравяк, заўсёды чыста паголены, з моцнымі, шчыльна сціснутымі сківіцамі і сівізной на скронях. Размаўляў глухім пракураным басам. Васіль ні разу не бачыў, каб ён калі ўсміхнуўся. Вечна прыдзірлівы і незадаволены. Да маладых звяртаўся не інакш, як «зелёнэ вуха». «Зелёнэ вуха» — гэтак у польскім войску зняважліва называлі салдатпершагодкаў. Нават, маўляў, на вушах у цябе засталася зялёная змазка, якой чысцяць карабіны.

Пасля снедання і ранішняга разводу, калі кавалерысты выехалі на вальтэжыроўку, Васіль пачуў пракураны капральскі бас:

— Эй ты, зелёнэ вуха!

Азірнуўся на капральскі голас і зразумеў, што начальства кліча да сябе.

— І ты! — капрал кіўнуў на Кацюбку.

Хлопцы выцягнуліся ў струнку.

— Адкуль? З крэсуў?

— Так, з крэсуў.

— Ну то добра. Чысціць коней і прыбіраць у канюшні!

Загад ёсць загад, яго трэба выконваць, і яны бадзёрым крокам (гэта таксама было прадугледжана патрабаваннямі службы), нават подбегам пайшлі да канюшняў. Канюшні ў швалежэраў таксама вялікія, з загараддзю для кожнага каня. У паветры чуўся пах конскага воласу і поту. Капрал загадаў прыбраць гной, акуратна і чыста падмесці, паказаў, куды вынесці смецце, выдаў спецыяльныя «згрэблы», якімі швалежэры чысцілі коней і расчэсвалі ім грывы. Гэтым яны з Кацюбкам і заняліся. Скрэблі, падмяталі, чысцілі. Коні былі афіцэрскія, і часу на іх догляд у гаспадароў не хапала, даглядалі іх шараговыя. Васіль успомніў Пруску. Відаць, паснедалі ўжо і пайшлі нешта рабіць па гаспадарцы. Бацька, пэўна, ужо разаслаў на таку снапы, развязаў перавясла і пачаў малаціць. Малаціць  таксама цяжкая работа.

«А як там Полька? — пра яе ён успамінаў і думаў пастаянна. — Ходзіць, пэўна, на музыкі, і з хлопцамі танцуе. Хай бы з сяброўкамі танцавала! А можа, хто з хлопцаў і заляцацца пачаў? Дзіва што, такая прыгажуня! Губкі такія прыгожыя, пульхныя! А каса! Як яна прыгожа перакідвае яе з грудзей назад, за спіну! А грудзі, а стан, а каленкі!..» — ён уздыхнуў і як бы ачнуўся.

Думкі аднак не перашкаджалі працы, і праз гадзіну-якую яны паспелі ўсё зрабіць. Падмялі, вычысцілі канюшню, пахадзілі са згрэбламі ля коней, расчасалі ім грывы. Папрацаваўшы, прыселі каля конскіх сёдлаў адпачыць. На ўсялякі выпадак паазіраліся, ці няма дзе паблізу капрала або якога-небудзь іншага начальства, але нічога небяспечнага не ўгледзелі. Капрал зайшоў непрыкметна, яны з Кацюбкам яго нават не заўважылі.

— Устаць! — зароў з парога.

Хлопцы ўскочылі як ашалелыя ад капральскага крыку. Той крычаў, пырскаючы слінаю. Можна было чакаць, што ён зараз плюне ім у твар. Незадаволены быў, як ні дзіўна, з тае прычыны, што падначаленыя надта хутка выканалі яго загад. Цяжка дыхаючы, прыдзірліва агледзеў коней, якіх яны чысцілі, дастаў з кішэні белую хусцінку і правёў ёю па прамежнасці паміж конскай нагой і жыватом. На хусцінцы застаўся ледзь прыкметны след конскага поту.

— Лайдакі! — тыцнуў пад нос аднаму і другому.

Капральскія падначаленыя выцягнуліся ў струнку, прыціснулі рукі да бакоў. Начальнік не прымаў пад увагу таго, што яны яшчэ неабучаныя, навабранцы.

— Я це покажэ! — капрал перавёў дых. — Без коней будзеце ў мяне скакаць!

Напалоханыя навабранцы маўчалі, чакаючы, што ж гэта будзе. Капрал прымусіў аднаго і другога прысесці і скакаць на сагнутых нагах, як жабы.

— Шыбко, шыбко, пся крэў! — прыспешваў ён.

Адзін і другі няскладна падскоквалі, шукаючы апоры, узмахвалі рукамі, блыталіся ў доўгіх полах кавалерыйскіх шынялёў. У гэтай сітуацыі, як не дзіўна, іх пачаў разбіраць смех. Дурны і вельмі ж несвоечасовы, які часам і здараецца з чалавекам у падобных недарэчных акалічнасцях. Яго цяжка адолець, і хлопцы, як блазны, пачалі рагатаць, закрываючы твары рукамі. Капрал гэта заўважыў і ажно пабялеў, у яго дадалося злосці. Ён падаў новую каманду:

— Устаць! Сесці! Устаць! Сесці!

Ён муштраваў іх, як хацеў, падаючы каманду ўжо не голасам, а паказваючы пальцам: палец уніз — сесці, уверх — устаць. Калі яны ўжо зусім змагліся і не ў стане былі ні ўстаць, ні сесці і толькі ледзьківаліся, седзячы на кукішках, капрал спыніў муштроўку і гучна загадаў яшчэ раз усё вычысціць і падмесці:

— Языком вылізаць! Каб ніводнае пылінкі не было! Не забывайце, дурні, што наш швадрон узорны! І коней выгладзіць! Я вам пакажу!

У нядзелю маладых павялі ў касцёл. Каталікоў — у касцёл, праваслаўных — у царкву. Усіх павёў пешым строем усё той жа капрал. Касцёл і царква знаходзіліся ў цэнтры горада, іх аддзяляў вялікі пляц, на якім адбываліся дэфіляды мясцовага гарнізона. Тут знаходзіліся розныя ўстановы, магазіны, пошта. Бегалі і крычалі разносчыкі свежых газет, імкнучыся здзівіць навінамі.

— Мітынг у падтрымку Гітлера!

— З’езд у Львове, з’езд у Львове!

У царкве вайскоўцы паздымалі фуражкі і трымалі іх збоку, у левай руцэ, цэшкамі ўперад. Правай рукой хрысціліся. Адстаяўшы абедню, выйшлі на паперць, дзе на ступеньках іх чакаў капрал. Пасля імшы ў касцёле да іх далучыліся швалежэры-каталікі. На пляцы нейкі швадрон займаўся страявой падрыхтоўкай. Рыхтаваліся да чарговай дэфіляды, бо мелася прыехаць высокае начальства. Чуліся бадзёрыя прыпеўкі (з імі Васіль і Кацюбка былі ўжо знаёмыя — прыпеўкі ў палку называлі «журавейкамі»).

Гучны тэнар выводзіў:

Шволежэры рушон у поле —
По маёнткі на Подоле…

Астатнія падхапілі:

Ланцэ до бою, шаблі ў длонь —
Большэвіка гонь, гонь, гонь!

Васіль успомніў Косцю: «Дзе ён зараз? Што б ён сказаў на ўсё гэта? Сказаў бы, пэўна, што класавая барацьба не аціхае, што галоўны бой наперадзе…» Пачуў, як Кацюбка хапатліва торгнуў за рукаў:

— Глянь, глянь, дзіва якое!

Відовішча і сапраўды было незвычайнае. На фасад дома побач з царквой апусцілася чародка галубоў. У некаторых птушак да хвастоў былі прычэпленыя невялічкія пасачкі чырвонай матэрыі з выразнымі надпісамі белымі літарамі. Напісана па-польску. Васіль разабраў: «Хлеба!», «Работы!», «Свабоды!».

— Здорава! — не стрымаўся хлопец.

— Гэта, мусіць, камуністы! — шапнуў Кацюбка.

Галубоў заўважыў і капрал, вусны яго скрывіліся.

— Стройся! — скамандаваў ён і дадаў: — Гэта, пся крэў, маскоўскія штучкі! Але атрымаецца па-нашаму! Шагам марш! Не азірацца!

Хутка яны апынуліся ў казарме, а вечарам Васіль заступіў на дзяжурства днявальным па канюшні. Ён з дзяцінства любіў і ўмеў даглядаць коней, ведаў, як з імі абыходзіцца. Быў здольны яздок. Капрал, пэўна, гэта заўважыў, бо праз пару тыдняў сказаў:

— Бэндзеш цвічыць млодых коні!

Цвічыць коней — гэта значыць аб’язджаць, трэніраваць, прывучаць да вайсковага строю.

У адным з лістоў Лявон з Фёклаю атрымалі сынаву фатаграфію: швадрон швалежэраў вярхом на конях, пры шаблях і карабінах, і недзе ў трэцім ці чацвёртым радзе з-за конскага вуха выглядае Васіль у фуражцы з заціснутым пад падбароддзем пасачкам.

* * *

А Косця ўжо даўно бавіў час у Брэсцкай турме. Як ні шанаваўся, а ўберагчыся не змог. Арыштавалі яго за Камянцом, у Лесках, на явачнай кватэры, — выдаў канфідэнт. Рыхтаваў дэлегатаў на акружную партканферэнцыю, а таксама шукаў людзей, хто б падпісаў пратэст супраць здзекаў у Картуз-Бярозе. Ячэйкаўцы варушыліся слаба, а варушыцца трэба было, і Косця свядома пайшоў на парушэнне парадку канспірацыі. Існавала правіла: адзін мае справу толькі з трыма, кожны з іх — з трыма наступнымі, і так па ланцужку. Ён жа сустрэўся з усімі разам. Пасля сустрэчы адпачываў у клуні на сене. Ночы ў верасні халодныя, але ў клуні цёпла. Ён амаль што ўжо засынаў, калі ў клуню з крыкам «Здавайся! Рэнцэ да гуры!», як крумкачы, уварваліся паліцыянты, асвятліўшы памяшканне і самога «марыканца» электрычнымі ліхтарыкамі.

— Prędzej! Milcz![1]

Ён, пашанцавала, паспеў праглынуць паперку з яўкамі, якая знаходзілася ў нагруднай кішэні. Пракаўтнуў і падняўся на ногі. Першы допыт адбыўся тут жа, на таку. Асобу ўстанавілі па пашпарце: Кастанты Хлябіч з вёскі Пруска Ратайчыцкай гміны.

— А-а-а! Таварыш! — скрывіў рот паліцыянт, мусіць, старшы. — Стары знаёмы! Мы цябе якраз і шукаем. — Як закаранелы садыст, ён не ўтрымаўся, размахнуўся і саданўў арыштаванаму кулаком у жывот з такой сілай, што той страціў прытомнасць і асунуўся на ток. Праз некалькі мінут пачуў:

— Уставай, пся крэў!

На таку яго моцна білі нагамі і прыкладамі.

— Надзець кайданкі! — скамандаваў старшы паліцыянт.

Надзеўшы французскія наручнікі, пагналі па асенняй непагадзі ў Камянец, у пастарунак. Папярэдзілі, што, калі паспрабуе ўцякаць, будуць страляць. Апроч таго арыштавалі яшчэ чатырох і ўсіх кінулі ў падвал. Прыціснуўшыся скроннню да сцяны, Косця адчуў холад і сырасць. Допыты пачаліся пад вечар. Дэфензіўшчык быў апрануты ў цывільнае. На левай яго шчацэ чырванела вялікая, бурачковага колеру, пляма. Размаўляў па-руску — на чыстай, неламанай рускай мове.

«Ці не Гадаў ты?» — падумаў Косця, прыглядаючыся да чалавека з плямай. Чуў ад таварышаў, што ёсць такі ў дэфензіве, вядомы яшчэ з царскіх часоў. Працаваў на многія замежныя службы. Хітры, каварны і жорсткі. З вялікім вопытам. У падполлі лічылася, што гэта з яго ўдзелам закатавалі Марыю Лісак. З такім трэба быць асцярожным. Успомнілася народная прымаўка: «Такі і з-пад сучкі яйкі дастане!»

— Хто і з якой мэтай накіраваў цябе ў Польшчу? — гэта было першае пытанне, якое задаў дэфензіўшчык.

— Пра гэта ў мяне ўжо пыталі ў той раз, — адказаў Косця, маючы на ўвазе папярэдні свой арышт колькі год таму назад, калі яго судзілі і «прыпаялі» тры гады за «супроцьпанствовую» дзейнасць.

— Член Кэ Пэ Зэ Бэ? — зняважліва, па складах, спытаў дэфензіўшчык.

Камуністы пры арышце партыйнай прыналежнасці ніколі не называлі. «За каго ты мяне маеш, псяюха? — падумаў Косця. — Ты што, лічыш мяне ідыётам? Чакай, так я табе і скажу…»

— З якой мэтай аказаўся ў вёсцы Лескі?

---

[1] Хутчэй! Маўчы! (польск.)

«Бачыш, і гэта яго цікавіць. Так я табе і скажу. Чакай. Не на таго напаў!..» Арыштаваны ўзняў галаву, паглядзеў на следчага:

— У Лесках можна купіць каня.

— А табе патрэбен конь? — крыва пасміхнуўся следчы. Гэта была нейкая сквапная, яхідная ўсмешка, у верхнім радзе злева агаляўся шырокі зуб-пратэз пад залатой каронкай.

— А чаму не?

— Ты ж не селянін.

— А хто?

— А вось зараз ты нам пра гэта і раскажаш.

Арыштаваны паціснуў плячыма. Левае плячо праняў востры боль — напамінак аб учарашніх катаваннях.

— Камуніст, чорт пабяры! — напудзіўся на яго следчы. — Нам усё вядома! Прызнайся — будзе лепш! Ад каго атрымліваў інструкцыі? Хто ў ячэйцы? Выкладвай! Назаві прозвішчы! Хутчэй! У нас, каб ты ведаў, адказваць трэба у момант! Спыталі — адказаў! Бо інакш табе ніхто не паверыць!

Косця зірнуў на свае рукі і ўбачыў, як дрыжаць кончыкі пальцаў. Ён успомніў Мінскую школу: там казалі, што падпольшчык павінен рыхтаваць сябе і на подзвіг, і на смерць. Але вытрымаць катаванні ўсё адно цяжка.

— Адказвай, такую тваю маць! Сукін сын! — пляма ў следчага ажно пачарнела, і ён з размаху ўдарыў арыштаванага кулаком у твар, але болю Косця не адчуў, таму што паспеў крыху ўхіліцца, і кулак каўзануўся па шчацэ і па вуху. Першым жаданнем было кінуцца на свайго крыўдзіцеля і зрабіць з яго калеку, але тады яны маглі б яго проста забіць ды і ўсё. Косця ўвесь напружыўся.

— З якога года з'яўляецеся агентам Камінтэрна? Адказвайце! Вы што, не бачыце, што Сталін — тыран, што ён здзекуецца з людзей? А вы, камуністы, на яго працуеце! Дурні!

Арыштаваны ўздыхнуў.

— Ну, як, бальшавіцкая морда, будзем гаварыць? — пеніўся дэфензіўшчык. Пляма на яго шчацэ то чырванела, то бялела, а пагляд не абяцаў нічога добрага.

— Дык вы кажаце, што вам усё вядома…

— Ты, гіцаль, вырашыў гэтак са мной размаўляць?

— А як з вамі размаўляць?

Следчы не стрываў, прыўзняўся і зноў тыцнуў арыштаванаму кулаком у твар. На гэты раз трапна, з носа палілася юшка.

— За што?

— За тое! Якія звесткі перадаваў сваім сувязным?

Паддопытны маўчаў, выціраючы далонню кроў. «Добра, што не пад дых», — падумаў ён. Удары пад дых былі самыя балючыя, іх ён пераносіў горш за ўсё.

— Ты ў мяне загаворыш! Равець будзеш, як вавельскі цмок[1]! Праз хвіліну!

Дэфензіўшчык, мусіць, падаў нейкі знак, бо ў памяшканне літаральна ўварвалася некалькі паліцыянтаў, адзін з гармонікам. Адразу ж накінуліся на зняволенага, звязалі рукі і ногі і сагнулі так, каб пад каленьмі прасунуць палку. Той, што быў з гармонікам, пачаў іграць. Іграў раскавана і залівіста, круцячы галавой і падрыгваючы нагамі. Здаецца, гэта быў oberek[2].

---

[1] Міфічная пачвара, якая быццам бы знаходзілася ў Вавельскім замку.

[2] Народны танец (польск.).

Катавалі ўсю ноч і ўсімі спосабамі: улівалі ў нос газу, заганялі пад пазногці іголкі, заціскалі пальцы рук дзвярыма, білі галавой аб сцяну. Вяртаючыся да свядомасці, Косця колькі разоў чуў:

— Буянэк, ешчэ воды!

На яго бухалі вядро вады і зноў білі. Ачуняў ён ужо ў падвале, куды яго вярнулі пасля катаванняў. Падняў галаву, з цяжкасцю разамкнуў вейкі і перасунуўся да сцяны. Павекі былі такія цяжкія, што ён ледзь расплюшчыў вочы. Задзіраў галаву, каб нешта бачыць перад сабой. Асцярожна абмацаў языком дзёсны, намагаючыся палічыць, колькі выбіта зубоў. Пякло ўсё цела. Сеў, задраў калашыны штаноў і агледзеў ногі. І ногі, і рукі былі ў сіняках. Балелі ўсе косці, ён адчуваў сябе дарэшты змардаваным. Міжвольна застагнаў, сціснуўшы зубы. «Сволачы! — падумаў ён і праглынуў горкі ком нянавісці, які сабраўся ў горле. — Ад каго атрымліваў інструкцыі, назаві прозвішчы — так я вам і назаву! Скулу ў бок! Не, паслухмянасці вы ад мяне не прычакаеце! І суд нічога не дакажа! Вопыт у мяне ёсць, і адвакат дапаможа. Таварышы дапамогуць…»

Ля супрацьлеглай сцяны сядзеў нейкі хлопец і ўвесь час скуголіў, перашкаджаў сабрацца з думкамі, раздражняў. Косця паўзіраўся ў яго бок і зразумеў, што чалавека дарэшты адолеў страх. Няйначай меліся выклікаць на допыт, і ён ад жаху і прадчування болю не пераставаў скуголіць. Сам Косця добра ведаў гэтае пачуццё, ведаў, як яно ціснe на чалавека і ўрэшце расціскае і знішчае. Астатняе давяршаюць дэфензіўшчыкі. Шкадоба падступіла да горла: «Малады ж надта, і схапілі нізавошта. Хоць ты замест яго ідзі… А можа паспрабаваць? На раніцу заступае новая змена…» І ён падрыхтаваўся.

Калі добра ўжо заднела, у падвал увайшоў даўгалыгі паліцыянт. Твар са свежымі брытвеннымі парэзамі, залепленымі паперкамі. У адной руцэ ён трымаў кавалак каўбасы, у другой — булку і адкусваў ад аднаго і другога. «Кракаўская», — пазнаў Косця, зірнуўшы на каўбасу і адчуўшы пах. Ён любіў гэты гатунак. Паліцыянт пашарыў мутнымі зрэнкамі па кутках і, жуючы каўбасу, назваў прозвішча. Гэта аказалася якраз прозвішча таго хлопца, што ўвесь час тросся ад страху і скуголіў. Пачуўшы сваё прозвішча, чалавек аж зайшоўся ў немым крыку і закалаціўся галавой аб сцяну. Гэта было жахліва. Косця не стрываў, падняўся і пераступіў парог. Замест таго хлапца.

Спроба ўдалася. Катавала і дапытвала яго новая каманда — дэфензіўшчыка з плямай на шчацэ ўжо не было.

## XI

А яшчэ праз пару дзён Косцю перавялі ў Брэст, у дэфензіву па вуліцы Беластоцкай, 24. Сунулі ў пусты падвал і пакінулі аднаго. На допыт не выклікалі. Здалося нават, што пра яго забыліся, і ён праз нейкі час заснуў. Гэта быў нават не сон, а нейкае трызненне, плынь успамінаў. Як бы хтосьці круціў кіно, але не з пачатку, а з канца. Зняволены ўспамінаў штрайк белавежскіх лесарубаў, успомніў свае ўцёкі па снежным полі ў адных шкарпэтках, прыгадаў чамусьці Сашку Гаўрылюка і тое, як сядзелі з ім калісьці ў Брэсце, у Брэсцкай турме, і як іх наведаў пыхлівы ваявода Костак-Бярнацкі. Час ідзе хутка, гэта толькі здаецца, што ён марудзіць. Колькі ўжо ўсяго прайшло! Вокам не змігнеш, не ўсочыш, як ён ляціць, як усё мяняецца. Насталі новыя часы: Гітлер, Мусаліні, народны фронт…

Аднаму, без сяброў, у невядомасці — цяжка. Але нешта трэба рабіць. Адарваў яго ад думак хрыплы і адначасова візгатлівы голас:

— Эй, ты, камуніст! Уставай! У тваёй бальшавісцкай Маскве д'яблы даўно ўжо праспявалі сваю малітву «Інтэрнацыянал»! Уставай, падла!

Адкрыўшы вочы, Косця ўбачыў перад сабой да бляску наглянцаваныя боты службоўца ў канарэечнага колеру форме дэфензіўшчыка.

— Устань, холера! — злосна крыкнуў дэфензіўшчык і пагардліва скрывіў рот, непрыязна паглядаючы на вязня і круцячы на тоўстым пальцы цэлую звязку ключоў ад камер.

Вязень падняўся, стаў на ногі.

— Рукі за спіну! Упярод! Марш! Prędzej, prędzej![1]

Ідучы па доўгім калідоры ў суправаджэнні канваіраў, некалькі разоў сустракаў постаці арыштаваных, што стаялі тварамі да сцяны, уткнуўшыся ў яе ілбамі. Зноў пачаліся допыты. Дапытваў усё той жа чалавек у цывільным, з чырвонай плямай на шчацэ, што быў у Камянцы. Мусіць, ён вёў справу. Размаўляў па-руску. Зноў шмат білі. У арыштаванага з рота пайшла кроў.

— Пахаркаеш пару гадоў кроўю і ў зямлю ляжаш, — сказаў следчы. На стале, ля яго правай рукі, ляжала гумовая дубінка. «Гума» — як тут казалі. — Палякі адсталі! Вунь немцы ўжо электрычным токам уздзейнічаюць — у амерыканцаў навучыліся, а тут яшчэ дапатопным спосабам, — следчы ўзяў у руку «гуму», паспрабаваў яе на вагу і зноў паклаў на стол. — Палякі — адсталая нацыя. З тэхнікай у іх слаба. Я думаю, што мы з табой гэта разумеем. Мы і больш маглі б паразумецца, і ты б не блага жыў! Ты мне даеш інфармацыю, я табе — грошы.

Паддопытны крыва, аднымі вуснамі, пасміхнуўся. Увайшоў паліцыянт з тоўстай кабурой на поясе, сеў у кутку.

— Што ж, будзем працягваць допыт, — сказаў следчы.

— Памерці не дадзім, але і жыць не будзеш, — азваўся паліцыянт, што знаходзіўся ў пакоі.

— Жыць, можа, яшчэ і будзе, — здзекліва паправіў яго следчы, — але з жонкай не ляжа. З жонкай сусед будзе спаць. — Следчы, нягледзячы на знешнюю раўнавагу, уваходзіў, відаць, у злосць, бо пляма на шчацэ ўсё больш набракала чырванню. — На калені! — зароў ён. — Прасі літасці!

Арыштаваны нічога не адказаў, як бы яму было ўсё роўна і нават нецікава мець справу з чалавекам, які яго дапытваў. Пляма на шчацэ ў следчага набыла ўжо зусім цёмны бурачковы колер, і ён не вытрымаў, схапіў «гуму» і ўшпарыў арыштаванага па галаве. Ушпарыў раз і другі, Косця зваліўся са столака на падлогу, а следчы — гэта і сапраўды быў Гадаў — залямантаваў:

— Забярыце яго, бо я заб'ю гэту камуністычную гадзіну!

Косця маўчаў, цярпліва зносіў пакуты. Паспыталі на ім, здаецца, усё, нават электрычны ток. Есці давалі хлеб з селядцом, паілі праз нос. Але больш яны ад яго нічога не маглі дабіцца. Прад'явілі аднак абвінавачанне ў прыналежнасці да арганізацыі, якая называе сябе Камуністычнай партыяй Заходняй Беларусі.

— Пяць гадкоў табе гарантавана! — паабяцаў Гадаў. — Не паслухаў мяне! Хто мяне не слухае, таму звычайна цяжка бывае. Ой, цяжка!

Суд адбыўся ў Брэсце, у тым будынку, што на рагу Лістоўскага і Зыгмунтоўскай. Косці зноў дапамагаў адвакат, наняты Цэнтрам, але ўжо не Крыніцкі, як на той раз, а іншы. Прыйшоў як бы па ўласнай ініцыятыве. Не малады на выгляд, у сінім касцюме з белай палосачкай, пры гальштуку. Прамы, з ледзь заўважнай гарбінкай нос, лоб з залысінамі, валасы чорныя і прамыя, вушы шчыльна прыціснуты да галавы. Было ў ім нешта такое, што вылучала яго з навакольнага асяроддзя. Гэта перш за ўсё, мусіць, уважлівасць і зычлівасць у паглядзе.

[1] Хутчэй, хутчэй! (польск.)

— Дурач, — прадставіўся ён і перадаў просьбу Цэнтра — выступіць на судзе з палымянай рэвалюцыйнай прамовай, калі дадуць апошняе слова.

Арыштаваны ўзрадаваўся, акрыяў духам: «Значыць, у яго яшчэ верыць, памятаюць!» У свядомасці загучала мелодыя: «У бой, пралетарый, у бой!..» Дурач аказаўся вопытным адвакатам і выдатна справіўся са сваімі абавязкамі. Суд схіляўся да мінімальнай меры пакарання і, можа, нават гатоў быў апраўдаць абвінавачанага, але ўсё перайначыла гучная прамова Косці, яго заключнае слова. Зрэшты, усё сказаць не ўдалося, ён толькі пачаў:

— Панове суддзі! Я не прызнаю гэтага суда, таму што ён не справядлівы і не можа быць справядлівым. Ён буржуазны! Ён судзіць і хавае за жалезныя краты лепшых сыноў народа, адданых ідэі свайго класа! Не мяне першага вы судзіце, але праўда на нашым баку, яна не баіцца артыкулаў кодэкса. Праўда на баку пралетарыяту! Праўду можна знайсці толькі на Усходзе, у СССР! Там наша праўда!..

Дагаварыць яму не далі. Тут жа скруцілі, выцягнулі ў бакавушку і пачалі лупіць, пакуль падсудны не страціў прытомнасць. Прысуд — шэсць гадоў турмы і на ўсё жыццё пазбаўленне грамадзянскіх, ганаровых і вайсковых правоў — абвясцілі без яго.

Адвакат параіў патрабаваць перагляду справы. Косця гэтак і зрабіў: змагацца — дык да канца! Смылела скатаванае цела, ён пачуваў сябе зусім зняможаным, але літаральна назаўтра са складзеным Дурычам «прашэннем» звярнуўся да пракурора. Пракурор раздуваў ноздры, разводзіў рукамі і паціскаў плячыма, але заяву мусіў прыняць.

Паводзіны зняволенага, які так настойліва шукаў нейкай праўды, не спадабаліся дэфензіўшчыкам. Шпікі вырашылі адпомсціць: «Пачакай, яшчэ пагаворым!..» Ад пракурора яго вярнулі не ў камеру, а павезлі ў дэфензіву, на катаванні. Катавалі заўзята. Звычайна білі так, каб слядоў на целе не заставалася, але на гэты раз шпікі страцілі пільнасць. Усе пагалоўна былі п’яныя. Іх было трое і катавалі яны ноччу. Моцна звязалі яму рукі, залажылі іх за калені і прасунулі паміж імі тоўстую палку і білі, а потым білі гумовай дубінкай па голых пятах. «Мусіць, паадбівалі мяса», — падумаў Косця. Пяты балелі так, што немагчыма было ўстаць на ногі. Ён усё ж такі паспрабаваў гэта зрабіць, але, як калода, паваліўся на падлогу. З дэфензівы яго, скатаванага, забралі ў турму.

— Падзякуй яшчэ, што мы табе яйцы не круцілі! — зарагатаў на развітанне адзін са шпікоў. — Усё яшчэ наперадзе!

Паліцыянты са смехам павалаклі яго па доўгім калідоры і кінулі ў фургон, на якім адвезлі ў турму. Ачнуўшыся ў камеры, ён пачуў уласныя стогны і адчуў, як баліць усё цела, а з грудзей вырываецца стогн. І хацеў бы не стагнаць, але не атрымлівалася. У камеры знаходзілася некалькі вязняў, і яны пачалі патрабаваць урача, але ніхто не прыходзіў. Нарэшце з’явіўся наглядчык. Урача доўга не было, але ўсё ж такі прыйшоў і ён, і глянуўшы на ляжачага, абвясціў на ўсю камеру:

— Так бальшавікам і трэба!

Пасля чаго завярнуўся і пайшоў.

Калі назаўтра Косцю прывялі да судовага следчага, ён папрасіў дазволу распрануцца і паказаў скатаванае цела. Вязень хацеў, каб тое, у якім стане яго прывезлі з дэфензівы, убачыў доктар. На целе відаць былі сінякі, крывападцёкі і нават раны.

— Дзе вас так расфарбавалі?

— У дэфензіве.

— Ого! — вырвалася ў следчага. —— Яны пераўзыходзяць самі сябе. Мастакі.

— Мне патрэбен доктар. Толькі не той, не з дэфензівы.

Праз нейкі час выклікалі да турэмнага доктара. Вёў, як заўсёды, наглядчык у карычневай уніформе. Мерна бразгалі ключы, падвешаныя на руцэ. Кабінет турэмнага доктара знаходзіўся на другім паверсе ў тым крыле, дзе размяшчалася адміністрацыя. Наглядчык застаўся ў калідоры, а Косця асцярожна «пастукаў» пальцам у дзверы і, пачуўшы: «Проша!», адчыніў іх і пераступіў парог. Яго сустрэў мужчына ў белым халаце, даволі забруджаным, з закамянелым скуластым тварам і калючым паглядам.

— Цо поведзіш?[1] — недаверліва спытаў ён. Але гэта быў іншы доктар — не той, які прыходзіў у камеру, і ў гэтым сэнсе вязню пашанцавала.

— Я быў у следчага, і ён накіраваў мяне да вас.

— Вы былі ў следчага? У чым справа?

Косця моўчкі пачаў распранацца. У яго рухах былі і крыўда, і гнеў, і нейкая спаважнасць, прыхаваная годнасць. Не схільны, відаць, да сантыментаў турэмны медык пацмокаў языком:

— Да чаго даходзяць… Скандал…

Доктар — трэба аддаць яму належнае — склаў пратакол, падрабязна апісаў усе сінякі і раны і прачытаў напісанае Косцю. У канцы адзначыў, што ўсё гэта вынікі пабояў у самыя апошнія дні. Слухаючы гэты балючы аповед пра сябе, вязень нанова, яшчэ раз перажыў усе здзекі і крыўды, што чыніліся над ім, і не змог стрымаць слёз, якія як бы самі па сабе буйнымі гарошынамі пакаціліся па шчоках.

Пасля доктара зноў паклікалі да турэмнага следчага. Следчы пагартаў пратакол.

— Хто вас біў?

— Яны мне не прадстаўляліся.

— А дзе вас білі?

— У дэфензіве.

Следчы аказаўся не такі, як усе, і пачаў раскручваць справу. Гэта быў, па ўсім відаць, смелы чалавек. Зразумеў, што далей ужо няма куды. Не марудзячы, пазваніў начальніку дэфензівы і рашучым голасам запатрабаваў прыслаць да сябе ў кабінет вывядоўцаў, якія ў апошнія тры дні знаходзіліся пры выкананні сваіх службовых абавязкаў. Праз непрацяглы час у пакой да следчага з'явілася чалавек пятнаццаць шпікоў на чале з начальнікам дэфензівы маёрам Ламжынскім — змрочным тыпам з прыдзірлівым выразам на васпаватым твары. Косцю прывялі на апазнаванне, ён паказаў на трох, і адразу ж усе трое адмоўна закруцілі галовамі. Маёр Ламжыцкі таксама паціснуў плячыма і абурана загаманіў, звяртаючыся да турэмнага следчага:

— О, тэрас так: не зачапі! А некалі — я сам чытаў у актах — у Бжэсцю тое было — шляхціц забіў хлопа. Матка Боска!.. Але, проша пана, nie zekrwawił! І суд вызваліў шляхціца ад абвінавачання! Вось так![2]

Ніводзін са шпікоў не прызнаўся, і ўсе яны на чале са сваім начальнікам з выглядам пераможцаў завярнуліся і пакінулі кабінет следчага. Следчы пасля гэтага адчуваў сябе асабіста абражаным, бо адразу ж параіў неадкладна звярнуцца ў пракуратуру.

---

[1] Што скажаш? (польск.)

[2] О, зараз так: не чапай! А некалі – я сам чытаў у актах – у Берасці тое было – шляхціц забіў хлопа. Маці Божая!.. Але, звярніце ўвагу, не акрываваіў! І суд вызваліў шляхціца ад абвінавачання! Вось так! (польск.-бел. мяшанка)

— Не прызналіся, але адказваць будуць, бо ёсць пратакол турэмнага доктара, а гэта нешта значыць, — дадаў ён.

Косця напісаў скаргу ў пракуратуру, але вынікаў гэта не дало. Пракурор, які азнаёміўся са скаргай, толькі скрывіў рот і развёў рукамі:

— Адсутнасць доказаў, сведкаў, фактаў біцця. Тут нічога нельга зрабіць. Нічога!

Следчы аднак (зачэплены, мусіць, за жывое) параіў на гэтым не спыняцца, і Косця, паслухаўшы яго, падаў скаргу ў апеляцыйны суд у Вільні, які 12 красавіка 1936 года разгледзеў справу і вырашыў, што ёсць дастатковыя матэрыялы, якія пацвярджаюць біццё арыштаваных і загадаў прыцягнуць віноўных да судовай адказнасці. У турму да Косці з'явіўся ўжо іншы следчы, і пачаўся дадатковы допыт. Пацярпелы распавядаў пра ўсё як на духу. У ім яшчэ болей узмацніўся дух нязломнасці. Вязень адчуваў у сабе нерастрачаныя сілы і наступаў.

Нарэшце, падпісаны пракурорам абвінаваўчы акт быў гатовы. Апроч таго пракурор паведаміў, што Косця мае права прад'явіць суду дадатковы акт абвінавачання, падпісаны прафесарам права і адвакатам Казімірам Петрусевічам. Такім чынам, у справе было ўжо два абвінавачанні — ад пракурора і ад упаўнаважанага на гэта прафесара права і адваката Казіміра Петрусевіча. У верасні 1936 года ў Віленскім апеляцыйным судзе слухалася справа аб катаванні кіраўніком дэфензівы Ламжыцкім і трыма шпікамі палітычных вязняў. У зале сядзелі — па абліччах відаць было — рабочыя, мяшчане, просты люд. Людзей апанавала цікавасць. Гэта была першая і апошняя справа ў Польшчы супраць шпікоў за катаванні ў дэфензіве палітычных арыштаваных. У якасці сведкаў выступалі сам пацярпелы і турэмны доктар. Такога ў судовай практыцы яшчэ не здаралася. Косця падрабязна расказаў пра катаванні. Працэс цягнуўся некалькі дзён. Шпікі, як не круціліся, атрымалі па адным месяцы арышту — нават не турмы, а арышту, ды яшчэ з адтэрміноўкай. Прысуд — мяккі. Газета «Dziennik Brzeski» даволі цынічна пісала: «Суд узяў пад увагу той факт, што абвінавачаныя дзейнічалі несвядома, бо, б'ючы камуніста, думалі, што гэтым дзейнічаюць на карысць грамадству». Такім чынам суд матываваў свой прыгавор. У другой палавіне трыццатых гадоў турэмны рэжым стаў больш суровы, але гэта не тычылася, вядома, шпікоў.

* * *

Адседжваць свой тэрмін ён пачаў у Брэсцкай турме.

— Стары знаёмы!.. — пажартаваў начальнік турмы пан Гарох. — Ну, як здароўе, пан камісар? — З газет ён, несумненна, ведаў пра вынікі нашумелага суда над шпікамі і спачуваў сваім калегам з дэфензівы. Гарох за прайшоўшыя гадоў пяць, калі Косцю вызвалі з гэтай жа турмы сам ваявода Костак-Бярнацкі, не змяніўся анітрохі, хіба што яшчэ больш азыз, але такі ж прыдзірлівы і жорсткі службовец. Як начальніка турмы, яго папярэдзілі, каб ён звярнуў на гэтага вязня асаблівую ўвагу. Двойчы паўтараць адно і тое ж не было патрэбы. Шматгадовая служба ў турме зрабіла з яго садыста.

Не гледзячы на Косцю і стаўшы да яго неяк бокам, Гарох сціпла напомніў:

— Тут няма твайго Сталіна, тут я Сталін…

Вязень крыва і адначасова пагардліва ўсміхнуўся:

— Ale na moje wyszło![1]

— А гэта мы яшчэ паглядзім.

---

[1] Але выйшла па-мойму! (польск.)

Яго пасадзілі ў адзіночную камеру, амаль што карцэр. «І зноў турма», — падумаў ён, прысеўшы на цэментавы дол. Крыху пачакаў, а потым прыклаў вуха да сцяны, прыслухаўся. З палёгкай адчуў, што сцяна жыве. Аднекуль даносіўся перастук, пазыўныя Морзе, чуліся іншыя гукі, як бы хто стагнаў ці плакаў. «Не адзін, — падумаў ён, — таварышы побач».

Праз акенца падалі хлеб і каву. Адламаў і прасунуў у рот кавалак хлеба, але жаваць не змог — усё яшчэ балелі язык і дзёсны. Выпіў паўкубка кавы, якая па смаку мала нагадвала каву: гаркаватая карычневая вадкасць. У калідоры пачуліся чыесьці прыцішаныя, ледзь улоўныя крокі. Вязень насцярожыўся. У шчыліну пад дзвярыма чыясьці добрая рука прасунула паперку — «грыпс». Косця разгарнуў паперку — там была азбука Морзе і інструкцыя па яе прымяненні. Патроху ён пачаў дзейнічаць.

Праз нейкі час трапіў у агульную камеру, дзе гаспадарыла камуна, і яго адразу кааптавалі ў турэмны камітэт. Сакратаром туркама быў стары знаёмы — берасцеец Саванеўскі, якога ў свой час выдаў Стральчук, і Саванеўскага арыштавалі. Косця, пасля перажытага, меў патрэбу ва ўзмоцненым харчаванні. Пастанавілі яго падтрымаць. З волі перадалі літровы слоік тлушчу, і вязень стаў яго спажываць.

— Ну, як тлушч? — спытаў Саванеўскі, назіраючы, як вязень становіцца на ногі і папраўляецца.

— Смачны.

— А каб яшчэ са смажанай цыбуляй! Цыбуля ў нашым становішчы незаменная рэч.

— Пах смажанай цыбулі заўсёды прыемны, — згадзіўся Косця.

— Я таксама пасля katavanняў у дэфензіве з'еў такі ж слоік сабачага тлушчу, — азваўся хтосьці з членаў туркама.

Косця падняў галаву і ўважліва на яго паглядзеў.

— Дык гэта што — сабачы тлушч?

— А ты хіба не ведаў? Я, каб не сабачы тлушч, наўрад ці паправіўся б.

Косцю апанавала гідлівасць, і яго пачало ванітаваць.

— Дарэмна ты, — паўшчуваў яго Саванеўскі, — сабака — жывёліна чыстая.

Праз нейкі час удалося перадаць вестачку на волю. Прыехаў брат — Цімоша. Да вязня вярнулася раўнавага, і пацягнуліся аднастайныя дні і ночы.

## XII

У пачатку студзеня 1936 года па частковай амністыі, аб'яўленай польскім урадам, з турмаў выйшла каля чатырох тысяч палітвязняў. У лютым 1936 года газеты пісалі пра Сяргея Прытыцкага, які ў судзе страляў у галоўнага сведку абвінавачання, правакатара Якава Стральчука, па віне якога адбылося шмат правалаў, арыштаў. Прытыцкага прысудзілі да смяротнага пакарання. Ішло змаганне за яго жыццё. Пра Косцю Хлябіча, аднак, ніякіх звестак не было, і прускаўцы пра яго лёс нічога не ведалі.

Ранняй вясной 1936 года ў Прусцы з'явіўся новы чалавек. Звалі яго Кухта Лаўр Яўсеевіч. Прыехаў з Берасця, а як трапіў у Берасце, невядома. Паводзіў сябе асцярожна і выгляд меў, як чалавек новы і незнаёмы, даволі няпэўны: невысокага росту, увішны, з доўгім, крыху звернутым на бок носам. Невялікія, акуратна падстрыжаныя барада і вусы. Апрануты ў караткаватую шэрага колеру світку, перашытую з нейкай іншай адзежыны.

— Прыхадзень нейкі! — паціскалі прускаўцы плячыма. — Няўжо лепшага месца не знайшоў?

— Архаравец! — ахрысціў Кухту Шпронька, незадаволены, што той абмінае яго лаўку, не хоча даць прыбытак.

— Усё да нас прыплывае — і пень, і качарга, — сказаў з гэтай нагоды Гамон.

Пасяліўся прыезджы ў старой хаціне, што стаяла за ўраднікавым домам і дзе жыў калісьці святар, пакуль яму не паставілі новую будыніну побач з царквой, у садзе. Да духоўнага стану Лаўр Яўсеевіч меў, як аказалася, самыя непасрэдныя адносіны, бо прыехаў ён сюды на пасаду дзяка. Яго папярэднік Дзіядот Садоўскі ўжо даўно паспеў пастарэць, прыкметна калаціліся рукі і дрэнна трымалі камертон; ветэрана трэба было мяняць. Айцец Клаўдзій падаў адпаведную заяўку ў кансісторыю і, вось яго просьбу задаволілі. Дзіядот, як водзіцца ў такіх выпадках, упіраўся, спрабаваў нешта даказваць, апеляваў нават да айца благачыннага ў Камянец, але дарэмна, давялося саступіць. Супраць Дзіядота Лаўр Яўсеевіч быў нашмат маладзей — сухі, падцягнуты, па-вайсковаму вёрткі і зухаваты. Кім ён быў раней, ніхто не ведаў, мінулае новага дзяка было ахутана таямнічым моракам. Але, відаць, шмат давялося павандраваць па свеце перад тым, як трапіць у Пруску. Што ж, нездарма кажуць, што лёс кідае чалавекам, як пажаўцелым лістком.

Абавязкі дзяка Лаўр Яўсеевіч выконваў спраўна, у парадку набажэнства, не блытаўся і не мыляўся. Адначасова стаў кіраваць царкоўным хорам, зблізіўся з бацюшкам айцом Клаўдзіем, які, радуючыся поспехам хору пад дырыжорствам Лаўра Яўсеевіча, казаў, падняўшы ўверх палец:

— Песнапеніе — гэта добра, песнапеніе к Богу вядзе. Пальзіцельная, скажу вам, рэч. І ўміліцельная…

Адзін-два разы на тыдзень дзяк і харысты збіраліся ў царкве на спеўкі, займаючы свае месцы на кліраce. Астатні час прыезджы сядзеў дома, нікуды надта не паказваўся. Есці яму гатавала ўсё тая ж «міраносіца» Гэлька Відэрка, якая, здавалася, ніяк не паддавалася плыні часу і не траціла сваёй жаночай прывабнасці.

Першымі, каго Лаўр Яўсеевіч наведаў у Прусцы, былі Кужалі. Скрозь шыбіны, на якіх высыпалі кроплі дажджу, Фёкла з Лявонам бачылі, як ён асцярожна адчыніў веснічкі і прасунуўся на панадворак. Гэта было ўжо вясною. Якраз цвіў каштан. Разліваўся пах чаромхі, што расла ля калодзежа, насупраць хаты Кужалёў. Лаўр Яўсеевіч кінуў позірк на каштан і ўзышоў на выкладзены камянямі ганак.

— Да нас, здаецца, госць? — здзівіўся Лявон. Фёкла таксама з цікаўнасцю зірнула ў акно.

Лаўр Яўсеевіч ужо адчыняў дзверы ў хату.

— Калі дазволіце?.. — асцярожна папытаў ён, паказваючы, што не пазбаўлены культуры і выхаванасці.

— Заходзьце, заходзьце! — падбадзёрыла гаспадыня.

— Добры дзень!

— Добры дзень!

Лявон прапанаваў госцю прысесці, паказаўшы на лаўку ля сцяны. Лаўр Яўсеевіч паслухмяна сеў. Бомкнуў, адзначаючы поўдзень, гадзіннік, што вісеў на сцяне ў прыгожым драўляным футарале, пакрытым светла-карычневым лакам. Лявон купіў яго ў Камянцы мінулай зімой, каб арыентавацца ў часе і ноччу. Трэба часам і да жывёлы ў хлеў зазірнуць (бо мала што можа здарыцца), і раніцай своечасова ўстаць, не праспаць. Лаўр Яўсеевіч паглядзеў на гадзіннік, потым на гаспадароў:

— Добрая штука! — адзначыў ён.

— Добрая, — пагадзіўся гаспадар.

Пасля гэтага госць зірнуў на супрацьлеглую сцяну, на якой, над ложкам, віселі, адзін пры адным, партрэты Лявона і Фёклы, напісаныя алеем. Лявон заказаў іх, калі яны з Фёклай засталіся адны — Васіль пайшоў у войска. Заказаў у мясцовага мастака, які жыў у Царкоўніках і пісаў у асноўным абразы. Мастак маляваў іх з чорна-белых фатакартак, і Фёклу спачатку намаляваў у чырвонай кофце, аднак заказчыцы гэта не спадабалася, яна ўспомніла, што фатаграфавалася ў сіняй кофце. Мастак патлумачыў, што ў яго быў лішак чырвонай фарбы, таму так і выйшла. Давялося перапісваць чырвоную кофту на сінюю. Прывёзшы партрэты, Лявон асадзіў іх прыгожымі рамкамі, павесіў над ложкам. Гэтыя партрэты неяк супакойвалі і падтрымлівалі, нагадвалі маладосць. І ён, і яна ўглядаліся ў сугалоссе фарбаў і адчувалі, што за гэтым сугалоссем стаіць нейкая невыказная праўда іх сумеснага жыцця. Хай, хто заходзіў да іх у хату, бачаць, што і яны калісьці былі маладыя і прыгожыя, і не толькі прыгожыя, але і шчаслівыя.

— Гэта — вы? — як бы не паверыў убачанаму Лаўр Яўсеевіч.

Фёкла ўсміхнулася:

— А што? Непадобныя?

Лявон задаволена павёў вусамі і прыгладзіў над ілбом чубчык.

— А вы прыгожыя — і ў жыцці, і на партрэтах, — пасміхнуўся госць.

— Маладыя былі.

Трымаўся Лаўр Яўсеевіч свабодна і раскавана і выглядаў па-вайсковаму вёрткім і зухаватым. Вочы пад густымі чорнымі бровамі пазіралі ўважліва, нібы выпрабоўваючы чалавека. Не псаваў выгляду доўгі, крыху скрыўлены на бок нос.

— Як пажываем? —бадзёра пацікавіўся ён, прыгладжваючы пасівелыя скроні.

— Патроху, — сказаў гаспадар. — А куды спяшацца?

— А я ў вашу цэркаў апрадзялён як рукавадзіцель хору, іначай сказаць, дзяк. Памочнікам буду ў дзялах веры. Так рашыла кансісторыя. Ну, а мая справа — падпарадкавацца. Цяпер цяжка і габрэям, і нам праваслаўным. Цяпер такая палітыка, што хочуць «аджыдзіць і адправаславіць». Гэтак газеты пішуць.

— Адкуль вы? — пацікавілася Фёкла.

— Здалёк, адсюль не відаць, — пасміхнуўся госць. — Калі-небудзь раскажу. Жызнь мая сложная, аднак да Бога прыйшоў не случайна. Ваяваў. Многа павідаў. На розных франтах быў і ў перадзелках. Вот сяджу аднажды пад раніцу каля куста, гляджу: хтой-та ідзе ў маю сторану. Хто б гэта мог быць, думаю, падыходзіць бліжэй. Вачам не веру: Ісус Хрыстос! Вы прадстаўляеце?

Лявон з Фёклай ад нечаканасці гэтага аповеда Лаўра Яўсеевіча ажно войкнулі. Лявон успомніў, што і ён быў на фронце, і таксама ў «перадзелках» розных, але штосьці такое падобнае з ім не здаралася.

— І кажа мне: «Лаўр, ступай у абіцель маю, там тваё ісціннае месца!» У царкву, значыць, пасылае. Я, прадстаўце, у яком састаяніі быў, я нічога сказаць не мог, нават вымавіць, а толькі нізка скланіўся, а кагда падняўся, дык яго ўжо не было. Як растаяў…

— Ой, — жахнулася Фёкла, —— каб хто іншы расказаў, дык не паверыла б! Такое рэдка здараецца.

—Невераятна, аднак факт! — сціпла развёў рукамі Лаўр Яўсеевіч. Быццам прасіў прабачэння за тое, што гэты цуд адбыўся менавіта з ім, а не з кімсьці іншым. Адчувалася, што мінулае госця ўтрымлівае нямала таямніц.

Гаспадар і гаспадыня здзіўлена хіталі галовамі.

— Свет вялікі і чудзес у ім многа, — дадаў дзяк.

— Многа! — пагадзілася Фёкла.

— Амністыю аб’явілі, дык шмат народу з турмаў вяртаецца, — загаманіў Лявон, жадаючы патрапіць у тон гаворкі.

— Да-а… — няпэўна ўздыхнуў госць.

— Можа і Косця вернецца? — Фёкла зірнула на Лявона.

— Калі нічога такога не зрабіў, то вернецца, — запэўніў Лаўр Яўсеевіч. — А хто ён? Мясцовы?

— Мясцовы. Трахімаў сын.

— За паліціку пасадзілі, — дадала Фёкла.

— З камуністамі знаўся?

Фёкла паціснула плячыма:

— Нам нічога не вядома.

— Арыштавалі яго не тут, а недзе ў іншым месцы, — сказаў Лявон.

— На камуністаў амністыя не распаўсюджваецца, — Лаўр Яўсеевіч развёў рукамі. — КПЗБ — філіял маскоўскага энкавэдэ. Што Масква загадае, тое яны і робяць. Палітычнай партыяй КПЗБ лічыць нельга. Яна фактычна па-за законам.

Лаўр Яўсеевіч выглядаў вельмі дасведчаным чалавекам.

— Камуністы — гэта змоўшчыкі, якіх свет не бачыў! Чагосьці добрага ад іх чакаць не даводзіцца. У іх адно на мэце: захапіць уладу і ламаць хрыбты. Цяпер яны хваляцца Народным фронтам, але апроч хаосу гэта нічога не дасць. Пажар рэйхстага — гэта іх рук справа. Калісьці, дзесяць гадоў назад, Грамаду арганізавалі, а што з гэтага выйшла? Шляхі гасподнія нязведаныя.

Лявон з Фёклай моўчкі слухалі, у чымсьці згаджаючыся з Лаўрам Яўсеевічам, у чымсьці — не. Як-ніяк, прысутнасць камуністаў у грамадскім жыцці нешта значыла і ў цэлым бараніла чалавека ад тупога і бессаромнага націску дзяржавы, і гэта было вельмі важна.

— Ніхто з намі, скажу вам, не лічыцца, — працягваў ён, ёрзаючы на лаўцы, — кожны імкнецца падмяць пад сябе, каб яму служылі. Я не раз ужо думаў над гэтым. Кааперацыя нам трэба. Такое, ведаеце, непрымусовае аб’яднанне спажыўцоў і вытворцаў. Адны — адно, другія — другое. Абмен таварамі, без вялікіх накрутак. Тады можна было б і ад перакупшчыкаў пазбавіцца. А то іх вунь колькі — спекулянтаў розных!

— Можа б яно і не блага было б, — адгукнуўся Лявон, — каб так, як вы кажаце.

— У магазінах тавараў поўна. Усё, што хочаш. А паспрабуй купі! Цэны кусаюцца. А хто вінаваты? Перакупшчыкі! Яны ходзяць і ездзяць плоймамі! І паўсюль!

— Яны яшчэ на вуліцы сустракаюць, не даюць нават на базар заехаць, — пацвердзіў Лявон і пачасаў скронь.

— Вось я і кажу: над гэтым варта падумаць.

— Варта.

— На ўсё воля Божая. А ведаеце, чаго я да вас зайшоў? Шукаю галасы.

— Галасы? — здзівілася Фёкла. — Якія галасы?

— Я ж маю намер арганізаваць хор, і патрэбны галасы. Можа, вы скажаце, да каго звярнуцца? Вы, Лявонцій Міхайлавіч, здаецца, састаіце ў папячыцельскім савеце?

— Ну, так.

— Дык каго парэкамендуеце?

— Гэлька Відэрка добра спявае, — успомніў Лявон.

— Ляксандр Гальяш, — дадала Фёкла.

— Добра, я буду мець на ўвазе, — Лаўр Яўсеевіч у знак удзячнасці схіліў галаву, зухавата падняўся і пачаў развітвацца. — Гэтую жанчыну Відэрку я ўжо крыху ведаю, а Гальяша паслухаць трэба.

Праз нейкі час у царкве ў абноўленым складзе са свежай сілай загучаў хор. Ён стаяў справа, на клірасе, на чале з Лаўрам Яўсеевічам, які і кіраваў усім песнапеннем. Сярод пеўчых вылучалася дзябёлая Гэлька Відэрка, цягнула моцным голасам. Чуўся таксама голас Аляксандра Гальяша — высокі, амаль жаночы. Але ўсіх перакрываў Барыс Пралеска — чысты, гучны барытон.

З Кужалямі Лаўр Яўсеевіч за гэты час ужо добра абзнаёміўся, заходзіў да іх даволі часта, і гаспадары паспелі нават прывыкнуць да яго візітаў.

* * *

Прыйшоў ліст ад Васіля, узрадаваўшы бацькоў, перш за ўсё Фёклу. Сын паведамляў пра службу, не скардзіўся, пісаў, што добра кормяць і што жыць можна. Вельмі часта выязджаюць на дэфіляды. На маленне ходзяць у царкву. Пісаў таксама, што на лета збіраецца на колькі дзён у водпуск. Гэта бацькоў асабліва ўзрадавала.

І яшчэ — зусім неспадзяванка. Васіль пісаў, што сустрэў Кузёмку. Якраз непадалёк ад казармы. І што першым яго пазнаў Кузёмка, хоць Васіль быў у вайсковай форме, нават са шпорамі на ботах. «Хоць і ў вайсковым, аднака з выгляду ты з нашых, — сказаў вандроўнік. — Таму я цябе і пазнаў…» У Варшаву Кузёмка наведваўся неаднаразова, а цяпер і ў Старагард трапіў. Захацеў, пэўна, пабачыць, як там людзі жывуць. Няма межаў чалавечай цікаўнасці.

— Гэта ж трэба — і туды дапяў! — падзівіўся Лявон. — А мой ты братачка!

— Поўзае, як хмара па небе, — усміхнулася Фёкла. — Вандроўнік!

Сустрэча з Кузёмкам была, мяркуючы па ўсім, кароткай. Стары пілігрым, мабыць, дужа спяшаўся, адно толькі і спытаў: «Ну, як ты?» — «Добра, — адказаў Васіль, — будзеш у Прусцы, дык перадаай прывітанне!» — «Перадам», — паабяцаў дзівак.

***Працяг будзе.***



Васіль ЖУКОВІЧ

# ПАМЯЦІ НІНЫ МАЦЯШ

## ПРАРОЧЫ СОН

*Гразкае, слізкае поле.*
*За гэтым нявeтлым гародам —*
*Усе з найбліжэйшага роду.*
*Мусова і мне туды...*
*...................................*
*Дотык рукі, мамін голас:*
*— Ступай у мае сляды.*

Ніна Мацяш

Выйшла з гразкага поля.
Ты ў іншасвеце ў цішы.
Вызвалена ад боляў
Цела —
палёгка душы.

З горкіх расчараванняў
Выйшла на волю душа.
Самых гарачых пытанняў
Болей не вырашаць.

Як жа адвыкнуць ад болю
І без турбот векаваць?
Т а м па зямной цяжкай долі
Вечна душы сумаваць?

---

***Жуковіч Васіль Аляксеевіч*** *нарадзіўся 21 верасня 1939 года на хутары Забалацце Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Брэсцкага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. С. Пушкіна (1964). Працаваў на будоўлях, у рэдакцыях газет, на тэлебачанні, у выдавецтвах «Мастацкая літаратура» і «Юнацтва», у Рэспубліканскім цэнтры эстэтычнага выхавання дзяцей, у часопісе «Полымя».*

*Аўтар шматлікіх кніг паэзіі, прозы, перакладаў, твораў для дзяцей, сярод якіх паэтычныя зборнікі: «Паклон» (1974), «Мелодыя святла» (1976), «Суседства» (1982), «Цана цішыні» (1985), «Твая місія» (1988), «Разняволенне» (1990), «У храме хараства і смутку» (2003), «Кахання радасці й пакуты» (2004), «Не завіце радзіму малой» (2009).*

* * *

Стаў цямнейшы ад цёмнае ночы
Той —
з маланкаю —
снежаньскі дзень,
Не змаглі пабароць цемру вочы:
Гэткі чорны упаў весткі цень.

«Раніцою не стала Ніны» —
Мар'і Новік быў скрушны званок.
І прыйшла развітання часіна,
І працяглы быў дзён гэтых змрок.

У журбе я пакутаваў многа.
А ўсвядоміў,
уцяміў пазней,
Што такога святла незямнога
Не магло ўжо не стаць у мяне.

## МЕЛОДЫЯ ЛАСКІ

Заснежаным шляхам і сцежкаю роснай
Ішоў да цябе —
не ісці я не мог:
Чакала мяне ты з усенькіх дарог,
Адорвала ласкай сваёю мілоснай.

Яна праяўлялася ў нашых спатканнях,
Калі да паўночы ішла гамана,
І ў вершах тваіх прыжылася спаўна,
І ў нашым бязмежным з табой ліставанні.

Тваё *Васілёк,*
*Каласочак,*
*Валошык…*
Гучыць, як гучала калісь, ува мне
Мелодыяй,
роўнай каханню, вясне,
І свет мой падсвечвае шчодра, харошыць.

## ЗОРКА НАД АКНОМ

Я сяброўку тваю дарагую
За мяне папрасіў пакланіцца
Вокнам апошняй кватэры тваёй.
Там, відаць, засталіся
Аркушы белай,

Як сёлетні снег,
Паперы
З тваім почыркам бойкім і гожым нязменна,
На паліцах —
Палкі' кніжак-вояў
У такім непахісным парадку,
У, па сутнасці, вечным страі.

Там застаўся, напэўна, й камп'ютар,
Які ты асвоіла хутка:
Зручны ён для набору й гамонкі з людзьмі!
А магчыма, й фіранкі твае засталіся
І цудоўныя кактусы на падаконні,
Што ў тваёй цёплай аўры цвілі.

Адказала сяброўка з болем,
Бо застала цёмныя вечарам вокны.
Але бачыла зорку яна над акном,
І мы з ёю прыйшлі да высновы,
Што тым вечарам гэтак з нябёсаў
Прывітала ты нас.

## ДЗЕ ТЫ?

Сёння — твае імяніны,
Светлы анёльскі дзень
Роўнаапостальнай Ніны.
Ты — ў іншасвеце дзесь.

Можа, й анёльскаю справай
Дух твой заняты цяпер?
Толькі суровая праўда:
Так не стае мне цябе!

## ДОЎГ ПАМЯЦІ

Жыла ты любячы й кахаючы,
Пайшла ў той свет, даўгоў не маючы.

Гукала шчыра й адгукалася,
Усё ў даўгу не заставалася.

Раллю суровую варочала
Свайго — без краю — поля творчага.

Красу і сілу слова ведала,
І рост, і плён, і славу зведала.

Шчэ талент здольны быў на многае.
Хай бы жыццё далося доўгае!

Замоўкла ліра, слова спеўнае.
Даўжнік-віноўнік твой напэўна я:

Не ўберагла цябе любоў мая!
Баліць душа, маркоты поўная.

## ТЫ РАСЦВІТАЛА АД СПАТКАННЯ

А час імчыць.
Ужо зімую
Другую без цябе зіму.
І па-ранейшаму сумую.
Але паскарджуся каму?

Я ў памяці перабіраю
Мінулае —
мой сум расце:
Сябе віню і дакараю,
Што мог я поруч быць часцей.

Ты ўся была самім чаканнем,
Званкоў чакала і лістоў,
А расцвітала ад спатканняў,
Ад кветак і сардэчных слоў.

І ўсё-ткі зноў і зноў спяшаўся —
З утульнага спакою я
Ў сталічны тлум хутчэй вяртаўся:
Чакалі праца і сям’я…

## БЫЦЬ ВУЛІЦЫ ТВАЙГО ІМЯ!

Я не зракуся мроі дзёрзкай:
Аб іншых не кажу краях,
А жыхарам Белаазёрска
Засвеціць вуліца твая;
Хай сціплая, ды гаманкая,
Канешне, й поўная святла,
Адкрытая —
якраз такая,
Якой ты на зямлі была.

## ДВА ПОМНІКІ

Твая радня па крыві
Табе паставіла помнік,
Арыгінальны такі!
І словы з «Палёту над жытам»
Яна не забыла
І птушачку гожа на крыж пасадзіла.
О, гэта сімвал памкнення да сонца
І прывязкі да роднай зямлі,
Імклівасці тваёй думкі
І бязгрэшнасці ўчынкаў…
Добры густ у радні, далібог жа.
Усвядоміла, пэўна, яна,
Што й сама ты ўзвяла сабе помнік,
Нерукатворны, вядома ж,
Узвяла сваім талентам,
Светлым і мужным,
Сваёй вышынёю духоўнай,
Сваёй мяккасцю чыста душэўнай
І цвёрдасцю духу.
Гранітнай.



Іван СТАДОЛЬНІК

# АПАВЯДАННІ

## НАБАЛЕЛАЯ ЛЕКЦЫЯ

Старшага выкладчыка педагагічнага вучылішча Святаслава Мікалаевіча Дабрапольскага, які не адзін год прарабіў з моладдзю (будучымі настаўнікамі пачатковых класаў), раптам нібы ні з таго ні з сяго пачала вельмі трывожыць, як ніколі раней, адна жыццёвая акалічнасць, на якую, здаецца, сёння мала хто звяртае ўвагу. А што менавіта, дык, на яго погляд, гэта нялюдскія, невытлумачальныя адносіны некаторых сённяшніх дзяцей і іх бацькоў. Дзеці бачаць кепскія ўчынкі сваіх бацькоў і на гэтых учынках вучацца таму, як нібыта трэба жыць сярод людзей… Так, пройдзе час, гэтыя дзеці вырастуць, стануць бацькамі і будуць прыкладам сваім дзецям. Якім?..

І звыклае выказванне староннiх людзей, калі хто з чужых дзяцей кепска сябе паводзіць, дрэнна вучыцца, дык, маўляў, куды глядзіць школа — у апошні час ужо вельмі непакоіла Святаслава Мікалаевіча: сапраўды, куды…

Святаслаў Мікалаевіч, які многа пабачыў у сваім жыцці, шмат перажыў, асабліва ў дзяцінстве, быў упэўнены, што менавіта яна, пачатковая школа, больш за ўсё ўздзейнічае на фарміраванне чалавека як асобы, на яго лёс. І таму сёння, прыйшоўшы на ўступную лекцыю да першакурснікаў, уважліва паўглядаўшыся ў іх юныя, даверлівыя твары, па сутнасці твары ўчарашніх школьнікаў, яму, вопытнаму настаўніку, захацелася расказаць ім, сваім будучым калегам, пра тое, як ён вучыўся ў школе, у пачатковых класах. Пры гэтым, карцела падкрэсліць, што з ім магло б адбыцца, калі б там не сустрэліся тыя настаўнікі, якіх ён не можа забыць і сёння, праз многа гадоў. Таму ён пачаў без усялякага ўступу…

— Пайшоў я ў першы клас у тысяча дзевяцьсот сорак сёмым годзе. Час быў вельмі цяжкі, людзі яшчэ толькі-толькі пачыналі абжывацца пасля вайны, не было абутку, вопраткі, многія галадалі.

---

*__Стадольнік Іван Канстанцінавіч__ нарадзіўся 12 верасня 1940 года ў вёсцы Янкі Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў Докшыцкую СШ (1959). Працаваў на асваенні цаліны ў Казахстане, потым скончыў Полацкае медвучылішча (1963), працаваў у Мосарскай сельскай бальніцы Глыбоцкага раёна, скончыў завочна факультэт журналістыкі БДУ (1971). З 1967 года працаваў у рэспубліканскім друку.*

*Аўтар зборнікаў апавяданняў «Хачу табе шчасця» (1979), сатыры і гумару «Як тут не смяяцца» (1985), «Лістапад на пачатку лета» (1987), «Залатое вяселле» (1995).*

І мы з маці жылі бедна. У школу я пайшоў, але правучыўся толькі да зімы, дакладней, да таго часу, пакуль можна было хадзіць басанож, бо ніякага абутку ў мяне не было. Ды і прыстойнай вопраткі — таксама.

Маці лічыла, што вучыцца мне яшчэ рана, але ўсё ж купіла два сшыткі, адзін у клетачку па арыфметыцы, другі ў лінейку па пісьме. А вось буквар не купіла, не было за што.

Але я і без буквара навучыўся няблага чытаць. Навучыла маміна сястра цётка Гелена, якая яшчэ пры цары скончыла тры ці чатыры класы. Вучыла яна мяне па малітоўніку, чаму маці, якая верыла ў Бога, была вельмі рада.

Ад старэйшых хлопцаў я навучыўся добра лічыць, вельмі хутка мог складаць і адымаць двухзначныя лічбы. А вось з пісьмом у мяне не ладзілася: не давалася яно мне, хоць ты плач! Пачынаў пісаць «палачкі» зверху правага кутка старонкі і заканчваў у левым ніжнім.

За гэта мне добра-такі пападала ад настаўніцы. Яна пры ўсіх казала, што я ні да чаго не здатны, нават уедліва высмейвала мяне пры ўсім класе. Таму аднакласнікі таксама смяяліся з мяне, кпілі. І калі выпаў першы снег і стала вельмі холадна, а абуць мне не было чаго, і маці сказала, каб сядзеў дома, я спачатку нават вельмі ўзрадаваўся: у школу не пайду і ніхто не будзе з мяне здзекавацца…

Вясной жа, як сышоў снег і крыху падсохла зямля, я захацеў вярнуцца ў школу, але хлопцы-аднакласнікі сказалі, што яшчэ зімой настаўніца старонкамі маіх сшыткаў абклеіла калоду, на якой зараз у класе стаяла вядро з пітной вадой. Гэта мяне вельмі пакрыўдзіла і я цвёрда рашыў, што наогул больш у школу не пайду.

Восенню да нас у хацінку прыйшла новая настаўніца. Яна сказала маці, што запісвае мяне ў школу, бо мне, як і ўсім, трэба вучыцца. Маці згадзілася, сказала, што няблага будзе, калі я скончу хаця б два класы, навучуся пісаць, і наогул, што ж гэта за мужчына, калі ён не будзе ўмець распісацца, палічыць грошы?

На буквар і на сшыткі грошы ў мяне былі. Я іх зарабіў за лета: здаваў у краму металалом, косці (тады іх там прымалі), ды той-сёй з вяскоўцаў, за каго па радоўцы пасвіў карову, акрамя таго, што карміў мяне, дык даваў яшчэ якую капейчыну. А яшчэ летам я навучыўся плесці лапці. Такім чынам займеў буквар, сшыткі, абутак: чым не вучань?

Першы клас я скончыў без асаблівых турбот і прыгод. А вось у другі клас ісці было страшна. І вось чаму. У той час у нашай пачатковай школе загадчыцай, або, як мы гаварылі, дырэктаркай працавала вельмі строгая жанчына, былая партызанка, якую ўсе баяліся. Вучні трэцяга і чацвёртага класаў казалі, што яна, калі ты не слухаешся, або дрэнна вучышся, адлупцуе і нікому не паскардзішся. Ды яе нават дарослыя пабойваліся: ніколі не ўсміхнецца… Таму я баяўся ісці ў другі клас: яна і на другакласнікаў крычала, калі што…

Бойся не бойся, а вучыцца далей трэба. І вось я ў другім класе. Чамусьці атрымалася так, што ў класе толькі адзін я хлопец, астатнія дзяўчаткі. Памятаю, сядзім ціха, як мышы пад венікам, баімся, чакаем яе, дырэктарку: нехта з дарослых сказаў нам, што яна нас будзе вучыць. І вось з бакоўкі, там была настаўніцкая, выходзіць яна. Невысокая, твар надта суровы. Пачынае ўрок арыфметыкі. На дошцы піша некалькі прыкладаў на складанне. Выклікае адну дзяўчынку, другую, трэцюю. А тыя, ці сапраўды не могуць рашыць простыя прыклады, ці настолькі баяцца дырэктарку, што нават не могуць як след падумаць. Тады яна выклікае мяне. Я не задумваючыся даю правільныя адказы на ўсе прыклады. Бачу, што твар у дырэктаркі становіцца лагодным і яна перад усім класам кажа: «Старайся, і табе будзе лёгка вучыцца».

Але вось што, як я разумею цяпер, далей было кепска: дырэктарка абражала дзяўчатак, якія не маглі даць правільныя адказы. Называла іх гультайкамі, тупіцамі, казала, што ўсіх іх памяняла б на аднаго мяне.

Але самым нечаканым на тым уроку было наступнае: настаўніца загадала, каб я застаўся пасля заняткаў.

Вядома, я не мог яе не паслухацца. Сядзеў адзін за партай у класе і баяўся, чакаў, што з'явіцца яна і пачне на мяне невядома за што сварыцца, а то і біць… І вось, калі я наважыўся збегчы, бо трываць ужо было немагчыма, у клас з бакоўкі-настаўніцкай выйшла яна. На маё здзіўленне дырэктарка падала мне салдацкую гімнасцёрку і галіфэ. Загадала:

— Апранай! Бачыла, што ты саромеешся сваёй зацёрханай старой кашулі. — І дадала: — Помні, будзеш добра вучыцца, будзе з цябе толк. Ты — малайчына!

Яе пахвала акрыліла мяне. А вопратка — дык пра такую я не мог нават і марыць!.. Яшчэ б: мае аднагодкі, старэйшыя хлопцы, у каго былі бацька і маці, ды і той-сёй з дарослых чамусьці грэбліва адносіліся да мяне, сіраты (мой бацька не вярнуўся з вайны.) А сусед, які ўхітрыўся не быць ні ў войску, ні ў партызанах, неаднойчы, убачыўшы мяне ў лапцях, казаў, што быць мне ўсё жыццё жабраком. Увогуле чалавек ён быў злосны, у вёсцы яго не любілі. Тады мне было так сорамна, што хоць скрозь зямлю праваліся… І ўвогуле, не ведаю чаму, і ад каго гэта пайшло, але ў той час у нашай вёсцы лічылася, што быць такімі, як мы з маці, вельмі беднымі, сорамна, хаця сваім багаццем ніхто не мог пахваліцца (пазней ужо ў розных анкетах я з гонарам пісаў, што з беднай сям'і, што жыў доўгі час у нястачы, што бацька загінуў на фронце…)

Дык вось, на наступны дзень я не ішоў у школу, а нібы ляцеў на крылах: на мне была вялікая, ажно да пят, салдацкая гімнасцёрка і вельмі вялізныя, падпераханыя лазіной (дома нават аборачкі не знайшлося) галіфэ. А на нагах — лапці.

Святаслаў Мікалаевіч замоўк, паглядзеў на сваіх вучняў, прыжмурыў вочы. Ён у гэтую хвіліну быццам параўноўваў сябе тагачаснага з імі, сённяшнімі. Няважна, што яны на многа старэйшыя за яго, таго хлопчыка, пра якога расказвае, добра, што не ведаюць, што такое голад, нястача, але ці разумеюць яго? Паўглядаўшыся на будучых настаўнікаў, спытаў:

— Можа, я не тое нешта гавару? Можа, гэта вам не цікава?

— Гаварыце, калі ласка, — пачуў ён.

— Сапраўды, — працягваў выкладчык. — У тыя далёкія часы было шмат павучальнага. Больш таго, мне іншы раз здаецца, што наша сённяшняе жыццё ў нечым становіцца падобным на тое жыццё. Не, не беднасцю, нястачай, а тым, што цяпер, як і тады, шмат сірот. Але самае страшнае, што сённяшнія сіроты маюць і маці, і бацьку, ва ўсялякім выпадку многія. І сёння хапае бессардэчнасці, жорсткасці, цынізму. У тым ліку і ў настаўніцкім асяроддзі. Здаецца, што сённяшнія дзеці ўсё менш і менш чуюць добрых слоў ад бацькоў, дарослых, некаторых настаўнікаў. Можа, таму многія хлопчыкі і дзяўчынкі становяцца злоснымі, жорсткімі, цынічнымі. Так бы мовіць, адбываецца ланцуговая рэакцыя: зло, якім яны акружаны, параджае зло ў іх…

Але вярнуся да часоў, калі я вучыўся ў пачатковай школе. Тады чамусьці ў нашай школцы, а была яна ў звычайнай сялянскай хаце, вельмі часта мяняліся настаўнікі. Калі хто з іх і затрымліваўся, дык на год-два, не больш. І калі я пайшоў у трэці клас, дык ледзь не плакаў, даведаўшыся, што ад нас паехала настаўніца-партызанка. А вось іншыя дзеці — радаваліся. Яе месца заняла таксама строгая, але раўнадушная да ўсяго, ці лепш сказаць, бяздушная жанчына. Школу і дзяцей яна не любіла, і неўзабаве я з выдатніка

стаў троечнікам, а затым двоечнікам. І што было самым горшым — застаўся ў трэцім класе на другі год.

А тым часам у былой Заходняй Беларусі пачалі арганізоўваць калгасы. Стварылі яго і ў маім Дабраполлі. Уласнай зямлі ўжо не было, я сказаў маці, што больш у школу не пайду, а пайду ў калгас. Яна ўзбурылася: «Кім?.. Гной капаць?.. Вучыся, а то табой, невукам, будуць як мной усе пагарджаць». Яна ўзяла дубец, і я зноў сабраўся ў школу. Але пайшоў не ў трэці клас, з якога мяне не перавялі, а ў чацвёрты, каб быць разам з аднакласнікамі. Тая ж самая настаўніца спрабавала выгнаць мяне з класа, нават выцягнуць за каршэнь, але я так учапіўся за парту, што ёй, маладзенькай і слабенькай, зрабіць гэтага не ўдалося. Яна напалову адарвала каўнер гімнасцёркі, якую мне падаравала былая дырэктарка. Потым настаўніца паклікала новага дырэктара школы, таксама маладога, як і сама, сказала, што я не хачу ісці ў трэці клас, што я другагоднік. Але замест таго, каб выганяць мяне, дырэктар памяркоўна сказаў:

— Калі будзе добра вучыцца, хай вучыцца ў чацвёртым класе. А з пераводам нешта вырашым.

Мусіць, ён браў на сябе персанальную адказнасць за парушэнне правілаў адукацыі. Настаўніца нічога не адказала, але, мабыць, затаіла на мяне злосць. Яна адносілася да мяне непрыязна, нават варожа, старалася ва ўсім прынізіць, пры ўсіх падкрэсліць, што і рукі ў мяне брудныя, і ногі, і вушы, што я ні да чаго не здольны. Але я стараўся добра вучыцца. Надзвычай добра ў мяне было з матэматыкай, я выразна чытаў, добра адказваў на ўроках гісторыі, геаграфіі, прыродазнаўства, хаця настаўніца ўсяляк заніжала мне адзнакі. Толькі па пісьме я адставаў, асабліва па рускай мове. Аднак, упэўнены, і гэтую бяду я адолеў бы, каб не чарговы канфлікт з настаўніцай.

Аднойчы я спазніўся на першы ўрок. Пастукаўся, зайшоў у клас, а яна пад смех аднакласнікаў проста з дзвярэй выштурхнула мяне. Крыўдзе маёй не было мяжы. І ўжо нішто не змагло вярнуць мяне ў школу: ні матчын дубец, ні горкая доля калгасніка, ні пагроза старшыні сельсавета аддаць мяне, бадзягу, у турму.

Пакрыўджаны, абражаны, я думаў, як адпомсціць ёй, нават збіраўся падпаліць яе хату. Але ў той час у нашым калгасе паявіўся добры чалавек — брыгадзір Марка Малевіч. Ён папрасіў мяне, каб я згадзіўся пасвіць коней. Я ўзрадваўся і такім чынам займеў сталую справу. Заняты ёю, я паступова пачаў забывацца, што хацеў адпомсціць настаўніцы. Не памятаю зараз, як і дзе неўзабаве мяне знайшоў новы дырэктар школы, як ён угаварыў вучыцца далей, і я зноў пайшоў у школу, але ўжо ў трэці клас, у якім была новая настаўніца. І ў першы ж дзень атрымаў пяцёрку па чытанні.

Гэтая настаўніца была добрай, чулай да вучняў, любіла сваю справу. Дзякуючы ёй я закончыў трэці клас добра, а чацвёрты — на «выдатна». І стаў першым вучнем у класе па матэматыцы і геаграфіі, якія вёў сам дырэктар.

Я знарок не называю імёны ні добрых, ні дрэнных настаўнікаў. Не хачу быць ім суддзёй. Бо лічу самай няўдзячнай роляй чалавека на зямлі ролю суддзі. Але не назваць імя дырэктара, які накіраваў у вялікае жыццё многіх такіх, як і я, нявыхаваных, пакрыўджаных лёсам сірот, не магу. Гэта Пётр Віктаравіч Маркавец.

Бываючы ў школах пры сустрэчах з дзецьмі я радуюся, што ўсе вучні добра апранутыя. Але заўсёды адчуваю ў душы нейкую трывогу за іх, нават за выдатнікаў і «харашыстаў». Здаецца, надта ж яны правільныя. Гэта на першы погляд. Пры настаўніках. А як выйдуць са школы, так і чуваць, што той з некім пабіўся, гэты абразіў старэйшых, трэці нешта ўкраў... Што гэта, прагматызм, якому іх вучыць наша няпростая рэчаіснасць?.. Не ведаю.

Ён зноў змоўк, дапытліва паглядзеў на сваіх вучняў, якія працягвалі слухаць яго ўважліва, і нечакана сказаў іншае, нібыта не звязанае з яго аповедам:

— Калі я бываю ў школах, то заўсёды задаю дзецям одно і тое ж пытанне: «Скажыце, калі ласка, чаму нельга губіць птушак, звяроў?» І заўсёды ўсюды атрымліваю адзін і той адказ:

— Яны карысныя.

— Ну, а калі не карысныя, то, што, можна?

— Можна! — хорам адказваюць дзеці.

Вось як! І тады я заўсёды ўспамінаю ўрок, які аднойчы падала мне нябожчыца маці… Дык вось, неяк яна жала жыта, а я зносіў у бабкі снапы. Проста з-пад маіх ног скокнула вялікая жаба-рапуха, вельмі агідная на выгляд. Я ўзяў камень і забіў жабу. Убачыла гэта маці, вырвала з зямлі нейкую нятоўстую былінку і добра-такі адсцябала мяне, прыгаворваючы:

— Баліць? Ага. Баліць!

— Баліць! — крычу праз слёзы.

А яна:

— Вось ведай, і жабцы таксама балела, як ты яе забіваў.

Потым, калі я адбег ад яе, спыніўся і задумаўся, пачала казаць, што ні жаб, ні птушак нельга забіваць, маўляў, яны таксама хочуць жыць. Набожная, яна таксама гаварыла, што чалавек не мае права забіваць іх яшчэ і таму, а можа, найперш таму, што не ён даў ім жыццё, а Бог, між іншым, як і чалавеку. Так што толькі ён можа забраць яго…

Непісьменная, яна не ведала, прыносіць ці не прыносіць карысць тая жаба, але яна добра ведала хрысціянскую запаведзь: не забі! Я потым пачаў аспрэчваць яе словы, кажучы, а чаму колюць свінню, рэжуць цяля на мяса. І тут у яе быў вельмі просты і мудры адказ:

— Свінню і цяля чалавек корміць і гэтым самым адкупляе свой грэх перад жыццём. А жабку ж ты не карміў, не працаваў на яе…

Дык вось, калі я бываю ў школе, заўсёды стараюся ўбачыць у кожным хлопчыку ці дзяўчынцы чыстую, нібы белы аркуш паперы, душу, а настаўніка — своеасаблівай істотай з пяром у руках.

Гэтым уяўным пяром ён можа напісаць на тым уяўным аркушы паперы такія літары, словы, сказы, якія будуць радаваць ці ганьбіць сам «аркуш» і самога настаўніка.

Гэтым пяром ён можа нарабіць сваім вучням такой шкоды, што яны вырастуць кепскімі людзьмі, што, дарэчы, не так ужо і рэдка здараецца. А можа зрабіць так, што дапаможа хлопчыкам і дзяўчынкам стаць сапраўднымі людзьмі, раскрыць свое здольнасці кожнаму ў сваёй справе.

Таму настаўнікам можа быць толькі той, хто мае да гэтага здольнасці, хто шануе і любіць кожнага вучня, якім ён да яго трапляе. А вось далей і пачынаецца выхаванне і вучоба, ці вучоба і выхаваннне… Калі я кажу так, дык я думаю вось аб чым. Так, напачатку слова было ў Бога, а цяпер яно ў чалавека, у кожнага з нас, настаўнікаў, і ў вас, будучых настаўнікаў. І, як кажуць, слова і лечыць, і калечыць. Лечыць, калі яно душэўнае, праўдзівае, чыстае, сумленнае, падмацаванае такімі ж чыстымі і сумленнымі справамі. І , мабыць, вялікая бяда наша ў тым, што часам мы добрыя і светлыя словы «абясцэньваем» сваімі дзеяннямі, учынкамі.

Нашы дзеці ледзь не ад самага свайго нараджэння перададзены на выхаванне, так сказаць, казённым дамам, казённым людзям. Яслі, дзіцячы сад, школа, інстытут, затым прадпрыемства ці калгас. А там — звычайны працаўнік, выхавальнік, настаўнік ці кіраўнік.

Мне могуць запярэчыць, што станаўленне будучага чалавека залежыць яшчэ і ад выхавання, і ад светапогляду бацькоў, ад умоў жыцця і шмат яшчэ ад чаго. Яшчэ я дабавіў бы, што — і ад мясцовасці, дзе ён нарадзіўся, ад укладу яго жыцця — але больш за ўсё ад блізкіх людзей, ад роднага дому. А сёння здарылся так, што для многіх дзяцей самым блізкім чалавекам стаў настаўнік. І для кожнага вучня ў яго павінны быць асобныя словы, асобная ласка ці строгасць, асобны інтарэс, калі хочаце, асобныя сэрца і розум.

Чалавек становіцца чалавекам толькі сярод людзей. І якія людзі бліжэй да яго, такім чалавекам ён і будзе. Гісторыя падаравала нам шмат таму прыкладаў. Усім вядома, што дзіця, якое трапіла ў звярынае асяроддзе, ніколі ўжо не становіцца чалавекам, нават не навучыцца вымаўляць хоць некалькі слоў. У той час як звяроў можна навучыць сяму-таму чалавечаму і нават даволі многаму.

Рабінзон Круза застаўся чалавекам і без людзей толькі таму, што трапіў у вядомыя нам абставіны дарослым. З дзіцем жа, калі б яно ў такіх умовах нейкім чынам і выжыла, — такога б не здарылася.

І калі больш ласкі, больш міласэрнасці, больш цярплівасці, мудрасці і чалавечнасці будзе аддадзена дзецям, то ад гэтага выйграе і дзіця, і грамадства, і чалавецтва ў цэлым…

Дзіўна, але і на гэты раз студэнты-першакурснікі вельмі ўважліва слухалі настаўніка. Гаварыў ён, па сутнасці, вядомыя ісціны. Але тым не менш, яны ўспрымаліся юнымі, як нейкая праграма ім на будучае. Чаму? Магчыма таму, што ўсё, аб чым расказвалася, было з асабіста перажытага Святаславам Мікалаевічам.

## АДНАКЛАСНІКІ

На дварэ сакавік — пара, калі ўжо не зіма, але яшчэ і не вясна. У лагчынах пасінеў, набрыняў вадой зляжалы снег. На пагорках і ля кустоў ядлоўцу бурэюць праталіны, а на гравійцы, дык ужо, лічы, няма снегу. Сонца хінецца да захаду, хоць і свеціць ярчэй, чым днём, ажно слепіць вочы. Увачавідкі бярэцца марозік.

Інжынер райсельгастэхнікі Сцяпан Палікарпавіч Дабравольскі і яго памочнік Андрэй Васільевіч Асавік управіліся са сваімі справамі ў калгасе і сабраліся ехаць дамоў у горад. Кожную хвіліну чарсцвее і чарсцвее разагрэтая дзённым сонцам гравійка, і пад коламі газіка аднастайна шалпочуць дробныя, бліскучыя, як луска, ільдзінкі. Дарога прасёлачная, няроўная, пакручастая.

Калі машына выскоквае на пагорак — у вокны ўпырхваюць сонечныя зайчыкі. Яны прыемна казычуць твар Сцяпана Палікарпавіча і ад гэтага яму ўвесь час хочацца ўсміхацца.

Сцяпан Палікарпавіч сядзіць побач з шафёрам і з асалодай глядзіць, як сцелецца пад колы шэрая шурпатая дарога, цешыцца свежасцю праталін, ціхай дрымотай прыдарожных хмызнякоў. Андрэй Васільевіч моўчкі пакурвае на заднім сядзенні. Ён заўсёды садзіцца на задняе сядзенне, хаця Дабровольскі кожны раз, як нашмат гадоў старэйшаму за сябе, уступае яму месца побач з шафёрам.

У люстэрку над лабавым шклом Дабровольскі добра бачыць чырвоны, нібы толькі што з лазні, квадратны твар Андрэя Васільевіча. На першы погляд ён нічым такім і не заклапочаны. Толькі па тым, як часцей і часцей пачынае паглядваць то на яго, то ў акно машыны, Дабравольскі здагадваецца, што Асавіка трывожыць думка, ці пагодзіцца яго начальнік наведацца ў Залессе. Неўзабаве, за пагоркам пакажацца туды дарога.

У Залессі жывуць знаёмыя і Асавіка, і Дабравольскага — Парфяновічы. Дакладней — гэта знаёмыя Асавіка. Дабравольскі пазнаёміўся з імі праз яго.

Андрэй Васільевіч працуе ў райсельгастэхніцы даўно — ад самай вайны. Інжынернай адукацыі ён не мае, практык. І таму надта пільнуецца сваёй работы, толькі любіць выпіць. Але робіць ён гэта асцярожна, у меру. З палучкі ці з аванса, як некаторыя, не выпівае. Але там, дзе надараецца — чаркі ніколі не праміне. Па гэтай прычыне ў яго ў кожнай вёсцы ёсць свае знаёмыя, і ён заўсёды стараецца наведаць іх. Андрэй Васільевіч родам з тутэйшых мясцін, і Парфяновічы не толькі яго знаёмыя, а яшчэ і аднакласнікі. Дабравольскі добра ведае, што Асавік усё роўна знойдзе любую зачэпку, каб наведацца да іх. Але пакуль што не хоча выдаваць сябе перад ім, Дабравольскім, як перад сваім начальнікам.

Дамоў Андрэй Васільевіч ніколі не рупіцца. Дом у яго свой, вялікі, дагледжаны, з садам. І жывуць яны ў ім толькі ўдваіх з жонкай. Раней былі кватаранты, цяпер чамусьці няма. Дзяцей яны не мелі і, мусіць, не хацелі мець, бо Андрэй Васільевіч пра гэта гаварыць не любіць. А, можа, гэта і не так — хто ведае.

У дарозе ён заўсёды маўклівы, задумлівы, як усё роўна па кім маркоціцца. І таму Дабравольскаму тады неяк шкада робіцца яго, і ён не працівіцца надта, калі той захоча наведаць каго са сваіх знаёмых, а то, бывае, і сам намякне, нібы дзеля жарту, што трэба да іх заехаць. Але заўсёды за гэты жарт ухапліваецца Асавік з усёй сур'ёзнасцю, так што Дабравольскаму ўжо і няма куды адступаць. Дабравольскі з Асавіком па рабоце ладзяць, але чалавечай блізкасці паміж імі няма. Яны, мусіць, разумеюць, што няшчырыя адзін з адным, хоць гэта не надта перашкаджае іх узаемаадносінам.

Ужо мінуў год, як яны не наведваліся да Парфяновічаў. Калі Дабравольскі без Андрэя Васільевіча бывае у Залессі, дык і Наталля Паўлаўна, і Віктар Данілавіч заўсёды адшукаюць яго ці на ферме, ці ў майстэрні і ўжо ні на крок не адступяцца, пакуль ён не зойдзе да іх у хату, не паспытае мёду. А мёд у Парфяновічаў заўсёды адмысловы. Летам ён — бурштынавы, аж іскрыцца, зімой — ужо сцукраваны — жаўцее залатымі зліткамі.

Сёння ў Дабравольскага з Асавіком было шмат работы ў калгасе, і яны нават не паспелі паабедаць. Але прыцярпеліся ўжо, і есці не дужа хацелася — абыходзіліся курывам. Хоць цяпер ад успамінаў пра мёд у Дабравольскага аж засмактала пад лыжачкай.

Вось ужо дарога пайшла праз невялічкі пералесак. Ён яшчэ малады, пасаджаны, відаць, не так даўно. Стромкія камлі сасонак, як загарэлыя ногі дзяўчат-прыгажунь, выразна акрэсліваюцца на сіняватым снезе.

Андрэй Васільевіч па-ранейшаму маўчыць і курыць. Дабравольскі прадчувае, што ён вось-вось не ўстрымаецца і папросіць скіраваць у Залессе. І Сцяпан Палікарпавіч зноў, быццам дзеля жарту, рашае апярэдзіць яго, паварочваецца назад, нейкі момант глядзіць на раўнадушны твар свайго падначаленага і кажа:

— Можа, ў Залессе заглянем?

Андрэй Васільевіч моўчкі пускае воблака дыму, павольна цягнецца да дзверцаў газіка, прыадчыняе іх як толькі праціснуць недакурак, а потым з натугай адхінае каляны рукаў свайго зімовага паліто, прыжмурыўшыся, глядзіць на гадзіннік і, як нехаця, кажа:

— А ці не позна будзе?

— Глядзі сам, — абыякава адказвае Дабравольскі і зноў углядаецца ў дарогу.

Вось наперадзе паказаўся паварот на Залессе. У люстэрачку бачна, як заёрзаў ззаду Андрэй Васільевіч, як зноў адхіліў рукаў свайго зімовага паліто,

узіраецца ў гадзіннік і, нібы сам сабе, але галасна, каб чуў Дабравольскі, гаворыць:

— Яно яшчэ, можа, і не позна. Мне — дык дужа не хочацца, але баюся, каб не пакрыўдзіліся.

— Дык што, заедзем? — паварочваецца зноў да Андрэя Васільевіча Дабравольскі.

— Мусіць, заедзем, — адказвае той, дастаючы з кішэні паліто пачак «Беламору», і раптам узнёсла, як дзіця, ускліквае: — Вось узрадуюцца яны дык узрадуюцца! Аж сюды мёдам запахла!

Сцяпан Палікарпавіч ведае, што Андрэй Васільевіч за мёдам не надта гоніцца, а гаворыць гэта дзеля яго, Дабравольскага, каб «паддаць» апетыту.

Дарога ў Залессе зусім дрэнная, уся парэзана коламі машын, трактароў, і газік ледзь паўзе, куляючыся з боку на бок. Андрэй Васільевіч, аберуч учапіўшыся за спінку шафёрскага сядзення, увесь час прыўзнімаецца на нагах, як усё роўна танцуе ўпрысядку.

Добра, што хата Парфяновічаў — другая ад лясной дарогі і гасцям не трэба лішне трэсціся па скаламучанай вуліцы, ды яшчэ з рызыкай забуксаваць.

Як толькі пад'ехалі да дома — на панадворак выбегла Наталля Паўлаўна. Яна была ўсё такая ж хударлявая, з сарамлівай усмешкай на дробным, пазначаным рэдкімі маршчынкамі, твары.

— Андруша, Сцяпан Палікарпавіч! — узрадавалася яна. — Я так і думала, што госці будуць! Раніцай кот на парозе мыецца, кажу Віцьку: не можа быць, каб ніхто не завітаў да нас. Аж, во, як добра! А то зіма, і гасцей мала бывае: летам, дык хоць дачка, ці сын са сваімі сябрукамі, ці яшчэ хто загляне. А зараз... Дык хутчэй жа пайшлі ў хату, прастудзіцеся яшчэ. Во, Віцька ўзрадуецца, дык узрадуецца!

Сцяпану Палікарпавічу аж няёмка стала ад гэтай прыветлівасці і шчырасці Наталлі Паўлаўны. Ён нават паспрабаваў адмовіцца, спаслаўшыся на позні час, сказаў, што яны з шафёрам пабудуць у машыне, пакуль Андрэй Васільевіч перакінецца словам са сваімі землякамі.

— І не выдумляйце — усё роўна на адстану, пакуль у хаце не пагрэецеся! — заўпарцілася Наталля Паўлаўна і ледзь не за рукі выцягнула і Дабравольскага, і шафёра з машыны. Затым, узяўшы іх абодвух пад рукі, павяла да хаты.

Андрэй Васільевіч крочыў крыху ўперадзе і заклапочана распытваў пра гаспадара, пра яго здароўе.

— Віцька нішто сабе, дзякуй богу. — На хаду расказвала Наталля Паўлаўна. — Ён у мяне за гаспадыню сёння. Раніцай, як пабегла ў цялятнік, дык ён і ў печы канчаў паліць. Вы ўжо не пужайцеся толькі, што ў хаце вэрхал — зусім нядаўна з работы прыбегла.

Дабравольскі ішоў як не сваімі нагамі, думаючы, што заўсёды едзе да Парфяновічаў неспадзеўкі, з налёту і ні разу не прывёз ім ніякага гасцінца.

Адразу з парога Наталля Паўлаўна гукнула мужу:

— Віцька, глядзі, хто ў нас!

З лепшай палавіны хаты, не спяшаючыся, неяк паважна, выйшаў Віктар Данілавіч. Быў ён такі ж, як і год таму: круглатвары, поўны. Паўната яго нездаровая — ад хворага сэрца. Гадоў пяць таму Віктар Данілавіч перанёс інфаркт і цяпер на пенсіі, а так — усё на ферме рабіў.

Хаця і скардзілася Наталля Паўлаўна на «вэрхал» у хаце — але тут быў парадак. Толькі ля пліты ў кухні стаялі два вядзерныя чыгуны бульбы, намытай для свіней. Абстаўлена хата была па-сучаснаму і не бедна.

Віктар Данілавіч нетаропка павітаўся з гасцямі, з кожным за руку, павёў у святліцу і пасадзіў усіх за стол.

— Расказвайце, як у вас са здароўем? — адразу затурбаваўся Андрэй Васільевіч.

— Нічога сабе. Як паляжаў месяц у бальніцы, дык, здаецца, адпусціла.

— Што тая бальніца? Трэба санаторнага лячэння дабівацца.

— Не шкодзіла б, — уздыхае гаспадар. — Але, кажуць, цяжкавата з тымі пуцёўкамі.

— Вядома, калі будзеце сядзець, склаўшы рукі, пуцёўка сама не прыйдзе, — узяўся павучаць свайго аднакласніка Андрэй Васільевіч. — Я во — аж да Мінска дапяў і свайго дабіўся, кожны год езджу адпачываць у Крым. Хто ваяваў, таму цяпер свабадней з пуцёўкамі. Толькі трэба не сядзець. Ветэранам усюды зараз зялёная вуліца.

— Слабы я ветэран… — неяк вінавата апускае вочы Віктар Данілавіч. — Толькі ў канцы вайны і паваяваў…

Адчувалася, што гаворка Андрэя Васільевіча з Віктарам Данілавічам заходзіць у тупік, што Дабравольскі апынуўся ў няёмкім становішчы і не ведаў, як з яго выйсці. Але выручыла Наталля Паўлаўна.

— А я кажу, Андруша, — што тыя санаторыі? — сказала яна аднекуль з кухні. — Во, як жыць стала добра — гэта і ёсць самы лепшы санаторый. І нашто нам назаляць каму? Добра, што самі жывыя засталіся — гэта і ўзнагарода, і чэсць наша. Во, маіх маладзенькіх сясцёр жывымі спалілі… Каб ты, Андруша, не паспеў перад тым уцячы да нас у партызаны, дык парыў бы зямельку з імі.

— Яно — і праўда, — як апраўдваючыся, паглядзеў на Дабравольскага Андрэй Васільевіч, — але свайго трэба дабівацца. Вайну такую перажылі. Мала ўжо нас, ветэранаў, засталося — вунь колькі іх памерла. Вайна, праклятая, ва ўсіх здароўе паадбірала.

Гаворка пра здароўе яўна не падабалася Віктару Данілавічу, і ён пастараўся яе скончыць:

— Можа, як дужа прыцісне, паспрабую і ў санаторыі падлячыцца. А цяпер, давайце, расказвайце, што там новага ў горадзе?

— Што той горад? Матаемся во суткамі па калгасах — і ўсе навіны, — адказвае за ўсіх Андрэй Васільевіч.

— Ды і не кажы, — згодна ківае галавой госцю гаспадар. — Я таксама не люблю горад. За ўвесь год толькі ўчора сабраўся з’ездзіць і то праз сваю Паўлаўну. Нядаўна ў калгасе справаздачны сход быў, дык яна там здорава старшыню пакрытыкавала, а нехта ананімку напісаў у раён, дык некаторыя думаюць, што гэта мая Паўлаўна. Яна ж, калі што — у вочы разане, а з-пад цішка не будзе. Дык я і ездзіў разбірацца.

— А я буду сварыцца на вас, Данілавіч. Гэта ж трэба — былі ў горадзе, а да мяне і носа на паказалі, — ні то сур’ёзна, ні то жартам папракнуў свайго былога аднакласніка Андрэй Васільевіч.

Парфяновіч неяк, як вінавацячыся, пачырванеў:

— Я, прызнацца, не ведаю, дзе ты і жывеш.

— Дык можа было б на работу пазваніць...

— Дужа да цябе дазвонішся, калі ты дзень пры дні па раёне гойсаеш, — квола ўсміхаецца Парфяновіч. — Я буду яшчэ ў горадзе. Трэба сыну кватэру шукаць. Жаніцца надумаў, дык з інтэрната выганяюць, няможна, кажуць, там жыць жанатым.

Андрэй Васільевіч раптоўна робіцца нейкім задумёным, павольна лезе рукой у кішэню пінжака, нейкі момант трымае яе там і потым ужо выцягвае новы пачак папярос, разглядвае яго, нібы ўпершыню ўбачыўшы, і зноў запіхвае ў кішэню, сказаўшы Віктару Данілавічу:

— Вы, мусіць, ужо і не курыце?

— Не, не курыў і не куру, — як бы з палёгкай уздыхае той.

Дабравольскаму раптам зрабілася горача-горача, аж кінула ў пот. Нясцерпна захацелася ўстаць з-за стала, пайсці на марозік, на свежае паветра, але яго затрымаў звонкі голас гаспадыні з кухні:

— Вы там пацярпіце з курывам. У мяне ўжо ўсё гатова!

Праз якой паўхвіліны Наталля Паўлаўна ўжо ішла да іх з дзвюма талеркамі ў руках: у адной быў мёд, у другой — па-сялянску тоўста нарэзаны хлеб.

Сцяпан Палікарпавіч чамусьці як спалохаўся гэтых талерак. І калі Наталля Паўлаўна паставіла іх на стол, раптам падхапіўся, маючы намер пайсці з хаты, сказаць, каб і Асавік збіраўся, а то ён яго чакаць не будзе. Але тым часам да яго падышла Наталля Паўлаўна:

— Вы — куды?

— Ды дамоў пара, — разгубіўся Дабравольскі.

— Вы — што, смеяцеся! — падышоў да яго ўжо і гаспадар. — Няўжо мы вас чым пакрыўдзілі? І не думайце, усё роўна так нікуды не пусцім.

На стале дадалося талерак — з сырымі курынымі яйкамі, дамашняй каўбасой, вяндлінай і нават з нейкай кансервай.

— Я сабрала на стол спяшаючыся. Выбачайце ўжо, калі вам некалі. А так — можна было б і яшчэ сяго-таго паставіць, — ні то хвалілася, ні то апраўдвалася Наталля Паўлаўна. — Дзякуй богу ёсць. А во, я і забылася: павінна ж недзе быць бутэлечка медавухі!

І гаспадыня, папоркаўшыся ў шафе, дастала бутэльку з белаватай вадкасцю.

— О, медавуха! — радасна ўсклікнуў Андрей Васільевіч, — святы напітак!

Наталля Паўлаўна наліла і Дабравольскаму, і Андрэю Васільевічу па поўнай шклянцы медавухі, капнула на дно і ў сваю чарачку. Шафёр з Віктарам Данілавічам пілі малако.

Дабравольскі яшчэ ніколі не спрабаваў медавухі і, прыгубіўшы са шклянкі, адчуў, як у роце лёгка загарчыла. У нос ударыў хмельны водар, здалося, што ён апынуўся не за сталом, а ў вялікім букеце кветак.

— Ну, як яно? — усміхнулася гаспадыня.

— Здорава! — за ўсіх адказаў Андрэй Васільевіч.

Наталля Паўлаўна ўсміхнулася ў адказ шчаслівай усмешкай.

Дабравольскаму чамусьці было сорамна, ды і не хацелася гаварыць.

— А цяпер бярыцеся за мёд, — падаючы гасцям два паўлітровыя кубкі малака, сказала, як загадала Наталля Паўлаўна. — З малаком мёд лепей ідзе. У нас малако смачнае. Завезла нядаўна бідончык дачцэ ў горад, дык унук апроч малака нічога і не еў. Маці яму вяршкоў у магазіне купіла, а ён іх — ані блізка, кажа, хачу бабіных злівак — і ўсё. Бедненькі, зімой мала бывае ў нас. Як пацяплее — на ўсё лета забяру.

Андрэй Васільевіч на гэты раз чамусьці ёў мала, а ўсё падкладваў і падкладваў Дабравольскаму і каўбасы, і вяндліны, і мёду.

Наталля Паўлаўна частавала са шчырым задавальненнем, як усё роўна з уцехай, упрошвала гасцей усяго паспытаць, але найбольш — мёду.

— Але, ядакі з вас нікудышныя. Пасля вайны, дык і бульбіна гнілая мёдам ішла, а цяпер — мёд есці — і то прымушаць трэба.

— Мы і так вас у растрату ўвялі, — усміхаецца аднымі вуснамі Андрэй Васільевіч. — Вунь колькі мёду перапсавалі. На рынку б капейчына была.

Гаспадар моўчкі паглядзеў на госця, а гаспадыня, як устрывожаная, загаварыла:

— А дзецям, а гасцей чым сустракаць, а суседзям на лякарства? Мы і моды не маем прадаваць. Слава богу, пчолы добра раяцца, дык хапае.

Андрэй Васільевіч з той жа ўсмешкай на твары нечакана запытаў у Наталлі Паўлаўны:

— Ну як, Паўлаўна, каханне ваша з Данілавічам яшчэ не патухла?

— Што ты, Андруша? — гарэзліва прыжмурыўшы вочы, хітнула галавой гаспадыня. — Калі ж было яму гарэць: усё разлука ды разлука. Цяпер толькі і кахацца. Праўда, Віцька калі папракне, што я ўсё ў цялятніку ды ў цялятніку. А дома…

— І то праўда, — сур'ёзна гаворыць Віктар Данілавіч, — гатова ў сваім цялятніку дзень і ноч сядзець. А мне тут нездаровіцца, а яшчэ, крый божа, і яна надарвецца.

— А я не магу без сваіх цялятак, так прывыкла, што нават не паверыце. Чатыры гады ў водпуску не была: возьмецца ён за мяне гаспадарку прыглядзець, а я не ўтрываю — бягу. Мусіць, такая ўжо ўдалася.

Наталля Паўлаўна гаворыць гэта шчыра, ад душы, не так, як некаторыя перад начальствам. Любіць сваю работу. Ды і дома не пасядзіць.

Вячэра яўна зацягвалася. У цёплай гасціннай хаце Дабравольскі на гэты раз адчуваў сябе неяк няёмка і няўтульна. І ён аж зніякавеў, калі гаспадыня ўключыла святло — успыхнула яркая, на чатыры ражкі люстра. І ўсе неяк знянацку замоўклі, нібы даючы асвойтацца, улегчыся гэтаму раптоўнаму і зыркаму святлу. Дабравольскаму нават здалося, што ад гэтага святла ў хаце зрабілася яшчэ больш няўтульна, і яна як усё роўна паменшала. Трэба было і праўда рупіцца дамоў, толькі Андрэй Васільевіч пра гэта не думаў...

— А як зарабляеце? — цікавіцца ён ужо заработкам гаспадыні.

— Вельмі добра.

— Во, бачыце! — пераводзіць свой позірк на Дабравольскага Андрэй Васільевіч, — і галаву круціць не трэба, і нервы матаць. Цяпер у вёсцы толькі і жыць. У нас у горадзе таксама можна няблага зарабіць, дык жа і на харчы трэба, і адзецца чысцей.

— А ты, Андруша, і праўда, ішоў бы ў калгас. Цяпер не тое, як было пасля вайны — і заработкі добрыя, і рабіць лягчэй стала, жыў бы прыпяваючы, — дабрадушна раіць Віктар Данілавіч.

— Куды ўжо мне, адвык я.

— Вядома, у вёсцы нашмат лягчэй жыць стала, багацей, — згаджаецца Андрэй Васільевіч. — Пэўна, цяпер, Паўлаўна, часцей бутэльку Данілавічу ставіце?

— Яно і паставіла б, каб піў. Праўда, Віцька? — смяецца Наталля Паўлаўна.

— Вось гэта — каханне — ніколі не ржавее! — звяртаецца да шафёра і Дабравольскага Андрэй Васільевіч. — Гэта ў іх яшчэ са школы.

— А як жа, — згаджаецца Наталля Паўлаўна. — Нават вайна разлучала — не разлучыла.

Ужо на другім тыдні вайны Віктар Данілавіч трапіў у фашысцкі канцлагер. Як толькі нашы войскі пакінулі Залессе, немцы аднекуль прывезлі на залескі паўстанак цэлую цыстэрну спірту і пачалі прадаваць яго жыхарам за курэй, яйкі, сала. Налівалі шчодра — якую пасудзіну не прынясеш. Многія куплялі гэты спірт. Некаторыя мужчыны спакусіліся, выпілі, а к вечару пачалі паміраць.

Усе тады сталі выліваць той спірт вон, а Віктар бацькава вядро не выліў, панёс на гасцінец і пачаў частаваць немцаў. Казалі, аж восем немцаў аддалі тады д'яблу душу. А назаўтра Віктара забралі, збілі, але не расстралялі — адправілі

ў канцлагер. Мусіць, паверылі хлопцу, калі ён на допытах сцвярджаў, што не ведаў, што спірт атручаны, наадварот — хацеў дагадзіць немцам.

Толькі ў самым канцы вайны нашы вызвалілі Віктара з няволі. Ён нават паспеў яшчэ трохі паваяваць, а потым служыў у марфлоце. Як вярнуўся — сышоўся з Наталляй.

На дарогу Наталля Паўлаўна прынесла кожнаму па паўлітровым слоіку мёду. Але тут ужо Дабравольскі заўпарціўся — не ўзяў свайго слоіка, хоць і давёў гэтым да плачу Наталлю Паўлаўну.

Парфяновічы праводзілі гасцей да самай машыны і ўсё прасілі ніколі не мінаць іх хаты. Калі Дабравольскі даў Віктару Данілавічу свой адрас, тэлефон і паабяцаў пашукаць кватэру для яго сына, той толькі махнуў рукой і ўсміхнуўся:

— Ат, такой бяды. Калі што не так, дык свая хата ёсць. Абы здароўе ды згода.

— Харошыя ў вас аднакласнікі, — як толькі развіталіся з гасціннымі гаспадарамі, сказаў Андрэю Васільевічу шафёр — яшчэ зусім малады хлопец.

Асавік зручней усаджваецца на сядзенні і ўздыхае:

— Харошыя…

— А мы і гасцінца ніякага ні разу не прывезлі і нічога такога не зрабілі, — як дакарае ўслых самога сябе Дабравольскі.

— А што ім прывязеш, калі ў іх усё ёсць, — гаворыць Андрэй Васільевіч і, сапучы носам, лезе ў кішэню свайго зімовага паліто па папяросы.

Едуць моўчкі. Дабравольскі ўсё каецца і каецца, што згадзіўся заехаць да Парфяновічаў. Ён адчуваў як усё роўна нейкую вялікую віну перад імі. Хто ён такі і што зрабіў ім, каб быць вось такім дарагім і жаданым госцем? Ды і Андрэй Васільевіч гэты… Некалі даваў спісаць задачку. Помніць. Не забыўся…



## Хведар ГУРЫНОВІЧ

### НАД СТАЛІЦАЙ — ДОЖДЖ

*Сыну Дзянісу*

Дождж над Мінскам — дружны, заліўны.
Гэткія бываюць толькі ў маі.
Жоўтымі бакамі, як ліні,
Мокрыя паблісккваюць трамваі.

Кветкі цягнуць к вільгаці раты.
Аблачына з неба коўдрай вісне.
Дождж шчыруе пахкі, залаты,
Юны, светлакосы, ўсюдыісны!

Качары ў рацэ казычуць глей.
Сёння Свіслач у гусінай скуры.
Грай, Сымон-музыка, весялей,
Бо чагосьці Колас бровы хмурыць.

І прафесар, лысы, нібы смоўж,
І дзяржаўны муж з партфелем мудрым,
Падстаўляйце прыгаршчы — і дождж
Іх напоўніць звонкім перламутрам.

---

***Гурыновіч Хведар Хведаравіч*** *нарадзіўся 15 верасня 1950 года ў вёсцы Крывічы на Салігоршчыне.*

*Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1981). Працаваў мастаком, дырэктарам музея, карэспандэнтам раённай газеты. Цяпер — рэдактар газеты «Калійшчык Салігорска».*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Хлеб і соль» (1980), «Дачыненне» (1991), «Вішня цвіце» (1992), «Што я ўнуку скажу» (1995), «Запрашаю пад дождж» (2000), «Год — как жизнь, жизнь — как год» (2009) і інш., кніг для дзяцей «Пасадзім па дрэўцу» (1993), «Птушыная азбука» (1997), «Лес на далоні» (2001) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра (1997).*

А ў студэнтак сесія. Хаця
Дождж струменіць шчодры, бы з сявенькі,
Яблыкамі пругкімі з лісця
З-пад спаднічак моргаюць каленкі.

Вымытыя ззяюць вітражы.
Ліпы ў дружным плёскаце авацый.
Майскія пяшчотныя дажджы —
Ад такіх няма чаго хавацца.

## У НАРАЧАНСКІМ КРАІ

Глубелька пералівае ў Глублю
Колеру блакітнага крышталь.
Я цябе, каханая, галублю,
Сню цябе пад шум гаючых хваль.

Не Піцунда тут, не бераг Крыма
У азёрна-хвойнай старане.
Але знаеш, дарагая Рыма,
Гэты кут запаў у сэрца мне.

І жадаў бы зараз аднаго я —
Гэтакі вялікі фантазёр! —
Каб ступіла хоць адной нагою
Ты на берагі маіх азёр.

Быццам слёзы ў елачак на вейках,
Спеюць росы ў цішыні начной.
Чуеш, нарачанскі салавейка
Тут спявае для цябе адной.

Гэтаю кароткай самай ноччу
Спяць яшчэ і вёскі, й гарады…
Нада мной твае світаюць вочы
Колеру азёрнае вады.

## ПАСТУШКА

Палова лета мройлівага ўжо.
Спаліў кастры высокія Купала.
Каза казыча сонечны лужок,
Каса даўно якога не чапала.

Жывёлу атакуюць авадні,
Яна хвастом пакручвае, ды й годзе.
І ў хустцы палінялай дзень пры дні
Вакол казы з кійком старая ходзіць.

Штось даўняе пад нос сабе пяе,
Сама сябе ў юнацтва запрашае.
Памерла двое дзетак у яе,
І муж загінуў недзе пад Варшавай.

Ужо сівее траўка ад расы.
За лес садзіцца сонейка патрошкі.
Нібы зіма — ў старэнькай валасы,
І вочы — як пабляклыя валошкі.

Глядзіць казу не толькі за надой,
І коле ногі босыя асотам:
Прыгнечанай сумотай і нудой,
Старэнькай спакайней з жывой істотай.

## ДРАЧ

Гром хрыпаты, рыкай
Над рабінай і грэчкай!
Ручаіны рукаў
Хай струменіцца ў рэчку.

Хай раскрыліць кастры
Нерат ветру шырокі.
Разварушыць двары,
Растрывожыць дарогі.

Травы рушацца ў рост,
А бурак — караніцца.
І папросіцца ў рот
Баравая чарніца.

І старое трысцё
Дзеркачу не ў абразу
Я шпурну на касцёр —
Хай гарыць з крыўдай разам!

## РАССТАННЕ

Гаркавы дым плыве над дачамі.
Вада ў вядзерцы астывае.
На сёння ластаўкі назначылі
Са мной і з летам расставанне.

Яны разгублена над дахамі
Кружылі роем мітуслівым…

І куры ўзрушана кудахталі,
І абіралі цёткі слівы.

І цеслі малаткамі ляскалі,
І хрыпла гаўкаў цюцька куцы…
Ніхто і знаць не знаў, што ластаўкі
Са мною сёння расстаюцца.

## ХЛЕБ

Над палямі плаваў пільны лунь
З крыллем, як бабульчын серп, загнутым,
А пад ім на ўсёй прасторы рунь
Ззяла вераснёўскім перламутрам.

Мышкаваць вылазіў ліс з нары,
Заяц жыраваў і рунь вышукваў.
І зіма палеткі на зары
Бацькавым захутвала паўшубкам.

З выраю вярталіся шпакі…
І не раз мне бачыць давялося
Чэрвеньскі палетак, на якім
Дружна йшла азіміна ў калоссе.

Дожджык жыццядайны часта ліў,
Сонца сцёблы сточвала з праменнем.
Зерне наліваў жытнёвы клін,
Васількі шчымелі ў задуменні.

Аграном стаяў, як чэмпіён,
Перад рэпарцёрамі раз-пораз:
— Ай ды зерне! — радаваўся ён,
На далонь вылушчваючы колас.

А камбайнер, потны і руды,
Рагатаў нястрымана, мажорна…
Хто сказаў пра бохан хлеба — чорны?
Паглядзіце, ён жа залаты.

## НОВЫ ГОД БЕЗ ЦЯБЕ

У навагоднім ззянні стужак
Жар гладыёлусаў і цыній.
Нібыта россыпы ракушак,
Кіёскаў сотні камерцыйных.

І ў вітражах вячэрняй крамы
Каля шумлівага вакзала
Вясёлкай свеціцца рэклама,
Нібы на крылах у фазана.

У гараджан — святочны тонус.
Я ж — клён ясенінскі ў сумёце,
Бо не вязе цябе аўтобус.
І я пагэтаму ў сумоце.

Лічу я зоркі дзвюх Мядзведзіц.
Вакол снуюць таксі і людзі.
Ты не прыедзеш, не прыедзеш.
І года Новага не будзе.

Згараюць зоркі ў карагодзе.
І хутка стрэлкі зліцца мусяць.
Ты ў год наступны пераходзіш,
А я ў мінулым застаюся.



**Мікола ДУБОЎСКІ**

# ВЫБАР

*Апавяданне*

Ганна Сцяпанаўна пякла аладкі. За акном была непраглядная завіруха. За печчу спаў унук Васёк. Бабуля глянула на яго ложак, на ходзікі на сцяне: сем гадзін раніцы. «Спіць… Не ведае, што мама прыедзе з лесу з дзедам Андрэем, а то ўжо быў бы на падаконніку, углядаўся на падворак, чакаў маму».

Хутар Андрэя Чырванца месціўся ў нізінцы ля гаю. Улетку пабудовы амаль цалкам хаваліся за гонямі жыта, якое Андрэй заўжды сеяў на палосцы ўздоўж гаю. Узімку сядзібу таксама цяжка заўважыць з адзінай тут грунтоўкі, якая выходзіла з лесу.

Сёння Васёк — імяніннік, таму бабуля пячэ аладкі. З вечара Чырванец падаўся да мясцовых партызан, куды на другі год вайны пайшла дачка Чырванцовых Маня, пакінуўшы бацькам чатырохгадовага Васька. Маня стала партызанкай, а брат яе запісаўся ў паліцыю. Ганна Сцяпанаўна вочы выплакала, што родныя дзеці зрабіліся адзін аднаму ворагамі. Счарнеў, змарнеў сам Чырванец. Пры панах Манін брат Барыс служыў у мясцовага пана лесніком. Меў сваю хату, поле, жонку Юлю, дачку Ліду, тры гадочкі ёй было. Маня пры панах вучылася ў Гародні ў гімназіі. У 1939 годзе закончыла вучэльню, нядрэнна ведала англійскую і нямецкую мовы, займела спецыяльнасць — акушэрка. Савецкая ўлада прынесла ў сям'ю Чырванцоў і радасць, і разлад, і гора. Маня нарадзіла хлопчыка ад невядомага бацькам нейкага афіцэра-пагранічніка. Барысаву сям'ю зімою 39-га павезлі ў высылку ў Казахстан. У дарозе жонка і дачка памерлі. Іх целы, і яго самога, амаль беспрытомнага, падабралі ў стэпе недалёка ад чыгункі казахі — пагоншчыкі вярблюдаў. Яны пахавалі нябожчыкаў, Барыса ж выхадзілі, пасадзілі ў вагон з пшаніцаю, які, казалі, ішоў у Нямеччыну, а значыць, праз Беларусь, далі каністру вады, сушанай бараніны, пажадалі без прыгод дабрацца дадому. Амаль месяц цягнік ішоў на захад. Увесь гэты час Барыс жыў рашучасцю дабрацца дамоў і адпомсціць тым, хто яго выслаў, за жонку і дачку, якія навечна засталіся ў пясках на чужыне. На паўстанку перад Брэстам, ноччу ён праз верхні люк, які казахі спецыяльна не

---

*__Дубоўскі Мікалай Аляксандравіч__ нарадзіўся 17 студзеня 1933 года ў вёсцы Самойлавічы Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Пасля заканчэння беларускага аддзялення філалагічнага факультэта Брэсцкага педагагічнага інстытута імя А. С. Пушкіна (1956) працаваў настаўнікам, у абласной газеце «Заря», у рэспубліканскай маладзёжнай газеце «Чырвоная змена», «Настаўніцкай газеце», Міністэрстве сувязі БССР.*

*Аўтар кніг прозы «Грымотнае ранне» (1978), «Першая прыступка» (1982), «Шапэн» (1984).*

зачынілі, выбраўся з вагона і накіраваўся ў родныя мясціны. Бацькам і сястры не аб'яўляўся, жыў у панавым лесе, у схроне, які сам зрабіў. А неўзабаве, калі прыйшлі немцы, да Чырванца дайшлі чуткі, што Барыс жывы і служыць у Храбцах у паліцыі. Чырванцовы чакалі, што сын наведае родны дом. Час ішоў, а Барыс не прыходзіў. А восенню таго ж 41-га і Маня стала надоўга знікаць з дому. Бацькі трывожыліся: куды? Неяк дачка прызналася, што яна — сувязная партызанскага атрада, які ствараецца з чырвонаармейцаў-акружэнцаў.

— Дажыліся, мы з табой, жонка, — злаваўся на дзяцей Чырванец. — У нас дома — фронт, перадавая. Сыдуцца Маня з Барысам і пачнуць між сабой бойку. А куды тады нам з унучыкам бегчы? У лес ці ў Храбцы? Скажы?!

— У лес, дзядуля, — бегаў па хаце Васёк, — там мамка.

Тое, што ўнук ведае, што маці ў лесе, старога злавала. Крычаў на дачку: «Прагаварылася, што ў лесе. Глядзі, каб малы маўчаў…»

Ганна паставіла на жар чарговую патэльню. Зірнула ў акно: там, на падворку, па-ранейшаму шугала, кружыла завея. Паспагадала мужу, як яму зараз цяжка ісці па лесе, перахрысцілася: «Памажы яму, Божа». Потым глянула за печ, на палок, дзе, уткнуўшыся носікам у падушку, салодка спаў унук.

Яна ўжо напякла гару аладак, апетытных, залаціста-падсмажаных. Частку іх, большую, склала ў высокую гліняную міску і паставіла ў грубку, яшчэ цёплую з вечара. Астатнія аладкі паклала ў талерку і паставіла на стол, які месціўся ля акна, каля саматробнага шкапчыка. Бабуля падумала: «Унук вось-вось прачнецца і паснедае цёпленькімі аладкамі, а я скажу яму: «Сёння свята, твой дзень нараджэння, табе пайшоў пяты гадок».

Старая горка ўздыхнула, і вочы яе напоўніліся слязамі. У гэты момант ў сенцах ляпнулі дзверы і нехта ў цемры пачаў шукаць клямку, каб зайсці ў хату. Ганна Сцяпанаўна адчыніла дзвяры. Перад ёю стаялі два немцы з вінтоўкамі, у касках, захутаныя ў нейкія брудныя анучы. Яны прасіліся ў хату і паўтаралі: «Матка, кальт! Матка, кальт!»

— Не разумею, не разумею! — разгубілася бабуля.

Унук пачуў гоман, прачнуўся, сказаў з-за печы:

— Бабуля, ім холадна. Прыйшлі пагрэцца.

Гаспадыня нехаця адступіла ад дзвярэй, а няпрошаныя госці заспяшаліся да печы, пачалі падстаўляць да цяпла то рукі, то плечы.

Васёк шчыра смяяўся, што немцы ледзь не лезуць у печ. Адагрэўшыся, немцы раптам убачылі на стале ў талерцы аладкі і пачалі прасіць: «Матка, эсэн! Матка, эсэн!» Адкрывалі рот і пальцамі паказвалі на яго. Унук аж зайшоўся ад смеху, бачачы, што бабуля, зусім разгубілася, не разумеючы немцаў.

— Яны кажуць табе, бабуля, каб дазволіла з'есці твае аладкі, — урэшце патлумачыў Васёк. (Маці вучыла малога нямецкай і англійскай мовам, бачыла свайго сына адукаваным. Але галодныя немцы нават не звярнулі ўвагі на тое, што тут, на хутары, такая малеча сёе-тое разумее на чужой для яго мове.)

— Хай ядуць! — махнула рукой Ганна Сцяпанаўна.

— Бітэ эсэн! — Васёк падышоў да немцаў і паказаў на аладкі на стале.

— А-а-а-а! — узрадаваліся няпрошаныя госці, і паставіўшы вінтоўкі ў кут пад шкапчыкам каля стала, сталі, ледзь не давячыся, уплятаць бабуліны аладкі, бясконца паўтараючы: «Гут, гут».

— Кажуць, добра, бабуля, — растлумачыў ёй унук.

— А халера іх бяры. Дзе тут зразумееш гэтую немчуру агаладалую, — мовіла гаспадыня і падышла да печы, каб дастаць патэльню з аладкамі.

Немцы з прагнасцю працягвалі есці аладкі. Васёк вылез з-за печы, падышоў да вінтовак у куце, прыціх там. Ганна Сцяпанаўна працягвала пячы аладкі, паглядала ў акно, дзе не сціхала завіруха. У хаце ўсталявалася цішыня.

Але раптам гулка грымнуў стрэл. На стол пасыпаліся асколкі шкла. Немцы імгненна пападалі ніцма на падлогу, заенчылі: «Партызанан, партызанан!»

Ганна Сцяпанаўна, як акамянела, не разумеючы, што здарылася? Адкуль стрэл? Хто страляў? Праз разбітую шыбу на стол, у хату, сыпаўся снег.

Васёк, зразумеў, што адна вінтоўка, калі ён пальцам націснуў на кручок пад руляю, стрэліла ў акно, бачыўшы, як перапалохаліся немцы, засмяяўся. Бабуля, узрадаваўшыся, што Васёк жывы, з палёгкай уздыхнула. Немцы, мабыць, таксама зразумеўшы адкуль стрэл, падняліся з падлогі і кінуліся ў кут да сваіх вінтовак. Адзін пачаў крычаць на Васька, ухапіў яго за вуха, выцягнуў на сярэдзіну хаты і стаў біць рукою па мяккім месцы. Хлопчык заенчыў, закрычаў ад страху і болю. Ганна Сцяпанаўна схапіла чапялу і кінулася абараняць унука. Крыкі і плач Васька пачулі Андрэй з дачкою, якія тым часам зайшлі на падворак. Яны заспяшылі ў хату. Маня рванула дзверы, адчыніла іх і, убачыўшы маці, якая наступала з чапялой на немцаў, закрычала: «Хэндэ хох!» і стрэліла ўгару. Сын, убачыўшы яе, кінуўся ёй на рукі: «Мамачка! Мамачка!» Ганна Сцяпанаўна стала расказваць, што тут адбылося. Немцы, выкарыстаўшы спрыяльны для іх момант, выслізгнулі на вуліцу паўз гаспадара, які ўваходзіў у хату, зніклі ў снежнай каламуці. Маня сказала Ганне Сцяпанаўне, што хутар давядзецца, пэўна, пакінуць, мо і зусім: немцы такога не даруюць, трэба чакаць расплаты.

— Куды мы з унучыкам зімою? — загаласіла маці.

— Да сына, у Храпцы! — злосна мовіў Андрэй Чырванец. — Можа, не расстраляе бацьку і пляменніка. Заступіцца за нас перад немцамі. Кажуць, ён там, у Храпцах, за начальніка. Заўтра збяромся і паедзем. Манін камандзір патрабуе, бо, кажа, немцы рыхтуюць сур'ёзную блакаду. Яны нават знялі з фронту спецыяльныя часці. Партызан пакуль мала, будуць адыходзіць, сказаў камандзір, таварыш Часнакоў. Пойдуць на злучэнне з брыгадай Петрака. Гэта глыбокае Палессе. Туды не пойдуць карнікі — дрыгва.

Маці разгублена глядзела на дачку, а тая зацята маўчала, адчуваючы віну перад бацькамі і сынам, які ў гэты момант пачуваў сябе шчаслівым, бо дзед, бабуля і мама з ім тут, у цёплай хаце, будуць святкаваць дзень ягоных народзінаў. Чырванец маўчаў, глядзеў у акно: ці не з'явяцца, ачомаўшыся, немцы. Ён убачыў, як на падворак заехалі сані, пазнаў у іх сына.

— О, лёгкі на ўспамін, нарэшце сын з'явіўся. Ты, Маня, за печ схавайся, крый божа, пачнеце страляць, — Чырванец накіраваўся сустрэць сына.

Той злез з лёгкіх шляхетных польскіх саней, павесіў на плячо нямецкі аўтамат, упэўнена ступіў на ганак роднай хаты і адразу трапіў у бацькавы абдымкі. Заплакалі абодва, ступілі ў хату.

Ганна Сцяпанаўна таксама кінулася цалаваць сына.

— Я ведаю пра вас усё, — сказаў Барыс, — але пра гэта потым. Давайма спачатку нагледзімся адзін на аднаго. А Маня дзе?

— Тут, сынок, тут. Схавалася за печчу, каб чаго не выйшла, — патлумачыў бацька. — Бо ты ў паліцыі, а яна...

— Які я паліцай, дазнаецеся калі-небудзь, — сказаў сын. — А цяпер раскажыце, як жывяце.

Пачуўшы гэта, Маня з Васьком выйшла з-за печы, абняла брата:

— Як жа доўга, браток, ты ішоў дахаты. А ў майго сыночка, твайго пляменніка, сёння дзень нараджэння…

Барыс пасадзіў сабе на калені пляменніка, пагладзіў па галоўцы і ўспомніў:

— Чакайце, я ж гасцінец вам вёз. Тата, калі ласка, ідзі, вазьмі з саней мяшэчак. Там сала, каўбаса, арэхі. А я з пляменнікам пабуду.

— Потым, потым, — сказаў бацька. — Перакусім нашым, а там…

Паснедалі аладкамі. Барыс раптам, нібы ні з таго ні з сяго заплакаў.

— Што здарылася, сынок? — захвалявалася маці.

Барыс выцер слёзы, сказаў:

— Ды нічога. Проста даўно ўсіх вас не бачыў. А як вы?

Маці стала расказваць, што сёння да іх прыйшлі немцы. Пра тое, як Васёк стрэліў з іх вінтоўкі, як яны збеглі.

— Збеглі? — перапытаў Барыс. — І ты, Маня, стрэльнула?

— А што мне было рабіць?

— Дрэнна, дрэнна, — сказаў Барыс і як загадаў: — Збірайцеся хутчэй, паедзем да мяне, у Храпцы. Калі так, немцы вось-вось заявяцца.

— Манін камандзір, таварыш Часнакоў, казаў пра гэта. Мы думалі заўтра ехаць, — прамовіў бацька.

— Таварыш Часнакоў праўду вам, тата, сказаў. Я сёння толькі што ад яго.

— Як ад яго? — захвалявался Маня.

— Усё растлумачу потым, а цяпер збірайцеся. Тата, садзі ўсіх у сані і — ў Храпцы. Ты, Маня, таксама паедзеш з імі. Скажаш майму намесніку Піліпчыку, што прыехалі ад мяне, а я тут застануся. Я ж — паліцай… Жывёлу дагледжу, не дам хутар спаліць, разрабаваць.

Чарванец зразумеў сына, зрабіў, як той казаў і пагнаў ягонага варанога з месца галопам.

Сані з алюмініевымі палазамі ішлі лёгка па нерушы, у зляжалым глыбокім снезе нават не прабівалі каляю. Андрэй кіраваў на Храпцы, да якіх было вёрст дваццаць.

Барыс тым часам сядзеў у бацькавай хаце. Яму хацелася есці і ён шкадаваў, што стары не выняў з саней яго гасцінец, дзе і пяршак. Ён стаяў ля акна, глядзеў на замеценую, бязлюдную дарогу і трывожыўся за бацькоў, Маню і пляменніка. Заўважыў, што мяцеліца, якая бушавала другія суткі, пачала сціхаць, пасвятлела.

«Добра будзе, калі тата здагадаецца ехаць у Храпцы праз Залессе», — думаў Барыс, гледзячы на замеценую грунтоўку, — гэтым шляхам наўрад ці напорашся на якую гестапаўскую групу: густы лес, яны яго баяцца. Хаця зараз немцы шнарацъ паўсюль. Рыхтуюцца да карнай аперацыі.

Барыс выйшаў у сенцы і, убачыўшы на лаўцы свой мяшэчак з харчам, узрадаваўся — бацька усё ж выняў з саняў.

Ён узяў мяшэчак, зайшоўшы ў хату, зірнуў праз акно на грунтоўку. Там клубілася белае воблака, адтуль чуўся гул матора.

«Гэта ж Манзаген, групэнфюрэр са сваёй камандай на фінскіх аэрасанях ляціць сюды», — здагадаўся начальнік храпцоўскай паліцыі.

Ён паставіў мяшэчак на лаўку ля стала і крыху праверыў свой нямецкі аўтамат.

Калі Ота Манзаген з аўтаматчыкамі ўскочылі ў хату, ён аслупянеў, убачыўшы начальніка храпцоўскай паліцыі, якога крыху ведаў:

— Што ты тут робіш? — спытаў па-руску гестапавец.

— Тое, што і вы, групенфюрер Манзаген. Чакаю партызанаў! Хаця, гэта мой дом.

— У гэтым доме нядаўна адбыўся інцыдэнт, — сказаў гестапавец, — ты пра гэта ведаеш?

— Ведаю. Толькі гэта ніякі не інцыдэнт: вашы салдаты пакінулі зброю без нагляду. Дзіцянё гуляла, стрэліла… А потым тут сапраўды былі партызаны. Але пакуль я прыехаў, зніклі. Чакаю, можа, вернуцца.

Манзаген крыху памаўчаў, потым нечакана загадаў аўтаматчыкам выйсці ў двор, вартаваць аэрасані. Імі ён вельмі даражыў. Калі быў у фінаў — яны і падарылі яму іх.

— Запалі святло, — загадаў гестапавец, — вечарэе.

Барыс запаліў лямпу-пяцілінейку. Манзаген шныраў вачыма па хаце і раптам заўважыў на сцяне рамку з фатаграфіямі. На адной фотцы была знята Маня з маленькім сынам на руках: Васільку там быў усяго годзік.

— А гэта хто? — паказаў гестапавец на фотку.

— Маня, сястра мая з сынам.

— Маня?! — здзіўлена перапытаў Манзаген.

— А што? — насцярожыўся Барыс.

— Дзе яна? — адышоў ад фатаграфіі Манзаген і паглядзеў на Барыса.

— У партызанах.

— У партызанах? — яшчэ больш здзівіўся гестапавец.

— Так, у партызанах. А я ў паліцыі.

— Чаму не арыштаваў? — закрычаў Манзаген.

— Дык ты ж прыехаў арыштаваць яе, так?

— Гэта функцыя ваша, паліцыі. У нас — злавіць апергрупу рускіх, якая прыляцела з-за фронту. І мы яе знойдзем. Камандуе ёю нехта палкоўнік Масквін.

Барыс усміхнуўся, паглядзеў на гестапаўца і сказаў:

— Супакойся, пан гестапавец. І мая сястра Маня, і палкоўнік, камандзір апергрупы, са сваімі людзьмі ўжо сядзяць у нас.

— У вас?! — аж падскочыў Манзаген. — Едзем — я забяру іх. Гэта ж такая ўдача.

— Так я вам і аддам. Вы рыцарскі крыж зараз жа атрымаеце, а мне што?

— Табе, табе, — гестапавец не ведаў, што сказаць, а потым знайшоўся, — табе маркі, таксама ўзнагарода. Едзем хутчэй.

— Паспеем. Нікуды яны не дзенуцца. Я хачу есці, — стаў развязваць мяшэчак Барыс. — І вы садзіцеся за кампанію. Пачастую вас, пан Манзаген, беларускім салам, кілбасой і першаком. А потым паедзем.

Немец задаволена прысеў да стала. Барыс нарэзаў сала, наліў самагонкі. Спытаў у немца, чаму іх знялі з фронту.

— Па загадзе фюрэра, — адказаў той. — Блакада задушыць тут партызан і мы вернемся назад. Гэтым летам фюрэр нанясе апошні рашучы па бальшавіках удар.

— Баюся, што не будзе так, як думае пан Гітлер. Пад Масквою — парад, Сталінград, Ленінаград — ніяк не возьмуць. Тут, пэўна, час думаць, куды дзецца, калі бальшавікі прыйдуць сюды. Куды дзецца мне? Павесяць.

Манзаген узяў шклянку, выпіў.

— Застрэлішся, калі так будзе, — сказаў чыста па-руску гестапавец. — Ты ж для сваіх — здраднік! Едзем пакуль не позна. Мне трэба Маня!

Барыс бачыў, што Манзагену размова на гэтую тэму не падабаецца. І раптам ён зразумеў, што гэта ж Маньчын пагранічнік!.. Во сітуацыя. Мо яго тут шлёпнуць і нічога сястры не сказаць, каб не пакутавала? Яна ж лічыць, што ён загінуў у першы дзень вайны. Хай Маня так і лічыць. Аднак праз колькі хвілін Барыс вырашыў, што знішчаць гестапаўца яму нявыгадна: калі немцы даведаюцца, што ён з партызанамі мееў кантакты, дык будуць дапытваць, а потым самі ліквідуюць яго. Няўжо ён не зразумее гэтага?..

…Неўзабаве пад'ехалі да Храпцоў.

— І гэта твая цытадэль? — спытаў у Барыса гестапавец, выключыўшы матор перад шлагбаумам, за якім былі двое паліцаяў з аўтаматамі.

— Мая, — сказаў Барыс і вылез з аэрасаней, паклікаў дзяжурнага афіцэра ў нямецкай палявой форме. Калі той падышоў, ён ціха мовіў: «Аўтаматчыкаў пакарміць і абяззброіць. Далей — згодна з абстаноўкай і маім загадам».

Гестапавец уважліва разглядаў высокі земляны вал, якім быў абнесены паліцэйскі гарнізон: некалькі звычайных вясковых хат, чатыры кулямётныя вышкі па кутах, акопы.

— Умацаваўся, як у Сталінградзе, — здзіўляўся Манзаген.

— А як жа? Вайна… — адказаў Барыс.

Манзаген насцярожыўся, але прамаўчаў. Барыс узяў яго пад руку:

— Пойдзем да мяне, перадам вам па пратаколе затрыманых. І гуляй, Вася!

Манзаген уздрыгнуў, пачуўшы «Вася».

«Так, гэта ж Маньчын пагранічнік», — канчаткова ўпэўніўся Барыс, ведучы гестапаўца.

Яны падышлі да адной з хат, прайшлі міма вартавога, неўзабаве апынуліся ў пакоі. Вялізны стол пад зялёным сукном, тэлефоны, мяккія крэслы.

— Сядайце, будзьце як дома. Гарбаты, кавы?

— Не, давай справу зробім і я паеду.

— Справу дык справу, — сказаў Барыс і паклікаў дзяжурнага.

— Слухаю, — мовіў той.

— Масквіна і яго людзей да мяне!

Праз колькі хвілін у пакой разам з аўтаматчыкамі зайшоў Масквін. Манзаген аслупянеў, убачыўшы, што яны ніякія не арыштаваныя.

— Знаёмцеся, — усміхнуўся Барыс.

— Групэнфюрэр Ота Манзаген, — вяла сказаў гестапавец.

— Палкоўнік Савецкай Арміі Сцяпан Масквін.

— Камандзір партызанскага атрада «Баявы» — Барыс Андрэевіч Чырванец, — сказаў «начальнік» храпцоўскай паліцыі. — Вось і пазнаёміліся.

Манзаген лыпаў вачыма, усё яшчэ не да канца разумеючы, што адбываецца. Намацаў пісталет у кішэні.

— Спакойна, Васіль Казанцаў, — перапыніў яго Барыс.

— Я Манзаген, групенфюрэр…

— Кіньце, былы капітан. Вы са жніўня сорак першага ў немцаў. Групэнфюрэра заслужылі за свае карныя дзеянні на Смаленшчыне. Мы ўсё пра цябе ведаем. Цябе чакае расплата. Наша. Ды калі цябе адпусціць, твае ж хаўруснікі — гестапаўцы, даведаўшыся, што сустракаўся з Масквіным і не арыштаваў яго, з табой хутка разбяруцца.

— У вас, капітан, усё ж ёсць выйсце. Вы яшчэ можаце паспрабаваць паслужыць Радзіме, свайму сыну, яго маці, калі зробіце тое, што мы зараз прапануем, — сказаў Масквін.

— Што? — спытаў Манзаген. Масквін не паспеў адказаць, бо ў гэты момант у пакой увайшла Маня і паведаміла:

— Таварыш палкоўнік — наш план дэзінфармацыі немцаў спрацаваў: іх танкі рухаюцца на Млыновыя тоні.

— Куды?.. — захваляваўся гестапавец.

— На Млыновыя тоні.

— Ты?! — закрычала Маня. — Ты з намі?

Манзаген як не пачуў яе, ускочыў на падаконнік, які быў якраз насупраць стала начальніка паліцыі, выбіў раму і выскачыў на вуліцу.

— Стой! — амаль разам закрычалі Масквін і Барыс і пачалі страляць па ўцекачу. Ён пятляў, бег да брамы. Маня глядзела яму ўслед і раптам, зразумеўшы, хто ён такі, выхапіла свой наган і стрэліла. Той упаў на спрасаваны машынамі снег…

# РАЗМОВА З БАГАМІ

Гэта творы з «Рыгведы» і «Атхарваведы» — унікальных помнікаў другой паловы другога тысячагоддзя да нашай эры, у якіх адлюстравана ўяўленне жыхароў Старажытнай Індыі, ведыйскіх арыяў пра сусвет і пра зямлю, пра багоў і пра людзей, пра маральныя нормы таго далёкага часу.

Створаны яны на ведыйскай мове — адной з самых старажытных адгалінаванняў санскрыту, вывучэнне і даследаванне якога не закончана яшчэ і сёння.

Не менш як дзве тысячы гадоў веды існавалі толькі ў вуснай традыцыі, не маючы пісьмовых аналагаў, — ад чалавека да чалавека, ад пакалення да пакалення.

Вытокі вялікай старажытнаіндыйскай культуры, якая дайшла да нас, знаходзяцца ў тым далёкім часе, калі ствараліся гэтыя тэксты, якія, як і ў нас, называюцца цудоўным беларускім словам «веды». Што ад кораня «ведаць». Санскрыцкія «веды» значаць тое ж, што і нашы «веды».

У ІІ тысячагоддзі да н. э. Іранскае нагор'е і паўночна-заходнюю Індыю пачынаюць засяляць плямёны, якія прыйшлі з тэрыторыі сваёй прарадзімы — Усходняй Еўропы. Яны змагаліся на калясніцах, запрэжаных коньмі, і паступова прасунуліся ў паўночна-заходнюю Індыю (Пенджаб), а потым і далей — у глыбіню Індастана. Яны гаварылі на агульнай індаеўрапейскай мове і называлі сябе арыямі.

«Арыі» — зноў жа нібыта ад нашага беларускага слова «араць». Ар'я — гэта араты, ратай, чалавек, які арэ зямлю. Ар'яварта — старадаўняя назва Індыі. У перакладзе — гэта «зямля арыяў». Высакародных аратых. Земляробаў.

Як яно, наша звычайнае, нават бытавое слова «араць», трапіла ў Індыю? Ці, наадварот, прыйшло адтуль? Нейкая ж сувязь тут абавязкова павінна быць…

Веды сталі галоўным і адзіным помнікам ведыйскіх арыяў, іх гісторыі і культуры.

«Рыгведа» — адзін з самых старажытных дакументаў, створаных розумам чалавека, з якіх пачыналася ўся сусветная літаратура ўвогуле.

«Рыгведа» — самая старажытная з кніг на зямлі, якія ведае чалавецтва. У ёй — смелыя пошукі тых, хто спрабаваў зразумець значэнне нашага свету і жыцця чалавека ў гэтым свеце.

«Рыгведа» — гэта 1028 гімнаў. Гімны — шчырыя малітвы ведыйскага арыя. Усхваленне багоў і просьбы да іх. У аснове шанавання — ідэя ўзаемаабмену паміж богам і чалавекам: ты шануеш яго — ён выконвае ўсе тваё пажаданні.

Гімны багам размяшчаюцца тут у своеасаблівым парадку — у залежнасці ад значэння таго ці іншага бога: Агні́, Індра, Со́ма, Ва́руна…

У «Рыгведзе» неба — бацька, зямля — маці, Агні — агонь, Су́р'я — сонечны дыск, само сонца, Сома — расліна, Ваю́ — вецер, Ваджра́ — дубіна грому.

«Атхарваведа» — гэта вершаваныя замовы, заклёны. У ёй 371 верш, а астатняе — проза. Складаецца з 20 кніг. Тут замовы і супраць дзікіх звяроў і злодзеяў,

і супраць пажару ў доме, і супраць ведзьмакоў ды ворагаў, і супраць рэўнасці, і супраць кашляў, і адсыланне змяінага яду назад, да яе ж, змяі.

Працуючы над перакладам замоў і заклёнаў з «Атхарваведы», я часам за эмацыянальнымі словамі нібыта бачыў нашу бабку-шаптуху, што шэпча над хворым дзіцем ці дарослым чалавекам, дзеячы амаль тое ж, што дзеялі і яны, ведыйскія арыі, яшчэ ў сваім данашаэрным жыцці.

Вось чараўнічая любоўная замова арыйкі — з нагаворнай травою:

Калі ты людзей пазбягаеш,
Калі ходзіш ты за ракою,
Гэта зелле, трава гэта самая
Хай прывяжа цябе, хай мне верне.

А гэта наша прысушка:

«Я іду каменным бродам, а мой Міхаська гарою. Я стала і дзіўлюся ў ваду, якая з мяне цень: з вады — вадзяна, а з лазы — лазіна, а з мяне — мая. Як мая нага за нагою, каб так Міхаська за мною. Каб ён куды ішоў — не дайшоў, каб ён еў — не даеў, каб ён спаў — не даспаў, каб ён дзень і ноч думаў пра мяне — і ў ядзе, і ў хадзе, і ўва сне думаў пра мяне».

Ці вось такая:

«Як не можа маці без дзіцяці, карова без цяляці, асліца без асляняці, каб так і Іванка не мог пражыць без Дар'і».

Чуеце, як гавораць, пераклікаюцца між сабою тысячагоддзі?!

Гімны з «Рыгведы» і замовы з «Атхарваведы» друкуюцца на беларускай мове ўпершыню ў гісторыі існавання гэтых помнікаў. Ды і на рускай мове яны з'явіліся таксама зусім нядаўна — толькі ў 1984 годзе. На рускую мову творы перакладзены з нямецкіх выданняў «Die Himnen des Rigveda» і «Atharva Veda Sanhita», якія выйшлі ў Берліне ў 1955 і 1956 гг.

Гэта амаль парадкоўнікі арыйскіх вершаў, створаных на ведыйскай мове, якая па сёння яшчэ не поўнасцю расчытаная. Яны без знакаў прыпынку, а нярэдка і з няясным сэнсам, пра што ў каментарыях даследчыкі змушаны пісаць: «цёмнае месца», «верш у цэлым незразумелы», «слова з няяснай этымалогіяй», «верш цяжкі для разумення», «назва нейкай лекавай расліны», «за час існавання Ведаў сэнс верша згубіўся».

Веды перакладзены на шмат якія мовы свету. Хацелася б, каб на сваёй цудоўнай мове пачулі арыяў і беларусы.

***Янка Сіпакоў***

# ХАЙ ПАЧУЕ МЯНЕ І ЗЯМЛЯ, І НЕБА

*Старонкі ведычнай паэзіі*

## З «РЫГВЕДЫ»

### ПЕСНЯ СТВАРЭННЯ

***Касмаганічны гімн***

Тады не было ні Існага, ні Няіснага:
Не было ні паветранай прасторы, ні неба над ёю.
Што ў руху было? Дзе? Пад чыім покрывам?
Чым была вада, бяздонная водная глыбіня?
Тады не было ні смерці, ні бессмяротнасці,
Не было розніцы паміж ноччу і днём.
Без павеву само сабою дыхала Адзінае.
І нічога, акрамя яго, не было.
Спачатку цемра была схавана цемраю,
Усё было невыразнае, яно цякло.
Усё, што існавала тады, было бясформенным.
Вялікая сіла цяпла нарадзіла тое Адзінае.
А пачалося ўсё з жадання —
Яно было першым семем, зародкам сутнасці.
Мудрацы, якія шукалі мудрасцю сваіх сэрцаў,
Знайшлі роднасць Існага з Няісным.
Упоперак праходзіць сувязь іхняга падзелу.
А што было над ёю і што пад ёю?
Носьбіты семя былі, сілы былі магутныя.
Жаданні — унізе, намаганні — уверсе.
Хто напраўду ведае і хто цяпер мог бы расказаць,
Як гэта ўсё нарадзілася і калі адбыўся
Гэты акт стварэння Сусвету?
Багі ўжо з’явіліся пасля стварэння яго.
Але ж хто ведае, з чаго ён узнік?!
Ён — першакрыніца ўсяго створанага,
Не зважаючы на тое, стварыў яго ён Сам,
Ці ўсё яно ўзнікла само сабою.
Той, чыё вока назірае за гэтым светам з нябёс,
І сапраўды ведае гэта.
А калі і ён не ведае?

### ГІМН АГНІ

Агні-бог называецца заўсёды спачатку
Як найпершы ўладальнік ахвяры,
Шчодры бог — першажрэц і даравальнік.

Агні-бога клічуць зазвычай
Гімнатворцы цяпер, як і раней —
Няхай прыходзяць сюды з ім усе багі!

Агні-богам дарункі багацця
І задавальнення даюцца нам —
Вельмі светлыя і шматсыноўнія.

Агні-божа, абрад і ахвяра,
Абдымаемыя табою, —
Толькі яны да багоў даходзяць.

Агні-жрэц, гімнатворца сапраўдны,
Самасветлы і найслаўнейшы,
Бог няхай з'явіцца нам з багамі.

Што захочаш ты, Агні-божа,
Твайму прыхільніку зрабіць добрае, —
Тое і будзе, Ангірас, мне за шчасце.

Агні-божа, табе прыносім
Наш паклон і малітваслоўе,
Што асвятляе цемру штодзённа.

Гаспадару святаў ахвяраванняў,
Светламу захавальніку закону,
Які вышэе ў жытле сваім.

Агні-божа, будзь нам даступны,
Як бацька даступны сыну,
І спрыяй нам на шляху дабравання.

## ДРУГІ ГІМН АГНІ

Адзіны акіян, захавальнік багацця,
Які шмат разоў нараджаецца ў словах з сэрца,
На ўлонні таемнай двойні ён шукае вымя,
У крыніцы, дзе застаўся след праляцелай птушкі.

Дзе ў гняздзе адзіным, у адно яднаючыся,
Кабыліцы з быкамі ўгняздзіліся,
Дзе гімнатворцы, зберагальнікі закону,
Сляды з імёнамі вышніх хаваюць.

І праўда, двое дзівадзейных, здвоіўшыся,
Стварылі немаўлятка і ўскармілі яго:
Пупавіну руху і спакою —
Гімнатворца прадзіва — вы, двое, ірвяце.

Да дзіўнанароджанага крокі парадку
Вядуць як да найсаладзейшай узнагароды,
Дзе абодва светы пад адзіным покрывам
Падмацоўваюцца салодкім ахвяравальным алеем.

Рыжых сем сясцёр пажадаўшы ўбачыць,
Дастаў іх з салодкай ахвяры той, хто ведае,
Але марудзіў, у паветры даўненароджаны,
І, шукаючы сховы, ён знайшоў Пуша́на.

Сем межаў аслупавалі гімнатворцы.
І хто, няшчасны, хоць адной дасягне,
Дзе ў канцы дарог пастаўлены слуп Аю́,
У гняздзе ўсявышнім на цвёрдых апірышчах?

Існае з Няісным былі ў Найвышэйшым,
У лоне А́дзіці пры нараджэнні Да́кшы.
Быў напраўду Агні народжаны даўне
Першынцам ісціны — як бык і карова.

## ГІМН ІНДРУ

Індры сёння мы ўславім учынкі.
Што спачатку зрабіў грамавержац?
Ён, хто змея забіў, ён прасвідраваў
Дзеля вод, што цякуць, горныя лоны.

Змея забіў, што аблёг гару,
Гулкаю дубінаю, зробленай Тва́штарам.
І, як каровы з мычаннем да цялятак,
Пацяклі — пабеглі воды да мора.

Ён, бык раз’юшаны, ён выбраў Сому,
Выціснутага выпіў з трох пасудзін.
Шчодры, ухапіўся ды шпурлянуў кідзь-дубіну
І забіў першароднага змея.

Ты забіў першапачатковага змея,
Хітрасці хітрэйшых перахітрыўшы.
Ты Сонца зачаў, Зару і Неба,
Бо няма ніякіх супернікаў у Індры.

Врытру́ врытрэйшага Індра ўдарыў
І, бясплечы, пад магутнай дубінай,
Як сякераю ссечаная сукавіна,
Змей прыпаў да зямлі і распластаўся.

Вось не-мужчына з пахмелля паклікаў на бітву
Мужчыну сілы, які п’е гушчу сомы,
І не выстаяў, упаў пад ударам Індры
Злоснік, прапораты дубінаю.

Вось, без рук і без ног, устаў ён на Індру,
Але мужчына па хрыбце ўдарыў,
І бык злягчаны быў сапраўдным быком пераможаны —
Врытра быў дашчэнту ім размецены.

Вось ён ляжыць, як трысняговая сечка,
І па ім, паверх яго цякуць воды Ма́ну.
Вось ён ляжыць, Врытра, пад нагамі
Палонніц, якія былі ў ягоным палоне.

У той, што нарадзіла Врытру, сілы скончыліся,
Ад удару смяртэльнага Індры,
Бо змей ляжыць унізе, а зверху — маці
Да́ну з прыплодам, нібыта карова.

І вось, не супакойваючыся, не высыхаючы,
Карэнне вады, што цячэ, схавала цела
Врытры, таемнае абмываючы месца
У доўгай цемры схаванага ворага Індры.

Змеевым палонніцам, жонкам Да́сы,
Як для тых кароў, што Пані́ ўкралі,
Прапароў ён для водаў, што цякуць, выйсце —
Врытразабойца адчыніў усе крыніцы і цечы.

Конскім воласам скінуўся ты, Індра,
Як ударыў ён цябе, бог адзіны,
Ты, уладальнік кароў, гаспадар Сомы,
Для цечы выпусціў сем струменяў.

Вось ні маланкі, ні громы не ўратавалі,
Ні туманы яго, ні градабоі,
Бо Індра, шчодры адзіназмагар са змеем,
Перамог яго дарэшты і ў будучыні.

Але якога помсніка за змея
Убачыў ты і спалохаўся, забойца?
Індра дзевяноста дзевяць патокаў
Сокалам перамахнуў са страху.

Цар руху і цар спакою, Індра,
Уладар і над бязрогім, і над рагатым,
Грамавержац, над народамі ўладарыць,
Нібыта вобад, што абдымае ўсе спіцы.

## ГІМН СОМУ

Сомы п’янага сок сочыцца
Шчодрадавальніку дзеля славы,
Што выціскаецца перад ахвяраю.

Вось ён, конь залаціста-буланы,
Яго жонкі Трыты́ выганяць —
Сок для Індры з-пад каменя капае.

Вось ён, гусь, важак чарады ўсёй.
Ён малітву гучаць прымусіў,
Нібы конь, умаслены масламі.

Азіраючы светы абодва,
Ты, як звер, падняўшыся, улёгся,
Сома, у лона ўсясветнай праўды.

І страчаюць цябе каровы,
Нібы жонкі каханага, — крыкам:
Ты ў спаборніцтве стаў пераможцам.

Дай бліскучую ты мне веліч,
Шчодравальнік мой, дай мне славу,
Дай здабычу мне і натхненне.

## ДРУГІ ГІМН СОМУ

Вось жывы ён, і ён — няўлоўны,
Усюдыісны і пераможны,
Гімнатворца, стваральнік, Сома.

Хто дае чым прыкрыцца голым
І пакрыўджаным — ратаванне,
Сляпым — вочы і ногі — бязногім.

Сома, ты ад хвароб цялесных,
Ад злозычліўцаў пабочных
Абарону ўсім нам даруеш.

Моцай думкі і жыцця сілай
Скінь жа ты і з зямлі, і з неба
Злосць варожую, найгусцейшы Сома.

Хай ён верне, што не вярнулася,
Хай ён зробіць жыццё праўдзівым,
Хай прадоўжыць жыцця працяг ён!

Добрасардэчны, хай не ўсяляюцца
У нас вар'яцтвы, у нас хваробы,
А ты ўсяліся з дабром у сэрцы.

Не ўсяляй у нас вар'яцтва, Сома,
Не ўсяляй у нас жах, уладыка,
Не ўсяляй нам шаленства ў сэрца.

І, калі раптам пад гэтым дахам
Я заўважу багоў нядобрых,
Злосць прагані ты прэч, уладыка,
Псоту выгані прэч, найшчадрэйшы.

## ГІМН ВАРУНУ

Ад маёй узвышанай просьбы глыбокай
Усётрымальнік Варуна няхай асалоду адчуе,
Цар вельмі слаўны, які зямлю разаслаў
Пад сонцам, нібы шкуру ахвяры разнік.

Паміж дрэў нацерушыў Варуна паветра,
Даў каровам малако, волю — коням,
Розум у сэрцы змясціў, агонь — у водах,
Сонца — у небе і Сому — на скале.

Выліў Варуна бяздонную бочку
На абодва светы і на паднябессе.
З адчыненай бочкі ён, цар Сусвету,
Нівы палівае, як зямлю ліўнямі.

Нівы арашае, зямлю і нябёсы.
Варуна малітваю дождж выдойвае,
Воблакамі ахінае вяршыні —
Мужчыны грозныя аддаюць яму павады свае.

Я раскажу з годнасцю пра вялікага,
Пра цуд Варуны, пра тое, як слаўны
Асура, што стаіць пасярод паднябесся,
Сонцам, нібыта мерай, змерыў зямлю.

Цуд саманатхнёнага бога,
Найвялікшага, ніхто не парушыць.
Іскрыстая плынь вады, разліваючыся,
Акіян усё роўна не напоўніць.

Калі Мітру́, што падобны на светастваральніка,
Ар’яма́ну, гасцейпрымальніку, сябру,
Альбо брату ці чужаніцу мы
Зло прычынілі, Варуна, прабач нам.

Калі ў гульні́ мы, як гульцы, падманем,
Калі мы ведаем пра грэх ці не ведаем,
Развяжы наш грэх, як пятлю слабую,
І хай будзем мы Варунай прылашчаныя.

## ДРУГІ ГІМН ВАРУНУ

У земляным жытле так не хочацца
Жыць мне, Варуна, уладару.
Цар, прабач мне, харошы, злітуйся.

Я трасуся бурдзюком надзьмутым
Перад табою, камнекідальнік.
Цар, выбач мне, ласкавы, змілуйся.

Бяздумна я, выпадкова
Насустрач патоку пайшоў, прасветлы.
Цар, даруй мне, прыхільны, злітуйся.

Пасярод вады, пераняты смагаю,
Гімнатворца, я зноўку прагну.
Цар, перапусці мне, добры, змілуйся.

Калі, Варуна, перад родам бессмяротных
Родам смяротныя абышліся несправядліва —
Мы па глупстве твой закон парушылі —
Ад грахоў адвяжы, не карай нас, божа.

## ГІМН-ДЫЯЛОГ

***Яма́ і Ямі́***

**Ямі**

Павярнула б я сябра на дружбу,
Хоць і прайшоў ён марскія воды.
Мудры, бацькам зачаў бы ўнука,
Прадбачачы толькі працяг свайго роду.

**Яма**

Не, такое дружбы твой сябра не хоча
З жонкаю-адзінакроўкай як з чужароднай,
Бо Асуры, вялікія трымальнікі неба,
На зямлю глядзяць і ўсё бачаць.

**Ямі**

Але ж і самі багі гэтага хочуць,
Няхай бы быў сын ад першага стрэчнага,
Няхай бы ўвайшла думка ў нашы думкі,
Як муж да жонкі, у плоць хай бы ўвайшоў ты.

**Яма**

Калі раней не рабілі мы гэтак, як жа будзем,
Абвяшчаючы праўду, шаптаць няпраўду?
Бо Гандха́рва і яго вадзяная жонка —
Вось пупавіна дваіх адзінародных.

**Ямі**

Сямейнаю параю ў адно ўлонне
Удыхнуў нас Тваштар, бог, стваральнік твараў.
І мы не парушаем яго зарокаў —
Сведкі таму і Зямля, і Неба.

**Яма**

Але ж хто пасведчыць пра тое?
І хто гэта бачыў, і хто раскажа?
Ёсць Варуны-Мітры зарок высокі,
А ты мяне юрнасцю спакушаеш.

**Ямі**

Вось Ямі ўсхацела горача Яму,
Як жонка мужа, запрэгчы на ложы.
Разам круціцца, падскокваць будзем,
Нібы два колы адной калясніцы.

**Яма**

Але ж, зірні, зусім не міргаючы,
Глядзяць на нас вочы багоў нашых:
З іншым круціцца, падскокваць будзеш,
Як два колы адной калясніцы.

**Ямі**

У поўнач яго ўсалоджвала б, у поўдзень
Яна б адводзіла вока Сур'і.
Зямлі і Небу роднасцю мы падобныя,
А непадобнае я панясу ад Ямы.

**Яма**

Будуць падобнае ў родах, што прыйдуць,
Тварыць непадобны з адзінакроўкай,
А цяпер да быка мацней прыціскайся,
Але не да мяне, прыгажуня, а да іншага.

**Ямі**

Навошта ж мне брат, які не бароніць
Сястру, калі ёй пагражае Пагібель?
І зноўку ў страсці, шапчу я зноўку:
«Зліся плоццю з маёю, зліся!»

**Яма**

Не, не зліюся з тваёю плоццю,
Бо я з табою адзінакроўны,
А да цябе няхай іншы прыходзіць,
Бо, прыгажуня, брату — няможна.

**Ямі**

Цяпер ты, Яма, — нікчэмны, Яма:
Ні сэрца, ні думкі не знайшла ў табе я.
Няхай жа іншая цябе абдымае,
Як збруя каня, як ліяна дрэва.

**Яма**

І цябе іншы, і ты іншага, Ямі, абдымеш.
Вы абдымецеся, як ліяна з дрэвам.
У думках знойдзеце адно аднаго, у думках,
І з іншым ты з'яднаешся дружбай.

## ГІМН ЗОРНАЙ НОЧЫ

Вось ноч, узыходзячы, аглядае,
Шматвокая, усе бакі свету.
Яна ў багатым адзенні, багіня.

Вось яна і высі, і шыры, і нізы —
Усё, бессмяротная, напаўняе сабою,
Выганяючы ззяннем змрок.

Выганяючы Зару-сястрыцу,
Набліжаецца да нас, багіня.
Хай прагоніць яна і цемру!

І няхай будзеш цяпер ты з намі,
І хай будзем з табою ў спакоі
Мы — як птушкі ў гняздзе на дрэве.

Супакойваюцца вёскі.
І тыя, хто лятае, і тыя, хто ходзіць.
І нават арлы-працалюбы сцішваюцца.

Уратуй ад ваўчыцы з ваўком,
Уратуй ад начнога злодзея.
Няхай пройдзеш ты, ноч, лёгка і хутка.

Вось да мяне падступіўся капцюрасты
Чорнавыразны доўгі змрок.
Хай яго, як абавязак, світанне патушыць.

Ноч! Табе я давяраю статак.
Неба дачка! Выберы карову
Для пераможнага словаслоўя.

### КАСМІЧНЫ ЖАР

Нарадзіў ён закон і праўду,
Жар Сусвету, што разгарэўся,
А з яго і ноч з’явілася,
І акіянскае хваляванне.

З акіянскага ж хвалявання
І кружэнне года ўзнікла.
Год на дні раздзяліў і ночы
Цар усяго, што міргае ў свеце.

Стваральнік Месяца і Сонца,
Стварыў ён іх пачаргова.
Стварыў і зямлю, і неба,
Паднябессе. І святло — апошнім.

## З «АТХАРВАВЕДЫ»

*Замовы*

### ЗАМОВА СУПРАЦЬ ВОРАГАЎ

Тых бязбожных, тых супастатаў,
Хто, зламысны, на нас умысліў,
Пакары мне, Брахманаспáці,
Ахвярадавальніку, ахвярадзею.

Мнагаклятаму супастату
І славутаму, хто ў нас цэліць,
Дай па лобе яму, Сома, громам,
Хай, разгромлены ўшчэнт, ён загіне.

Ты на ўсякага супастата,
Ці чужы ён, ці ён суродзіч,
Як вялікае неба, Сома,
На яго навалілася. Хай згіне!

### СУПРАЦЬ ВОРАГАЎ, КАБ ПАРАЗІЦЬ ІХ ГРОМАМ

Дзеля праўды пацешся, громапаліца,
Ты спалі жыццё, цараванне яго,
Скруці яму шыю, прадзіраў патыліцу,
Як прадзіравіў Врытру Шачыпáці.

Хто быў зверху, хай будзе ўнізе,
Хто закапаны, з зямлі хай не выпаўзе.
Паразі яго, громапаліца!

Хто прыгнечвае, расшукай таго,
З прыгнятальніка спагані ж усё.
Дай па цемені, громапаліца,
Прыгнятальніку і крыўдзіцелю.

### СУПРАЦЬ ТАГО, ХТО ПРАКЛІНАЕ

Хто кляне нас, нас, без праклёнаў,
Хто кляне нас, хто праклінае,
Паразі таго, як дрэва маланкаю,
Хай на карані той засыхае.

## *Любоўныя загаворы*

### НАГАВОРНЫ —<br>З САЛОДКАЙ ТРАВОЮ

Ты ад мёду, трава, мядовая.
Мы, мядовую, цябе капаем.
Ты ж ад роду, трава, мядовая.
Хай жа будзем і мы з табою салодкія.

На вуснах маіх мёд найсалодкі,
І ў роце маім слодыч мёду.
Саўладаць бы мне з табою, паладзіць,
І каб ты ўсцешыла мяне насалодаю.

Вось мядова я наступаю.
Вось мядова я адступаю.
А і слова маё мядовае.
А і сам я — нібыта мёд той.

А і сам я за мёд саладзімей,
Саладзей за траву мядзвяную.
Пашкадуй ты мяне, найсалодкага,
Як насалодную мядовую галінку.

Вакол цябе я з трысцінаю-пярсцёнкам
Абышоў, салодкі, дзеля ладу-згоды,
Каб быў табе мілым і каханым
І каб ты ад мяне не бегала.

## СУПРАЦЬ РЭЎНАСЦІ

Першым приступам прыступіць рэўнасць.
Другім прыступам прыступіць рэўнасць.
Гэта полымя, пакуту сардэчную,
Мы з табою, дзеля цябе ж, патушым.

Як у зямлі мёртвыя пакуты,
Так і мукі мярцвей за мёртвае.
Як у мёртвага тыя пакуты,
Будзь мёртваю рэўнасць у раўніўца.

У тваім сэрцы яно варушыцца,
Тое раўнівае тваё пачуццейка.
Гэту рэўнасць я зараз выпушчу,
Быццам пару з мяхоў гарачых.

## СУПРАЦЬ ГНЕВУ

Як ту́га напятая цеціва лука,
Хай адпусціцца гнеў сардэчны.
Быў бы толькі лад між намі ды згода,
Каб і надалей жылі мы дружна.

Каб і надалей маглі мы жыць дружна,
Адпускаю твой гнеў сардэчны.
Мы закінем твой гнеў пад камень,
Пад цяжкі, пад ляжачы камень.

Я пятою ступні на гнеў наступаю,
Я наском ступні на гнеў наступаю,
Каб ты ненастойвала гаварыць па-свойму,
Каб усё рабіла па-мойму.

## ЧАРАЎНІЧЫ — З ТРАВОЮ

Вось я капаю, ірву траву-зелле,
Чараўнічае, нагаворнае,
Якое вяртае здалёку
І прывячае тых, хто прыходзіць.

Чым жа А́сура змагла прылашчыць
Індру — бога сярод несмяротных,
Тым і я цябе спакушаю сёння,
Каб была я табой каханая!

Чараўнічая, скіраваная да Сомы,
Нагаворная, скіраваная да Сур'і.
Звярнуўшыся да ўсіх багоў,
Сёння я да цябе звяртаюся.

Ды не ты мне, ды я табе кажу:
Гавары ці не гавары з іншымі,
Ты са мною адною будзеш,
А пра іншых нават не ўспомніш.

Калі ты людзей пазбягаеш,
Калі ходзіш ты за ракою,
Гэта зелле, трава гэта самая,
Хай прывяжа цябе, хай мне верне.

## *Іншыя замовы*

### КАБ КАРОВА ПРЫВЫКАЛА ДА ЦЯЛЯЦІ

Нібы мяса, нібы п’янкое зелле,
Нібы косці да дошкі гральнай,
Нібы ў думках пажадлівы чалавек,
Што прыляпіўся да свае жонкі, —
Так і ты, карова запаведная,
Прыляпіся да свайго цяляці.

Нібы слон, што па пятах ходзіць,
Па слядах які ходзіць за сланіхай,
Нібы ў думках вельмі юрлівы чалавек,
Які прыляпіўся да жонкі, —
Так і ты, карова запаведная,
Да свайго цяляці прыляпіся.

Нібы вось і касяк да ступіцы,
Нібы вобад і вось да ступіцы,
Нібы ў думках чалавек пажадлівы,
Што прыляпіўся да свае жонкі, —
Так і ты, карова запаведная,
Прыляпіся да свайго цяляці.

### СУПРАЦЬ ПАЖАРА Ў ДОМЕ

На тваім ходзе-выхадзе,
Трава-дурва́, расквітней у вадзе,
Прабіся, крынічка, струмлівы ключ
І напоўні лотасавыя віры вадою.

Вось мы ход прасвідруем для водаў,
Вось жытло для акіян-мора.
Дом наш — прытулак пасярод вады.
Не глядзі сюды, шматаблічны!

Вось мы крыем зімнім крывам дах,
Вось мы крыем зімнім крывам дом.
Зрабіся ж, дом, сцюдзёным вірам,
І памагай нам у гэтым Агні-бог.

## СУПРАЦЬ КАШЛЮ

Як думка, якую вядзе ўяўленне,
Удалячынь, страмлівая, адлятае,
Так і вы па раздоллі думкі
Прэч ляціце адгэтуль, кашлі.

Як страла, навостраная востра,
Удалячынь, страмлівая, адлятае,
Так і вы па небасхіле зямлі
Прэч ляціце адгэтуль, кашлі.

Як праменні светлага сонца,
Удалячынь, страмлівыя, адлятаюць,
Так і вы за марскім адлівам
Прэч ляціце адгэтуль, кашлі.

## СУПРАЦЬ ЛІХАМАНКІ

Паклон агнявіцы, паклон трасавіцы,
Паклон жаравіцы моцнай
Ды сцюдзяніцы прастуднай.

Ты, падзённая, ты, двухдзённая,
Ты ўпадзі, ліхаманка, на лягушку.

## СУПРАЦЬ ДРЭННЫХ ПРЫКМЕТ

Цур-цура, дрэнная метка,
Ты адсюль і адтуль адмяціся.
Мы жалезінай, мы рагулінай,
Мы пазначым табою злосніка.

Перакідную, павей-вецер,
Што да мяне, як ліяна да дрэва,
Прыстала. Адмяці яе, Савіта́р-бог,
Залатарукі мой дабрадаўца.

Сто і адна метка на смяротным,
Што з’явіліся пры нараджэнні з плоццю.
Самагоршых мы прэч змятаем,
А самалепшымі памець нас, Джатаве́дас.

Вось пазначыў я і адмёў тых ад гэтых,
Як кароў, што пасвяцца на пастушні.
Няхай застануцца добрыя прыкметы,
Няхай знікнуць дрэнныя прыкметы.

## СУПРАЦЬ РАН І ПЕРАЛОМАЎ

Каставязка ты, кастапраўка,
Ты, зрастальніца арундха́ці,
Ты зрасці паламаныя косці.

Што зламалі ды што разбілі,
Раздрабнілі што ў гэтай плоці,
Дхата́р, ты зноўку збяры ўсё разам,
Складзі шчасліва сустаў да сустава.

Мозг касцявы, з мозгам касцявым сыдзіся,
Вы прыстаньце сустаў да сустава,
Хай, што вырвана разам з мясам,
Хай зрасцецца. І косці — таксама.

Мозг касцявы, з мозгам касцявым зрасціся,
Хай зрастаецца скура са скурай,
З косткай — костка, і кроў — з крывёю,
І хай прыстане да мяса мяса.

Волас да воласа прыкладаючы,
Скуру са скураю злучаючы,
Костку — з косткай ды кроў — з крывёю:
Усё трава, як было, зрасці ты.

Будуйся, узвышайся, калясніца,
Усе вобады, колы, ды ступіцы —
Дзіва дзіўнае ўстань перад намі.

Калі пабіўся, зваліўся ў яму,
Калі каменнем каго закідала,
Ты складзі яму сустаў да сустава,
Як склаў Рыбху́ сваю калясніцу.

# *З філасофскіх гімнаў*

## АХВЯРА

У ахвяру ахвяры ахвярай стварылі багі
Па абрадзе першых ахвярадзеяў.
І вярнуліся гэтыя сілы на неба,
Дзе засталіся ранейшыя багі са́дх’я.

Так з’явілася ахвяра, так яна тут з’явілася.
Так узрасла яна і так распладзілася.
Так яна валадаркаю багоў зрабілася.
Так і нас яна няхай надзеліць багаццем.

Як перад багамі багі здзейснілі ахвяру,
Бессмяротныя бессмяротным з бессмяротнай ісцінай,
Няхай так і мы будзем жыць на вышнім небе,
Няхай убачым гэта на ўсходзе сонца.

Калі чалавекам, як ахвярнай вільгаццю,
Багі здзейснілі ахвярадзею,
Але ж яшчэ мацнейшай бывае ахвяра,
Калі ахвярадзеюць яны без ахвяры.

У ахвяру багі прыносілі сабаку
І, збянтэжаныя, нярэдка часткі каровы.
Хто ж, падумаўшы, зразумеў гэту ахвяру,
Няхай нам раскажа пра тое.

***Пераклад Янкі Сіпакова.***

## СЛОЎНІК ДА ПУБЛІКАЦЫІ

Агні́ — адзін з галоўных багоў у «Рыгведзе» і «Атхарваведзе». Ён азначае абагаўлёны агонь ва ўсіх праявах.

Адзінае — першапрычына, з якой, як з зародку, развіваецца ўвесь Сусвет.

А́дзіці — багіня, маці багоў класа Адзіцяў.

Амры́та — напітак несмяротнасці багоў, прыгатаваны з сомы.

А́нгірас — родапачынальнік Ангірасаў, вялікі мудрэц, якому прыпісваецца аўтарства гімнаў «Рыгведы».

А́нгірасы — клас напаўбагоў, боскіх спевакоў і жрацоў.

Ар’ямá н — адзін з Адзіцяў.

Арундха́ці — лекавая расліна.

А́суры — нябесныя міфалагічныя персанажы ў майя, якія валодалі магутнай чарадзейнай сілай пераўтварэнняў.

Аю́ слуп — тут, магчыма, нейкае племя. Яшчэ «аю» перакладаецца як «рухомы», «чалавек», «міфалагічны персанаж».

Брахманаспа́ці — бог-апякун малітвы і ахвярапрынашэння.

Бык — увасабленне мужчынскай сілы.

Ваджра́ (дубіна грому) — галоўная зброя Індры.

Ва́руна — галоўны бог касмічных водаў, захавальнік касмічнага закону, ісціны і справядлівасці.

Ваю́ — бог ветру.

Врытра́ (затор, перашкода) — дэман-змей, які перагарадзіў цячэнне рэк, выклікаўшы хаос у Сусвеце.

В я р о ў к а з у б а с т а я — змяя.

Г а н д х а́ р в а і А п с а́ р а с — дэман і німфа, бацькі Ямы і Ямі.

Д а́ к ш а — «Рыгведа» называе яго бацькам багоў. Ён нарадзіўся ад Адзіці, маці багоў, і ў той жа час з'яўляецца яе бацькам. Невытлумачальны парадокс.

Д а́ н у — маці Врытры.

Д а́ с а — плямёны, варожыя арыям. Таксама — дэманы.

Д в о е — Зямля і Неба.

Д ж а т а в е́ д а с — эпітэт бога Агні, бо лічылася, што ён ведае ўсе роды багоў і ўсе пакаленні людзей.

Д у р в а́ (трава) — вадзяная расліна.

Д х а т а́ р — абстрактны бог, які спачувае шлюбу і дабрабыту ў доме.

Ж о н к і Т р ы т ы́ — пальцы, якія выціскаюць сок Сомы.

З а п а в е д н а я к а р о в а — тая, якую нельга забіваць.

З е м л я н о е ж ы ц ц ё — тут: у магіле.

І́ н д р а — бог грому, маланкі і вайны. Ён лічыўся царом багоў. Ён водзіць арыяў у бой з варожымі плямёнамі.

К а б ы л і ц ы з б ы к а м і — языкі полымя Агні, якія аб'ядноўваюць жанчын і мужчын.

М а́ н у — прабацька людзей, першачалавек, які жыў на зямлі, устанавіўшы ахвяраванне.

М і т р а́ («сябра», «дружба») — адзін з Адзіцяў. Зычлівы да людзей.

Н е б а д а ч к а — ранішняя зара Ушас, сястра ночы.

П а н і́ — дэманы.

П у ш а́ н — адзін з салярных багоў, які звязаны з дарогамі і ўрадлівасцю.

Р ы б х у́ к а л я с н і ц а. Рыбху — напаўбог, са звычайных людзей. Быў славуты сваім майстэрствам, рабіў цудоўныя калясніцы.

Р ы ж ы х с е м с я с ц ё р — языкі полымя Агні.

С а в і т а́ р — бог, які ўвасабляе сабою жыццёвую сілу сонца.

С а́ д х' я — назва старажытных багоў першага пакалення.

С л е д п р а л я ц е л а й п т у ш к і — шлях сонца, адной з іпастасяў Агні.

С о́ м а («выціскаць») — абагаўлёная расліна, альбо грыб, напітак з яго, бог гэтага напітку, адзін з галоўных багоў «Рыгведы». Выцісканне соку сомы і прыгатаванне з яго напітку бессмяротнасці багоў — амрыты — складала адзін з асноўных рытуалаў «Рыгведы». Сцяблінкі размочвалі ў вадзе, пакуль яны не набухнуць, выціскалі давільнымі камянямі, сок прапускалі праз цадзілку з авечай шэрсці, змешвалі з вадою, малаком, ячменным зернем, разлівалі па драўляным посудзе.

С у́р' я — галоўны салярны бог, якога немагчыма аддзяліць ад самога сонца.

Т в а́ ш т а р — стваральнік усіх жывых і нежывых формаў Сусвету. Выдатны майстра з сякерай у руках. Для Індры ён стварыў дубіну грому — ваджру і калясніцу.

Т р ы т а́ («трэці») — міфалагічны персанаж, сутнасць якога ў «Рыгведзе» сцёрлася.

Ш а ч ы п а́ ц і — апісальнае абазначэнне Індры.

Ш м а т а б л і ч н ы — Агні, бог агню.

Я м а́ — цар мёртвых, які жыве на вышнім небе. Яго не называюць богам. Ён быў першы з бессмяротных, хто памёр.

Я м і́ — сястра Ямы.

Марына СВІСТУНОВА

# ДА 410-ГОДДЗЯ ВЫДАННЯ «АНТЫРЫЗІС»

Пачатак XXI стагоддзя стаў адлічваць пятую сотню гадоў цэламу шэрагу твораў, якія актыўна вывучаюцца гісторыкамі і філолагамі; твораў, якія былі добра, а часам нават скандальна вядомыя ў Вялікім Княстве Літоўскім; твораў, жанр якіх можна вызначыць як рэлігійна-палемічны. Кожны з такіх твораў ёсць унікальнае сведчанне сваёй эпохі і з гэтай прычыны варты пільнай увагі.

На самым пачатку рэлігійнай палемікі, абуджанай правядзеннем Берасцейскай царкоўнай уніі 1596 года, узнікае адно з найбольш вядомых сачыненняў у абарону праваслаўных — «Апокрысіс» Хрыстафора Філалета (Вільня, 1597, на польскай мове; Астрог, 1598, на тагачаснай літаратурнай мове Вялікага Княства Літоўскага, якую мы вельмі ўмоўна (у сувязі з адсутнасцю агульнапрынятага адпаведнага тэрміна) будзем называць старабеларускай). Галоўным літаратурным апанентам Філалета стаў ананімны аўтар «Антырызіса» (Вільня, 1599, на старабеларускай; там жа, 1600, на польскай мове). Паколькі і «Апокрысіс», і «Антырызіс» з’яўляюцца творамі рэлігійнай палемікі, то законы апошняй прадвызначылі своеасаблівую ўзаемаабумоўленасць іх назваў. *Антырызіс* у перакладзе з грэчаскай мовы — ‘супраць адказу, адказ на адказ’. Пад адказам тут трэба разумець кнігу Філалета «Апокрысіс», назва якой перакладаецца з грэчаскай мовы як ‘адказ’. Дададзім, што і Філалет складаў «Апокрысіс» як адказ на кнігі Пятра Скаргі «Synod Brzeski» (Вільня, 1596) і «Obrona synodu Brzeskiego» (Кракаў, 1597), таму і даў свайму твору такую назву. Па-за межамі гэтага кантэксту назва «Антырызіс» можа падацца незразумелай, аднак яна выключна арганічна ўпісваецца ў «анамастыкон» рэлігійна-палемічных твораў канца XVI стагоддзя.

Аўтарам «Антырызіса» лічыцца адзін з «галоўнейшых архітэктараў» (па трапным выразе С. А. Падокшына [20, с. 4]) Берасцейскай царкоўнай уніі 1596 г. — Іпацій Пацей. На нашу думку, дата нараджэння адыграла немалаважную ролю ў станаўленні яго як духоўнай асобы (падрабязней гл. ніжэй), а таму лічым неабходным паведаміць, што нарадзіўся Адам Львовіч Пацей, у будучым Іпацій, 12 красавіка (па новым стылі, 1 красавіка — па старым[1]) 1541 г. Зямны шлях яго скончыўся 18 ліпеня (па новым стылі) 1613 г.

Пяру берасцейскага і ўладзімірскага ўладыкі (1593—1599), а пазней і першага ўніяцкага мітрапаліта (1599—1613) належыць шэраг друкаваных твораў на старабеларускай і польскай мовах: «Унія» (1595, ст.-бел.), «Справядлівае апісанне ўчынку і справы сінодавай» (1597, ст.-бел.), «Антырызіс» (1599, ст.-бел.; 1600, пол.), «Адказ на ліст Мялеція, патрыярха Александрыйскага» (1601, ст.-бел.), «Гармонія» (1608, ст.-бел., пол.), «Рэляцыя» (1609, пол.), «Ліст да князя Канстанціна Астрожскага» (1598, ст.-бел., пол.), «Отпіс на ліст клірыка Астрожскага» (каля

---

[1] У 1582 г. быў прыняты спецыяльны эдыкт папы Грыгорыя XIII аб зменах у календары, у адпаведнасці з якім належала прамінуць 10 дзён, а таму пасля 4 кастрычніка наступіла адразу 15 кастрычніка. Так, напрыклад, невядомы ўдзельнік Берасцейскага сабора 1596 г. піша: *На день зъѣзду, зложоный* ***шостого Октебра по старому, а 17 по новому****, сходилися духовенство и рыцерство, послы…* [1, с. 144].

1599, ст.-бел., пол.). На жаль, з твораў Пацея не захаваліся: «Размова берасцяніна з братчыкам» (1604), «Уваскрослы Налівайка» (1607), «Ерасі, невуцтва і палітыка папоў і мяшчан віленскага брацтва» (1608). З некалькіх соцень рукапісных прамоў, казанняў, гутарак і павучанняў, складзеных Пацеем на старабеларускай мове, захавалася толькі частка. У 1677 г. 74 казанні былі сабраны і выдадзены асобна, а ў 1714 г. яны выйшлі ў перакладзе на польскую мову. Пацей напісаў прадмову, пераклаў на старабеларускую мову і ў 1597 г. выдаў пад адной вокладкай дзве знакамітыя кнігі Скаргі «Synod Brzeski» (Вільня, 1596) і «Obrona Synodu Brzeskiego» (Кракаў, 1597), якія адыгралі вельмі важную ролю ў гісторыі рэлігійнай палемікі, звязанай з Вялікім Княствам Літоўскім. Пацей таксама лічыцца аўтарам кнігі пад назвай «Абарона Фларэнційскага сабора» (Вільня, 1604). Гэта кірылічны варыянт рэлігійна-палемічнага твора «Obrona s. Synodu Florenskiego» (Вільня, 1603), і ён істотна адрозніваецца ад польскамоўнага выдання, аўтарам якога быў Пётр Фёдаравіч або Іосіф Руцкі [7, с. 138]. Унікальны кірылічны экзэмпляр гэтай кнігі сёння знаходзіцца ў бібліятэцы Ватыкана ў Рыме.

Верагодна, пяру і намаганням Пацея належыць і да сёння малавядомы друкаваны твор пад назвай «Ключ на пасхалію» (поўная назва *Клꙋчь на пасхалию водлꙋгъ нового каленьдара римьскаго направленыѕ, черезь Леонарьда Авелꙗ Епископа Сидоньскаго. В Рыме, В дрꙋкарьни Апостольскоѕ Ватыканьско. рокꙋ Божего Тисеча ф.ч.ѕ.*) [15, с. 22—28; 23]. У дарэвалюцыйнай бібліяграфічнай літаратуры ён вядомы як «Книга о новомъ календарѣ»« [11, с. 259—260], «Календарь новый» [18, с. 23—24], «Календарь» [10, с. 9—15]. Надрукаваны — «Ключ на пасхалію» падчас візіту Іпація Пацея і Кірыла Цярлецкага ў 1595 г. у Ватыкан. Два лісты арыгінала некалі знаходзіліся[1] ў Віленскай публічнай бібліятэцы і лічыліся адзінымі вядомымі [18, с. 23]. На жаль, іх, як і многія іншыя рарытэты бібліятэкі, напаткаў лёс страты і небыцця. Сёння твор вядомы ў адзіным экзэмпляры і захоўваецца ў Ватыканскай бібліятэцы. Дарэчы, з таго рымскага падарожжа ў Брэст Пацей прывёз абраз Божай Маці (копію абраза Божай Маці з базілікі Санта Марыя Маджора — адной з чатырох галоўных базілік Рыма), які сёння ўшаноўваецца як цудадзейны, пацвярджэннем чаго стала яго ўрачыстая каранацыя ў 1996 г. Абраз Божай Маці Берасцейскай — першы з сямі каранаваных абразоў на прасторы постсавецкай Беларусі. Сёння абраз знаходзіцца ў Крыжаўзвіжанскім касцёле г. Брэста.

Імя Іпація Пацея звязана з адной амаль дэтэктыўнай гісторыяй пра адкрыццё дакумента 1476 г. — «Эпістоліі да папы рымскага Сікста IV». Нібыта сярод старажытных рукапісаў царквы ў Крэве была знойдзена і дадзеная «Эпістолія». З яе тэксту вынікае, што ў 1476 г., больш як за сто гадоў да берасцейскіх падзей, тры духоўныя іерархі, у тым ліку і Кіеўскі мітрапаліт Місаіл, і 13 свецкіх асоб з Вялікага Княства Літоўскага звярнуліся да папы рымскага Сікста IV з адабрэннем ідэі аб пераходзе пад яго духоўную ўладу. Натуральна, Пацей як адзін з самых галоўных арганізатараў і праваднікоў уніі не мог не скарыстацца з магчымасці яшчэ раз даказаць *упорным* (тым, хто не хацеў прызнаць і прыняць унію), што вяртанне да царкоўнай еднасці (менавіта так ён разумеў злучэнне праваслаўя і каталіцызму пад адзінствам рымскіх папаў) раней ужо праводзілася ў Вялікім Княстве, а таму няма ніякіх прычын для непрыняцця Берасцейскай уніі, якая толькі падмацоўвае факт старажытнага злучэння. Каб пацвердзіць аўтэнтычнасць старажытнага

---

[1] А. І. Мілавідаў, які апісаў кірылічныя старадрукі Віленскай публічнай бібліятэкі, так паведамляе пра знаходку гэтага твора: «Нѣкоторые листы драгоцѣнныхъ и даже теперь совсѣмъ исчезнувшихъ изданій найдены были въ самой же публичной библіотекѣ при ея детальномъ описаніи, при чемъ эти листы иногда оказывались на переплетахъ и обложкахъ книгъ. Такъ былъ найденъ заглавный листъ неизвѣстой дотолѣ библіографамъ книги «О календарѣ новомъ»« [18, Предисловіе, с. 6].

рукапісу, Пацей нават наладзіў у віленскім магістраце «экспертызу», па выніках якой было зроблена і запісана *до книг местъских радецъких* неабходнае заключэнне аб сапраўднасці «Эпістоліі» (Грамата, 197—198). Пасля чаго ў 1605 г. намаганнямі Пацея «Эпістолія» была выдадзена ў кірылічным варыянце, а таксама на польскай мове і такім чынам даведзена да грамадства. Праўда, сумненні ў аўтэнтычнасці твора, апублікаванага Пацеем, бліскучым майстрам мастацкага слова, доўгі час заставаліся. Нават Я. Карскі ў сваім вядомым аглядзе беларускага пісьменства піша пра «Эпістолію» як пра падлог [12, с. 202]. У сучаснасці найбольш грунтоўнае навуковае даследаванне «Эпістоліі» здзейснена Г. Я. Галенчанкам і дэталёва прадстаўлена ў яго аўтарытэтнай манаграфіі «Невядомыя і малавядомыя помнікі духоўнай спадчыны і культурных сувязей Беларусі XV — сярэдзіны XVI ст.» [7, с. 137—141; гл. таксама 6]. На падставе аналізу гістарычных, бібліяграфічных і літаратурных крыніц і — самае галоўнае — вядомых на сённяшні дзень спісаў і перадрукаў «Эпістоліі», аўтар манаграфіі прыходзіць да заключэння аб сапраўднасці дакумента, некалі апублікаванага Пацеем [7, с. 308].

Сёння вядомы і тэкст духоўнага завяшчання Пацея — тастамента — у адпаведнасці з якім пахаваць яго маглі ў адным з чатырох месцаў: Уладзіміры на Валыні, Брэсце, Вільні, Навагародку (Тастам., с. 391—396). Як лічыць С. А. Падокшын, такі выбар Пацея «ўскосна сведчыць пра яго жаданне быць пахаваным на роднай беларускай зямлі» [20, с. 11]. Ва ўсіх чатырох гарадах знаходзіліся епіскапскія рэзідэнцыі. Але, галоўнае, з кожным з гэтых месцаў былі звязаныя пэўныя падзеі яго бурлівага жыцця. Памёр першы ўніяцкі мітрапаліт ва Уладзіміры на Валыні, дзе і пахаваны.

У адпаведнасці з тагачаснай традыцыяй усе творы, якія прыпісваюцца пяру Пацея (натуральна, за выключэннем лістоў і тастамента), выйшлі без указання яго імя — ананімна. Аўтарства сваё Пацей не тое, каб старанна хаваў, але і не афішыраваў. Можа быць, лічыў, што літаратурная палеміка — справа не адпаведная яго высокаму духоўнаму сану. Магчыма, працягваў старажытную літаратурную традыцыю не называць імя аўтара. Ці разумеў, што ўдзел у літаратурнай палеміцы можа пагражаць асабістай бяспецы[1]. Ва ўсялякім разе ні ў водным сваім палемічным творы ён не дае фактычных падстаў для пазнавання асобы аўтара, які амаль паўсюдна прэзентуецца як хрысціянскі святар. Так, у «Справядлівым апісанні ўчынку і справы сінодавай» аўтар піша пра сябе як пра *ѡдного зъ преложоныхъ дѹховныхъ церкви рѹское* (Справ. апіс., А). У «Гармоніі» ён ніяк сябе не называе, абыходзячы такую неабходнасць. І толькі аднойчы ў творы, з якога пачалася палемічная літаратурная дзейнасць Пацея, — «Унія» — ён рытарычна ўсклікае: *А намъ, горкимъ часто* ***епископомъ*** (тут і далей выдзяленне наша — **М. С.**), *которые власть не отъ посполитого человѣка, але отъ Бога и отъ порадныхъ пастырей въ церкви Божой постановленыхъ зъ рукоположениемъ ихъ маемо, не маетъ быти волно о лѣпшомъ порадку въ церкви Божой и о направѣ старатися!* (Унія, 3-Аг). Менавіта гэтае слова даследчыкі прыцягваюць як сведчанне таго, што аўтар твора меў сан вышэйшай (трэцяй) ступені — епіскапа. Праўда, гэтае ж слова можна разумець і ў больш агульным сэнсе — ‘духоўны кіраўнік’, асабліва калі ўлічыць, што ў грэчаскай мове, з якой яно паходзіць, слова *епіскап* мае значэнне ‘наглядчык’. У такім агульным значэнні гэты назоўнік цалкам стасуецца з прыведзеным кантэкстам. Паказальна, што больш нідзе, наколькі нам вядома, Пацей-аўтар не называе сябе епіскапам.

Непасрэднае тлумачэнне таго, чаму «Антырызіс» выйшаў без указання імя аўтара, знаходзім на самым пачатку твора ў польскамоўнай частцы, бо адпаведная кірылічная не захавалася (Antir., 12—13; пераклад наш. — **М. С.**):

---

[1] Пазней, у ліпені 1609 г., на Пацея, які ішоў праз рынак у Вільні, і сапраўды быў здзейснены замах, у выніку якога першы ўніяцкі мітрапаліт страціў два пальцы на левай руцэ.

*Паколькі ён сам сваё ўласнае імя ўтаіў і ў сваёй кніжцы назваць не захацеў і сам сябе нягодным, каб людзі яго ведалі, асудзіў, — таксама і я, які тую справу на сябе ўзяў, каб на некаторыя яго баламутні, хоць і не на ўсе, адпісаць, не называю свайго імя ў гэтым адказе маім, хаця і мог бы зрабіць гэта бяспечна, бо праўды, якой тут у пісанні маім як моцнага фундаменту трымаюся, дасць Пан Бог, не паўстыдаюся. Але раз ён як нягодны сам сваё імя затаіў, то і мне не годна свайго імя такому называць. Але калі лічыць сябе сумленным, няхай падпішацца пад сваёй кнігай. А я не толькі таксама мог бы яму сваё імя ў пісьме назваць, але і сам, безумоўна, на кожным месцы адпавядаць яму буду і няпраўду яго і блюзнерства яўнае паказаць яму гатовы*. Такім чынам, галоўны аргумент аўтара «Антырызіса» — этычны — немагчымасць стаць на адзін узровень з «нягодным» ананімным аўтарам «Апокрысіса». Разам з тым аўтар «Антырызіса» запэўнівае, што, калі аўтар «Апокрысіса» назаве сябе, то і ён абавязкова адкрые сваё імя.

У «Антырызісе» аўтар адсылае чытача, які захацеў бы больш даведацца пра берасцейскія падзеі, да сачынення «Справядлівае апісанне ўчынку і справы сінодавай»[1]: *Пойдемъ же до поступъку того соборыща ихъ противного* (тут гаворка ідзе пра праваслаўны сінод, які праходзіў асобна — заўвага наша, **М. С.**)*: якій былъ, где и на которомъ местцу, и съ кимъ? Хочешъ ли ведати, хрестиянъский брате, чытай собе книжъки Руские, друкованые у Вильни, въ року 1597, не тые, на которые Филялетъ одписъ чынить, але другие, которымъ написъ: Справедливое описанье поступку и справы сыноду Берестейского. Хотяжъ и то добре ведаемъ, ижъ противницы нашы где-кольвекъ ихъ достати могутъ, палять, а то, жебы ся люде хитрости ихъ не доведали.*

*Вшак же и **въ тыхъ моихъ книжкахъ** на своемъ местъцу, кождое речи, яко ся што деяло, прыпомнети не пробачу.* (Антыр., 33)

Пазбаўленыя наступнага кантэксту выдзеленыя словы, здавалася б, і сапраўды прама ўказваюць на тое, што аўтарам і «Справядлівага апісання ўчынку і справы сінодавай» і «Антырызіса» з'яўляецца адна і тая ж асоба [гл., напр., 21, с. 105]. Пагаджаемся з гэтай высновай, аднак прыходзім да яе на падставе агульнасці моўна-стылявых характарыстык тэкстаў: падабенства мовы, вобразных сродкаў, спосабаў вядзення палемікі і інш. А вось працяг прыведзенага вышэй абзаца сведчыць пра тое, што аўтар пад *тыми* сваімі кніжкамі меў на ўвазе якраз «Антырызіс», а не «Справядлівае апісанне ўчынку і справы сінодавай»: *Вшак же и **въ тыхъ**[2] **моихъ книжкахъ** на своемъ местъцу, кождое речи, яко ся што деяло, прыпомнети не пробачу* (не праміну прыгадаць. — **М. С.**). *Только для Пана Бога прошу всихъ правоверныхъ хрестиянъ: уважъте то у себе — слушне ли и справедъливе зъ митрополитомъ и зъ владыками сторона противъная поступовала, бы тежъ и найвинънейшыми быти мели? Бо хотя тежъ Филалетъ шыроко тую речъ розъвелъ, листовъ и привильевъ въ книжки свое наклалъ, але на якомъ фунъдаменъте то збудовалъ — кожный бачъный* (уважлівы. — **М. С.**) *розъсудити можетъ. **На што все, кгды прыйдетъ до которое речы, порядкомъ на своемъ местцу откажетъся ему**.* (Антыр., 33—34)

І менавіта ў «Антырызісе», калі дойдзе справа да разгляду акрэсленых пытанняў, будзе дадзены адказ на іх. Невыпадкова ў апошнім сказе дзеясловы маюць форму будучага часу.

---

[1] А ў самім «Справядлівым апісанні ўчынку і справы сінодавай» Пацей спасылаецца на кнігу Пятра Скаргі «O rządże y jedności kosciołа Bożego pod iednym pasterzem» (Кракаў, 1590): *А кто хочетъ ѡ томъ ведати ѿсыламь его до ѡвыхъ книжокь ѿ кнѧзѧ Петра Скаргги ѡ порадкꙋ и единости церъкви божое выданыхъ попольскꙋ, в рокꙋ, ҂афч.* (Справ. апіс., Ад).

[2] Параўн. яшчэ: *nie kładę imienia swego w **tym** responsie moim* (Antir., 12) — не называю імя свайго ў **гэтым** адказе маім — паведамляе Пацей літаральна на першых старонках «Антырызіса», разумеючы пад адказам гэты ж твор (гл. вышэйпрацытаваны ўрывак).

Такая наша трактоўка дадзенага пасажа грунтуецца і на разуменні адметнасці старажытнага займенніка. Справа ў тым, што ў сучаснасці мы супрацьпастаўляем *гэты* ('бліжэйшы') і *той* ('аддалены', 'іншы') прадметы гаворкі, паказваючы на іх адпаведнымі займеннікамі. Аднак у старабеларускай мове ўказанне на аддалены прадмет «стаў выконваць займеннік *той (тотъ),* а паказальнік на бліжні прадмет *сей (сий), сия, сие* выпаў, функцыю апошняга ўзяў на сябе ўказальны займеннік *геты(й), гета(я), гета(е),* што ўзнік шляхам складання форм *той (тотъ), тая (та), тое (то)* з указальнай часціцай *ге.* У старабеларускіх помніках гэты займеннік **пашырэння не атрымаў**, фіксацыя яго тут абмяжоўваецца спарадычнымі выпадкамі» [4, с. 119]. Такім чынам, паколькі займеннік *геты(й)* у літаратурнай мове таго часу фактычна не выкарыстоўваўся, можна канстатаваць, што ў прыведзенай цытаце адсутнічае і супрацьпастаўленне, выражанае сучаснымі займеннікамі *гэты* ('бліжэйшы') і *той* ('аддалены', 'іншы'). Да ўказальных займеннікаў старабеларускай мовы акрамя *той (тотъ)* і *сей (сий)* адносіліся і займеннікі *онъ (оный), овъ (овый)*[1]. Аднак выкарыстоўваліся яны значна радзей і мелі значэнне, блізкае значэнню займенніка *той (тотъ)*. Лічым, што ў дадзеным кантэксце выраз ***въ тыхъ моихъ книжкахъ*** **трэба суадносіць менавіта з «Антырызісам»**, а таму ён не можа лічыцца сведчаннем прыналежнасці аўтарства «Антырызіса» і «Справядлівага апісання ўчынку і справы сінодавай» адной і той жа асобе, пра што сведчыць, як ужо гаварылася вышэй, найперш агульнасць моўнастылявых характарыстык абодвух тэкстаў, а зусім не дадзены пасаж.

Няхай сучаснага чытача не бянтэжыць форма множнага ліку назоўніка, які абазначае насамрэч адзін твор: *въ тыхъ моихъ книжкахъ* — мы маем справу з традыцыйнай формай, якая ўзыходзіць да старажытнага назоўніка **кънигы** ('кніга'). Дарэчы, у «Отпісе на ліст клірыка Астрожскага» Пацей адсылае чытача *до книжокъ, названыхъ Антирызисъ* (Отпіс, 542), выкарыстоўваючы ізноў жа форму множнага ліку.

Думаецца, многія з тагачасных чытачоў здагадваліся, хто стаіць за радкамі ананімных кніг, што так хвалявалі грамадства, занятае спрэчкамі вакол царкоўнага аб'яднання. Але, напэўна, не ўсе ацанілі дасканаласць імя аўтара. Самі па сабе імя і прозвішча — *Іпацій Пацей* — з'яўляюцца своеасаблівым прыкладам мастацкіх адносін да слова, якім віртуозна валодаў іх носьбіт. Свецкае імя Пацея — Адам Львовіч; Іпаціем ён стаў у 1593 г., падчас прыняцця пострыгу. Вядомы тэкст граматы ад 20 сакавіка 1593 г., пасланай каралём Жыгімонтам ІІІ Кіеўскаму мітрапаліту Міхаілу, з рэкамендацыяй Пацея на пасаду епіскапа Уладзімірскага і Берасцейскага і загадам пасвяціць яго *водлугъ закону Греческого на тотъ станъ духовный епископскій* [1, с. 62—63]. А ўжо 1 красавіка (па старым стылі) упаўнаважаныя прымалі маёмасць, належную новаму ўладыку [25, с. 29]. На нашу думку, цырымонія пострыгу магла адбыцца 30 або 31 сакавіка (па старым стылі). Менавіта ў гэты дзень праваслаўная царква, што захавала *стары* каляндар, ушаноўвае памяць свяшчэннамучаніка Іпація Гангрскага[2], які ў такім

---

[1] Параўн., у вышэйпрыведзенай цытаце: **Ѿ***сыламь его до* ***wвыхъ*** *книжокь* (Справ. апіс., Ад) — адсылаю яго да **тых** кніжак.

[2] У праваслаўным месяцаслове вядомы Іпацій (дзень памяці 14.12 — даты падаюцца па старым стылі), Іпацій Візантыйскі, мучанік (3.06), Іпацій Гангрскі, свяшчэннамучанік, епіскап (31.03; 16.11), Іпацій Эфескі, свяшчэннамучанік, епіскап (21.09), Іпацій Пярсідскі, свяшчэннамучанік, епіскап (20.11), Іпацій Пячорскі, цалебнік (28.08; 31.03), Іпацій Руфіанскі, ігумен (31.03), Іпацій Сінайскі, прападобны мучанік (14.01), Іпацій Трыпалійскі, мучанік (18.06). (Паводле сайтаў http://days.pravoslavie.ru і http://pravoslavie.by). Такім чынам, на 31.03 прыходзіцца ўшаноўванне памяці ажно трох Іпацieў: цалебніка Іпація Пячорскага, ігумена Іпація Руфіанскага, свяшчэннамучаніка Іпація епіскапа Гангрскага. Лічым, што нябесным апекуном Пацея стаў менавіта свяшчэннамучанік Іпацій епіскап Гангрскі, якога асабліва шанаваў праваслаўны Усход.

разе можа лічыцца нябесным апекуном прыняўшага манаства Пацея. Урачыстая хіратанія Пацея адбылася 27 мая (па старым стылі) [25, с. 29]. Вельмі важна, на наш погляд, што дзень прыняцця Пацеем манаскага імя амаль супаў з яго ўласным днём нараджэння — 1 красавіка (па старым стылі), а прозвішча рода, да якога ён належаў, — *Пацей* — паходзіць ад імя дзеда Адама Львовіча, якога звалі *Іпацiем (Пацеем)*[1]. Грэчаскае па паходжанні імя *Іпацій* (‘найвышэйшы’) на беларускай моўнай глебе трансфармавалася. Паводле назіранняў М. В. Бірылы, «ИПАТИЙ Зарэгістравана ў XVI і XVIII стст. 7 разоў у форме *Патей* […] можна рэканструяваць 18 форм і варыянтаў імені *Ипатий: Іпат, Пацей, Пацейка, Пацяйчук, Пац, Пацка, Пацай, Пацайка, Пацук, Пацэй, Пацэйка, Пацян, Пацулян, Пацыла, Пацына, Пацынка, Пацюшка, Пацютка.* У Беларусі, па сведчанні помнікаў пісьменнасці і СБП, ужываліся дзве ўсходнеславянскія формы: форма на [-ей] у варыянтах *Пацей*, *Пацэй* і форма без канцавога [-ий] — *Іпат.*» [3, с. 90]. Такім чынам, словазлучэнне *Іпацій Пацей* ёсць па сутнасці паўтарэнне аднаго і таго ж уласнага імя, змененага фанетычна, дзякуючы чаму спалучэнне і набыло такое гарманічнае гучанне.

Ці ведаў Пацей пра фанетычную дасканаласць уласнага імя і прозвішча? Думаем, што Пацей, які не толькі шанаваў мастацкае слова, але і сам вельмі ўмела ім карыстаўся, разумеў і цаніў сугучча ўласных імя і прозвішча. Па даўняй хрысціянскай традыцыі ён, як асоба духоўная, называе толькі імя, без прозвішча, і ўказвае свой сан: *Ипатей епископъ, властною рукою* [1, с. 68, 70]; *Ипатей епископъ Володимерскій и Берестейскій* [1, с. 81, 93]. У лісце ад 3 чэрвеня 1598 г. да князя Астрожскага Пацей называе сябе ў адпаведнасці з тагачасным лістоўным этыкетам: *многогрешный слуга церкви Божое и богомолецъ его королевское млости и вашое княжецкое милости Ипатей, епископъ Володимерскій и Берестейскій* (Ліст, 435). А пад лістамі да Кіеўскага мітрапаліта Міхаіла (ад 16 снежня і 11 лютага 1595 г.) Пацей, як малодшы па сану, падпісаўся *Вашей милости, моего милостивого пана и старшого, слуга и сынъ послушный, смиренный Ипатей епископъ* [1, с. 82, 86]. Пад духоўным завяшчаннем самога Пацея знаходзім подпіс *Ипатей архиепископъ власною рукою сесь тестаментъ подписалемъ* (Тастам., с. 395). Радзей пад дакументамі сустракаецца подпіс Пацея з указаннем імя і прозвішча. Так, напрыклад, дапаўняў тастамент Пацея рэестр, напісаны на польскай мове, які рэгуляваў падзел рухомай маёмасці і быў падпісаны *Hipatius Pociey, mitropolit Kiowsky i wszystkiey Rosi, władyka Włodzimierskiy i Brzescky, własna ręka* [2, с. 415]. А ў тэксце тастамента чытаем: *…я, Ипатей Потей, Божою милостию архиепископъ митрополитъ Киевъский, Галицкий и всея Руси, владыка Володимерский и Берестейский…* (Тастам., с. 392). Пад іншым вельмі важным дакументам — саборнай граматай ад 8 кастрычніка 1596 г. аб прыняцці уніі — епіскап Уладзімірска-Берасцейскі падпісаўся другім пасля Кіеўскага мітрапаліта Міхаіла: *Ипатей Потѣй, Божою милостью епископъ Володимерскій и Берестейскій, рукою властною* [1, с. 141]. Імя і прозвішча *Ипатія Потѣя, протоѳронія, епископа Володимерского и Берестейского* называюцца і ў самім тэксце саборнай граматы [1, с. 141], а таксама і ў акружной каралеўскай грамаце ад 14 чэрвеня 1596 г., дзе паведамляецца, што *выправлены были послами до светого папежа, до столицы апостольской Римской, велебные, Ипатей Потей епископъ Володимерскій и Берестейскій, и Кирило Терлецкій, ексарха, епископъ Луцкій и Острозскій* [1, с. 97]. А пры ўнясенні ў гродскія, земскія і інш. афіцыйныя кнігі дакументаў, якія былі складзены пры жыцці Уладзімірска-Берасцейскага епіскапа і ў якіх сустракаецца яго імя, выкарыстоўваюцца формы накшталт *в Бозе велебный*

[1] *Пацеі*, шляхецкі род герба «Вага». Родапачынальнік Ходзька Каранеўскі, сын якого Тышка за службу ў вялікага князя Казіміра [1440 — 92] атрымаў некалькі вёсак у Камянецкай воласці. Ад імя яго сына Пацея пайшло родавае прозвішча [4, с. 420].

*отец Ипатей Потей, митрополит Киевский, Галицкий и всея Руси, владыка Володимерский и Берестейский* [гл. 2, с. 312, 320, 330, 338, 342, 387, 389, 390, 391, 392, 399, 411, 415]. Такім чынам можна адзначыць, што форма афіцыйнага імя на мяжы XVI — XVII стст. была абумоўлена сферай выкарыстання: у рэлігійнай сферы ўказваліся толькі імя і сан, а ў афіцыйна-справавой сферы ўказваліся імя, прозвішча і сан, прычым існавалі досыць сталыя адпаведныя формулы гэтага ўказання пры адначасовай магчымасці іх вар'іравання.

Большасць твораў Іпація Пацея напісана на тагачаснай літаратурнай мове Вялікага Княства Літоўскага, якую досыць умоўна (паколькі яна не можа лічыцца ні набыткам выключна беларускім, ні набыткам выключна ўкраінскім) мы называем старабеларускай, частка — на тагачаснай польскай. Цалкам натуральна, што гэтыя тэксты ўжо неаднаразова выступалі аб'ектам лінгвістычных даследаванняў, аднак грунтоўныя працы аб мове твораў Пацея яшчэ наперадзе. Дарэчы, на іх неабходнасць ужо даўно звяртаюць увагу не толькі гісторыкі-філолагі, але і гісторыкі філасофіі і рэлігіі на землях Беларусі. Так С. А. Падокшын, разважаючы над нацыянальнай прыналежнасцю Пацея, слушна заўважае: «… тут сваё важкае слова павінны сказаць спецыялісты-філолагі, прааналізаваўшы мову твораў Пацея-пісьменніка» [20, с. 10].

Неабходна адзначыць, што Пацей як майстар мастацкага слова знаходзіўся ля вытокаў беларускай паэзіі. І хаця сёння вядомы ўсяго толькі адзін яго паэтычны твор, напісаны па-польску, тым не менш і яго нельга пакінуць убаку пры даследаванні гісторыі беларускай паэзіі. Тэксту вышэйзгаданай «Эпістоліі» (1605) папярэднічаў вершаваны зварот да чытачоў: у польскамоўным выданні — «Parenetica. Jednego do swej Rusi» (с. 6 нн. — 7 нн.); на жаль, як паведамляе Г. Галенчанка, «сучаснае месцазнаходжанне кірылічнага выдання невядома» [7, с. 284], можна толькі выказаць здагадку, што ў ім быў пададзены верш на старабеларускай мове. У «Анталогіі даўняй беларускай літаратуры» змешчаны пераклад верша Пацея, таленавіта зроблены Алесем Бразгуновым (гл. Паранэтыка). Але не толькі з-за складання адзінага дайшоўшага да нас верша варта гаварыць пра паэтычную дзейнасць Пацея. Паводле нашых назіранняў, мове яго палемічных твораў уласціва адметнасць, якую можна назваць інтэнцыяй да рыфмавання выказвання [22]. Праяўляецца яна рознымі спосабамі. Напрыклад, асобныя выказванні пабудаваны так, што выказнікі ў іх утвараюць рад лексем, якія рыфмуюцца і да таго ж маюць выразную стылявую афарбоўку: *бо за ихъ стараньемъ злость и неправость увесдѣ обфитуетъ* (знаходзіцца, пашыраецца. — **М. С.**)*, а любовъ* ***стынетъ*** *и до конца* ***гинетъ*** (Унія, 46); *не то*$^{т}$ *которыи* ***почнеть****, але которыи* ***доконаеть****, благословенныи* ***бываеть*** (Справ. апіс., Д); *бо не такъ* ***верышъ****, яко* ***пишешъ****, ани такъ* ***пишешъ****, яко* ***видишъ*** *(и* ***читаешъ****), але што лепшого* ***минаеш*** (Антыр., 247); *Мощы светыхъ церковъ Восточная завжды въ почтивости мѣла и теперъ* ***маетъ****, и учтиве ихъ* ***ховаетъ****, храмовъ Божыхъ и антимисовъ безъ нихъ не* ***посвещаетъ*** (Гарм., 15 адв.) і інш.

Сучасная даследчыца гісторыі ўніяцтва на Беларусі С. Марозава не толькі звярнула ўвагу на паэтычны талент Пацея, але і вельмі слушна адзначыла, што Пацей стаяў таксама і ля вытокаў айчыннага крыніцазнаўства і гістарыяграфіі — ён не толькі працаваў са шматлікімі крыніцамі, але і ўпершыню надрукаваў адну з іх (маецца на ўвазе публікацыя «Эпістоліі» — заўвага наша, **М. С.**) [17, с. 168—169]. Фактычна ўсе пісьменнікі-палемісты працавалі з крыніцамі, без прыцягнення якіх немагчыма весці дыскусію, абгрунтаваць уласныя высновы, абвергнуць апанента, зрабіць аўтарытэтную спасылку, пераканаць чытача. Натуральна, Пацей таксама карыстаўся шматлікімі дакументальнымі крыніцамі, і ў гэтым яго літаратурна-палемічная дзейнасць не адрозніваецца прынцыпова ад дзейнасці іншых тагачасных пісьменнікаў-палемістаў. Аднак менавіта Пацей быў першым, хто наладзіў экспертызу старажытнай крыніцы і нават атрымаў афіцыйны дакумент ад віленскага магістрата аб яе аўтэнтычнасці. Выпадак па тых часах проста беспрэцэдэнтны.

Літаратурная спадчына Іпація Пацея багатая і вартая самага ўважлівага вывучэння, упэўніцца ў чым можна, пазнаёміўшыся з адным з яго твораў — «Антырызісам».

У адпаведнасці з барочнай традыцыяй поўная назва твора доўгая, віціеватая і змястоўная. Можна толькі выказаць здагадку, што польская назва адпавядае больш ранняй па часе назве кірылічнага варыянта, у якім 24 пачатковыя старонкі не захаваліся. На тытульнай старонцы польскага варыянта пазначана: *ANTÍPPHΣIΣ abo apologia przeciwko Krzysztofowi Philaletowi, ktory niedawno wydał ksiąszki imieniem starożytney Rusi religij Greckiey przeciw ksiąszkom o synodzie Brzeskim napisanym w roku Pańskim 1597. W Wilnie. Przez Daniela Lanczyckiego. Roku Pańskiego 1600.*[1] (Antir., ненум.). Кірылічны варыянт кнігі ўнікальны — сёння вядомы адзіны экземпляр, які захоўваецца ў фондзе старадрукаваных кніг Расійскага дзяржаўнага архіва старажытных актаў (былы Цэнтральны дзяржаўны архіў старажытных актаў) у Маскве [13]. Мяркуючы па яго апісанні [гл. 13], гэта той самы старадрук, які некалі належаў Маскоўскаму галоўнаму архіву Міністэрства замежных спраў і паводле якога была выканана публікацыя ў «Рускай гістарычнай бібліятэцы» (Антыр., гл. прадмову да ўсяго тома, с. VI). Цалкам верагодна, што гэта і той самы экзэмпляр, які некалі належаў князю М. А. Абаленскаму і паводле якога ў чацвёртым томе «Актов, относящихся к истории Западной России, собранных и изданных Археографическою комиссиею» была зроблена публікацыя працытаваных у «Антырызісе» дакументаў [1, с. 88—90, 63—66, 97—99]. Ва ўсякім разе пасля ліста Пацея да князя Астрожскага змешчана наступнае ўказанне: «Выписано изъ старопечатной ветхой книги, содержащей в себѣ апологію Уніи. Она вся напечатана курсивными литерами, въ 4 д. л. на 547 страницахъ, въ числе которыхъ **недостаетъ однако несколькихъ тетрадей въ началѣ книжки, также и листа выходнаго**, а потому заглавіе ея опредѣлить съ точностію трудно. Екземпляр этой рѣдкой книги принадлежитъ Члену Археографической Комиссіи, князю М. А. Оболенскому» [1, с. 90].

Кірылічны варыянт «Антырызіса» ўяўляе сабой кніжку фарматам у 4°, надрукаваную курсіўным шрыфтам, адным (чорным) колерам. Непасрэдна твор займае 415 старонак, аднак ацалелі не ўсе з іх. Як гэта часта здараецца са старажытнымі кнігамі, найбольш пашкоджаным аказаўся менавіта пачатак. Кірылічны тэкст пачынаецца ажно з 25 старонкі, старонкі 29 — 32 адсутнічаюць, далей старонкі ідуць, пачынаючы з 33; не захаваліся і старонкі 263 — 270. Замыкае твор зварот да хрысціян, злучаны з выбаркай з прывілеяў каралёў Рэчы Паспалітай і аўтарскімі каментарыямі (старонкі 406 — 434). У самым канцы кірылічнага варыянта (як, дарэчы, і польскамоўнага) змешчаны два самастойныя творы: «Ліст Іпація Пацея да княза Астрожскага» (434—476), «Отпіс на ліст неякага клірыка Астрожскага» (481—547).

Польскамоўны варыянт кнігі мае 181 старонку і пачынаецца з тытульнай, на якой размешчаны загаловак і адварот якой пусты; старонкі 1 — 3 займае прысвячэнне канцлеру ВКЛ Льву Сапегу, напісанае на лаціне; далей (старонка 4) размешчаны таксама лацінамоўны ліст з канцыляры і Яна Замойскага, у якім, між іншым, гаворыцца, што сам князь нічога не ведаў ні пра прысвечаны яму «Апокрысіс», ні пра яго аўтара. На 5 старонцы яшчэ раз падаецца назва кнігі і змешчана невялікае ўпрыгожанне; старонкі з 6 па 15 займае прадмова да чытача. Астатняя частка польскамоўнага «Антырызіса» пры параўнанні яе з ацалелай кірылічнай выяўляе шэраг тэксталагічных несупадзенняў, аналіз якіх дазволіў навукоўцам прыйсці да

[1] Антырызіс або абарона супраць Крыштафа Філалета, які нядаўна выдаў кніжку ад імя старажытнай Русі грэчаскай веры супраць кніжкі пра сінод Берасцейскі, напісанай у року Панскім 1597. У Вільні. Праз Даніэля Ланчыцкага. Року Панскага 1600. (Пераклад наш. — М. С.)

высновы пра больш позні час стварэння польскамоўнага варыянта «Антырызіса». У аддзеле рукапісаў, рэдкай і старадрукаванай кнігі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі можна азнаёміцца з мікраформай польскамоўнага тэксту.

Сцісла апісаць змест «Антырызіса» вельмі цяжка, паколькі ў гэтым творы, як і ва многіх іншых рэлігійна-палемічных выданнях таго часу, гаворка ідзе на злабадзённыя тэмы, звязаныя з Берасцейскай царкоўнай уніяй. Так, напрыклад, горача абмяркоўваліся ўмовы і абставіны правядзення царкоўнага сабора, а дакладней — двух асобных царкоўных сабораў, што адбыліся ў 1596 г. у Брэсце: ці на належным месцы праводзіліся, ці была зроблена папярэдняя абвестка пра іх, хто браў у іх удзел, ці маглі прымаць удзел у царкоўным саборы свецкія асобы, і ці могуць яны наогул разважаць пра духоўныя справы, ці мог сабор адбыцца, калі не ўсе ўладыкі прысутнічалі на ім, які з сабораў «важнейшы» — той, дзе знаходзіўся мітрапаліт, ці той, дзе знаходзіўся патрыярх, ці маглі два ўладыкі з патрыярхам адлучыць і асудзіць пяцёх уладык і мітрапаліта і інш. Другое не менш шматлікае кола пытанняў было звязана з абмеркаваннем *всихъ пунъктовъ науки, о которые церковъ Греческая зъ Рымляны споръ ведеть*, сярод якіх найважнейшыя — гэта пытанні пра паходжанне Святога Духа (філіоквэ), пра існаванне чыстца (пургаторыя), пра антыхрыста, яго слуг і знакі, пра прыярытэт духоўнай улады (папа рымскі — канстанцінопальскі патрыярх), пра неабходнасць зменаў у календары.

Можна адзначыць, што выступіўшы супраць кнігі Філалета, Пацей, як ён сам сказаў на пачатку свайго сачынення, *na niektore iego bałamutnie, chocia nie na wszytkie, odpisał* (Antir., 12). Сапраўды, адны спрэчныя месцы Пацей асвятляе досыць падрабязна, іншыя мінае. Пры гэтым ён аддае перавагу тым пытанням, для аргументацыі якіх можа выкарыстаць якія-небудзь дакументальныя крыніцы, напрыклад, уласную перапіску.

Тэксты кірылічнага і польскамоўнага варыянтаў «Антырызіса» сёння вядомы не толькі ў арыгіналах, але і паводле перавыдання ў 3 томе «Помнікаў палемічнай літаратуры ў Заходняй Русі», зробленага «Рускай гістарычнай бібліятэкай» яшчэ ў 1903 г. На жаль, ацалелы кірылічны тэкст цалкам больш так і не перавыдаваўся. А вось польскі тэкст яшчэ раз перавыдадзены ў 1995 г. ва Вроцлаве (Antirresis). Перавыданне «Антырызіса» магло б спрасціць доступ сучасным даследчыкам, якія вывучаюць яго не толькі з боку мовы і літаратуры, але і як гістарычнае сведчанне, тым больш, што на старонках твора Пацей змясціў шэраг дакументаў — акрамя вялікай колькасці вытрымак, яшчэ і поўныя тэксты: *Листъ княжати его милости першый, дата зъ Люблина, июня 21 дня, року 1593* (Антыр., 95—105); *Листъ другий владыки Володымеръского, писаный до его милости пана воеводы Киевъского, зъ Володымера, дата марца 25 дня, року 1595* (Антыр., 117—125); *Листъ владыки Володымеръского до его княжацъкое милости пана воеводы Киевъского писаный, зъ Рожанъки, іюня 16 дня, року 1595* (Антыр., 133—141); *Инъструкцыя*[1] *пану Лушъковъскому, до Торуня на сынодъ евангелицъкій, который маетъ быти августа 21 дня* (Антыр., 150—160); *Копия листу единого сенатора до*

[1] Гэтая «Інструкцыя» адыграла не апошнюю ролю ў справе царкоўнай уніі. Ва ўсякім разе так, здаецца, лічыў сам Пацей, які вобразна пісаў пра яе: *А тутъ маешъ тую нещасливую колоду, которая завалила дорогу до того сыноду, которого былъ его королевъская милость зъ добротливое ласки своее позъволити рачылъ* (Антыр., 160). Са слоў аўтара «Антырызіса», «Інструкцыя» нейкім чынам трапіла да караля, які быў абражаны як яе зместам, так і дзёрзкім тонам князя Астрожскага. Пасля гэтага кароль адмовіў у папярэдне дадзенай згодзе на правядзенне праваслаўнага сабора, які павінен быў адбыцца перад паездкай Іпація Пацея і Кірыла Цярлецкага ў Рым і на якім меркавалася давесці да грамадства мэты гэтай паездкі і ўмовы далучэння. У выніку царкоўная унія была заключана ў Ватыкане фактычна без шырокага абмеркавання яе ў Вялікім Княстве Літоўскім, што на ўсе наступныя стагоддзі дало падставы для папрокаў у таемнасці правядзення і — адпаведна — сумненняў у легітымнасці.

*его милости пана воеводы Киевъского* (Антыр., 162—167); *листъ папежский* (без уступнай часткі) (Антыр., 222—227); *Копия зъ листу его королевское милости. 22 марца року 1599*[1] (Антыр., 318—320). Акрамя гэтага ў кірылічным варыянце ёсць прывілей пад назвай «*Въ составе пятомъ, уставленіе Великого Костенътина*» (Антыр., 71—72; праўда, укладальнікі тома не сумняваюцца, што гэты прывілей падложны, пра што і паведамілі ў зносцы на с. 542), а ў польскім варыянце тэксту змешчаны ліст ад 24 чэрвеня 1591 г. ад імя ўладык Луцкага, Львоўскага, Пінскага, Холмскага, у якім паведамляецца пра іх захады адносна уніі (Антыр., 133—141). На старонках «Антырызіса» можна знайсці вялікую колькасць цытат з самых розных дакументаў: ад пастаноў Усяленскіх сабораў, да каралеўскіх загадаў і прыватных лістоў. Усе яны маюць на мэце пераканаць чытача ў абгрунтаванасці сцвярджэнняў і высноў аўтара «Антырызіса» і выкрыць падман аўтара «Апокрысіса». Думаецца, што наяўнасць сучаснага якаснага перавыдання дапамагла б зацікаўленым філолагам і гісторыкам вырашаць, з'яўляюцца гэтыя дакументальныя аргументы дакладнымі спісамі аўтэнтычных адпаведнікаў ці вынікам літаратурнага таленту самога аўтара.

Акрамя спасылак на афіцыйныя дакументы ў тэксце «Антырызіса» багата і спасылак на тэксты Свяшчэннага Пісання, творы айцоў царквы і папулярных у той час антычных аўтараў. Так, Пацей заўважае Філалету: *а паметай на оные слова Гомеровы: «якое слово прорчешъ, таковоежъ и услышишъ»* (Антыр., 385). Дарэчы, у «Отпісе на ліст клірыка Астрожскага» Пацей прыводзіць гэтыя ж крылатыя словы: *паметайже на оные слова поеты зацного Гомеруса, еслись ихъ коли читалъ: «яково слово речешъ, таковоежъ и услышишъ»* (Отпіс, 484—485).

Іпацій Пацей надзвычай эмацыянальны аўтар, які да таго ж цудоўна валодаў жывой народнай мовай, дзякуючы чаму яго тэксты набываюць непаўторны каларыт і робяцца лёгка пазнавальнымі на фоне іншых палемічных твораў таго часу. Ён досыць часта выкарыстоўвае народныя выслоўі, устойлівыя выразы:

- *А тут Ѳилялетъ самъ своею власною сокиркою подтялъся* (Антыр., 343);
- *Баба на торгъ гневалася, а торгъ о семъ ани ведалъ* (Антыр., 338);
- *Въ царествии небесномъ ... бы далъ Богъ, яко оно мовятъ, и за печъю усести* (Антыр., 189);
- *Дворъ ... ветромъ горожонъ* (Антыр., 389);
- *Добре имъ тые потравы* (стравы — **М. С.**) *прысолодивъши, на насъ, безъ насъ урадивши* (рашыўшы — **М. С.**)*, на шыи наши усадили* (Антыр., 151);
- *На то очи розъзявилъ* (Антыр., 233);
- *Опарывшися на молоце, и на воду дмухаетъ* (Антыр., 216);
- *Познаютъ куколь межи пшеницою!* (Антыр., 73); *куколь* — 'пустазелле'.
- *Помени на оную прыказку: собака брешетъ, а ветръ несетъ* (Антыр., 404);
- *Посполите* (звычайна — **М. С.**) *съ пустого корча альбо сова, альбо пугачъ вылетаетъ* (Антыр., 384);
- *Пусти только ушы на торгъ, зоставъ другое ухо стороне, доведаешъся и большей того, анижъ ся тутъ написано!* (Антыр., 168);
- *Сами бьете, сами жалуете, самижъ бивши и плакати не даете* (Антыр., 332) і *бившы набившы — и плакати не велятъ* (Антыр., 409);
- *Самъ гуду, самъ же и плешу* (Антыр., 290);
- *Умеемъся (поведа) своею пядию мерыти* (Антыр., 328);
- *Што ядовитая слинка до устъ прынесла* (Антыр., 383);
- *А протожъ радилъ бы-мъ я Ѳиляletови, абы лепей у свою манътыку смотрелъ, што въ ней носитъ, а въ чужую не загледалъ* (Антыр., 386). Лексема

[1] Па нашых назіраннях, 22 сакавіка 1599 г. — самая позняя канкрэтная дата, названая ў творы, а гэта азначае, што «Антырызіс» мог быць надрукаваны толькі пазней.

*манътыка* не засведчана «Гістарычным слоўнікам беларускай мовы», але там знаходзім лексемы *мантъ, мантия, мантья* ‘доўгая шырокая адзежына ў выглядзе плашча’ [9, вып. 17, с. 257]. Падобны выраз знаходзім і ў іншым творы, ужо адкрыта падпісаным Пацеем: *Не загледайже ты въ мою манътыку! смотри свое сукни, што въ ней несешъ!* (Отпіс, 488), што сведчыць як пра моўнае падабенства гэтых тэкстаў, так і пра пашыранасць дадзенага выразу ў тагачаснай мове.

• *Але и я на блазна-мъ походилъ, же ся такъ долъго въ речъ удаю зъ шаленымъ холопомъ, который, подобно маслоку опившися, леда што бредитъ!* (Антыр., 404). *Маслокъ* — напой з канаплі, які ап’яняе [24, с. 35]. Гэтая лексема ў XVII ст. была вядома рускай мове [24, с. 35] і, як паказвае вышэйпрыведзены прыклад, старабеларускай мове, а таксама і польскай — у польскім варыянце «Антырызіса» гэтаму фразеалагізму адпавядае *podobno maśloku opiwszy się* (Antir., 170). І хаця «Гістарычны слоўнік беларускай мовы» дадзеную лексему не фіксуе, яе існаванне засведчана ў тэксце «Антырызіса».

• *А тутъ ми вже прыйдетъ съ Ѳилялетомъ праве яко въ шранъки въступити* (Антыр., 89); *... якобы вашой княжацкой милости съ кролемъ его милостью въ шранъки вступовати не прыходило* (Антыр., 167). Фразеалагізм *яко въ шранъки въступити* паходзіць з нямецкага выразу *in die Schranken treten gegen j-n, mit j-m* ‘выступіць супраць каго-небудзь, паспрачацца, памерыцца сіламі з кім-небудзь’ [19, т. 2, с. 364]. У выніку калькавання нямецкага ўстоўлівага выразу з’явіліся адпаведныя польскі *wchodzić w szranki* ‘спаборнічаць, мерыцца сіламі’ [8, т. 2, с. 405] і старабеларускі *въ шранъки въступити* з такім жа значэннем, як вынікае з прыведзеных прыкладаў.

• *Отожъ, въ тотъ часъ, коли ся крывда и вере и церъквамъ и духовенству вашому таковая деяла, мовчали есте, панове адъверъсары, и черезъ спары на то смотрели есте* (Антыр., 182). Выраз *черезъ спары на то смотрели* ўзыходзіць да польскага выразу *patrzeć przez szpary* ‘глядзець скрозь пальцы’ [8, т. 2, с. 404].

• *Далеко съ клюбы выпалъ* (Антыр., 250). У «Гістарычным слоўніку беларускай мовы» лексема *клюба* падаецца са значэннем ‘належнае становішча, норма’ [9, вып. 15, с. 127]; у ім не фіксуюцца канкрэтныя значэнні, якія можна суадносіць з гэтым словам, арыентуючыся на польскую мову, дзе назоўнік *клюба* здаўна выступае з двума асноўнымі значэннямі: 1) дыба; 2) ціскі [8, т. 1, с. 323]. А паходзіць назоўнік *клюба* з нямецкага *der Kloben*, дзе таксама мае вельмі канкрэтныя прадметныя значэнні 1) блок; 2) ціскі; 3) палена; 4) скаба [19, т. 1, с. 1155]. Паказальна, што ў польскамоўным тэксце знаходзім выраз *daleko z kloby wypadł* (Antir., 106), дзе напісанне *kloby* вельмі блізка да нямецкага назоўніка.

• *А будетъ ли Ѳилялетъ такъ цнотливый, же ся укажетъ, хто естъ, не змышляючи собе именъ неналежныхъ, але,* ***скинувъши зъ облича тую машкару****, которою ся покрываетъ* (Антыр., 93). Назоўнік *машкара* не мае тут ніякага дачынення да машкары — дробных мошак, а з’яўляецца вынікам ўсходнеславянскай адаптацыі запазычанага з французскай мовы назоўніка *masgue* < італ. *maschera* < араб. *maschara* ‘шут, насмешнік; жарт’ [14, с. 465].

А вось некалькі парэмійных шэдэўраў з іншых Пацеевых твораў: *Ано бы лепей гасити, коли у суседа горитъ, анижли коли до твоего даху прийдетъ!* (Унія, 30); *розъгневавъшысе на блохи кожꙋхъ хочешь спалити* (Справ. апіс., **Кг҃** адв.); *прыехавъши до места и за печъ* (Справ. апіс., **З** адв.); *Не мовъ же пышно, бы на зло не вышло. Пану Богу тя поручаю, хотя тебе не знаю* (Отпіс, 488); *не утаиться шило в меху, але врыхле* (хутка — **М. С.**) *натечет с ковшом на брагу!* (Отпіс, 542); *покуль бысь ся допросилъ, остылъ бы еси*! (Гарм., 40 адв.); *Отожъ, ваша зъ ними згода, яко зъ огнемъ во́да!* (Гарм., 56 адв.).

Пералік устойлівых выразаў, ужытых Пацеем у «Антырызісе» і ў іншых літаратурных творах, можна працягваць вельмі доўга, не перастаючы здзіўляцца іх трапнасці, моўнай і вобразна-мастацкай дасканаласці. Застаецца толькі

шкадаваць, што парэмійны фонд рэлігійна-палемічных тэкстаў вельмі рэдка выступае ў якасці аб'екта навуковага вывучэння.[1]

Эмацыянальнасць аўтара «Антырызіса» асабліва выразна праступае ў яго адносінах да апанента — Хрыстафора Філалета. Якіх толькі эпітэтаў і параўнанняў не шкадаваў першы, каб ачарніць другога! Пацей піша пра Філалета выключна як пра ератыка[2]: *не есть Русиномъ, але... спроснымъ* (сапсаваным, заганным — **М. С.**) *геретикомъ* (Антыр., 171); *Арыяниномъ будучи* (Антыр., 253; арыянства — адно з адгалінаванняў пратэстантызму, пашыранае на землях ВКЛ); *збегъ католический* (Антыр., 253); *тому щекарови* (брахуну — **М. С.**) *геретическому* (Антыр., 363). Філалет для яго — *тотъ баламутъ* (Антыр., 285); *тотъ выкрутачъ* (Антыр., 370); аднойчы ён нават названы *шаленымъ холопомъ* (404), што павінна было страшэнна абразіць аўтара «Апокрысіса», бо закранала яго шляхецкі гонар. Досыць часта Пацей для адмоўнай характарыстыкі свайго апанента выкарыстоўвае вобразныя параўнальныя канструкцыі, сярод якіх варта адзначыць створаныя на базе прастамоўных выразаў: *геретическое баламутни своее скрыте боронитъ, и таитъся, **яко гадина** подъ травою* (Антыр., 45); *слухай же теперъ того листу власного, съ которого Филалетъ, **яко шершень**, цветки свое выбиралъ* (Антыр., 117); *съ тою неправдою своею, **яко сова** на светло, не покажешъ* (Антыр., 129); ***яко песъ*** *— съ тылу кусаючи* (Антыр., 386) і інш.

Аўтар «Антырызіса» звяртаецца да свайго апанента то з выразнай непрыхільнасцю: *О, превротный геретику!* (Антыр., 235); *О, проклятый геретику, ошусте* (ашуканец — **М. С.**) *людъский!* (Антыр., 340); *О вшетечная и невыпареная губо!* (о, распусная і бессаромная губа! — **М. С.**) *яко то смеешъ мовити?* (Антыр., 357), то здзекліва-іранічна: *душко милый* (Антыр., 244); *Отожъ, небоже страдный!* (Антыр., 405).

Сярод назваў апанента і звароткаў асаблівую цікавасць выклікаюць індывідуальна-аўтарскія неалагізмы. Так у кірылічным варыянце знаходзім складаныя назоўнікі *Филяплетъ* і *Филяплетка*: *тотъ Филяплетъ* (Антыр., 395); *тотъ Филяплетка* (Антыр., 362); *А мой милый Филяплете!* (Антыр., 244); *Але, пане Филяплете, гамуйся!* (стрымайся, вазьмі сябе ў рукі — **М. С.**) (Антыр., 387); *пане Филяплетъко* (Антыр., 194). Як вядома, аўтар «Апокрысіса» выступіў пад псеўданімам Хрыстафор Філалет, што перакладаецца з грэчаскай мовы як Хрыстаносец Праўдалюб. Аўтар «Антырызіса» паведамляе: *podobno y sam dyabeł, z piekła wylazszy, nie mogł gorszey nieprawdy zmyślić, iako ten Krysztow Philalet w tych swoich kxiąszkach napisał! Ktorego właśniey każdy nazwać może **Diawolofor y Philopseudis**, aniszli **Cristum ferens et amator veritatis**!*[3] (Antir.,7). Абыграўшы лацінскі назоўнік *Philopseudis*, Пацей утварыў новы антрапонім *Филяплетъ* — 'той, хто любіць няпраўду'. А вось у «Отпісе на ліст клірыка Астрожскага» Пацей піша пра аўтара «Антырызіса» (г. зн. пра сябе) ва ўласцівай яму манеры

---

[1] У межах кандыдацкай дысертацыі «Фразеалогія беларускай мовы XVI — XVII стст.» (1980) даследаваў фразеалагізмы, у тым ліку і ў тэкстах рэлігійнай палемікі (на прыкладзе 5-і тамоў «Актов, относящихся к истории Западной России», а таксама 39 тамоў «Актов, издаваемых Виленскою археографическою комиссиею»), Ф. І. Тамашэвіч. З набыткаў айчыннага гістарычнага моваазнаўства ў галіне фразеалогіі можна назваць і кандыдыцкую дысертацыю В. К. Мароз «Фразеалогія беларускіх летапісаў» (1986).

[2] Пацей неаднаразова выразна гаворыць пра тое, што аўтар «Апокрысіса» адрокся ад каталіцтва на карысць пратэстантызму, што ён не вызнае праваслаўе, якое ўзяўся абараняць, а гэта значыць, што Пацей ведаў яго сапраўднае імя. Прыклады тут і далей падаюцца ў тых граматычных формах, у якіх яны адзначаны ў тэксце.

[3] Відаць, і сам д'ябал, з пекла вылезшы, не мог выдумаць горшай няпраўды, як гэты Крыштаф Філалет у той сваёй кніжцы напісаў! Кожны можа назваць яго хутчэй Д'ябаланосцам і Ілжалюбцам, чым тым, хто носіць Хрыста і любіць праўду! (пераклад наш — **М. С.**)

ў трэцяй асобе як пра *побожного мужа Fилотия* (*Ѳилотей* — 'той, хто любіць бога'): *И я тебе отсылаю до отказу неякого побожного мужа **Ѳилотия** и до книжокъ, названыхъ Антирызисъ, которые писалъ противъ вашого Ѳилялета, показуючи его быти **Ѳиляпсевдомъ**, а не Филялетомъ, а то ижъ такъ много часу надъ неправдою стравилъ, которая всему свету явна* (Отпіс, 542). Што цікава, у самім «Антырызісе» аўтар ні разу не называе сябе Філацеем. Гэтае імя ён, відаць, прыдумаў сабе крыху пазней, пасля ўжо напісання кнігі, калі складаў адказ на ліст клірыка Астрожскага. Вельмі паказальна і імя-мянушка *Ѳиляпсевдъ*, якое адразу ж асацыіруецца з адпаведным месцам у «Антырызісе» і якое можа ўспрымацца як яшчэ адно сведчанне аўтарства Пацея. У гэтым жа адказе на ліст клірыка Астрожскага знаходзім месца, дзе Пацей, абараняючы Фларэнційскі сабор, піша, што ніхто з гісторыкаў не апісаў ніякіх жудасных спраў, якія прыпісваюцца праваслаўнымі гэтаму сабору (тут Пацей мае на ўвазе сачыненне 1598 г. «Гісторыя пра Ферара-Фларэнційскі сабор»): *Покажижъ ми хотя одного такового, который бы хотя словце якое о томъ написалъ и таковое баламутни посветчилъ! Хиба бысте собе знову якого Филялета змыслили, але и мы тежъ окажемъ не одного **Еленхопсевда**, которые его выткнутъ и покажутъ быти **Филопсевдомъ**!* (Отпіс, 533—534). Зразумела, што пад *Еленхопсевдом* ('тым, хто выкрывае няпраўду') Пацей меў на ўвазе сябе як аўтара на той час адзінага, наколькі вядома, літаратурнага адказу на сачыненне Філалета. А першае выкарыстанне імя *Еленхопсевдъ* знаходзім на 13 старонцы польскага тэксту ўсё таго ж «Антырызіса» (кірылічны тэкст першых 24 старонак, на жаль, не захаваўся): *A isz się on nazwał Krysztophorem Philaletem, czym nie tylko rzeczą samą, ale ani słowem nie iest, — słuszniey go ia nazwać mogę Diawolophoron y Philopseudem. Pzeto y ia tesz mogę się nazwać sprawiedliwiey, niszli on, Philoletem y **Elenchopseudem**: a to — isz, dla miłości y prawdy Bożey, pokazuię ludziom krześciańskim fałsz y nieprawdę iego.*[1] (Antir., 13) Як бачна, і тут Пацей вядзе гульню са складанымі антрапонімамі, што, трэба прызнаць, робіць яго выкрывальныя выказванні мастацка-вобразнымі.

Эмацыянальнасць аўтара «Антырызіса» праявілася нават на ўзроўні структуры самога твора, што бачна асабліва выразна пры параўнанні структуры гэтага сачынення і «Апокрысіса», у адказ на які яно і было напісана: калі Філалет паслядоўна, паступова абвяргае Скаргу, з якім ён палемізуе, то ў «Антырызісе» падыход іншы — у ім абвяргаюцца не ўсе сцвярджэнні, выказаныя ў «Апокрысісе», а пераважна тыя, якія найбольш усхвалявалі Пацея.

Сёння з вялікай доляй верагоднасці можна сцвярджаць: Пацею было вядома, што аўтарства «Апокрысіса» належыць валынскаму шляхціцу-пратэстанту Марціну Бранеўскаму — пра гэта сведчаць як празрыстыя намёкі, так і досыць канкрэтныя выказванні ў «Антырызісе» (гл., напр., с. 171, 174, 217, 253—254). Пацей прама заяўляе: *Y by mi się godziło, ukazał bym go palcem!*[2] (Antir., 73). Ва многім дзякуючы нястрыманасці Пацея, выказанай ім на старонках свайго сачынення ў адносінах да аўтара «Апокрысіса», імя апошняга сёння не лічыцца загадкай. Вось, напрыклад, адно з найбольш паказальных у справе высвятлення аўтарства «Апокрысіса» месцаў з тэксту «Антырызіса»: *Отожъ и Ѳилялетъ, подобно Арыяниномъ будучи, не можетъ тое проѳесии* (публічнага вызнання

[1] Паколькі ён назваўся Хрыстаносцам Праўдалюбцам, якім ні на справах, ні на словах не з'яўляецца — то я магу назваць яго хутчэй Д'ябаланосцам і Ілжалюбцам. І я таксама магу назвацца справядлівей, чым ён, Праўдалюбцам і **Ілжэвыкрывальнікам**, таму што для міласці і праўды Божай паказваю людзям хрысціянскім фальш і няпраўду яго. (Пераклад наш. — **М. С.**)

[2] І калі б гэта адпавядала маёй годнасці, паказаў бы на яго пальцам! (Пераклад наш — **М. С.**)

веры — **М. С.**), *которую митрополитъ и владыкове учинили, хвалити: бо ее давно отступилъ, а только светомъ лудитъ, удаючися за Русина* (праваслаўнага — **М. С.**), *которымъ николи не былъ; а гдебы его еще хто лепей перекупилъ, местечками и селами болшими ему посветилъ, певне бы и на Рускую проѳесию, которое теперъ боронитъ, губу отворилъ. Не дивъ прото, же, маючи руце добре намазаные за то, таковый розъсудокъ о тыхъ речахъ чынитъ, и того, которого Исусъ Христосъ слухати росказалъ, яко збегъ католический, слухати не кажетъ, бо давно и Самого Христа Бога правдивого отступилъ.* (Антыр., 252—253)

На старонках «Антырызіса» шмат загадак, разгадаць якія можна толькі пры вельмі ўважлівым яго прачытанні з адначасовым паглыбленнем у кантэкст тагачаснай рэлігійнай палемікі, чаго вымагае нават адказ на простае пытанне: калі выйшаў з друку кірылічны варыянт «Антырызіса»? Найперш варта адзначыць, што разыходжання паміж тагачасным і сучасным лічэннем гадоў няма — Новы год у канцы XVI ст. на землях ВКЛ ужо адзначаўся 1 студзеня, што немалаважна, паколькі прыкладна да 1550 г. *новое лѣто*, як тады гаварылі, пачыналася 1 верасня [16, с. 107]. На тытульнай старонцы польскамоўнага варыянта «Антырызіса» пазначана, што кніга выйшла *Roku Pańskiego 1600* (Antir.). І гэта не выклікае сумненняў. Паколькі тытульныя старонкі кірылічнага варыянта не захаваліся, то пра час яго выхаду неабходна здагадвацца. Паспрабуем прывесці сціслыя развагі на гэты конт. Выхад «Антырызіса» павінен быў нейтралізаваць створанае «Апокрысісам» (Вільня, 1597[1]; Астрог, 1598) уздзеянне на пачуцці і — галоўнае — на рэлігійную свядомасць грамадства. Падрыхтоўка грунтоўнага адказу, дый яшчэ на дзвюх мовах, патрабавала пэўнага часу. Да таго ж якраз у 1599 г. Пацей стаў мітрапалітам, а выкананне адпаведных абавязкаў, безумоўна, вымагала шмат часу і сіл ад 58-гадовага чалавека. У тэксце «Антырызіса», як ужо гаварылася вышэй, самая позняя канкрэтна абазначаная дата — 22 сакавіка 1599 г. Значыць, кірылічны варыянт «Антырызіса» мог выйсці з друку толькі пазней. Паколькі дакладныя даты выхаду кірылічнага і польскамоўнага варыянтаў «Антырызіса» не ўстаноўлены, але вядома, што першы мог быць апублікаваны пасля сакавіка 1599 г., а другі — на працягу 1600 г., то нам падалося правамерным ушанаваць выхад гэтай кнігі ў 2010 г., калі 410-годдзе абодвух варыянтаў кнігі ўжо адбудзецца насамрэч.

Старонкі «Антырызіса» змяшчаюць яшчэ шмат цікавага і могуць даць падставы для розных назіранняў і высноў. Удумлівы чытач можа зрабіць для сябе не адно адкрыццё, уважліва пераглядаючы старажытны тэкст. А таму скажам яму, следам за Пацеем: **И ꙗ тебе отсылаю до отказу неꙗкого побожного мужа Филотиꙗ и до книжокъ, названыхъ Антирызис.**

## Крыніцы і іх скарачэнні

**Antir.** — Antirrisis // Русская историческая библиотека. — Т. 19. Памятники полемической литературы в Западной Руси. — Кн. 3. — Петербург, 1903. — Стлб. 477—982; **Антыр.** — Антиррисис // Там же. Стлб. 477—982; **Ліст** — Лист Ипатия Потея к князю Константину Константиновичу Острожскому // Там же. — Стлб. 983—1040; **Отпіс** — Отпис на лист неякого клирика Острозского // Там же. — Стлб. 477—982; **Гарм.** — Гармония // Там же. — Т. 7. Памятники полемической литературы в Западной Руси. — Кн. 2. — Петербург, 1882. — Стлб. 169—222; **Унія** — Уния //

---

[1] Пад прысвячэннем Яну Замойскаму ў «Апокрысісе» пазначана: *Остатнего дня мѣсяца октобра, по старожитному, року 1597*. Значыць, кніга магла выйсці ў самым канцы 1597 г. — у лістападзе ці снежні, або ўжо ў наступным годзе, таму што дата прысвячэння не абавязкова супадае з датай выхаду самой кнігі.

Там же. — Стлб. 111—168; **Грамата** — Грамота киевского митрополита Мисаила к папе Сиксту IV, 1476 года // Архив Юго-Западной России, издаваемый комисиею для разбора древних актов. — Киев, 1887. — Ч. 1. — Т. 7. — С. 193—231; **Тастам.** — Потеи И. Духовное завещание. Апология унии. 19 ноября 1609 г. // Там же. — Киев, 1883. — Ч. 1. — Т. 6. — С. 391—396; **Справ. апіс.** — Справедливое описанье. — Вільня, 1597. (М/ф. НББ); **Паранэтыка** — Пацей І. Паранэтыка // Анталогія даўняй беларускай літаратуры: XI — першая палова XVIII стагоддзя / А. І. Богдан [і інш.]; 2-е выд. — Мінск, 2005. — С. 620—621; **Antirresis** — Pociej Hipacy. Antirresis abo Apologia przeciwko Krzysztofowi Philaletowi, który niedawno wydał księżki imeniem starożytnej Rusi religiej greckiej przeciw księżkom o synodzie brzeskim, napisanym w roku Pańskim 1597. Opracowali J.Byliński i I.Dlugosz. — Wrocław, 1995. — 288 s.

## Літаратура:

1. Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографическою комиссиею. Т. 4. 1588 — 1632. — СПб, 1851. — VIII, 529, 25, 20 с.

2. Архив Юго-Западной России, издаваемый временною комиссиею для разбора древних актов. — Киев, 1883. — Ч. 1. — Т. 6. — 182, 939 с.

3. Бірыла, М. В. Беларуская антрапанімія: уласныя імёны, імёны-мянушкі, імёны па бацьку, прозвішчы / М. В. Бірыла. — Мінск, 1996. — 326 с.

4. Булыка, А. М. і інш. Гістарычная марфалогія беларускай мовы / А. М. Булыка, А .І. Жураўскі, І. І. Крамко. — Мінск, 1979. — 328 с.

5. Вялікае Княства Літоўскае: энцыклапедыя ў 2-х т. Т. 2. Мінск, 2006. — 792 с.

6. Галенчанка, Г. Я. Пасланне да папы рымскага Сікста IV. Вільня, друкарня Мамонічаў, 1605 г. / Г. Галенчанка // Наш Радавод. Кн. 8: «Беларусы і палякі: дыялог народаў і культур. Х—ХХ ст.»: Матэр. Міжнар. «круглага стала», Гродна, 28 — 30.09.1999. — Гродна, 2000. — С. 79 — 107.

7. Галенчанка, Г. Я. Невядомыя і малавядомыя помнікі духоўнай спадчыны і культурных сувязей Беларусі XV — сярэдзіны XVI ст. / Г. Я. Галенчанка. — Мінск, 2008. — 458 с.

8. Гессен, Д. Большой польско-русский словарь: в 2-х т. / Д. Гессен, Р. Стыпула. — Москва — Варшава, 1979. — Т. 1. — 664 с.; Т. 2. — 664 с.

9. Гістарычны слоўнік беларускай мовы. — Вып. 1 — 29... — Мінск, 1982 — …

10. Голубев, С. Библиографические замечания о некоторых старопечатных книгах преимущественно конца 16 и 17 столетий / С. Голубев // Труды Киевской духовной Академии. — Т. 1. — Киев, 1876. — С. 121—161.

11. Каратаев, И. П. Описание славяно-русских книг, напечатанных кирилловскими буквами / И. П. Каратаев. Вып. 1. — Санкт-Петербург, 1878. 280 с.

12. Карский, Е. Ф. Белорусы / Е. Ф. Карский. — Т. 3. Очерки словесности белорусского племени. — Вып. 2. Старая западно-русская письменность. — Петроград, 1921. — 247 с.

13. Кніга Беларусі. 1517—1917: зводны каталог [Электронны рэсурс] / Нацыянальная бібліятэка Беларусі, НДА кнігазнаўства; складальнікі каталога: Г. Я. Галенчанка (д.г.н.), Т. В. Непарожная, Т. К. Радзевіч; складальнікі электроннага выдання: Г. У. Кірэева, А. А. Суша, К. В. Языковіч; адказны рэдактар Г. У Кірэева. — Мінск, 2006.

14. Крысин, Л. П. Толковый словарь иноязычных слов / Российская АН, Институт русского языка им. В. В. Виноградова / Л. П. Крысин. — Москва, 2008. — 944 с.

15. Лабынцаў, Ю. Рымскі «Ключ на пасхалію» 1596 г. (Да 400-годдзя Брэсцкай уніі) / Ю. Лабынцаў // Кантакты і дыялогі. Інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь. — № 4. — 1996. — С. 22—28.

16. Лозка, А. «Псалтыр» Францыска Скарыны — не першая друкаваная беларуская кніга? / А. Лозка // Роднае слова. — 2009. — № 2. — С. 106—108.

17. Марозава, С. В. Уніяцкая царква ў этнакультурным развіцці Беларусі (1596 — 1839 гг.) / С. В. Марозава. — Гродна, 2001. — 352 с.

18. Миловидов, А. И. Описание славяно-русских старопечатных книг Виленской публичной библиотеки (1491 — 1800 гг.) / А. И. Миловидов // Отчет Виленской публичной библиотеки и музея за 1907 год. — Вильна, 1908. — 54 с.

19. Павловский, И. Я. Немецко-русский словарь: в 2-х т. / И. Я. Павловский. Москва, 2007. Т. 1: А — М — 1423 с.; Т. 2: N — Z. — 1007 с.

20. Падокшын, С. А. Іпацій Пацей: царкоўны дзеяч, мысліцель, пісьменнік на пераломе культурна-гістарычных эпох. — Мінск, 2001. — 118 с.

21. Саверчанка, І. В. Aurea mediocritas. Кніжна-пісьмовая культура Беларусі: Адраджэнне і ранняе барока / І. В. Саверчанка. — Мінск, 1998. — 319 с.

22. Свістунова, М. І. Аб некаторых стылявых адметнасцях мовы палемічных твораў І. Пацея / М. І. Свістунова // Acta Albaruthenica. — № 7. — Warszawa, 2007. — С. 274—283.

23. Свістунова, М. І. Моўныя асаблівасці «Ключа на пасхалію» (Рым, 1596) / М. І. Свістунова // Матэр. міжнар. навук. канф. «Пісьменнік — мова — стыль», прысвеч. 75-годдзю з дня нарадж. праф. Л. М. Шакуна. Мінск, 15-16.11.2001 г. — Мінск, 2002. — Т. 1. — С. 206—210.

24. Словарь русского языка XI — XVII вв. — Вып. 9. — Москва, 1982. — 358 с.

25. Polski słownik biograficzny. — 1982. — Tom XXVII/1. — Zeszyt 112. — 208 s.

Артыкул паступіў у рэдакцю 3 чэрвеня 2010 года.

Марына Свістунова
«Да 410-годдзя выдання «Антырызіс»

**Рэзюме**

Артыкул прысвечаны аднаму з найбольш вядомых і значных твораў рэлігійнай палемікі канца XVI — пачатку XVII стагоддзя, якая ўзнікла як рэакцыя на падрыхтоўку і заключэнне Брэсцкай царкоўнай уніі. Аўтарам не ставілася мэта сістэмнага апісання і аналізу моўных асаблівасцей, і тым не менш значная яго частка закранае менавіта мову твора.

Maryna Svistunova
«Antirisis: To The Anniversary Of 410
Year Of The Date Of The Publication»

**The Summary**

One of the most important and famous work of theological debates and polemics in the period between the end of XVI century and the beginning of the XVII century is observed in this article. The scholastic discussion of that period may be considered as a certain response to the preparation and contraction of the Brest Church Union. The author didn't aim to describe the system in the whole or to analyze the linguistic means in particular. But still the research covers much of the language characteristics of the "Antirisis" as well.

Аляксандр ЛУКАШАНЕЦ

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў СУЧАСНЫМ СВЕЦЕ

## 1. Беларуская мова ў гісторыі беларускага народа

Любая натуральная мова як сродак зносін адыгрывае важную ролю ў жыцці грамадства, камунікатыўныя патрэбы якога яна абслугоўвае. Не з'яўляецца выключэннем у гэтых адносінах і беларуская мова — нацыянальная мова беларускага народа, дзяржаўная мова нашай краіны.

Беларуская мова адыграла выключную ролю ў гісторыі беларускага народа, у станаўленні яго дзяржаўнасці. Вядома, што ў Вялікім Княстве Літоўскім беларуская мова таго часу (старабеларуская) выконвала ўсе функцыі дзяржаўнай мовы, выкарыстоўвалася ва ўсіх сферах жыцця грамадства (ад побытавай да дзяржаўнага справаводства). Менавіта гэтая акалічнасць, трэба меркаваць, у значнай ступені садзейнічала фарміраванню і выдзяленню беларускага этнасу на ўсходнеславянскай моўна-культурнай прасторы.

Беларуская народна-гутарковая мова дазволіла беларусам захаваць і развіць сваю нацыянальную адметнасць і ў тыя неспрыяльныя часы, калі пісьмовая разнавіднасць беларускай мовы аказалася пад забаронай і на некалькі стагоддзяў былі прыпынены традыцыі беларускага пісьменства.

Асабліва важную ролю адыграла беларуская мова ў станаўленні беларускай дзяржаўнасці на пачатку XX стагоддзя. Сапраўды, нацыянальнае адраджэнне беларусаў у XIX стагоддзі пачалося менавіта са стварэння новай літаратурнапісьмовай мовы. Дзякуючы літаратурнай творчасці многіх выдатных дзеячаў беларускай культуры, сярод якіх галоўнае месца займаюць Максім Багдановіч, Янка Купала і Якуб Колас, беларускае пісьмовае слова шырока распаўсюдзілася па ўсёй тэрыторыі Паўночна-Заходняга краю Расійскай імперыі, а сама беларуская мова набыла ўсе прыкметы літаратурнай мовы. У гэтым выпадку спрацавала формула: ёсць самастойная літаратурная мова — ёсць народ з уласнай адметнай культурай і мовай, які мае права на сваю дзяржаўнасць. Несумненна, гэтая акалічнасць, магчыма, у першую чаргу стала асноўным аргументам на карысць стварэння БССР у 1918 годзе. Збыліся, такім чынам, прарочыя словы Янкі Купалы: які ў свой час напісаў: «І беларусу хопіць месца ў сям'і нялічанай славян».

Сваім развіццём на працягу XX стагоддзя беларуская мова неабвержна даказала жыццёваздольнасць і неабходнасць, яна заўсёды была бадай што асноўным фактарам захавання нацыянальнай культуры і забеспячэння нацыянальнай свядомасці народа.

Трэба адзначыць, што, нягледзячы на існуючыя праблемы і складанасці, беларуская мова і сёння займае ў сучасным грамадстве вельмі важнае месца. Як і любая іншая натуральная мова, яна аб'ектыўна выконвае ў грамадстве тры асноўныя глабальныя функцыі: камунікатыўную (у якасці сродку зносін, і аб'ядноўвае цэлы шэраг канкрэтных функцый), культурную (з'яўляецца часткай і сродкам нацыянальнай духоўнай культуры), ідэнтыфікацыйную (у якасці сродку нацыянальнай ідэнтыфікацыі і самаідэнтыфікацыі).

Беларуская мова ў цяперашні час — гэта рэальны сродак зносін пэўнай часткі беларускага грамадства. Аднак у сучаснай моўнай сітуацыі камунікатыўную функ-

цыю яна рэалізуе не ў поўнай меры, паколькі істотная частка сучаснага беларускага соцыуму ў сваёй паўсядзённай дзейнасці карыстаецца пераважна рускай мовай.

Беларуская мова адыгрывае асаблівую ролю ў прэзентацыі культурнай прасторы беларусаў, у першую чаргу яе нацыянальна маркіраванай часткі. На беларускай мове створаны і захоўваюцца велізарныя культурныя каштоўнасці (помнікі старабеларускага пісьменства, творы сучаснай беларускай літаратуры, беларускі фальклор і г. д.), якія атрымалі прызнанне ва ўсім свеце і складаюць значную частку сусветнай духоўнай культуры. І знаёміцца з гэтымі каштоўнасцямі можна толькі пры дапамозе беларускай мовы. А гэта азначае, што пры любых умовах беларуская мова ніколі не знікне бясследна, што яна будзе жыць, пакуль будзе існаваць цывілізацыя.

У сённяшняй моўнай сітуацыі ўзрастае роля беларускай мовы як фактара нацыянальнай свядомасці, сімвала і сродку нацыянальнай ідэнтыфікацыі і самаідэнтыфікацыі. Менавіта гэтая роля беларускай мовы набывае ўсё больш самастойнае значэнне.

### 2. Беларуская мова і дзяржаўнае двухмоўе

У сітуацыі двухмоўя, калі ва ўсіх ці многіх сферах жыцця грамадства паралельна выкарыстоўваюцца дзве мовы, асаблівую важнасць набывае праблема заканадаўчага ўрэгулявання моўнага жыцця грамадства. Менавіта ад таго, як гэтае пытанне вырашана на дзяржаўным узроўні, залежыць не толькі рэальная запатрабаванасць той ці іншай мовы ў камунікатыўнай, культурнай і інфармацыйнай сферах, але і ў цэлым бесканфліктнае развіццё грамадства. Вядома, што нават у сучасным цывілізаваным свеце большасць канфліктаў узнікае менавіта на моўнай ці рэлігійнай глебе. Таму зусім натуральна, што гэтыя моманты з’яўляюцца актуальнымі і для моўнага жыцця нашай краіны — Рэспублікі Беларусь — на сучасным этапе развіцця дзяржаўнасці.

На працягу XX стагоддзя беларуская мова фарміравалася, развівала сваю сістэму і функцыянавала ў грамадстве выключна ва ўмовах двухмоўя. Між тым менавіта ў сітуацыі двухмоўя, у якой існуе і развіваецца беларуская мова, істотна ўскладняецца роля натуральнай мовы ў выкананні ёю сваіх асноўных функцый (камунікатыўнай, культурнай і ідэнтыфікацыйнай). Таму на працягу мінулага стагоддзя моўныя праблемы заўсёды былі ў цэнтры ўвагі грамадства, набываючы час ад часу асаблівую вастрыню і актуальнасць. Абсалютна заканамерна, што і ў першыя гады існавання незалежнай Рэспублікі Беларусь (у канцы XX стагоддзя) гэтыя праблемы таксама займалі істотнае месца ў жыцці дзяржавы. У выніку пэўнай паслядоўнасці дзеянняў з боку грамадскасці (пры гэтым у залежнасці ад моўных арыентацый і схільнасцей дзеянні асобных груп беларускага грамадства насілі часта рэзка процілеглы характар) і дзяржаўных рашэнняў заканадаўчага характару мы прыйшлі да сітуацыі дзяржаўнага двухмоўя. Сёння дзяржаўнымі мовамі ў нашай краіне з’яўляюцца **беларуская мова** як мова тытульнай нацыі і **руская мова** як найбольш пашыраная ў камунікатыўных адносінах мова.

Гэта замацавана ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і Законе Рэспублікі Беларусь «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь». Так, артыкул 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь устанаўлівае, што «Дзяржаўнымі мовамі ў Рэспубліцы Беларусь з’яўляюцца беларуская і руская мовы».

Менавіта такім чынам у канцы XX стагоддзя было ажыццёўлена прававое ўрэгуляванне моўнага пытання ў нашай краіне. Але ў сучасных умовах, відавочна, больш важнай і актуальнай з’яўляецца праблема практычнага выканання моўнага заканадаўства як з боку ўлады, так і саміх грамадзян, якія жывуць у сітуацыі двухмоўя. Складанасць сітуацыі заключаецца ў тым, што пры ўсеагульным побытавым усведамленні сутнасці паняцця «дзяржаўная мова» ні ў прававых

актах, ні ў навуковай літаратуры практычна немагчыма знайсці адназначнага і вычарпальнага яго вытлумачэння. Таму, відаць, можна ў асноўным пагадзіцца з тым азначэннем гэтага паняцця, якое даецца ў энцыклапедыі «Беларуская мова» (Мн., 1994): «Дзяржаўнасць мовы — гэта юрыдычна замацаваны і рэгламентаваны парадак яе выкарыстання ва ўсіх або ў пераважнай большасці разгалінаванняў афіцыйнай сферы грамадскіх зносін…

Дзяржаўны статус мовы грунтуецца на арганізацыйных, кадравых, матэрыяльна-тэхнічных, культурна-асветных і іншых дзяржаўных мерах, прадугледжвае сістэму прававой аховы мовы на тэрыторыі адпаведнага дзяржаўнага ўтварэння» (с. 181). У такім выпадку дзяржаўнае двухмоўе — гэта юрыдычна замацаваны і рэгламентаваны парадак раўнапраўнага выкарыстання дзвюх моў ва ўсіх або ў пераважнай большасці афіцыйных сфер грамадскіх зносін.

Пры такім разуменні дзяржаўнага двухмоўя беларуска-рускае дзяржаўнае двухмоўе, відаць, трэба прызнаць найбольш дэмакратычным урэгуляваннем жыцця беларускага грамадства ў моўнай сферы, паколькі абедзвюм мовам гарантаваны аднолькавыя правы.

І гэта зноў жа замацавана заканадаўча. Параўнаем артыкулы 50 і 59 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь:

«Артыкул 50. Кожны мае права захоўваць сваю нацыянальную прыналежнасць, таксама як ніхто не можа быць прымушаны да вызначэння і ўказання нацыянальнай прыналежнасці.

Знявага нацыянальнай годнасці караецца згодна з законам.

Кожны мае права карыстацца роднай мовай, выбіраць мову зносін. Дзяржава гарантуе ў адпаведнасці з законам свабоду выбару мовы выхавання і навучання».

«Артыкул 59. Дзяржава абавязана прымаць усе даступныя ёй меры дзеля стварэння ўнутранага і міжнароднага парадку, неабходнага для поўнага ажыццяўлення правоў і свабод грамадзян Рэспублікі Беларусь, прадугледжаных Канстытуцыяй…

Дзяржаўныя органы, службовыя і іншыя асобы, якім даверана выкананне дзяржаўных функцый, абавязаны ў межах сваёй кампетэнцыі прымаць неабходныя меры для ажыццяўлення і абароны правоў і свабод асобы.

Гэтыя органы і асобы нясуць адказнасць за дзеянні, якія парушаюць правы і свабоды асобы».

Гл. таксама артыкулы 3, 4 і 5 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь»:

«Артыкул 3. Права грамадзян карыстацца іх нацыянальнай мовай.

Грамадзянам Рэспублікі Беларусь гарантуецца права карыстацца іх нацыянальнай мовай. Ім гарантуецца таксама права звяртацца ў дзяржаўныя органы, органы мясцовага кіравання і самакіравання, на прадпрыемствы, ва ўстановы, арганізацыі і грамадскія аб’яднанні на беларускай, рускай або іншай прымальнай для бакоў мове.

Рашэнне па сутнасці звароту афармляецца на беларускай або рускай мове.

Артыкул 4. Абавязак кіраўнікоў, іншых работнікаў дзяржаўных органаў, органаў мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і грамадскіх аб’яднанняў валодаць беларускай і рускай мовамі.

Кіраўнікі, іншыя работнікі дзяржаўных органаў, органаў мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і грамадскіх аб’яднанняў павінны валодаць беларускай і рускай мовамі ў аб’ёме, неабходным для выканання імі сваіх службовых абавязкаў.

Артыкул 5. Гарантыі правоў грамадзян пры разглядзе падаваемых імі дакументаў у дзяржаўныя органы, органы мясцовага кіравання і самакіравання, на прадпрыемствы, ва ўстановы, арганізацыі і грамадскія аб’яднанні.

Дзяржаўныя органы, органы мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемствы, установы, арганізацыі і грамадскія аб’яднанні павінны прымаць і разглядаць дакументы, якія падаюцца грамадзянамі на беларускай, рускай мовах.

Адмова службовай асобы прыняць і разгледзець зварот грамадзяніна на беларускай, рускай мовах са спасылкай на няведанне мовы звароту цягне за сабой адказнасць у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам».

Такім чынам, прыведзеныя вышэй нарматыўныя прававыя палажэнні дастаткова выразна акрэсліваюць моўныя правы грамадзян і абавязкі дзяржаўных органаў і службовых асоб у сферы моўнага жыцця. Аднак у сучасным беларускім грамадстве ў гэтых адносінах існуюць істотныя праблемы, якія патрабуюць дзяржаўнай увагі. Сёння надзвычай важна сфарміраваць у грамадстве цывілізаванае разуменне сутнасці дзяржаўнага двухмоўя і прывіць грамадзянам уменне жыць у прававым полі. Зараз пад дзяржаўным двухмоўем звычайна разумеецца права грамадзяніна карыстацца той ці іншай мовай ва ўсіх сферах сваёй дзейнасці. І гэта правільна. Пры гэтым не заўсёды выразна ўсведамляецца другі бок праблемы, а менавіта тое, што дзяржава праз свае ўстановы павінна рэальна забяспечыць такое права кожнаму грамадзяніну. З гэтага вынікае, што кожны дзяржаўны служачы ці работнік дзяржаўнай установы як прадстаўнік дзяржавы павінен абавязкова валодаць дзвюма дзяржаўнымі мовамі і рэальна карыстацца імі ў сваёй службовай дзейнасці. Для ўсведамлення гэтага на наступным этапе развіцця нашай дзяржаўнасці павінна быць праведзена вялікая растлумачальная і практычная работа. Ад зробленага ў многім будзе залежаць далейшае гарманічнае развіццё нашага грамадства. Больш таго, калі кожны грамадзянін нашай краіны будзе выразна ўсведамляць, што для таго, каб прэтэндаваць на тую ці іншую дзяржаўную пасаду, яму неабходна рэальна валодаць дзвюма дзяржаўнымі мовамі, зусім па-іншаму будзе выглядаць запатрабаванасць беларускай мовы ў грамадстве і зусім па-іншаму будуць ставіцца да яе вывучэння ў школе.

Вырашэнне гэтай праблемы бачыцца ў фарміраванні грамадскага ўсведамлення высокага прэстыжу рэальна двухмоўнай асобы, якая ў першую чаргу валодае мовай тытульнай нацыі і з'яўляецца найбольш падрыхтаванай для рэалізацыі сваіх магчымасцей і амбіцый у сучасным шматмоўным і шматкультурным свеце. Менавіта фарміраванне культуры моўных адносін і моўнай адукацыі, прававой граматнасці насельніцтва ў сферы моўных адносін (г. зн. веданне грамадзянамі сваіх канстытуцыйных правоў, жаданне і ўменне жыць у прававым полі і патрабаваць ад органаў дзяржаўнага кіравання і службовых асоб выканання імі сваіх канстытуцыйных абавязкаў у адносінах да кожнай канкрэтнай асобы), карэктнасці і высокай адказнасці дзяржаўных органаў і дзяржаўных служачых за выкананне моўнага заканадаўства павінна стаць адным з прыярытэтаў дзяржаўнай ідэалогіі на наступным этапе развіцця і паглыблення беларускай дзяржаўнасці. Толькі ў такім выпадку Беларусь зможа захаваць сваё нацыянальнае аблічча і прэтэндаваць на дастойнае месца ў сусветнай супольнасці. Існуючае беларускае заканадаўства пры яго безумоўным выкананні дазваляе істотна пашырыць поле выкарыстання беларускай мовы, узровень яе прэстыжу і ўсведамленне рэальнай запатрабаванасці.

Яшчэ адзін аспект моўнага жыцця нашай краіны, які таксама патрабуе пільнай увагі з боку дзяржавы, — гэта неадпаведнасць заканадаўчага статусу беларускай і рускай моў і рэальнага іх становішча ў грамадстве. Не сакрэт, што сёння мова тытульнай нацыі — беларуская — займае другарадныя пазіцыі ў большасці камунікатыўных сфер. І гэтая праблема таксама набывае ідэалагічнае гучанне. Моўнае жыццё — гэта вельмі далікатная сфера чалавечых адносін, таму нацыянальнай большасці звычайна значна цяжэй адстойваць свае абсалютна справядлівыя нацыянальна-моўныя правы ў параўнанні з нацыянальнай меншасцю. Любыя моўныя прэтэнзіі нацыянальнай меншасці, нават празмерныя, на эмацыянальным узроўні ўспрымаюцца як справядлівая барацьба за сваю роўнасць. І наадварот, патрабаванні нацыянальнай большасці, нават калі яны цалкам апраўданыя, часта ацэньваюцца як нацыяналізм у сваім негатыўным значэнні. Таму

і ў гэтай сферы неабходна вялікая растлумачальная работа па фарміраванні культуры моўных паводзін, што прадугледжана адпаведнымі артыкуламі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і Законам «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь».

### 3. Сістэма сучаснай беларускай нацыянальнай мовы

Для таго, каб паспяхова выконваць функцыі дзяржаўнай мовы і забяспечваць патрэбы афіцыйных сфер зносін, беларуская мова, як і кожная іншая мова, павінна мець пэўны ўзровень развіцця сваёй сістэмы, валодаць адпаведным лексічным запасам, мець дастатковую навуковую тэрміналогію, строгія і стабільныя літаратурныя нормы, трывалую пісьмовую традыцыю і г. д. Аб'ектыўнымі фактарамі, якія пацвярджаюць магчымасць пашырэння і паспяховага функцыянавання беларускай мовы як дзяржаўнай у важнейшых сферах афіцыйнага ўжытку ў XXI стагоддзі, трэба лічыць наступныя.

**3.1.** Беларуская мова — адна са славянскіх моў, нацыянальная мова беларускага народа, дзяржаўная мова Рэспублікі Беларусь і мова тытульнай нацыі — з'яўляецца важным элементам сучаснай моўнай сітуацыі і займае істотнае месца ў камунікатыўнай, культурнай і інфармацыйнай прасторы беларускага грамадства. Нягледзячы на складанасці свайго развіцця ў XX стагоддзі і другараднае становішча ў большасці сфер камунікацыі сучасная беларуская мова — гэта высокаразвітая літаратурная мова з упарадкаванай сістэмай нормаў, багатым слоўнікавым складам, разгалінаванай тэрміналогіяй. Яе нормы замацаваны ў разнастайных лексікаграфічных даведніках, граматыках і іншых фундаментальных працах. Сёння гэта мова, якая можа паспяхова абслугоўваць усе сферы жыцця сучаснага грамадства. Яна па-ранейшаму застаецца рэальным сродкам камунікацыі, часткай і сродкам нацыянальнай культуры, сродкам і сімвалам нацыянальнай свядомасці і г. д.

Такім чынам, на пачатку XXI стагоддзя статус беларускай мовы ў грамадстве вызначаецца наступнымі характарыстыкамі:

высокаразвітая літаратурная мова; самастойная славянская мова ўсходнеславянскай падгрупы; адна з пашыраных пісьмовых моў свету; дзяржаўная мова краіны; мова тытульнай нацыі; мова нацыянальнай большасці.

Менавіта гэтыя характарыстыкі маглі б стаць вызначальнымі для ацэнкі грамадскага становішча беларускай мовы як сродку зносін беларускага соцыуму на сучасным этапе яе функцыянавання. Аднак асаблівасці моўнага развіцця краіны ў папярэдні перыяд і спецыфіка сучаснай моўнай сітуацыі патрабуюць істотнага ўдакладнення гэтых ацэнак.

**3.2.** У XXI стагоддзе беларуская мова ўвайшла з цэлым комплексам праблем, якія звязаны з яе роляй у жыцці беларускага грамадства, месцам у камунікатыўнай і культурнай прасторы, а таксама з асаблівасцямі развіцця і ўдасканалення яе сістэмы.

Асаблівасцямі існавання беларускай мовы ў сучасным соцыуме з'яўляецца, па-першае, тое, што яна па-ранейшаму застаецца толькі адным з кампанентаў моўнай сітуацыі і выконвае свае функцыі, канкурыруючы з другой, больш моцнай у камунікатыўных адносінах мовай. У прынцыпе, на тэрыторыі нашай краіны няма такога рэгіёна, такога соцыуму, дзе беларуская мова выступала б адзіным сродкам зносін. Разам з тым рэальным фактам сучаснай моўнай сітуацыі з'яўляецца і тое, што кожны грамадзянін нашай краіны незалежна ад таго, якой мовай ён карыстаецца ў сваёй паўсядзённай дзейнасці, штодзённа сутыкаецца з інфармацыяй на беларускай мове.

Па-другое, на працягу дастаткова доўгага перыяду беларуская нацыянальная мова не выкарыстоўвалася ў сферах афіцыйнага ўжытку і функцыянавала пераважна ў вуснай разнавіднасці.

Па-трэцяе, новая беларуская літаратурна-пісьмовая мова складвалася выключна ва ўмовах двухмоўя і нават шматмоўя. Гэтая акалічнасць абумовіла спецыфіку адбору сродкаў агульнанароднай мовы ў якасці літаратурнага стандарту, а таксама агульных падыходаў да нарматворчасці.

Па-чацвёртае, перапынак літаратурна-пісьмовай традыцыі і адсутнасць пераемнасці са старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовай прадвызначылі народна-гутарковую аснову новай беларускай літаратурнай мовы, што таксама аказала пэўны ўплыў на яе ўваходжанне ў некаторыя сферы ўжытку, такія як, напрыклад, справаводства, вышэйшая адукацыя, навука і г. д. Акрамя таго, менавіта гэтая акалічнасць абумовіла спецыфіку нацыянальнай словатворчасці на пачатку XX стагоддзя, у тым ліку ў сферы навуковай тэрміналогіі.

Нарэшце, на працягу ўсяго XX стагоддзя беларуская мова развівалася, удасканальвалася і функцыянавала выключна ва ўмовах блізкароднаснага двухмоўя. Парадоксам усяго этапу існавання і развіцця новай беларускай літаратурнай мовы ў XX стагоддзі з'яўляецца тое, што паралельна з развіццём і ўдасканаленнем сістэмы мовы адбываўся працэс змяншэння колькасці актыўных карыстальнікаў беларускай мовай. У выніку працэс інтэнсіўнага пашырэння беларускай мовы ў розных сферах ужытку, у самых розных камунікатыўных сферах у першай палове XX стагоддзя змяняецца ў другой палове адваротным працэсам яе выцяснення з гэтых сфер. Асабліва моцна гэты працэс закрануў афіцыйныя сферы ўжытку (справаводства, дзяржаўнае кіраванне, сродкі масавай інфармацыі), а таксама сферу навучання, у тым ліку школьнага. Гэта прывяло да таго, што ў канцы 1980-х гадоў беларуская мова ў цэлым радзе камунікатыўных сфер, якія фарміруюць грамадскі прэстыж любой мовы, была прадстаўлена вельмі абмежавана.

У сувязі з тымі працэсамі, якія адбыліся ў канцы XX стагоддзя ў сферы моўнага жыцця нашай краіны, неабходна звярнуць увагу на адзін вельмі істотны аспект, які характарызуе месца беларускай мовы ў сучасным грамадстве і яе перспектывы. Так, асноўным асяроддзем актыўнага выкарыстання беларускай мовы ў 70—80-я гады мінулага стагоддзя заставаліся беларуская вёска і асяроддзе гарадской гуманітарнай інтэлігенцыі. Дарэчы, і беларускамоўнае навучанне ў сярэдняй школе таксама захоўвала свае пазіцыі пераважна ў сельскай мясцовасці. Таму адным з найбольш істотных вынікаў моўнага развіцця ў канцы XX стагоддзя, калі на працягу невялікага перыяду ў 90-я гады рэзка ў грамадстве ўзрасла цікавасць да беларускай мовы, рабіліся інтэнсіўныя захады да пашырэння яе выкарыстання ў самых прэстыжных і запатрабаваных сферах ужытку, быў заканадаўча замацаваны яе статус як дзяржаўнай мовы, трэба лічыць змену грамадскіх ацэнак і сацыяльнай лакалізацыі беларускай мовы. Нягледзячы на тое, што намаганні па пашырэнні беларускай мовы ў асноўныя сферы ўжытку былі непрацяглымі і не далі чаканых вынікаў, безумоўна, станоўчым момантам з'яўляецца факт змены ацэнак і адносін грамадства да самой мовы. Сёння беларуская мова ўсведамляецца як важнейшы сродак захавання нацыянальнай адметнасці народа і краіны. У грамадстве ў цэлым сфарміравалася і замацавалася ўсведамленне прэстыжу асобы, якая адначасова з рускай мовай ведае і беларускую мову і карыстаецца ёю ў сваёй дзейнасці. Сацыяльнай базай беларускай мовы з'яўляюцца не вёска і вясковы соцыум, а пераважна гарадское асяроддзе беларускай інтэлектуальнай эліты (не толькі гуманітарнай), прадстаўнікі маладога пакалення грамадзян нашай краіны.

Адметным фактам моўнага развіцця гэтага перыяду можна адзначыць таксама спецыфічнае пераразмеркаванне функцыянальнай ролі беларускай мовы ў сучасным соцыуме. Так, у выніку змяншэння колькасці актыўных карыстальнікаў беларускай мовы і яе ролі як рэальнага сродку зносін істотна ўзрасло яе значэнне як сродку і сімвала нацыянальнай ідэнтыфікацыі і самаідэнтыфікацыі, сродку захавання і прэзентацыі нацыянальнай духоўнай спадчыны і культуры.

З улікам названых акалічнасцей ацэнка беларускай мовы і яе ролі ў сучасным грамадстве можа быць дапоўнена наступнымі характарыстыкамі. Беларуская мова ў пачатку XXI стагоддзя — гэта:

мова з працяглай, але перарванай пісьмовай традыцыяй; адзін з састаўных кампанентаў двухмоўнай сітуацыі; адзін з рэальных сродкаў зносін (які запатрабаваны не ў поўнай меры); важная частка нацыянальнай культуры і сродак прэзентацыі нацыянальнай культурнай і гістарычнай спадчыны беларускага народа; сродак і сімвал падтрымання нацыянальнай свядомасці і нацыянальнай адметнасці.

Акрамя таго, сёння трэба гаварыць пра неадпаведнасць заканадаўчага статусу беларускай мовы і яе рэальнай запатрабаванасці ў грамадстве. Гэта ставіць на парадак дня неабходнасць фарміравання грамадскага ўсведамлення рэальнай каштоўнасці нацыянальнай мовы ў сучасным дынамічным свеце, фарміравання цывілізаванага разумення сутнасці дзяржаўнага двухмоўя, рэальнага пашырэння беларускай мовы ў тыя сферы, дзе яна павінна выкарыстоўвацца як дзяржаўная мова і мова тытульнай нацыі. Не менш важнай задачай на сучасным этапе развіцця беларускай дзяржаўнасці з'яўляецца прававая адукацыя грамадзян у сферы моўнага жыцця.

**3.3.** Яшчэ адзін істотны момант існавання беларускай мовы ў пачатку XXI стагоддзя, які дазваляе правільна ацаніць яе камунікатыўныя магчымасці, месца і ролю ў сучасным грамадстве. Сёння сістэма нацыянальнай беларускай мовы прадстаўлена некалькімі разнавіднасцямі (падсістэмамі), якія па-рознаму запатрабаваны ў розных сферах ужытку, маюць розную сацыяльную стратыфікацыю і ў сукупнасці фарміруюць беларускамоўную прастору нашага грамадства.

**Літаратурная мова** (літаратурны стандарт). Вышэйшая форма нацыянальнай мовы, якая характарызуецца агульнанацыянальнай значнасцю, поліфункцыянальнасцю, унармаванасцю, разнастайнасцю пісьмовых і вусных жанраў. Як найбольш прадстаўнічая форма нацыянальнай мовы абслугоўвае ўсе сферы дзейнасці яе носьбітаў. Сёння беларуская мова з'яўляецца адной з высокаразвітых літаратурных моў свету. Нормы беларускай літаратурнай мовы замацаваны ў разнастайных лексікаграфічных даведніках, граматыках і іншых фундаментальных працах, большасць з якіх падрыхтаваны ў Інстытуце мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, які застаецца практычна адзінай навуковадаследчай установай у краіне, дзе праводзяцца планамерныя даследаванні ў галіне беларускага мовазнаўства.

Яшчэ ў 20-я гады XX стагоддзя ў Інстытуце беларускай культуры былі створаны першыя нарматыўныя слоўнікі беларускай мовы, інтэнсіўна распрацоўвалася беларуская навуковая тэрміналогія, праводзіліся даследаванні па беларускай дыялекталогіі і гісторыі беларускай мовы і г. д. Усё гэта дазволіла забяспечыць неабходную тэарэтычную і фактлагічную базу для паспяховага ўвядзення беларускай мовы ў найбольш важныя сферы ўжытку, у першую чаргу ў сферу школьнага навучання.

Сёння нарматыўную базу беларускай мовы складаюць «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» ў 5 т., 6 кн. (Мн., 1977—1984), «Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы» (Мн., 1994; 3-е выд. — Мн., 2002), акадэмічныя «Граматыка беларускай мовы» ў 2 т. (Мн., 1962—1964) і «Беларуская граматыка» ў 2 ч. (Мн., 1985—1986), нарматыўны «Слоўнік беларускай мовы» (Мн., 1987), Закон Рэспублікі Беларусь «Аб Правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі», а таксама разнастайныя энцыклапедычныя, двухмоўныя і тэрміналагічныя слоўнікі. Дарэчы, гэтыя і іншыя фундаментальныя працы, падрыхтаваныя ў акадэмічным Інстытуце мовазнаўства, не толькі забяспечылі беларускай мове статус адной з найбольш даследаваных славянскіх моў, але і высокі прэстыж акадэмічнага мовазнаўства ў славянскім свеце.

Адной з найбольш істотных і важных характарыстык літаратурнай мовы з'яўляецца наяўнасць строгіх, адзіных і абавязковых для ўсіх носьбітаў мовы арфаграфічных норм, без якіх немагчыма паспяховае авалоданне мовай у школе. Акрамя таго, без гэтага немагчыма яе паўнавартаснае функцыянаванне ва ўсіх афіцыйных

сферах зносін, дзе выкарыстоўваецца менавіта пісьмовая разнавіднасць мовы. Таму Закон Рэспублікі Беларусь «Аб Правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі», які ўступае ў дзеянне з 1 верасня 2010 года, якраз і накіраваны на ліквідацыю правапіснага разнабою на старонках беларускамоўных выданняў. У сувязі з гэтым вельмі важна выразна ўсведамляць, што гэты закон не з'яўляецца чарговай рэформай беларускага правапісу, якая абсалютна неапраўдана ў першую чаргу з практычнага боку. Ён з'яўляецца фактычна толькі новай рэдакцыяй арфаграфічных правілаў, што дзейнічалі да гэтага часу. Такім чынам, закон не закранае асноўных прынцыпаў беларускага правапісу, якія былі сфармуляваны яшчэ Б. Тарашкевічам, не змяняе сутнасць асноўных правілаў правапісу. Ён толькі накіраваны на змяншэнне колькасці выключэнняў, прывядзенне напісання асобных слоў і груп слоў у адпаведнасць з сучаснай пісьмовай практыкай і сучасным беларускім вымаўленнем. Самае галоўнае, новая рэдакцыя захоўвае традыцыі пераемнасці беларускай пісьмовай мовы. Менавіта такое разуменне і прызнанне сучасных правапісных змен усімі карыстальнікамі беларускай мовы незалежна ад іх моўных густаў і схільнасцей можа рэальна садзейнічаць павышэнню прэстыжу сучаснай беларускай пісьмовай мовы і яе рэальнаму пашырэнню ва ўсіх сферах ужытку.

Сучасная беларуская літаратурная мова прадстаўлена фактычна ва ўсіх камунікатыўных сферах і актыўна выкарыстоўваецца ў многіх з іх.

Згодна са звесткамі перапісу насельніцтва 1999 года значная частка беларусаў карыстаецца беларускай мовай у паўсядзённым ужытку (дома).

Беларуская мова дастаткова шырока прысутнічае ў сферы школьнага навучання. Яна з'яўляецца не толькі вучэбным прадметам, але і рэальным сродкам навучання. Наогул сярэдняя школа сёння фактычна выступае тым асноўным дзяржаўным інстытутам, які падтрымлівае беларускамоўную кампетэнцыю нашага грамадства.

На беларускай мове ствараецца высокамастацкая літаратура, яна прысутнічае ў сферы вышэйшай адукацыі і навукі, выкарыстоўваецца ў сродках масавай інфармацыі, прысутнічае ў сферы справаводства і кіравання, яна з'яўляецца мовай візуальнай і гукавой інфармацыі і рэкламы.

Трэба адзначыць, што сёння беларуская мова дастаткова інтэнсіўна пранікае ў такую сучасную сферу ўжытку, як СМС- і інтэрнэт-камунікацыя.

Беларуская мова — гэта мова дзяржаўных афіцыйных дакументаў.

Акрамя таго, беларуская мова прысутнічае і ў такой сферы, як ваенная. Большасць назваў родаў войскаў, назваў вайсковых падраздзяленняў, апазнавальных знакаў і нашывак на абмундзіраванні вайскоўцаў выкананы на беларускай мове. У 2010 годзе на беларускай мове выдадзены Агульнавайсковыя статуты Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь. Беларуская мова ўжо сёння з'яўляецца рабочай мовай роты Ганаровай варты.

Беларуская мова актыўна пранікае ў канфесійную сферу. Сёння на беларускай мове вядзецца практычнае набажэнства ў каталіцкім касцёле і праваслаўнай царкве, у іншых хрысціянскіх цэрквах. З'яўляюцца высокапрафесійныя пераклады рэлігійных тэкстаў на сучасную беларускую літаратурную мову. Зыходзячы з гэтага, можна гаварыць пра фарміраванне новага функцыянальнага стылю сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

Такім чынам, сёння беларуская мова — гэта поўнафункцыянальная мова, якая можа паспяхова абслугоўваць усе камунікатыўныя патрэбы сучаснага грамадства. Асаблівасці сучаснага становішча беларускай мовы ў тым, што ў многіх традыцыйных сферах яна прысутнічае толькі сімвалічна. Таму асноўная задача заключаецца ў рэальным пашырэнні беларускай мовы ва ўсіх сферах ужытку, дзе яна павінна выкарыстоўвацца як дзяржаўная мова нашай краіны і мова тытульнай нацыі. Разам з тым вельмі важным з'яўляецца ўсведамленне таго факта, што беларускай мове не патрэбна даказваць магчымасць выкарыстання ў любой сферы зносін сучаснага грамадства.

Літаратурная разнавіднасць беларускай мовы як мовы дзяржаўнай тэарэтычна не мае функцыянальных і сацыяльных абмежаванняў. Яна дастаткова шырока выкарыстоўваецца ў многіх камунікатыўных сферах, такіх як школьнае навучанне, сродкі масавай інфармацыі, мастацкая творчасць і іншых, і ў той ці іншай ступені прысутнічае ў астатніх.

**«Тарашкевіца»**. Сёння беларуская нацыянальная мова прадстаўлена і такой падсістэмай, як «тарашкевіца» (другі варыянт літаратурна-пісьмовай беларускай мовы, арыентаваны на пісьмовыя традыцыі 20-х гадоў XX стагоддзя і пісьмовую практыку беларускамоўнага замежжа). Яна характарызуецца асаблівасцямі фанетыкі, слоўнікавага складу, марфалагічных, сінтаксічных і словаўтваральных норм і часта разглядаецца як паралельны, альтэрнатыўны варыянт сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

У такім разуменні «тарашкевіца» ўяўляе сабой вельмі важны гістарычны этап развіцця мовы, без якога немагчыма было б існаванне сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Гэта важная частка нашай моўнай і культурнай спадчыны, якая павінна захоўвацца і зберагацца.

Паводле месца ў сістэме разнавіднасцей сучаснай нацыянальнай беларускай мовы з пункту погляду нарматыўнасці і функцыянавання (наяўнасць пісьмовай і вуснай разнавіднасцей, а таксама наяўнасць значнага пласта пісьмовых тэкстаў, у тым ліку і сучасных), а таксама з улікам кола карыстальнікаў «тарашкевіцу» можна разглядаць як своеасаблівы сацыяльны дыялект з ідэолага-палітычным адценнем.

**Народныя гаворкі** (фактычна рэшткі традыцыйных народных беларускіх гаворак) на сённяшні дзень абмежаваны ў сваім выкарыстанні і функцыянальна, і сацыяльна. Спарадычна выкарыстоўваюцца ў сферы побытавых зносін пераважна ў сельскай мясцовасці жыхарамі сталага ўзросту, а таксама прысутнічаюць у маўленні сельскіх жыхароў маладзейшага ўзросту і тых гарадскіх жыхароў, якія не страцілі сваёй сувязі з вёскай. Беларускае дыялектнае маўленне складае значную частку беларускай моўнай стыхіі ў сучаснай камунікатыўнай прасторы.

**Сацыяльныя дыялекты** (студэнцкі і маладзёжны слэнг, камп’ютарны жаргон). Калі да нядаўняга часу лічылася, што беларускай нацыянальнай мове на сучасным этапе яе існавання не ўласцівы сацыяльныя разнавіднасці, то зараз можна гаварыць пра фарміраванне гэтай падсістэмы нацыянальнай мовы. Сёння ў беларускамоўным маўленні выразна прысутнічаюць студэнцкі і маладзёжны слэнг, камп’ютарны жаргон і інш. Элементы гэтых разнавіднасцей нацыянальнай беларускай мовы пранікаюць і ў мову сродкаў масавай інфармацйыі. Наяўнасць сацыяльных дыялектаў з’яўляецца важнай характарыстыкай сучасных высокаразвітых моў, якая сведчыць пра іх выкарыстанне ва ўсіх сферах камунікацыі рознымі сацыяльнымі групамі насельніцтва.

**«Трасянка»** (разнавіднасць змешанага вуснага маўлення, якая характарызуецца наяўнасцю элементаў другой моўнай сістэмы). Да беларускай моўнай стыхіі ў гэтым выпадку адносяцца: пераважна беларускае маўленне з элементамі рускай мовы, пераважна беларускае літаратурнае маўленне з элементамі «тарашкевіцы», пераважна беларускае літаратурнае маўленне з элементамі мясцовых традыцыйных гаворак і г. д. Пры гэтым варта адрозніваць змешанае вясковае маўленне і змешанае гарадское маўленне, якое фактычна па сваёй сутнасці збліжаецца з гарадскім прастамоўем.

У сувязі з адзначаным характарыстыка беларускай мовы ў пачатку XXI стагоддзя павінна быць дапоўнена наступнымі ацэнкамі. Беларуская мова — гэта:

мова, якая функцыянуе ў вуснай і пісьмовай разнавіднасцях; мова, сістэма якой прадстаўлена некалькімі падсістэмамі, па-рознаму запатрабаванымі ў розных сферах ужытку; мова, якая інтэнсіўна развіваецца ў плане павелічэння сваіх разнавіднасцей і пашырэння слоўнікавага складу; мова, якая «заваёўвае» новыя сучасныя сферы дзейнасці грамадства.

Такім чынам, апошнія два дзесяцігоддзі ў развіцці беларускай нацыянальнай мовы характарызуюцца тэндэнцыяй да павелічэння колькасці яе разнавіднасцей (падсістэм) і функцыянальных стыляў. Ёй у той ці іншай ступені карыстаюцца самыя шырокія слаі насельніцтва краіны для забеспячэння камунікатыўных патрэб.

**3.4.** Нарэшце, для паўнаты характарыстыкі сучаснага стану сістэмы беларускай мовы як сродку камунікацыі неабходна некалькі слоў сказаць аб асноўных тэндэнцыях яе сучаснага развіцця ў кантэксце развіцця славянскіх моў у цэлым.

Папаўненне слоўнікавага складу сучаснай беларускай мовы ў канцы XX — пачатку XXI стагоддзя характарызуецца выключным дынамізмам і супярэчлівасцю працэсаў. Змены, якія адбываюцца ў лексічнай сістэме беларускай мовы на рубяжы стагоддзяў, абумоўлены, з аднаго боку, натуральнымі патрэбамі называння новых і актуальных з'яў рэчаіснасці. З другога боку, інавацыйныя з'явы ў сучасным беларускім маўленні абумоўлены імкненнем нарматыўнай пераацэнкі існуючых моўных сродкаў з пурыстычных пазіцый адштурхоўвання ад рускай мовы, якая займае дамінуючае становішча ў камунікатыўнай і інфармацыйнай прасторы беларусаў.

Змены ў слоўнікавым складзе беларускай мовы адбываюцца галоўным чынам у рамках дзвюх магістральных тэндэнцый сучаснага развіцця славянскіх моў: тэндэнцыі да інтэрнацыяналізацыі і тэндэнцыі да нацыяналізацыі. Пры гэтым тэндэнцыя да інтэрнацыяналізацыі мае ўніверсальны, агульны для большасці славянскіх моў характар, а тэндэнцыя да нацыяналізацыі, абумоўленая пурыстычнымі памкненнямі, характарызуецца беларускамоўнай спецыфікай.

З тэндэнцыяй да інтэрнацыяналізацыі звязана інтэнсіўнае папаўненне слоўнікавага складу беларускай мовы непасрэднымі запазычаннямі (пераважна англаамерыканскімі) і вытворнымі лексічнымі адзінкамі з іншамоўнымі элементамі, што можна разглядаць як рух звонку ўнутр сістэмы і ўнутрымоўнае расшырэнне.

З тэндэнцыяй да нацыяналізацыі, сутнасць якой у беларускай мове выяўляецца ў пурыстычным імкненні да павелічэння спецыфічных беларускіх моўных сродкаў, якія аддаляюць яе ад іншых суседніх моў, перш за ўсё ад рускай, звязаны ўвядзенне ў актыўны ўжытак устарэлай і рэгіянальнай лексікі, актыўная словатворчасць, з'яўленне сінанімічных і нават дублетных найменняў і г. д. У гэтым выпадку мы маем справу з унутрымоўным змяшчэннем, якое мае напрамак ад перыферыі да цэнтра і наадварот.

Вышэй прыведзенае дае магчымасць назваць шэраг адзнак, якія характарызуюць сучасны стан беларускай мовы з пункту гледжання развіцця яе намінатыўнай сістэмы. Беларуская мова — гэта мова, якая: развіваецца ў рэчышчы агульных для славянскіх моў тэндэнцый; актыўна папаўняе слоўнікавы склад у адпаведнасці з сучаснымі намінатыўнымі патрэбамі; мае высокія адаптацыйныя магчымасці; захоўвае сваю спецыфіку і адметнасць.

Такім чынам, развіццё сістэмы беларускай мовы ў пачатку XXI стагоддзя характарызуецца складанасцю, супярэчлівасцю і дынамізмам працэсаў, а яе месца ў камунікатыўнай прасторы — другарадным становішчам у большасці сфер зносін. Разам з тым сучасны стан беларускай мовы ў грамадстве, слоўнікавы склад і высокія адаптацыйныя магчымасці, заканадаўчы статус і месца ў сістэме адукацыі і сродкаў масавай інфармацыі, шырокая сацыяльная база даюць падставы меркаваць, што і ў XXI стагоддзі яна застанецца рэальным сродкам зносін, нацыянальнай ідэнтыфікацыі і культуры беларусаў, а таксама захавае сваё месца сярод славянскіх моў і ў моўным ландшафце Еўропы.

## 4. Беларуская мова і сучасная беларусістыка

Паспяховае функцыянаванне любой мовы ва ўсіх сферах афіцыйнага ўжытку, як гэта прадугледжвае статус дзяржаўнай мовы, немагчыма без адпаведнага

навуковага суправаджэння, без стварэння неабходнай тэарэтычнай і фактыалагічнай базы, гэта значыць без поўнага апісання сістэмы мовы і наяўнасці стабільных літаратурных нормаў, без усталяванай пісьмовай традыцыі, і без комплексу практычных дапаможнікаў, якія забяспечваюць працэс навучання і патрэбы моўнай практыкі. Таму паспяховае функцыянаванне беларускай мовы ў грамадстве як дзяржаўнай мовы, яе пашырэнне ва ўсіх найбольш важных і прэстыжных сферах ужытку ў значнай ступені будзе залежаць ад узроўню развіцця **беларусістыкі як комплексу лінгвістычных дысцыплін, звязаных з вывучэннем сістэмы беларускай мовы на сучасным этапе і ў гістарычным развіцці.**

Сучасная беларусістыка як асобны раздзел мовазнаўчай навукі цесна звязана з развіццём самой беларускай мовы ў XIX—XX стагоддзях. Спецыфіка фарміравання новай беларускай літаратурна-пісьмовай мовы (перапынак пісьмовай традыцыі і адсутнасць пераемнасці са старабеларускай літаратурнай пісьмовай мовай, народна-гутарковая аснова, сацыялінгвістычныя ўмовы функцыянавання беларускай мовы і фарміравання яе нормаў і інш.) абумовіла і спецыфіку фарміравання і развіцця сучаснай беларусістыкі. Сярод яе асаблівасцей неабходна назваць перш за ўсё выразную практычную накіраванасць даследаванняў у галіне беларускага мовазнаўства і пурыстычную сканцэнтраванасць на адметных асаблівасцях сістэмы беларускай мовы.

Так, у першай палове XX стагоддзя даследаванні ў галіне беларускай мовы былі накіраваны перш за ўсё на забеспячэнне патрэб моўнай практыкі. Паколькі ў гэты час беларуская мова актыўна ўкаранялася ва ўсе асноўныя сферы камунікацыі, у тым ліку і ў сферу навучання, вельмі востра стаяла праблема навуковага і практычнага (фактыалагічнага) забеспячэння гэтага працэсу. Менавіта таму асаблівую актуальнасць у гэты перыяд набывала работа па ўніфікацыі нормаў беларускай літаратурнай мовы (у першую чаргу арфаграфічных), фарміраванні і папаўненні яе слоўнікавага складу, стварэнні нацыянальнай навуковай тэрміналогіі і г. д. Невыпадкова, што ў гэты перыяд (асабліва ў 1920-я гады) асноўная ўвага беларускіх лінгвістаў была накіравана на падрыхтоўку практычных дапаможнікаў па беларускай мове, якія забяспечвалі яе функцыянаванне ва ўсіх камунікатыўных сферах жыцця грамадства як афіцыйнай дзяржаўнай мовы.

Сярод асноўных здабыткаў гэтага перыяду трэба назваць:

1) стварэнне першай беларускай нарматыўнай граматыкі «Граматыкі беларускай мовы для школ» Браніслава Тарашкевіча, у якой упершыню былі дастаткова выразна і поўна сфармуляваны асноўныя правілы беларускага правапісу, словазмянення і словаўжывання. Гэтая граматыка ў 1920-я гады адыграла выключна важную ролю ў пашырэнні беларускай мовы ў сферы адукацыі і беларускамоўнага навучання;

2) падрыхтоўку слоўнікаў беларускай мовы (галоўным чынам перакладных беларуска-рускіх і руска-беларускіх): напрыклад, «Беларуска-расійскі слоўнік» (М. Байкоў і С. Некрашэвіч; Мн., 1926) і «Руска-беларускі слоўнік» (пад рэд. А. Александровіча. Мн., 1937);

3) сістэмную працу па стварэнні і ўпарадкаванні беларускай навуковай тэрміналогіі. Напрыклад, толькі на працягу 20-х гадоў мінулага стагоддзя тэрміналагічнай камісіяй Інстытута беларускай культуры былі падрыхтаваны 27 выпускаў «Беларускай навуковай тэрміналогіі» па розных галінах навукі, што забяспечыла найперш выкладанне ўсіх вучэбных дысцыплін на беларускай мове;

4) работу над удасканаленнем графічнай і арфаграфічнай сістэм сучаснай беларускай мовы. Вынікам гэтай працы сталі пераход у 1926 годзе беларускай пісьмовай мовы толькі на кірылічны алфавіт і правядзенне рэформы беларускага правапісу ў 1933 годзе;

5) арганізацыю работы па стварэнні картатэкі тлумачальнага слоўніка беларускай літаратурнай мовы, збіранні і вывучэнні беларускай народнай мовы (дыялектаў), вывучэнні этапаў гістарычнага развіцця беларускай мовы і помнікаў старабеларускага пісьменства.

У другой палове XX стагоддзя пачынаюцца сістэматычнае і сістэмнае даследаванне ўсіх узроўняў беларускай літаратурнай мовы, падрыхтоўка фундаментальных лексікаграфічных прац (тлумачальных, арфаграфічных і іншых слоўнікаў беларускай мовы, у тым ліку перакладных руска-беларускіх і беларуска-рускіх слоўнікаў), шырокамаштабныя даследаванні ў галіне беларускай дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі, гісторыі беларускай мовы, анамастыкі і словаўтварэння і г. д. Цэнтрам развіцця беларусістыкі стаў акадэмічны Інстытут мовы і літаратуры. У гэтым інстытуце падрыхтаваны і выдадзены найбуйнейшыя працы па беларускай мове, якія замацавалі яе статус як высокаразвітой літаратурнай мовы, што здольна паспяхова абслугоўваць усе камунікатыўныя патрэбы сучаснага грамадства. Яны забяспечылі высокі міжнародны прэстыж беларускага акадэмічнага мовазнаўства, найперш у славянскім свеце.

Разам з тым пытанні забеспячэння патрэб моўнай практыкі і ў гэты перыяд не губляюць сваёй актуальнасці. У Інстытуце мовы і літаратуры падрыхтаваны і выдадзены разнастайныя тэрміналагічныя слоўнікі, якія забяспечылі выкарыстанне беларускай мовы ў розных галінах навуковай, тэхнічнай і грамадска-палітычнай дзейнасці: «Руска-беларускі слоўнік грамадска-палітычнай тэрміналогіі» (Мн., 1970), «Руска-беларускі слоўнік скарачэнняў» (у 2 т., Мн., 1995—1996), «Руска-беларускі політэхнічны слоўнік» (у 2 т., Мн., 1997—1998), «Слоўнік сельскагаспадарчай тэрміналогіі» (Мн., 1994) і інш. Менавіта гэтыя выданні працягнулі традыцыі тэрміналагічнай працы, якая пачалася яшчэ ў Інстытуце беларускай культуры ў сярэдзіне 1920-х гадоў, і забяспечылі выкарыстанне беларускай мовы ў сферы навукі і вытворчасці.

Найважнейшай абагульняльнай тэарэтычнай працай 60-х гадоў мінулага стагоддзя стала акадэмічная «Граматыка беларускай мовы». У ёй фактычна ўпершыню ў навейшай гісторыі ажыццёўлена найбольш поўнае і сістэмнае апісанне граматычнага ладу сучаснай беларускай літаратурнай мовы, яе словаўтварэння і гукавога складу. Працягам гэтай грунтоўнай працы стала выданне ў 1985—1986 гг. акадэмічнай «Беларускай граматыкі» (у 2 ч.), а таксама «Кароткай граматыкі беларускай мовы» (у 2 ч. Мн., 2007, 2009) . Гэтыя і іншыя працы сталі тэарэтычнай і фактычнай базай для стварэння навучальнай літаратуры па беларускай мове для ўсіх узроўняў адукацыі, яны актыўна выкарыстоўваюцца ў навучальным працэсе ў вышэйшых навучальных установах краіны.

Асаблівасці сучаснай моўнай сітуацыі ў краіне, заканадаўча замацаванае дзяржаўнае двухмоўе, змены ў сістэме беларускай мовы ставяць перад лінгвістычнай беларусістыкай новыя прыярытэтныя задачы і праблемы, вырашэнне якіх павінна забяспечыць паслядоўнае развіццё сістэмы беларускай мовы і яе паўнацэннае функцыянаванне ва ўсіх камунікатыўных сферах, а таксама яе грамадскі прэстыж не толькі як сродку зносін, але і як носьбіта культурнай і духоўнай спадчыны беларускага народа, сродку і сімвала нацыянальнай ідэнтыфікацыі і самаідэнтыфікацыі беларусаў. Апошняе асабліва важна, паколькі ў эпоху інтэнсіўнай міжнароднай інтэграцыі і глабалізацыі грамадства на першы план выступаюць менавіта гуманітарныя праблемы, у тым ліку праблемы захавання і развіцця нацыянальных моў як найкаштоўнейшага культурнага скарбу.

## 5. Беларуская мова ў XXI стагоддзі: адметнасць існавання

Пры ажыццяўленні дзейнасці па пашырэнні беларускай мовы як дзяржаўнай мовы краіны ва ўсіх важнейшых сферах грамадскага ўжытку, найперш афіцыйнага, і практычнай рэалізацыі прынцыпаў дзяржаўнага двухмоўя ў нашай краіне павінны ўлічвацца існуючая моўная сітуацыя і рэаліі блізкароднаснага двухмоўя, а таксама наступнае:

1) з сітуацыяй двухмоўя заўсёды звязаны праблемы паўнавартаснага і парытэтнага выкарыстання суіснуючых моў ва ўсіх сферах грамадскіх зносін, аднак заканадаўчае замацаванне дзяржаўнага двухмоўя пры безумоўным выкананні моўнага заканадаўства дае пэўныя гарантыі для рэальнай падтрымкі раўнапраўнага функцыянавання абедзвюх дзяржаўных моў у гэтых сферах;

2) рэаліі сучаснага моўнага жыцця ў Рэспубліцы Беларусь сведчаць, што блізкароднаснае двухмоўе застанецца вызначальным фактарам жыцця беларускага грамадства ў XXI стагоддзі. Таму вырашэнне задач пашырэння ўжывання беларускай мовы ў важнейшых сферах у бліжэйшай перспектыве павінна ставіць сваёй мэтай дасягненне парытэтнага выкарыстання абедзвюх дзяржаўнах моў (беларускай і рускай);

3) сучасная беларуская мова па ўзроўні развіцця сваёй сістэмы, слоўнікавага складу, навуковай тэрміналогіі здольна паспяхова абслугоўваць усе сферы ўнутрынацыянальных зносін. З'яўляецца актуальнай задача яе рэальнага выкарыстання ў найбольш важных і ўплывовых сферах камунікацыі, што патрабуе адпаведнай дзяржаўнай падтрымкі;

4) на пачатку XXI стагоддзя беларуская мова рэальна запатрабавана ў камунікатыўнай прасторы беларускага грамадства, актыўна выкарыстоўваецца ў некаторых традыцыйных сферах ужытку і адначасова выяўляе тэндэнцыі пашырэння ў новых сучасных сферах камунікацыі. Як і раней, актуальнай застаецца праблема павелічэння прысутнасці беларускай мовы менавіта ў такіх традыцыйных сферах ужытку, як дзяржаўнае кіраванне, справаводства, школьнае навучанне, сродкі масавай інфармацыі і г. д. Для яе вырашэння неабходна выкананне комплексу практычных мерапрыемстваў у межах існуючага моўнага заканадаўства;

5) рэальнае пашырэнне беларускай мовы ў сферах, дзе яна павінна выкарыстоўвацца як дзяржаўная, немагчыма без адпаведнай навуковай базы. Гэта абумоўлівае актуальнасць правядзення сістэмных і сістэматычных даследаванняў у галіне беларускага мовазнаўства, падрыхтоўкі разнастайных даведнікаў для забеспячэння патрэб вуснай і пісьмовай практыкі;

6) неабходна мэтанакіраванае фарміраванне моўнай кампетэнцыі грамадства і прававой кампетэнцыі грамадзян у сферы моўнага жыцця. Важнай задачай дзяржаўнай нацыянальнай ідэалогіі павінна стаць захаванне і ўзмацненне нацыянальна-культурных прыярытэтаў, што адпавядае сучасным тэндэнцыям сусветных гуманітарна-цывілізацыйных працэсаў. Неабходна фарміраваць грамадскае ўсведамленне, што толькі двухмоўная і шматмоўная асоба, якая выразна ўсведамляе каштоўнасць нацыянальна-моўных прыярытэтаў для захавання сваёй адметнасці ў эпоху інтэнсіўнай глабалізацыі і інтэграцыі, рэальна з'яўляецца найбольш падрыхтаванай для рэалізацыі сваіх інтэлектуальных здольнасцей і прафесійных амбіцый у сучасным шматмоўным і шматкультурным свеце.

## 6. Беларуская мова як фактар кансалідацыі беларускага грамадства

На працягу мінулага стагоддзя беларуская мова даказала сваю жыццёвасць, значэнне для беларускага грамадства і заняла належнае месца сярод славянскіх моў і на лінгвістычнай карце Еўропы, а беларусістыка стала важнай часткай лінгвістычнай славістыкі. Мова, у тым ліку і беларуская, з'яўляецца адным з найбольш істотных і відавочных фактараў нацыянальнай адметнасці нацыі, нацыянальнай свядомасці і ідэнтыфікацыі народа. Таму сёння менавіта беларуская мова разам з ідэяй нацыянальнай незалежнасці і суверэнітэту могуць і павінны стаць вядучым фактарам кансалідацыі беларускай нацыі. На пачатку XXI стагоддзя для гэтага ёсць усе неабходныя аб'ектыўныя і суб'ектыўныя фактары. Аднак у сувязі з адзначаным набываюць актуальнасць істотная карэкціроўка вектара развіцця сістэмы

беларускай мовы і яе функцыянавання як сродку камунікацыі і ўдакладненне агульных напрамкаў развіцця беларусістыкі і працэсу навучання беларускай мове.

На сучасным этапе беларуская мова павінна пазбавіцца ад комплексу блізкароднаснага адштурхоўвання. Моўны пурызм як самамэта рэальна стрымлівае развіццё мовы і яе паўнацэннае выкарыстанне ў найбольш важных і актуальных для сучаснага грамадства камунікатыўных сферах. На працягу XX стагоддзя беларуская мова даказала сваю нацыянальную адметнасць і непаўторнасць, таму сёння абсалютна неістотнай для яе з'яўляецца ступень падабенства ці адрознення ад іншых славянскіх блізкароднасных моў. Па меншай меры гэты аспект не павінен быць вызначальным пры адборы сродкаў нацыянальнай мовы ў працэсе камунікацыі.

Беларусістыка і працэс выкладання беларускай мовы павінны стаць выразна этнацэнтрычнымі, пазбавіцца свядомага ці падсвядомага параўнання з сістэмамі іншых блізкароднасных моў, акцэнтавання ўвагі на спецыфічна адметных рысах сістэмы беларускай мовы. Беларуская мова з'яўлецца цалкам самадастатковай сістэмай вербальных сродкаў адлюстравання рэчаіснасці. Таму сёння ёсць неабходнасць гаварыць пра спецыфіку сістэм іншых суіснуючых у грамадстве моў у параўнанні з сістэмай беларускай мовы.

Нацыянальная беларуская мова ўяўляе сабой складанае адзінства розных падсістэм, якія па-свойму прадстаўлены ў камунікатыўнай прасторы беларускага соцыуму. Сёння павінна вітацца выкарыстанне ў працэсе камунікацыі любой разнавіднасці, любой падсістэмы беларускай нацыянальнай мовы, у тым ліку і беларускай «трасянкі» ў размоўным, неафіцыйным маўленні. Усё гэта, безумоўна, будзе рэальна весці да пашырэння беларускай моўнай стыхіі. Выкарыстанне ў практычным маўленні той ці іншай падсістэмы нацыянальнай мовы, выбар тых ці іншых канкрэтных моўных сродкаў у залежнасці ад узроўню моўнай кампетэнцыі ці асабістых густаў асобы не павінны быць прычынай канфрантацыі на моўнай глебе.

У складанай іерархіі падсістэм нацыянальнай мовы менавіта літаратурная мова займае цэнтральнае месца, з'яўляецца яе вышэйшай формай. Як унармаваная, апрацаваная майстрамі мастацкага слова літаратурная мова з'яўляецца агульнанацыянальнай, выкарыстоўваецца ва ўсіх сферах афіцыйных зносін, вывучаецца ў школе і г. д. Сучасная беларуская літаратурная мова як вышэйшая форма беларускай нацыянальнай мовы характарызуецца стройнай і дастаткова ўпарадкаванай сістэмай норм і мае працяглую традыцыю выкарыстання ў розных сферах афіцыйнага ўжытку, сферы адукацыі і навукі, сродкаў масавай інфармацыі і г. д. Сучасныя прыярытэты існавання і развіцця беларускай мовы як дзяржаўнай вымагаюць ад усіх карыстальнікаў строгага прытрымлівання ў вуснай і пісьмовай практыцы афіцыйнага маўлення адзіных літаратурных норм беларускай мовы.

Нарэшце, любая натуральная мова ў працэсе свайго функцыянавання пастаянна развіваецца і ўдасканальваецца, што знаходзіць адлюстраванне не толькі ў слоўнікавым складзе, але і ў сістэме літаратурных норм. У мовах, якія маюць працяглую пісьмовую традыцыю (а беларуская літаратурная мова адносіцца якраз да такіх моў), падобныя змены адбываюцца эвалюцыйным (а не рэвалюцыйным!) шляхам у працэсе моўнай практыкі. Развіццё і ўдасканаленне сістэмы беларускай літаратурнай мовы ў далейшым таксама будзе адбывацца паступова ў працэсе вуснай і пісьмовай моўнай практыкі. Чым больш шырока мова будзе выкарыстоўвацца ў найбольш важных і запатрабаваных сферах камунікацыі, тым больш паспяховым і натуральным будуць працэсы яе развіцця і ўдасканалення.

Як уяўляецца, толькі такія ўзважаныя і рэалістычныя падыходы і мэтанакіраваная практычная дзейнасць усіх карыстальнікаў беларускай мовы могуць забяспечыць паслядоўнае і гарманічнае развіццё сістэмы беларускай мовы, забяспечыць яе функцыянаванне ў грамадстве як дзяржаўнай мовы краіны.

**Анатоль ВАЛАХАНОВІЧ**

# СЛОВА ПРА ЗЕМЛЯКА

Першае маё знаёмства са Станіславам Пятровічам Шушкевічам, праўда завочнае, адбылося зусім нечакана. У Цэнтральнай кнігарні горада Мінска я набыў кароткі біяграфічны даведнік «Пісьменнікі Савецкай Беларусі». Даведнік быў, як потым дазнаўся, другім дапоўненым і выпраўленым выданнем. Гэтую кніжку я набыў 15 мая 1959 года. Захаваўся запіс — дата набыцця кнігі і подпіс на старонцы з гэтай кнігі. Біяграфія С. Шушкевіча была вельмі сціплая: ні слова з 1935 да 1958 года, дзе ён быў і што рабіў.

У той час я вучыўся ў Мінскім дзяржаўным педагагічным інстытуце імя А. М. Горкага і рабіў першыя няўпэўненыя крокі — подступы да збірання матэрыялу і вывучэння гісторыі Дзяржыншчыны (былой Койданаўшчыны) і вышукваў сярод іншых знакамітых людзей, што нарадзіліся на тэрыторыі раёна, і пісьменнікаў-землякоў, і тых, хто пэўны час жыў ці што-небудзь пісаў пра гэты, пакуль што не вельмі вядомы мне край. У біяграфічным даведніку знайшоў прозвішчы паэтаў, пісьменнікаў, літаратуразнаўцаў-землякоў: Артур Вольскі, Васіль Івашын, Антон Семяновіч. Зінаіда Бандарына і Віталь Вольскі-Зэйдаль тут пэўны час жылі і працавалі. А на старонцы 478-й убачыў фота і кароценькую біяграфію Станіслава Шушкевіча. Уважліва прачытаў яе.

Я быў здзіўлены тым, што пра яго асабіста, як і пра творчасць не было нічога напісана ні ў якім падручніку па беларускай літаратуры. У хрэстаматыі па роднай літаратуры для сярэдніх школ і ВНУ рэспублікі не прыведзена ніводнага яго твора, хаця літаратурная творчасць С. Шушкевіча пачалася яшчэ ў 1924 годзе. Ён быў аўтарам двух зборнікаў вершаў, якія выйшлі да Вялікай Айчыннай вайны ў 1934 і 1936 гадах — «Вершы» і кніжка вершаў для дзяцей «Звярыны баль». У 1959 годзе пабачыў свет зборнік паэзіі «Дарогаю вясны».

У 1970 годзе выйшаў кароткі біябібліяграфічны даведнік «Пісьменнікі Савецкай Беларусі». Пра С. Шушкевіча ў ім літаральна сказана наступнае: «З 1936 да 1956 г. быў у Сібіры, працаваў цесляром, бухгалтарам саўгаса, тапографам, работнікам многіх геалагічных экспедыцый». А чаго ён быў у тых экспедыцыях — не гаварылася.

Землякоў-дзяржынцаў у гэтым даведніку ўжо было значна больш: акрамя згаданых, упамянуты Іван Калеснік, Лукаш Калюга, Анатоль Сабалеўскі, Ігар Хадановіч. Вячаслаў Адамчык і Янка Непачаловіч пэўны час жылі і працавалі ў Дзяржынску.

Пра тыя страшэнна-трагічныя часы да Вялікай Айчыннай вайны ў «Прадмове» напісана: «пададзены звесткі пра ўсіх членаў Саюза пісьменнікаў БССР, а таксама пра паэтаў, празаікаў, драматургаў і крытыкаў, якія актыўна працавалі ў беларускай літаратуры ў 20—30 гады і ў пасляваенны час і якіх цяпер няма ў жывых». А за гэтымі сціплымі словамі стаяла фізічнае вынішчэнне савецкіх людзей: вучоных, пісьменнікаў, мастакоў, военачальнікаў, рабочых, сялян, партыйных і савецкіх работнікаў і іншых.

З таго часу я пачаў уважліва сачыць за творчасцю Станіслава Пятровіча Шушкевіча, за яго новымі кніжкамі, чытаў іх: «Услед за марамі» (1961), «Навальніца» (1966), «Вяртанне ў маладосць» (1968).

Ішлі гады. Выходзілі яго кніжкі: часам па дзве ў год. Станіслаў Пятровіч спяшаўся навярстаць тое стратнае «20-годдзе» — час яго турэмнага і лагернага зняволення. Пакрыху і яму, як і яго калегам і сябрам па пяры, давалі, як кажуць тэлерэпарцёры, «эфір».

А потым я сустрэўся са Станіславам Пятровічам. Наша знаёмства адбылося на адным з чарговых з'ездаў пісьменнікаў Беларусі.

У перапынку я падышоў да яго — невысокага, каржакаватага, яшчэ мажнага, з паголенаю галавою — і так вось проста прывітаўся:

— Добры дзень, Станіслаў Пятровіч!

— Вітаю вас!

— Я, Валахановіч Анатоль Іосіфавіч, гісторык, журналіст, краязнаўца, пішу кніжку пра Дзяржынск.

— А, гэта вы, Анатоль Валахановіч з-пад Негарэлага!

У далейшым ён мяне так часам і называў: «Анатоль Валахановіч з-пад Негарэлага». Справа ў тым, што ў дзяржынскай раённай газеце «Сцяг Кастрычніка» мае артыкулы ў рэдакцыі падпісвалі так: «Анатоль Валахановіч. г. п. Негарэлае».

І ён мне па-сяброўску пацiснуў руку. Па гадах я яму падыходзіў у сыны.

— Я выпісаў у Мінск нашу раённую газету «Сцяг Кастрычніка» і чытаю вашы допісы ў ёй, — працягваў ён. — Шчыра віншую вас з поспехам!

З першых слоў я адчуў, што мы размаўляем як старыя знаёмыя. С. Шушкевіч гаварыў мякка, душэўна, добразычліва, быццам ведаў мяне цэлую вечнасць. Ён распавёў мне над чым цяпер працуе, што ў яго нядаўна выйшла, што ў друку, паскардзіўся на шматлікія хваробы. Ягонае «20-годдзе» давала аб сабе знаць! Але голас быў бадзёры, настрой добры. Ён быў вялікім аптымістам.

Я расказаў бегла пра сябе, дзе і кім працую, і папрасіў яго даць мне свае фотаздымкі, каб змясціць іх у кнізе, якую я рыхтаваў да выдання. Фота патрэбна было ў раздзел пра славутых землякоў, якія нарадзіліся на Койданаўшчыне.

Так пачалося маё сяброўства з чалавекам, які цудам застаўся жывым. Мы дамовіліся сустрэцца з ім назаўтра. На наступны дзень ён перадаў мне свае фотаздымкі, акуратна загорнутыя ў белы аркуш паперы, і шэраг сваіх кніг з аўтографамі. Гэтыя кніжкі ў маёй бібліятэцы стаяць на самым пачэсным месцы, сярод кніжак з аўтографамі Уладзіміра Караткевіча, Рыгора Барадуліна, Петруся Броўкі, Васіля Віткі, Янкі Брыля, Васіля Быкава...

Мы абмяняліся тэлефонамі, часта перазвоньваліся. Ён віншаваў мяне з новымі надрукаванымі артыкуламі ў газетах «Сцяг Кастрычніка», «Мінская праўда», «Звязда», часопісах, іншых перыядычных выданнях.

У 1977 і 1982 гадах у мяне выйшлі кніжкі пра Дзяржынск — гісторыка-эканамічныя нарысы. Першая была на беларускай мове, другая — на рускай. Падпісаў гэтыя дзве кніжкі С. Шушкевічу. Ён павіншаваў мяне з творчым поспехам.

У час адной сустрэчы са Станіславам Пятровічам Шушкевічам я нагадаў, што ў Дзяржынскім раёне няма прозвішча Шушкевіч, а ёсць Сушкевіч. Ён гэта пацвердзіў і расказаў гісторыю аб тым, як яго прозвішча, дакладней, адна літара «С» была памяняна на «Ш», і ён стаў Шушкевічам. Бацька, Пётр Сушкевіч у 1908 годзе прымаў удзел у палітычных выступленнях. Яго папярэдзілі, што арыштуюць і ён можа трапіць у турму. Бацька хутка сабраўся і з сям'ёй выехаў у Смаленскую губерню. Набыў новы пашпарт са змененым крыху прозвішчам — Шушкевіч.

Шмат Станіслаў Пятровіч расказваў і пра тое, дзе быў 20 гадоў, што ён там рабіў, што бачыў, з кім з пісьменнікаў адбываў высылку. І як яго ў канцы 1946 года адпусцілі з Сібіры.

У 1946—1949 гадах Станіслаў Пятровіч працаваў у Дзяржынскім раёне — спачатку бухгалтарам у калгасе, потым настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў Данілавіцкай сярэдняй школе. А ў 1949 годзе тагачасны беларускі кат-

міністр дзяржаўнай бяспекі Л. Цанава — паплечнік Л. Берыя («Мой дарагі кацо Лаўруша», — як яго ласкава называў Л. Цанава) спаткаў С. Шушкевіча ў будынку МДБ у Беларусі і, палічыўшы, што ён яшчэ свайго тэрміну не адсядзеў да канца, зноў пасадзіў у турму і адправіў у ссылку ў Краснаярскі край. Як мне распавядаў Станіслаў Пятровіч, ён прыехаў у Мінск, у МДБ БССР, каб адзначыцца, што ён тут, у Беларусі. І, калі сядзеў у кабінеце следчага, яго зусім выпадкова ўбачыў Л. Цанава, які зайшоў у кабінет. Пазнаў (памяць у Цанавы была выключная!) і адправіў С. Шушкевіча ў ссылку ў Краснаярскі край…

Мы сядзелі ў яго ўтульным пакоі па вуліцы Усходняй, 11, на пятым паверсе, і я глядзеў на яго і думаў: «Пасля 20 гадоў турмы і ссылкі ён застаўся па-дзіцячы даверлівы да ўсіх і ўсяго, шчыры, справядлівы, добры, тактоўны». Станіслаў Пятровіч расказваў пра тое, як яму былося-жылося «там», як «ад яго адабралі свабоду», «як ткалася злачынства» і многае-многае іншае. Гэтыя словы, узятыя ў двукоссі, цытуюцца з яго аўтабіяграфіі. Больш за 20 гадоў рука паэта не дакраналася да пяра, не выводзіла дарагія яму паэтычныя радкі. Якая была пакута адчуваць сябе бездапаможным, без віны вінаватым, быць пастаянна пад наглядам, ведаць, што табе ад пільных вачэй наглядчыкаў не схавацца.

За 20 гадоў ссылкі С. Шушкевіч напісаў усяго толькі адзін верш «На двары маім лістапад» у 1940 годзе. Колькі болю і прачулага душэўнага пачуцця ў гэтым творы:

Асыпаецца жоўты сад,
Лістапад ідзе, лістапад.
Сцежка скопана капяжом
Ля акна майго, як нажом.

«Сцежка скопана... як нажом» — гэта не выпадковая мастацкая дэталь. С. Шушкевіч меў на ўвазе не звычайную сцежку, а паламаны свой лёс, знявечаны невядома за што і ў імя чаго.

Я часам глядзеў на Станіслава Пятровіча з замілаваннем і думаў, як жа гэта ён выжыў і застаўся над усім брудам сумленным, сапраўдным Чалавекам. Мяне здзіўляла і тое, што правёўшы столькі год у Сібіры, дзе давялося пакінуць сваю маладосць і зазнаць безліч нягод, С. Шушкевіч не ачарсцвеў душой. І ён не ўзлаваўся, не пакрыўдзіўся на той лад, які яго ледзьве не загубіў. Ён застаўся, перажыўшы такія цяжкасці і нягоды, добрым, даверлівым, мяккім, сардэчным чалавекам.

А потым была, як цяпер стала модным называць, прэзентацыя нашай з саўтарам А. Кулагіным кнігі «Дзержинщина: Прошлое и настоящее», якая выйшла ў снежні 1986 года. Мы тады паехалі па запрашэнні тагачаснага гаркама партыі ў Дзяржынск на сустрэчу, якая была запланавана на 17 мая 1987 года ў раённым Доме культуры імя У. Крыловіча. На сустрэчу былі запрошаны настаўнікі літаратуры, гісторыі, бібліятэкары, работнікі аддзела адукацыі і культуры райвыканкама, прапаганды і агітацыі Дзяржынскага РК КПБ і іншыя. Станіслаў Пятровіч расказаў пра нашу кнігу, пра сябе, пра свае творчыя планы.

Потым адбылася паездка ў адну з сярэдніх школ Мінскага раёна. Разам з намі быў вядомы беларускі пісьменнік Алесь Махнач.

У гэты час Станіслаў Пятровіч мне скардзіўся, што ногі яго баляць, цяжка хадзіць, падымацца на пяты паверх пяціпавярховага дома (а чаму б не даць вядомаму пісьменніку кватэру на ніжэйшым паверсе?).

С. Шушкевіч быў па натуры аптымістам, чалавекам высакароднай душы. Маючы вялікі жыццёвы вопыт і зазнаўшы на сабе, што такое здзек, ён ненавідзеў хлусню, нагаворы, ашуканства і пакаранне. С. Шушкевіч не любіў нават вымаўляць само слова «пакаранне». Ён добра ведаў, што гэта такое. «Ці не занадта прывыклі мы да пакаранняў. Не, цяпер не трыццаць сёмы год», — казаў ён.

Нягледзячы на ўсе нягоды і беды, перанесеныя ў высылцы і ГУЛАГу, паэт адчуваў сябе ўпэўнена і бадзёра. А гэта быў ужо 1987 год — самы пачатак перабудовы ў савецкай краіне — тады яшчэ СССР!

Напярэдадні майго ад'езду на кароткачасовы адпачынак у Карэліцкі раён Гродзенскай вобласці я атрымаў ліст ад Станіслава Пятровіча, дзе ён ухваліў мой матэрыял, які быў змешчаны ў газеце «Мінская праўда», прысвечаны гісторыі аднаго са старажытнейшых населеных пунктаў Дзяржынскага раёна — вёскі Станькава і раіў, па магчымасці, пісаць гістарычныя нарысы пра ўсе населеныя пункты яго роднага Дзяржынскага раёна. У лісце скардзіўся, што дужа хворы, баляць ногі, але працуе, рыхтуе да друку сваю чарговую кнігу.

29 кастрычніка 1937 года ў Мінску адбылася крывавая падзея. На працягу ночы ў сутарэннях унутранай турмы НКУС БССР, у так званай «амерыканцы», былі расстраляны беларускія пісьменнікі, вучоныя, дзяржаўныя дзеячы, дзеячы культуры і мастацтва — усяго звыш 100 чалавек. Значна пазней я даведаўся пра тых катаў, хто вёў следства і допыты С. Шушкевіча з дакументаў Цэнтральнага архіва Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь.

У «амерыканцы» ў час адсідкі Станіслава Пятровіча дапытвалі лейтэнант дзяржбяспекі Соцікаў, лейтэнант дзяржбяспекі Цэйтлін (неўзабаве Цэйтлін быў арыштаваны, і былыя сябры-энкавэдзісты білі яго, покуль у таго не адняло мову), лейтэнант дзяржбяспекі Мікалай Георгіевіч Шураў (1897—1939, быў арыштаваны ў 1939 годзе) і іншыя.

Станіслаў Шушкевіч мужна вытрымаў бясконцыя допыты, дамаганні следчых, каб вязень прызнаў сваю віну і падпісаў сам сабе смяротны прысуд. І што толькі не рабілі з ім, як з яго не здзекаваліся, але вязень быў не з палахлівых. Усе абвінавачванні С. Шушкевіч рашуча адмятаў і адводзіў ад сябе, не падпісаў ніводнага пратакола допыту, у якіх яму прыпісваліся розныя злачынствы. Пра гэта ёсць звесткі ў кнізе Леаніда Маракова «Ахвяры і карнікі» (Мн., 2007).

1 жніўня 1937 года на вялікім вогнішчы ў «амерыканцы» энкавэдысты Сакалоў, намеснік начальніка мінскай унутранай турмы НКУС БССР Абрамчык, Гарбацэвіч спалілі некалькі дзесяткаў тысяч (!) рукапісаў твораў беларускіх пісьменнікаў. Гарэлі творы, якія не праскочылі савецкую цэнзуру — Галоўліт, або пісаліся ў стол, для нас, нашчадкаў, у тым ліку і В. Маракова, С. Мурзо і многіх-многіх іншых.

Станіслаў Пятровіч Шушкевіч выступаў пад псеўданімамі Я. Бор, Янка Бор, С. Койданаўскі, Саўка Койданаўскі, В. Эрнест, Вільгельм Эрнест; крыптанімамі С. Ш., Стах Ш., С.Ш. і В. М. (з Мараковым), С. Ш-ч, Шуш, В. Э., Э-ст, В. Эрн.

У 1889 годзе ў двухкласным народным вучылішчы вёскі Сенніца Сенніцкай воласці стаў вучнем сямігадовы Ясь Луцэвіч — будучы класік беларускай літаратуры Янка Купала. Яго першай настаўніцай стала Алімпіяда Васільеўна Сонцава. У 1921—1924 гадах у Сенніцкай пачатковай школе вучыўся і беларускі пісьменнік С. Шушкевіч. Яго таксама вучыла А. Сонцава. Яна валодала рэдкім дарам педагога, умела так весці сваіх вучняў у цудоўны свет ведаў, што яе ўрокі назаўсёды заставаліся ў іх памяці як светлы і дарагі ўспамін. У пачатку 1920-х гадоў Сенніцкую пачатковую школу наведвалі дзеці з 16-ці навакольных вёсак. Дзякуючы намаганням А. Сонцавай, у большасці вёсак Сенніцкай воласці адкрыліся пачатковыя школы.

У 1923—1924 гадах С. Шушкевіч працаваў рабочым саўгаса «Шчытомірычы» Мінскага павета. У 1924—1926 гадах вучыўся ў 11-й сямігадовай школе горада Мінска. На дысцыплінаванага і здольнага вучня звярнулі ўвагу школьныя настаўнікі — пісьменнік А. Бабарэка, мастакі А. Тычына і У. Кудрэвіч. Першы верш С. Шушкевіча надрукаваны ў газеце «Чырвоная змена» ў студзені 1924 года і быў прысвечаны памяці У. І. Леніна. Пасля заканчэння сямігодкі ў 1926 годзе С. Шушкевіч паступіў у Мінскі педагагічны тэхнікум, дзе выкладаў Якуб Колас. У 1926 годзе яго прынялі ў літаратурную арганізацыю «Маладняк». Паэзія Станіслава Шушкевіча набывае тэматычную змястоўнасць, напаўняецца жыццёвымі рэаліямі, заклапочанасцю лёсам чалавека — вершы «Захад», «Асінбуд», «Паходны марш» і іншыя.

Пасля 2-га курса педагагічнага тэхнікума пайшоў працаваць у Кніжную палату і Дзяржаўную бібліятэку БССР (1928—1930 гады). У 1930—1931 гадах загадваў бібліятэкай Навукова-даследчага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі, у 1931—1936 гадах працаваў у рэдакцыях газет «Літаратура і мастацтва» і «Звязда». Адначасова вучыўся на крытычна-творчым аддзяленні літаратурнага факультэта Вышэйшага педагагічнага інстытута, які паспяхова скончыў у 1934 годзе.

Восенню 1956 года Станіслаў Шушкевіч вярнуўся ў Мінск, працаваў у газетах «Мінская праўда», «Літаратура і мастацтва». 26 верасня 1975 года Станіслаў Шушкевіч канчаткова быў рэабілітаваны па абедзвюх справах — амаль праз 20 гадоў! Дзякуй Богу, што гэта адбылося пры яго жыцці! А так бы ён думаў, што «ворагам народа» застанецца назаўсёды!

С. Шушкевіч аўтар амаль 30-ці зборнікаў паэзіі і прозы, кніг для дзяцей. Ён аўтар шматлікіх успамінаў пра беларускіх пісьменнікаў старэйшага пакалення, сваіх сяброў, паплечнікаў і равеснікаў, што разам з ім ішлі па складаных шляхах жыцця — «Вяртанне ў маладосць». Выступаў як крытык і перакладчык, быў укладальнікам і каментатарам выбраных твораў Міхася Грамыкі «Родная пушча». Многія творы С. Шушкевіча перакладзены на рускую і ўкраінскую мовы.

У лютым 1988 года мне выпала прысутнічаць на 80-годдзі з дня нараджэння Станіслава Пятровіча Шушкевіча ў Доме літаратара. Было шмат кветак і віншаванняў. Вёў вечар беларускі паэт Уладзімір Паўлаў. Многія пісьменнікі і сябры павіншавалі Станіслава Пятровіча з днём нараджэння, уручылі яму кветкі, сказалі шмат цёплых слоў з нагоды юбілею нашага слыннага земляка. Юбіляр быў так расчулены, што нават праслязіўся.

Праз нейкі час ён даслаў мне паштоўку. Ліст быў напісаны на невялікім аркушы паперы са школьнага сшытка ў клетачку. Пісаў пра сябе, пра свае планы на будучае, збіраўся ехаць на радзіму, у вёску Бакінава. Планаў у Станіслава Пятровіча было шмат. Ён сапраўды быў вялікім аптымістам. І нават 20 гадоў «адсідкі» не зламалі яго дух.

Станіслаў Пятровіч пакінуў багатую літаратурную спадчыну, якую мы, нашчадкі, павінны беражліва і ўважліва вывучаць.

Памёр Станіслаў Пятровіч Шушкевіч 1 лютага 1991 года. Пахаваны на могілках каля вёскі Шчытомірычы Мінскага раёна.

Міхась МІЦКЕВІЧ

# АДЗІНАЦЦАЦЬ ЛІСТОЎ З ФРОНТУ



Мікалай Іванавіч Міцкевіч.
25 мая 1943 г.

***Ішоў 1942 год, год неверагодна цяжкай, жудаснай бойні. Вораг, адкінуты ў канцы сорак першага ад Масквы, рваўся на поўдні да Волгі, важнейшай воднай артэрыі краіны. Ужо год як перарвалася перапіска з братам Юркам, апошні ліст да мяне быў датаваны 30-м верасня сорак першага. Гэта быў дзень нараджэння старэйшага брата Данілы і, напэўна, адзін з апошніх дзён жыцця нашага Юркі. Пачалося генеральнае наступленне немцаў на Маскву, а Юркаў 49 корпусны артылерыйскі полк стаяў на гэтым напрамку — пад Ярцавым. А мы так чакалі ад яго лістоў…***

***У першых чыслах верасня 1942 года прыйшла вестка ад другога Міцкевіча — Міколы, з маленькай фотакарткай. Мы былі вельмі абрадаваны, што Коля жывы і здаровы. Ён быў блізкім нам чалавекам — пяць гадоў пражываў у нашым доме ў часе навучэння ва ўніверсітэце. Як і старэйшы брат, вучыўся на хімфаку, скончыў яго ў трыццаць дзевятым. Ён быў сынам першага бацькавага «настаўніка» — «дарэктара» Яські Базылёва, якога мой дзед Міхал наняў для навучання сваіх дзяцей. І падзеі таго часу праўдзіва і яскрава знайшлі адлюстраванне ў паэме «Новая зямля». Відаць, першыя крокі настаўніцтва юнага «дарэктара» з'явіліся стымулам для далейшай спецыялізацыі ў гэтым важным кірунку. Яська — Іван Васільевіч Міцкевіч — стаў настаўнікам, але, на жаль, вельмі рана пайшоў з жыцця. Перад яго канчынаю бацька наведваў «дарэктара», і той, адчуваючы свой адыход у іншы свет, прасіў паклапаціцца аб сыне. Колас запэўніў сябра, што выканае яго просьбу, і слова сваё стрымаў. Коля хутка ўвайшоў у кола сяброў маіх братоў і карыстаўся павагаю за чэснасць, адданасць бацькаўшчыне, прынцыповасць і незвычайную працаздольнасць. Праўда, яны лічылі, што ў Міколы крыху не хапае адукаванасці ў шырокім сэнсе гэтага слова і «палёту». Бо ў іх кампаніі панавала зацікаўленасць да ўсяго, што дзеялася ў свеце, гучаў гумар, адбываліся бясконцыя розыгрышы. Мікола не заўсёды падзяляў іх погляды, яму даводзілася многа працаваць, відаць, вучоба давалася не так лёгка і дарэмна траціць час яму не выпадала. Тым не менш, яго лічылі фактычна***

***членам нашай сям'і, нашага калектыву. У той жа час ён сталаваўся асобна, а вечарамі прыходзіў на чай са сваёю бляшанкаю з цукрам. Зрэдку да яго і да нас прыязджала яго маці, якая настаўнічала ў Койданаве. Вельмі сімпатычная жанчына, Коля быў падобны да яе.***

***І вось ён знайшоў наш ташкенцкі адрас і прыслаў ліст. Бацька адразу адказаў на яго, і гэты адказ захаваўся.***

«Дарагі Коля!

Часта-часта ўспаміналі мы цябе і нічога аб табе не ведалі. І вось ты парадаваў нас сваім пісьмом. Мы так рады былі пачуць ад цябе вестачку. За картачку вельмі дзякуем. Картачка гаворыць за тое, што ты на вайне паправіўся, паздаравеў. Няхай жа і надалей свеціць табе ўдача. Мы ўжо другі год, як апынуліся ў Ташкенце. Зімою была надзея на зварот у сваю краіну. Цяпер яе няма. Вайна прымае зацягнены характар. Немцы залезлі вельмі далёка, к таму ж яны, як кляшчы, замацоўваюцца ўсюды, куды ім удалося прабіцца. У канцы студзеня я ездзіў з Ташкента ў Маскву. 6/IV выехаў адтуль назад. Даніла і Міхась жывуць з намі. Аб Юрку, скора год, як не маем ніякіх звестак. Ён быў на Заходнім фронце. Апошняе пісьмо ад яго было 20/IX (30.IX — мне!) прошлага года. Вясною мае знаёмыя прыслалі мне з Масквы тэлеграму. Яны паведамлялі, што адзін мінскі хлопец — я знаю яго асабіста — быў у Калузе (у канцы апрэля) і бачыў Юрку ў запасным палку. Відаць, хлопец памыліўся. А можа гэта ён бачыў цябе?

Юрка ведае наш адрас. Калі б ён быў жывы або на гэты бок фронту, то ён прыслаў бы аб сабе вестачку. З Мінска мы выбраліся 24/IV прошлага года. М[арыя] Д[змітрыеўна] летась цяжка перахварэла крупозным запаленнем лёгкіх. Летам ёй было тут дужа цяжка. Ёй трудна пераносіць ташкенцкую жару. Цяпер яна зноў ляжыць, з лёгкімі ў яе не ўсё ў парадку.

Ты не гаруй, Коля. Кончыцца вайна, мы шмат чаго сустрэнем нечаканага. А покі што трэба жыць адной воляй — зламаць Гітлеру хрыбеціну…

Будзь здаровы. Ваюй шчасліва.

Пішы. Мар'я Дзмітрыеўна і Міхась абнімаюць цябе і цалуюць, як сына і брата.

Якуб Колас

P. S. Данік пасылае табе асобна адкрытку.

Я. К.»

***Напісаў ліст яму і я. Лісты адпраўлялі на адной старонцы, складаючы іх у трохкутнік, як патрабавала ваенная цэнзура. Я добра ўсведамляў, што ў Міколы больш нікога няма і яму будзе прыемна атрымліваць вестачкі аб нашым побыце, аб маіх турботах і перажываннях. Бацька часта пісаць яму не мог з-за сваёй занятасці, а Данік — ад сваёй ляноты. Завязалася перапіска. Частка лістоў ад яго захавалася, яны знаходзяцца ў фондах Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа. Зараз яны цікавыя не толькі зместам, але і мастацкім афармленнем паштовак таго часу. Лісты кароценькія, а на кожнай паштоўцы штамп: «Проверено военной цензурой». Прыводжу змест яго кароценькіх лістоў з фронту.***

16.12.42.

Дзень добры, Міхась!

Учора атрымаў тваё пісьмо, чаму вельмі рад. Вялікі дзякуй за фота, якія ты прыслаў.

Ты ўжо зусім мужчына. У Вас, пішаш, цёпла, а ў нас зіма. Праўда, пакуль што мяккая.

Пішыце часцей. Жадаю ўсяго найлепшага. Прывет і найлепшыя пажаданні ўсім дома!

Моцна цалую. Коля.

29.01.43.

Здарова, Міхась!!!

Сёння атрымаў тваю адкрытку ад 31.12.42. Ішла, як бачыш, цэлы месяц. Пасылка і то яе апярэдзіла — атрымаў учора. Чаго, як кажуць, у жыцці не бывае. За пасылку дзякую, толькі, Міхась, не патрэбна было лішнія клопаты выдумываць.

Мы забяспечваемся вельмі добра, жывём у поўным дастатку. Вельмі, вельмі часта ўспамінаю я шчаслівыя, вясёлыя гады юнацтва, катанне на лыжах, каньках. Так хочацца сустрэцца, але суровы час не дае гэтай мажлівасці. Нічога, калі давядзецца сустрэцца, то ўжо адзнамянуем сустрэчу як мае быць. Прывет і найлепшыя пажаданні бацьку, маці.

Часцей пішы! Бывай здароў!

Коля.

05.06.43.

Добры дзень, Міхась!

Сёння атрымаў тваё пісьмо ад 12.5.43, чаму вельмі рад. Вось ужо і чэрвень. Надвор'е зараз змянілася — стала зноў цёпла. Мы пакуль што ўсё яшчэ адпачываем. Учора і сёння шмат работ па займу — ну, яго ўжо закончылі — прайшлі вельмі добра. Увесь час думаю аб родных мясцінах, ці давядзецца там пабыць і што застанеш? Ну, будзем чакаць. Напэўна, пакуль зойдзе мая адкрытка, ты здасі ўсе экзамены. Не сумнявайся, што здасі на выдатна, з чым і віншую цябе.

У нас тут даволі шмат беларусаў, ёсць і з Мінска, жывая дружына, я дастаю на пошце беларускія газеты — разам чытаем.

Ну, вось пакуль і ўсё! Прывет і найлепшыя пажаданні бацьку, маці, Даніку. Бывай здароў!

Моцна цалую. Коля.

26. 9. 43.

Добры дзень, Міхась!

Вось ужо і канец верасня — стаіць тыпічная ў нас восень — часта дажджы. Мы вось ужо чатыры дні адпачываем. Гэтымі днямі мабыць зноў пойдзем уперад. Прыйдзецца ўжо даганяць, бо фронт хутка прасоўваецца ўперад — «мінулася кату масленіца» — дастаецца зараз паганай немчурэ.

К часу, калі атрымаеш гэта пісьмо, мы, напэўна, ужо будзем служыць на нашай роднай зямлі.

Пакуль што ў нас усё ідзе добра. Адно толькі дрэнна — ужо больш месяцу няма пісем — чорт знае чым гэта вызвана, газеты ідуць, а пісем няма ўжо месяц.

Ну, нічога, затое разам шмат атрымаю.

Чытаў у газеце аб узнагародзе твайго бацькі ордэнам «Красное знамя» — ад душы, ад чыстага сэрца віншую і жадаю добрага здароўя.

Ну, вось пакуль і ўсё!

Прабачай, што пішу неахайна — няма ўмоў — пішу ў кабінцы машыны, седзячы, на каленях.

Прывет і найлепшыя пажаданні бацьку, маці і Даніку.

1.1.44.

Здароў, Міхась!

Учора атрымаў тваю адкрытку, чаму вельмі рад. Сапраўды, ты ўжо вельмі даўно не пісаў, а мне не было куды.

У мяне змен няма, зараз у нас пачаліся актыўныя баявыя дзеянні, але мы чамусьці не ваюем, покуль што адпачывалі. Жывём у зямлянцы — маразоў вялікіх яшчэ не было.

Жадаю табе поспехаў, не сумнявайся, што ты нагоніш упушчанае і паспяхова здасі залікі.

Бывай здароў. Цалую!

Коля.

2.05.44.

Добры дзень, дарагі Міхась!

Сёння атрымаў тваю адкрытку ад 23.04.44, чаму вельмі рад. Гэта, уласна кажучы, адно пісьмо, якое я атрымаў у святочныя дні, таму яму асабліва рад. Данік, як заўсёды, маўчыць. Ён не дае адказу і на палову маіх пісем, праўда я гэтаму не дзіўлюся, бо знаю, што ён цяжкі на пад'ём. Май правёў з баявымі таварышамі — выпілі даволі многа, але, зразумела, не перапіваліся. Надвор'е было дрэннае. Шмат учора і сёння гулялі ў валейбол — я яго люблю. Наогул, у звязку з некаторымі абставінамі, свята было праведзена ціха, як кажуць «без резких ощущений». Сёння ў мяне сабраліся на абед. Як заўсёды я выпіў і за свой любімы тост — «каб не апошнюю» і за тое, каб у наступны май кожны, будучы, можа, ужо ў іншай, мірнай абстаноўцы, успомніў май 1944 г. Пасля абеда пайшоў і вось зараз пішу — ідзе дождж. Паслаў к маю табе крыху грошай, напэўна ты іх атрымаў. Жадаю табе ўсяго найлепшага. Прывет і найлепшыя пажаданні бацьку і маці.

Бывай здароў! Пішы!

Коля.

25.05.44.

Добры дзень, Міхась!

Сёння атрымаў тваё пісьмо ад 3.05.44. Ішло, як бачна, вельмі доўга. Я ўжо з тыдзень назад атрымаў пісьмо ад Даніка ад 8.05.44, а тваё дзесьці затрымалася. Пішу, як бачыш, вельмі дрэнна, бо толькі прыйшоў з гульні ў валейбол — рукі зараз дрэнна трымаюць пяро. Наогул я любіцель гэтай гульні і з 20.00 да 22.00 гуляем амаль кожны дзень. Стаім мы ў лесе. Некалькі дзён было цёплае надвор'е, крыху загаралі, а зараз зноў халады. Учора я тут каля сваёй «рэзідэнцыі» найшоў шмат смарчкоў, так што 24 мая я першы раз у гэтым годзе еў грыбы — даволі смачныя. Усё ў нас па-старому. Стаім так, што толькі крыху дастае цяжкая артылерыя, ды ноччу самалёты бамбяць — вось і зараз разрывы бомб, але к гэтаму прывыклі — не звяртаем увагі — не тое, што першыя месяцы вайны.

Днямі было кіно «Радуга». Зараз адпачываем, днём вучоба, ці бягучая работа, а вечарамі крыху гуляем у валейбол.

Чытаю даволі мала, бо фактычна няма чаго чытаць, ну, і акрамя ўсяго абстаноўка к гэтаму не распалагае.

Чаму табе стала прыкра ў звязку з пераводам, не ведаю. Што тут такога?

Ва ўсякім выпадку я грошай не каплю, яны мне не трэба, а табе крыху на расходы прыгадзяцца. Падумаеш — траціцца зімою, калі няма чаго рабіць, ды водку вып'еш, то не настолькі ляцела. Ну, вось пакуль і ўсё. Жадаю ўсяго найлепшага. Прывітанне і найлепшыя пажаданні бацьку, маці, Даніку.

Бывай здароў! Цалую!

Коля.

11.07.44.

Добры дзень, Міхась!

Сёння — гадавіна вызвалення Беларусі ад белапалякаў і яна ў гэтым годзе супала з днём вызвалення радзімы ад фашысцкіх акупантаў. Дзякуючы хуткаму наступленню вызвалены ўжо родныя месцы. Мабыць хутка ўсе Вашы пераедуць у Мінск. Я ўжо таксама паслаў два пісьмы ў Мінск і Дзяржынск. Так што праз месяц і я павінен атрымаць развязку. Сёння, на ўсякі выпадак, напішу яшчэ па пісьму. Страшэнная жара, добра, што тут у нас шмат азёр — купаемся часта. Сёння пачынаем мы ваяваць. Так што праз некалькі дзён напэўна аб гэтым вы пазнаеце з газет.

У астатнім усё без змен. Жадаю табе поспехаў у экзаменах, у тым, што яны пройдуць добра, не сумняваюся. Пішы часцей! Прывет і найлепшыя пажаданні бацьку, маці.

Бывай здароў! Цалую.

Коля.

4.8.44.

Дарагі Міхась!

Вось ужо і жнівень месяц. Час ідзе вельмі хутка. Ужо роўна месяц, як я на радзіму паслаў пісьмы, калі ўсё добра, то хутка атрымаю адказы. Мы ўвесь час у баях на тэрыторыі Латвіі. Стаім у лясах. Шмат маліны, ёсць грыбы, так што мы ўжо іх варылі.

Атрымаў тваю адкрытку ад 18.7.44. У звязку з экзаменамі паслаў табе на піва крыху грошай. У канцы чэрвеня я паслаў Даніку крыху грошай, ці паспеў ён іх атрымаць?

У апошні час стаіць халоднае надвор’е, ноччу проста як позняй восенню. Не сумнявайся, што экзамены пройдуць добра, з чым і віншую! Жадаю ўсяго найлепшага. Прывет і найлепшыя пажаданні бацьку і маці.

Бывай здароў! Цалую.

Коля.

5.10.44.

Добры дзень, дарагі Міхась!

Вельмі доўга не было ад цябе пісем. Я сёння думаў, не чакаючы адказу, табе зноў напісаць і якраз атрымаў тваю адкрытку ад 25.9.44, чаму вельмі рад.

Ад Даніка зусім няма пісем. Ён наогул вельмі цяжкі на пад’ём, а зараз тым больш не дома, а ў дарозе.

У мяне ўсё па-старому. У звязку з баявымі дзеяннямі і так некаторымі прычынамі ў канцы месяца было вельмі шмат работы, вось толькі ўчора больш-менш адпачыў. Зараз мы зноў крыху адпачываем. Я пагэтаму ўчора пад вечар з таварышам хадзіў глушыць рыбу. Хоць, праўда, улоў быў невялікі, ўсё ж папаўся лешч фунты на 3 і шчупак фунты на 1 ½ ды меншай трохі. Так што сёння снеданне зрабілі вельмі добрае. Цікавы выпадак ты апісаў з каньяком. Вельмі ўдала вышла. Я «па-старыкоўскі» з ахвотаю сатварыў гэтае самае.

Ну, вось пакуль і ўсё. Прывет і найлепшыя пажаданні бацьку і маці. Часцей пішы! Бывай здароў! Цалую.

Коля.

9.10.44.

Дарагі Міхась!

Гэтымі днямі я атрымаў два лісты з радзімы, але тое, што канверты былі напісаны не рукою маці ці Надзі, а дзядзькі, яны вызвалі вялікі непакой. Так

яно і на самай справе. Весткі вельмі горкія — маці арыштавалі органы гестапа 5 кастрычніка 1943 г. Сядзела ў турме да 24 лютага гэтага года, адтуль адпраўлена ў канцэнтрацыйны лагер на Шырокай вуліцы. Дзядзька ёй насіў туды перадачы. З мая месяца сувязь прапала.

Надзя пазбегла, мабыць, тады гэтай учасці толькі таму, што не была дома.

Апошняе пісьмо дзядзя напісаў 24.07.44. Да гэтага часу ні аб маці, ні аб Надзеі нічога не вядома, хоць ён і спраўляўся, сам быў два разы ў Мінску на кватэры.

Як бачыш, зразу атрымаў двайны ўдар. Што зробіш, вайна, трэба з усім мірыцца. Пераносіць гэта, праўда, вельмі цяжка. Прыму ўсе меры, каб пабываць на радзіме, калі ўжо лепшага не ўзнаю, то хоць вып’ю горкую чашу да дна.

Вось пакуль і ўсё. Жадаю табе ўсяго найлепшага!

Прывет і найлепшыя пажаданні бацьку, маці. Магчыма, убачымся! Цалую!

Коля.

***У адным з лістоў да Міколы, калі ён знаходзіўся ў Германіі, я прасіў раздабыць гатавальню, бо чарцёжных работ было шмат, а без простай, але дакладнай дапаможнай тэхнікі прыходзілася затрачваць многа часу. І Коля прыслаў мне невялічкую гатавальню фірмы Рыхтэр. Яна паслужыла мне больш як трыццаць гадоў. З яе дапамогаю выканаў шмат чарцяжоў, графікаў не толькі ў час работы над курсавымі і дыпломным праектамі, але і ў фізіка-тэхнічным інстытуце нашай акадэміі. І часта-часта, раскрываючы гатавальню, я ўспамінаў з удзячнасцю Міколу. Ён дэмабілізаваўся, паступіў у аспірантуру інстытута хіміі Акадэміі навук да Б. В. Ерафеева, абараніў кандыдацкую дысертацыю, у галіне хімічнай кінэтыкі пасля — доктарскую. Пасля абароны доктарскай запрасіў апанентаў і супрацоўнікаў інстытута хіміі ў літаратурны музей Якуба Коласа. На яго прыступках я іх сфатаграфаваў. Мікола працаваў у інстытуце ў якасці старшага навуковага супрацоўніка, загадчыка лабараторыі фізікахіміі акіслення, намеснікам дырэктара інстытута, акадэмікам-сакратаром аддзялення хімічных і геалагічных навук нашай акадэміі, стаў яе акадэмікам. Ён часта наведваў нас, пасля прымаў удзел у вечарынах, якія ладзіліся ў музеі, выступаў са сваімі ўспамінамі. У 1991 годзе яго не стала. На Усходніх могілках яго прах і прах жонкі Надзі вартуе прыгожы помнік. Хай жа мае нататкі лягуць у вянок светлай памяці воіна, вучонага, шчырага беларуса, які да апошніх дзён у побыце і на рабоце карыстаўся сваёй роднай мовай.***

***01.07.2010.***

Анатоль СТАТКЕВІЧ-ЧАБАГАНАЎ

# ВЯРТАННЕ ДА ВЫТОКАЎ*

## Мая бабуля — Марыя Аляксандраўна Карафа-Корбут

Калі толькі на хвіліну ўяўляю, што выпала на долю маёй шматпакутнай бабулі, слёзы набягаюць на вочы, перахоплівае дыханне. Хочацца кінуцца праз гады, абараніць і сагрэць яе.

«Раскулачвалі на Усердным тыдні, у сераду 12 лютага 1930 года. Была мяцеліца. У чацвер забралі бацьку, у пятніцу — брата Івана.

Высылалі на першым тыдні Вялікага посту, у суботу 8 сакавіка. З заходам сонца пагрузілі ў таварныя вагоны і прыцемкамі павезлі. 16 сакавіка прывезлі на станцыю Мендзялеева, што ў Комі-Пярмяцкай акрузе. Тыдзень дабіраліся да сяла Вялікі Пальнік. Гэта 110 кіламетраў. Было ўсяго некалькі падвод. Таму і жанчыны з груднымі дзецьмі, і старыя ішлі пешшу. Яшчэ ляжаў снег. Было вельмі холадна» (з успамінаў Зоі Міхайлаўны Статкевіч — маёй цёткі).

...Цягнік імчаў на ўсход. У халодных вагонах — людзі, якіх савецкая ўлада назвала кулакамі, крывапіўцамі, эксплуататарамі працоўнага народа. У кутку, накрываючы сваіх малалетніх дзяцей, сядзела яшчэ маладая жанчына. Здагадвалася яна, што Міхаіла Іванавіча ўжо няма, і з трывогай думала, што чакае іх наперадзе. Не за сябе турбавалася, а за дзяцей, асабліва за Колечку, якому было ўсяго некалькі месяцаў.

Яна магла б пакінуць дзяцей дома, у сваёй вёсцы, як зрабілі некаторыя. Навошта везці ў невядомасць, магчыма, на верную смерць? Але хто будзе глядзець маленькіх? У вёсцы амаль не засталося сваякоў. Мужчын арыштавалі, і нічога пра іх не чуваць, а жанчын пагрузілі на падводы разам з дзецьмі і адправілі на бліжэйшую станцыю. Колькі плачу і крыкаў было, колькі праклёнаў! Але толькі сакавіцкае неба і чула іх. Вясковая беднота, не дачакаўшыся нават, калі кранецца абоз, кідалася ў дамы сасланых, са смехам забіраючы і выносячы ўсё, што там засталося.

Тое відовішча і цяпер стаяла перад вачыма жанчыны. Часам яно здавалася страшным сном, як і ўсё, што адбылося ў тым трагічным 1930 годзе. Яна расплюшчвала вочы, і перад ёю стаяў перапоўнены змучанымі людзьмі вагон, перапалоханыя дзеці — Шура, Віктар, Колечка.

Жанчына хрысцілася і думала: за што ёй такая навала, чым прагневала нябёсы? Нават у дзяцінстве лёс быў нялітасцівы да яе. Рана памерлі бацькі. Гаварылі, што іх забіла маланкаю, бацьку і маці адразу. Дзяўчынка засталася сіратою. Жыла ў сям'і брата, дзе да яе ставіліся добра, шкадавалі, стараліся замяніць бацькоў. Прыйшоў час — адправілі ў царкоўнапрыходскую школу, дзе яна вучылася з ахвотаю. Навука давалася ёй лёгка, але калі Саветы пачалі вайну супраць «эксплуататарскіх класаў», стала гаварыць, што яна непісьменная. Думала, гэта

[1] Працяг. Пачатак у № 7.

нейкім чынам уратуе яе, бяда абыдзе. Не дапамагло. Яе прылічылі да ізгояў, хаця зямлі ў сям'і было ўсяго некалькіх дзесяцін, бо амаль усю абрэзалі пасля рэвалюцыі. Працавалі і горбіліся на ёй, як і ўсе сяляне, але бальшавікі не забылі пра мінулае. І цягнік ужо якія суткі вязе «ворагаў народа» на ўсход. Але вось, рэзка затармазіўшы, спыніўся на станцыі Мендзялеева. І зноў крыкі, плач, падводы. Там, на Любаншчыне, калі ад'язджалі, пахла ўжо вясной, а тут лютавала зіма. Комі-Пярмяцкая акруга, куды іх прывезлі, заўсёды славілася жорсткім кліматам. Асабліва яго сцюдзёнае дыханне адчувалася ў тайзе, дзе беларускім «кулакам» загадалі выгружацца. Ні жылля, ні часовых пабудоў. Суцэльны лес ды глыбокі снег. І толькі ўдалечыні віднеліся хаты вёскі Вялікі Пальнік. Нехта з жаласлівых ахоўнікаў параіў жанчыне:

— Схадзіце туды, мажа, дадуць прытулак на некаторы час, у вас жа на руках немаўля.

Яна пайшла наўздагад. Заўважыла дом і рушыла да яго. Нешта падказвала: там абагрэюць. Так і здарылася. У доме жыла бяздзетная сям'я. Будыніна аказалася прасторнай, знайшлося месца і для прыезджых. А галоўнае, гаспадары не «касілі» на іх вачэй. Савецкая прапаганда не да канца адурманіла сібіракоў, ды і па характары яны былі добрыя людзі. Жонка гаспадара доўга ўгаворвала беларуску:

— Пакінь, Марыя, мне свайго блакітнавокага Колечку. Не выжыве ён у лесе.

Але Марыя глядзела на свайго спакойнага, усмешлівага сыночка і ўпарта сцвярджала:

— Выжывем, гаспадынечка, выжывем. А за прытулак дзякуй. Ваша цяпло і ваш дом век не забуду.

Марыя Аляксандраўна і яе малалетнія дзеці перажылі тую цяжкую зіму, выдзюжылі. А пасля прыйшла радасная навіна: адшукаў іх сваяк з-пад Слуцка Мікалай Лазоўскі, які дапамог грашыма на дарогу. Бабуля вырашыла выпрабаваць лёс. Аховы на пасяленні ніякай не мелася. Можа, і не заўважаць знікнення? Ды і не ў роднае Засмужжа паедуць, а ў далёкую Млынку пад Слуцк, дзе пражываюць сёстры. Хто яе там знойдзе?

І вось яны зноў у Беларусі, сярод родных. Першае пытанне: ці няма якіх-небудзь звестак пра мужа, якога забралі ў Бабруйскі выпраўдом? Родзічы толькі адводзілі вочы: казалі, што яго няма ўжо там, можа, у ссылку адправілі...

Распытванні, слёзы, трывога на душы пра дзяцей і заўтрашні дзень. Былі яны недарэмнымі: усё бачыла вока тых, хто шукаў «ворагаў народа», вёў знішчальную барацьбу з кулакамі і паўпамешчыкамі. Праз некалькі дзён нехта паведаміў у органы пра падазроную жанчыну з дзецьмі, якія з'явіліся ў вёсцы: «По нашим сведениям это недобитый кулацкий выводок, который бежал из спецпоселения».

І Марыю Аляксандраўну зноў адправілі этапам у Комі-Пярмяцкую акругу, але яна ненадоўга затрымалася там. Зноў вырашыла ўцячы. На гэты раз паехала не да далёкіх родзічаў, а смела — у сваё роднае Засмужжа. На дзіва, яе і дзяцей ніхто не зачапіў, не данёс туды, куды неабходна. Можа, даносы і былі, але сам НКУС перажываў не лепшыя часы.

Калі зноў пачалося паляванне на «ворагаў народа», дабраліся і да Марыі Аляксандраўны. У 1937 годзе яе арыштавалі. Віна жанчыны была ў тым, што ў яе не аказалася пашпарта, і што яна жонка «ворага народа». А пашпарта няма — пяць гадоў канцлагераў. Вось тады яна плакала і білася ў адчаі:

— Хто паглядзіць вас, мае сірацінкі? Што за ўлада такая, якая не шкадуе дзяцей?

Спецвагон зноў узяў курс на ўсход. Аднак ужо не на Урал, а бліжэй, у Ніжні Ноўгарад. Прабыла там Марыя Аляксандраўна да пачатку 1941 года. Можа, за прыкладныя паводзіны і сумленную працу ёй зменшылі тэрмін? Выдалі нават новы пашпарт, які сёння як рэліквію захоўваем у сям'і...

Я лічу, што мая бабуля здзейсніла сапраўдны подзвіг. Подзвіг мацярынства і чалавечай годнасці. Столькі пакут выпала на яе долю, а яна не скарылася, не

ачарсцвела, не замкнулася ў сваім горы, а стала яшчэ высакароднеей. Памятаю яе жыццярадаснай. Яна ніколі ні на што не скардзілася, заўсёды была прыветлівая. Незабыўная карціна: бабуля сядзіць на лаўцы каля свайго дома, а ўсе, хто праходзіць, спыняюцца, сядаюць побач з ёй, каб пагаварыць. Яна была абаяльным чалавекам, спагадлівым. Усім старалася дапамагчы, параіць, падказаць. А нас, асабліва ўнукаў, прымушала вучыцца:

— Толя, ведаеш, навука не торба, за плячыма насіць не трэба.

Але калі-небудзь і жартавала:

— Толя, пагуляй — яшчэ наробішся.

Дарэчы, задоўга да школы яна навучыла мяне чытаць і пісаць. Заўсёды вельмі ганарылася поспехамі сваіх унукаў.

Хаця Марыя Аляксандраўна і скончыла толькі царкоўнапрыходскую школу, але яна была ўдумлівым чалавекам, ведала пра ўсе падзеі, разумела, што адбываецца, добразычліва ставілася да ўсіх. Яна любіла са мною размаўляць, але да пэўнай мяжы. Час быў няпросты, яшчэ не знікла пачуццё страху пасля ўсіх выпрабаванняў, таму яна мала расказвала пра мінулае. Не хацела, баялася, што мы, дзеці, пачнём гаварыць нешта на вуліцы, абмяркоўваць. Карацей, асцярожнічала — і правільна рабіла.

Студэнтам я летам працаваў у будаўнічым атрадзе. Атрымаўшы першы ў сваім жыцці заробак, захацеў зрабіць бабулі прыемнае і купіў ёй прыгожую хустку. Такія хусткі ў той час чамусьці называліся тараноўкамі. Бабуля, помню, моцна расчулілася, заплакала, сказала, што маю тараноўку будзе ўсё жыццё берагчы і каб яе ў той хустцы пахавалі. Пачуцці бабулі перадаліся і мне. Я з сумам падумаў, што, магчыма, яна атрымала першы ў сваім жыцці падарунак. У адно імгненне пранеслася перада мною ўся яе нялёгкая доля. І калі мне бывае адчайна цяжка, я ўспамінаю бабулю: яна вытрывала. Вытрываю і я!..

## Мая мама —<br>Аляксандра Міхайлаўна Статкевіч

Успамінаючы маму, заўсёды думаю, колькі выпрабаванняў выпала на яе долю. У шэсць гадоў апынулася ў ссылцы ў невядомым глухім краі, дзе ў люты мароз сярод бясконцых снягоў трэба было выжываць. Холад, голад, безнадзейнасць. Моцнаму, здароваму чалавеку не вытрымаць, але ўсё стрывала, вынесла кволая дзяўчынка.

А потым зноў паласа няўдач. Не паспелі вярнуцца ў Засмужжа з далёкай Комі-Пярмяцкай акругі, як бабулю паўторна арыштавалі. Па надуманай прычыне без віны вінаватай адмералі пяць гадоў канцлагера. Бабулю адправілі этапам на Волгу, а мая мама і двое яе брацікаў засталіся адны. У іх і даху над галавою не было. Бацькоўскі дом за час ссылкі засялілі, там гаспадарылі іншыя людзі. Давялося зноў гараваць, кожны дзень трываць прыніжэнні. Спалі ў кузні, бо там было цёпла і каваль аказаўся добрым чалавекам. А вось каб пракарміцца, прыйшлося жабраваць, самага малодшага — Колечку — пасылаць у другую вёску хадзіць з працягнутай рукой. Ён увесь час капрызіў, не хацеў туды ісці. Яно і зразумела: вясковыя хлапчукі абражалі, кідалі ў яго камянямі, дражнілі крывапіўцам. Але хлопчыку вешалі торбу на шыю і зноў адпраўлялі ў Абчын. Добра, што старшыня мясцовага калгаса Аляксандр Іванавіч Свінко пашкадаваў сірот: замацаваў за імі жанчыну, якая гатавала для дзяцей абеды. Учынак кіраўніка быў вельмі смелы для таго часу. Да гэтай пары мы ўдзячны старшыні за яго дабрыню.

У 1939 годзе маме было ўжо 15 гадоў, але яе не прымалі ў камсамол. На танцы таксама не пускалі, бо там танцавалі толькі камсамольцы. Дзяўчыну ўсяляк прыніжалі. Не вытрымаўшы здзекаў, мама паехала з Засмужжа да сваёй цёткі ў Млынку. Там яна прыняла рашэнне паступіць у Слуцкае педвучылішча.

Паспяхова скончыла яго ў 1941 годзе. З'явілася перспектыва, адкрылася дарога ў самастойнае жыццё. Але пачалася вайна, якая стала для мамы новым цяжкім выпрабаваннем.

Хачу адзначыць, што яе браты, мае дзядзькі, зведаўшы шмат пакут, не затаілі злосці на Савецкую ўладу. Наадварот, падлеткамі пайшлі ў партызаны і мужна змагаліся з агульным ворагам. Фашысты не даравалі тым сем'ям, прадстаўнікі якіх былі ў лесе. Іх пераследавалі паліцаі. У канцы 1943 г. пасля прачэсвання тутэйшых лясоў немцы пачалі наладжваць аблавы і хапаць моладзь для работ у Германіі. У першую чаргу па даносах паліцэйскіх адпраўлялі тых, хто быў нядобранадзейны, меў сувязь з партызанамі. У лапы фашыстаў трапіла і мая мама. Успамінаючы, яна горка жартавала:

— Да гэтага пераследавалі за тое, што мы быццам супраць бальшавікоў, а пасля — за тое, што з бальшавікамі...

Маму завезлі на станцыю Урэчча, дзе беларускую моладзь рыхтавалі да адпраўкі ў Германію. У тыя дні лютаваў тыф. Захварэла на яго і мая мама, а фашысты вельмі баяліся гэтай хваробы. Дзяўчыну з высокай тэмпературай тэрмінова завезлі ў Любанскую бальніцу. Немец-урач, аглядзеўшы яе, махнуў рукой: капут, не жылец на гэтым свеце. Мама сапраўды была пры смерці.

Так здарылася, што ў бальніцу прыехала жанчына з суседняй вёскі забраць паміраючага мужа. Нямецкі ўрач, даведаўшыся пра гэта, праявіў незвычайную міласэрнасць. Ён пашкадаваў дзяўчыну, не выкінуў у барак для тыфозных, дзе ніхто не даглядаў хворых, а папрасіў гэтую жанчыну забраць маю маму з сабою і завезці дадому: можа, родныя сцены вылечаць, свежае паветра паставіць на ногі.

У дарозе таксама здарылася нешта незвычайнае, быццам анёл-ахоўнік аберагаў няшчасную. Падвода рухалася павольна, усё-такі на возе ляжала двое хворых, і яе абагнала павозка, на якой ехалі жыхары Засмужжа. Толькі яна схавалася за паваротам, як прагрымеў выбух. Аказалася, дарога была замініравана. Міна, пэўна, прызначалася фашыстам, але на яе натрапілі свае, мірныя грамадзяне. Усе яны загінулі, а вось кабыла ўцалела, ёй толькі выбіла вока. Пасля вайны яна яшчэ працавала ў мясцовым калгасе, у яе была мянушка Сляпая.

Мама часта ўспамінала той выпадак і лічыла, што Бог выратаваў яе ад немінучай смерці. Ён і тыф дапамог пераадолець. Дома яе адпаілі малаком, сагрэлі клопатам і ўвагай. Дзяўчына ачуняла, расквітнела, стала вельмі прывабная. Невыпадкова яе ў 1944 г. заўважыў былы партызанскі камандзір Васіль Чабаганаў. Ён ваяваў у пухавіцкіх лясах, а калі прыйшла Савецкая Армія, яго адправілі ў Маскву на вучобу: краіне патрэбны былі падрыхтаваныя кадры для наладжвання мірнага жыцця. Скончыўшы вучобу ў сталіцы, Васіль Аляксандравіч прыехаў у любанскі край упаўнаважаным па нарыхтоўках. А мама там жа, у Любані, працавала бухгалтарам. Адным з галоўных лозунгаў Савецкай улады ў той час быў наступны: «Сацыялізм — гэта ўлік». Маме давялося перакваліфікавацца з настаўніка ў бухгалтара. Скончыла курсы, атрымала дыплом.

На працы яе паважалі, ставілі ў прыклад. Яна была ў самым прамым сэнсе слова працаголікам. За ўсё сваё працоўнае жыццё так і не пабывала ў адпачынку. Працавала на базе ў райспажыўсаюзе. І ўсюды адны падзякі. Даслужылася да галоўнага бухгалтара. Не памятаю, каб яна сядзела склаўшы рукі.

Маці-гераіня, нарадзіла і выхавала пяцёра дзяцей. Мама марыла, каб кожнае дзіця атрымала вышэйшую адукацыю, і яна дамаглася свайго. Усе мы скончылі прэстыжныя вышэйшыя навучальныя ўстановы, нехта нават з адзнакай. Мама вельмі ганарылася намі, часта гаварыла суседзям: «Якія ў мяне добрыя дзеці». Вось такая яна была, такі ў яе быў характар: усё аддаць дзецям, жыць дзеля іх.

Аднавяскоўцы паважалі маму і за яе жыццёвую мудрасць. Прыходзілі радзіцца па самых розных пытаннях. Нават калі мама была на заслужаным адпачынку, да яе часта звярталіся з просьбаю праверыць разлік пенсій. І яна дапамагала. Добра ведала заканадаўства, заўсёды чытала газеты. У райфінаддзеле гава-

рылі: калі Аляксандра Міхайлаўна peралічыла каму-небудзь пенсію, то можна і не спрачацца, бессэнсоўна. Яна і мне казала: «А ты, Толя, чытаў, бачыў новыя дапаўненні да закона?» Пастаянна хвалявалася за мяне і мае справы. Клапацілася, каб я не дапусціў памылкі, заўсёды папярэджвала:

— Толя, помні, вялікая лыжка рот дзярэ.

Памерла яна на 80-м годзе жыцця. Пахавана на Паўночных могілках у Мінску. Яна сама так вырашыла, бо не хацелася ёй ляжаць у Засмужжы, дзе перажыла столькі гора і пакут.

Там, дзе мая мама знайшла апошні спачын, усталяваны помнік і адначасова мемарыял усім маім рэпрэсіраваным у 1930-я гады родзічам: мама ў тужлівай паставе абапіраецца на старажытную амфару з дваранскімі гербамі яе бацькоў — Статкевічаў і Карафа-Корбутаў. Каля ног мамы — крыж, на якім увекавечаны прозвішчы яе блізкіх, чые магілы невядомы:

бацькі Міхаіла Іванавіча Сацкевіча-Статкевіча (расстраляны 06.03.1930 г.);

брата Івана Міхайлавіча Сацкевіча-Статкевіча (загінуў у ссылцы ў 1930 гг.);

дзядзькі Васіля Пятровіча Карафа-Корбута (расстраляны 06.03.1930 г.);

дзядзькі Георгія Аляксандравіча Карафа-Корбута (26.11.1885 — 1930 гг.).

Жыццё Георгія Аляксандравіча таксама склалася трагічна. Па дарозе ў ссылку на станцыі «Урэчча» Любанскага раёна, чакаючы цягнік, яму давялося спаць на сырой зямлі. Дзядзька моцна захварэў. Хворага, яго разлучылі з сям'ёй, арыштавалі і да гэтага часу лёс дзядзькі невядомы. Сям'я ж Георгія Аляксандравіча так і засталася назаўсёды ў Комі-Пярмяцкім краі. Яго старэйшыя сыны Сцяпан, Мікалай і Іван былі сасланы ў Сібір...

## Мой дзядзька — Іван Сацкевіч-Статкевіч

Лёс майго дзядзькі Івана Сацкевіча-Статкевіча займае асаблівае месца ў памяці нашай сям'і.

Гэты быў адораны і вельмі працавіты чалавек. Пасля Слуцкай гімназіі, якую скончыў на «выдатна», у інстытут яго не прынялі, бо паходзіў з дваранскага роду. Нават дакументы адмовіліся браць, таму давялося вярнуцца ў вёску Засмужжа, дзе ён доўга не затрымаўся. Паступіў у Слуцк на фізіка-матэматычныя курсы, паспяхова скончыў іх. Здавалася, працуй, прымяняй на практыцы свае веды. Але ўжо ішоў трагічны 1930-ы год, і лёс дзядзі Вані, якому споўнілася 22, быў прадвызначаны.

Разам з Мікалаем, сынам нашага блізкага родзіча Васіля Пятровіча Карафы-Корбута, якога расстралялі з маім дзедам у Бабруйску, іх выслалі ва Уральскую вобласць на лесапавал...

Думка пра ўцёкі відаць, прыйшла да іх адразу. Мабыць, седзячы ў час кароткіх адпачынкаў каля імклівай і гаварлівай горнай ракі, яны не раз абмяркоўвалі дэталі рызыкоўнай справы. Радавала, што аховы амаль няма. Уцячы не будзе праблем, пакуль схопяцца, то яны апынуцца далёка.

Галоўнае — сесці незаўважанымі на цягнік і дабрацца да Любаншчыны, а там — сваякі. «Перабудзем дзень-два і — за кардон», — суцяшаў Іван. Мікалай слухаў, пагаджаўся, але і сумняваўся:

— Каб перайсці на польскі бок, патрэбна добра ведаць, дзе мяжа, пасты, калі абходы.

— Ёсць у нас на Любаншчыне маладыя родзічы, не ўсіх забралі. Думаю, ім усё вядома. Можа, яшчэ і разам з намі пойдуць.

Але Мікалай не супакойваўся, патрабаваў удакладненняў:

— Добра, нам пашанцавала, мы на тым баку. Але хто паверыць, што мы не лазутчыкі, не бальшавіцкія шпіёны?

— І тут я ўсё прадумаў, брат. Там жыве наш сваяк Іван Тычына — польскі афіцэр. Ды ты яго, напэўна, ведаеш. Я думаю, ён за нас паручыцца.

У канцы жніўня змоўшчыкі рушылі ў дарогу. Ім шанцавала: без усякіх перашкод дабраліся да родных мясцін. Спачатку спыніліся ў брата Мікалая — Віктара, які працаваў рахункаводам у калгасе «Чырвоны штурмавік», на Старобіншчыне. Віктар дапамог з дакументамі, якія пацвярджалі, што хлопцы — работнікі мясцовага калгаса. Затым уцекачы накіраваліся ў Засмужжа і аблюбавалі для часовага пражывання хлеў у цёткі Зоі, а вельмі ўважлівая родзічка нават і не прыкмеціла іх прысутнасці. На старым драўляным ложку ўцекачы выразалі нажом: «Тут былі Іван Статкевіч і Мікалай Корбут». Цётка Зоя толькі пазней агледзела той надпіс.

Праваднікa яны адшукалі адразу. Ім пагадзіўся быць 14-гадовы брат Мікалая Васіль, які збіраўся таксама застацца на польскім баку. Дамовіліся, што пераходзіць мяжу будуць раніцай, калі ўсе спяць, а ўвага вартаўнікоў прытупляецца.

У пачатку верасня, на зыходзе дажджлівай ночы, выправіліся ў дарогу. І зноў ім пашанцавала, усё было ціха і спакойна. Уцекачы ўжо думалі, што яны на польскім баку і, радасныя, вырашылі раскласці вогнішча, каб хоць крыху сагрэцца.

Трое маладых людзей схіліліся над агеньчыкам, калі раптам, быццам гром сярод гулкага рання, прагучала:

— Стаяць! Рукі ўверх!

Уцекачы азірнуліся: чырвонаармейцы! Хлопцы кінуліся ў розныя бакі. Загрымелі стрэлы. Мікалая паранілі ў жывот, Івана схапілі пагранічнікі. А чатырнаццацігадовы Вася знік, засталася толькі шапка. Затрыманыя пазней даведаліся, што да польскай мяжы заставалася ўсяго 100 метраў...

Як жа склаўся лёс уцекачоў? Пра малодшага Васю хадзілі чуткі, што да 1941 года ён працаваў у Гомелі на лесапільным заводзе. У час вайны прапаў без вестак. Мікалай Васільевіч Корбут не вярнуўся пасля ссылкі на радзіму. Толькі праз 25 гадоў, у канцы 1950-х, наведаў Засмужжа. Вось тады і расказаў пра тыя ўцёкі і трагічны лёс Івана Міхайлавіча.

Братоў паўторна судзілі. На пытанне следчага пра мэту ўцёкаў, як стала вядома з дакументаў, дзядзька Іван шчыра адказаў: «Не мелі ў СССР чалавечых правоў». Ім далі пяць гадоў строгага рэжыму і адправілі ў горны Казахстан. Зноў глухія мясціны, лесасплаў. Іван быў пісьменным чалавекам. Яго прызначылі рахункаводам, і гэта давала надзею, што ён зможа выжыць. Але аднойчы здарыўся аўрал: не выконваўся план. Усё рабілася ў спешцы, а дзе спешка, там бяда. Адзін плыт дрэнна прымацавалі, і калі Іван з Мікалаем узышлі на яго, ён адразу перакуліўся. Абодва апынуліся ў ледзяной вадзе і пакуль выбіраліся, моцна застудзіліся. Каб не акарчанець, кінуліся бегчы да самых баракаў. У абодвух пачаўся жар, доктара і лекаў не было. Мікалай выжыў, а Івана пахавалі...

У 1933 годзе Мікалай па падробленых дакументах на прозвішча ссыльнага Шабанава зноў спрабаваў уцячы ў Польшчу. На гэты раз з боку Старобіна, дзе жылі ў яго родзічы. Не ўдалося. Затрымалі ўжо не пагранічнікі, а пільныя калгаснікі, якія заўважылі незнаёмага чалавека. Зноў ссылка. На гэты раз Карэлія, дзе вялося адно з галоўных будаўніцтваў сталінскага сацыялізму — Беламорска-Балтыйскі канал.

Там, у Сягожы, ён пазнаёміўся і пасябраваў са зняволеным, які меў знакамітае прозвішча Пушкін. Калі ў 1936 годзе Мікалая вызвалілі і накіравалі на месца жыхарства ў Андзіжан, яго сябар Іван Пушкін напісаў на памяць развітальны верш, які нават змог надрукаваць на лагернай машынцы. Гэты верш Мікалаю ўдалося захаваць.

Пасля ссылкі Мікалай Васільевіч застаўся жыць у Сярэдняй Азіі. Пахаваны ў Алма-Аце. У няскоранага ўцекача ёсць сын Анатоль, які асталяваўся ў Калінінградзе, і гадзінамі можа расказваць пра свайго бацьку...

Віктар, які дапамагаў сваім братам-уцекачам, у 1944 годзе пайшоў на фронт і, як значыцца ў пахавальным лісце, «загінуў смерцю храбрых за нашу Савецкую Радзіму».

Вось так скалаліся пакутныя лёсы маіх дзядзькоў, на прыкладзе якіх можна прасачыць лёс краіны ў тыя далёкія і няпростыя гады.

***З сямейных гісторый***

## Наша Ганна выходзіць замуж

Сястра майго дзеда Міхаіла Іванавіча Сацкевіча-Статкевіча Ганна збіралася замуж, але жаніхі ёй усё не падабаліся. Сорак два разы сваталі яе, а яна ўсім адмаўляла. І нарэшце ўсё-такі спадабаўся дзяўчыне пан Забродскі, які прывабіў яе тым, што прыехаў на шыкоўнай павозцы з фурманам, у белых пальчатках. Ды і з твару ён быў прыгожы. Карацей, пагадзілася Ганна на вяселле.

Гулянне было пышнае: з’ехалася каля сотні гасцей, сабралася амаль сто чалавек, сталы ад пачастункаў прагіналіся. І тут нечакана высветлілася, што маладая ажно на шэсць гадоў старэйшая за жаніха. Узняўся шум, асабліва абураліся сваякі пана Забродскага:

— Маладая ва ўзросце! Нам схлусілі! Мы супраць такога шлюбу!

Збіраліся пакінуць вяселле. Выратаваў сітуацыю адзін вельмі мудры чалавек ад нашага роду — Іван Віктаравіч Карафа-Корбут, які на вяселлі быў сватам. Ён даў каманду: усіх коней, на якіх прыехалі Забродскія, зачыніць у хляве пад ключ. Гасцям сказаў:

— Дарагія госцейкі! Паглядзіце на сталы, чаго на іх толькі няма, столькі страў і пачастункаў! Усё гэта каштуе нямала. Грошы на стол — і разыходзімся.

Госці пачасалі патыліцы:

— Добра, давайце вып’ем па адной і падумаем...

Выпілі па адной чарцы, затым па другой, развесяліліся, загаманілі і забылі пра ўзрост маладой. Адгулялі вяселле як трэба.

І самае цікавае — маладыя жылі дружна. Вытрымалі нават ссылку, але сям’я не распалася. Ганна перажыла свайго пана Забродскага на некалькі гадоў.

У Гомелі жыла яе дачка Зоя, працавала настаўніцай. Зоя Якаўлеўна, як і многія ў нашым родзе, была вельмі набожным чалавекам. Яе часта бачылі за малітваю ў адной з цэркваў Гомеля...

## Марыя Вечар

А вось яшчэ адна гісторыя. Другая сястра майго дзеда Марыя сабралася выйсці замуж за беднага шляхціца па прозвішчы Вечар. Давялося аддаць, бо яна была ўжо цяжарная. Мой дзед стаў клапаціцца пра новую сям’ю. Калі жаніх бедны, няма ў яго зямлі, то трэба даць яму хутар, няхай у маладых усё ладзіцца і дабро нажываюць. Сказаў Міхаіл Іванавіч швагру: «Вось табе зямля, бяры, гаспадарнічай!» Аднак новы родзіч заўпарціўся. Маўляў, не пайду я туды, душа не ляжыць.

— Добра, — кажа дзед. — Тады я даю табе іншы хутар.

Швагер зноў заматаў галавою. Доўга яны так спрачаліся. Міхаіл Іванавіч угаворваў, а муж Марыі толькі губы надзімаў. На другі дзень — тая ж песня: зноў паспрачаюцца, затым паміруцца. Урэшце мой дзед не вытрымаў і рэзка сказаў:

— Апошні раз прапаноўваю: бяры хутар!

— Не вазьму, — зноў упарціцца бедны родзіч.

— Усё! Будзеш на каленах прасіць — не дам, — адрэзаў Міхаіл Іванавіч.

Прайшоў час. Наш швагер адумаўся. Пасля некалькі разоў прасіў зямелькі, але дзед не даў. Чалавек ён быў строгі і заўсёды трымаў слова, якое ў яго ніколі не разыходзілася са справаю.

## Мой сябра вяз

Адны з самых яскравых успамінаў дзіцячай пары: на тэрыторыі нашай зямлі, якая адышла ўжо да калгаса, рос велічэзны, у некалькі абхватаў вяз, пасаджаны маімі продкамі ў XIX ст. Дрэва стала маім любімым, пад ім я і правёў юнацкія гады. Там я марыў пра будучыню, планаваў нешта, але часцей за ўсё пад гэтым вязам мы гулялі з вясковымі хлапчукамі. На нашым вязе гняздзіліся буслы, і мы любілі назіраць, як птушаняткі мацуюць крылы, а над кронай веліканa плывуць-праплываюць караваны белых аблокаў.

У 1960-я гады вяз хацелі выкарчаваць: вельмі ганарліва стаяў ён пасярод калгаснага поля і перашкаджаў сеяць кукурузу квадратна-гнездавым спосабам. Зачапілі яго двума магутнымі трактарамі, што называліся «сталінцамі», пацягнулі, але тросы лопнулі — вяз выстаяў.

І вось не так даўно прыязджаю я ў вёску, а вяза няма. Упаў ад старасці. Стала вельмі балюча на душы, бо для мяне гэта было знакавае дрэва, якое звязвала з мінулым, з любімымі мясцінамі. Я прыходзіў, ішоў да яго, слухаў перашэпт лістоты, як далёкую песню, дакранаўся да кары, згадваў мінулае. І вось вяз упаў, а з ім рухнула нешта важнае, што так вабіла мяне ў Засмужжа. З таго дня я пачаў рэдка ездзіць у родную вёску, але зялёны сябра стаяў заўсёды перад вачыма.

Прайшоў час. І я захацеў пасадзіць вяз каля свайго дома. Якраз на Любаншчыну ехаў мой сябар, і я папрасіў яго знайсці добрае дрэўца. Ён выканаў маю просьбу. Палюбаваўшыся на палескага прыгажуна, мы адразу пачалі пасадку. Я ўзяў рыдлёўку, пачаў капаць, і раптам здарылася загадкавае. У мяне ніколі раней не ішла кроў з носа, а тут проста хлынула. Думаю, гэта здарылася ад моцнага перажывання, навеянага ўспамінамі. Прыяцель спалохаўся, прыбегла ўсхваляваная жонка...

На жаль, вяз не прыняўся. Адбылася рэдкая з’ява: зайцы зімою аб’елі кару. Звычайна яны ласуюцца карой садовых дрэў, а тут чамусьці на вяз напалі. Пасля гэтага сябры ў мой юбілей на гэтым месцы пасадзілі дуб, які выкапалі ў лесе. І дуб прыжыўся!

Але пра вяз я не забыў. Мне падказалі, што ў адным зеленгасе ёсць рэдкае дрэва — вяз плакучы. Хоць і з цяжкасцю, але ўдалося яго набыць.

Цяпер ён расце недалёка ад пасаджанага раней дуба. Расце і плача. Галінкі ляжаць на зямлі і сцелюцца па ёй, як памяць пра майго расстралянага дзеда, памяць пра ўсіх родзічаў, якім шмат давялося перажыць у далёкія трыццатыя гады, як памяць пра страчанае і «знесенае ветрам» пакаленне беларускай шляхты...

Кастусь ЗМАЧЫНСКІ

# НАДЗЁННАЕ І СПРАДВЕЧНАЕ

Чаканне яго новай кнігі было падобна да перапыненай на нейкі час цікавай размовы, дзе галоўны распавядальнік ён, Ганад Чарказян. Мы і прыпыняліся, здаецца, у тым самым месцы, дзе душа прасіла лёгка ўсміхнуцца, бо і сярод сур'ёзнага, жыццёва важнага, часам і зусім самотнага, з трагічнай прыгадкай нейкай блізкай страты, узнікалі і даволі камічныя падрабязнасці нейкай жыццёвай бывальшчыны, накшталт тых самых «рэзервістаў», ваенных запаснікаў, пра якіх Г. Чарказян вельмі весела і непасрэдна распавядаў у папярэдняй кнізе «Пад адным небам». Нехта нават падкрэсліваў, што інтанацыйны лад празаічных навел вядомага пісьменніка часта нясе ў сабе гумарыстычнае адценне, аднак аўтару гэта патрэбна для якогасьці стылёвага акрэслення, а, можа, і адметнасці. Але ў цэлым размова ў творах амаль заўсёды зводзіцца да вельмі канкрэтных і сур'ёзных рэчаў: да паводзін самога чалавека ў звыклых і не зусім звыклых сітуацыях, да яго суадносін з іншымі людзьмі і ўрэшце… бадай да самага галоўнага — да чалавечнасці ў чалавеку. І ў працяг нашай гаворкі, якую мы будзем ужо будаваць паводле новай кнігі пісьменніка «Белая вежа», можна зноў жа на той самай вясёлай хвалі знаёміцца з іншымі героямі, хоць, магчыма, і ў тым самым часе, але ў розных жыццёвых абставінах.

Гэта толькі на першы погляд здаецца смешнай сітуацыя на дачным участку, куды, купіўшы яго, пасяліўся новы гаспадар. Ранейшы ўладальнік лецішча «прадаў з такой цяжкасцю пабудаваны церамок і кінуўся насустрач бурнай плыні самастойнага плавання — заўсёды непрадказальнаму і небяспечнаму бізнесу. На развітанне ён са слязамі на вачах прызнаўся, што яму, нядрэннаму матэматыку, усё ж цяжка вылічыць свае шанцы на выжыванне. Ды якія шанцы могуць быць, калі ўсё вакол прадаецца і купляецца… А сумленных людзей паспрабуй знайдзі…» Далёкім ад сумлення быў і новы гаспадар. Ён і скрытны, і непрыступны, і падазроны, не церпіць усяго жывога, у цемры з ліхтаром палюе на вожыкаў, што «шмат гадоў сціпла жылі на гэтым участку і, напэўна, былі задаволеныя былым добрым і інтэлігентным гаспадаром. Яны не ведалі, што ў свеце ўсё мяняецца, і добрага чалавека можа змяніць зусім супрацьлеглы, але, калі стала вядома, што новаяўленага ўласніка называюць Багданам Жабікам, нават каты перасталі з'яўляцца на яго ўчастак». Але дачнікі народ асаблівы. Яны прыдумалі, як правучыць нелюдзімага суседа. Добра зразумеўшы сквапную натуру яго, тыя ноччу закопваюць на блізкім участку стары непатрэбны сейф, робячы выгляд, што закопваюць сапраўдны скарб. За ўсім гэтым, прытаіўшыся, прагавіта сочыць Багдан Жабік. Прыдумшчыкі не памыліліся і разлічылі ўсё правільна: той «клюнуў» на дармавы «скарб» і гэтым быў пакараны. Употайкі раскапаўшы яго, у сейфе ён знайшоў вядро з дзярмом. Канцоўка твора надта пераканаўчая: «Праз месяц Багдан Жабік спешна прадаў свой участак і, не развітаўшыся з суседзямі, знік».

Можна, аказваецца, і такім чынам змагацца з чалавечымі заганамі, з той жа сквапнасцю, прагаю дармаўшчыны. Тут нават не спатрэбілася нейкіх аўтарскіх умяшанняў, асуджэння, усё і без слоў зразумела. Аўтарскі смех часам бывае больш дзейсным, чым зацягнутая маралізатарская пропаведзь.

Проза Ганада Чарказяна мала падобная на прозу яго паплечнікаў па літаратуры. Свой жыццёвы матэрыял аўтар узважвае зусім на іншых шалях, дзе галоўнае месца адведзена чалавечай маралі, дзе паводзіны чалавека ацэньваюцца мудрасцю, сцверджанай цягам цэлых вякоў. Кожнае яго апавяданне ці навела падобныя на своеасаблівы філасофскі ўрок. Усё гэта яшчэ на самым пачатку вымагала і свайго адметнага стылю, арыгінальнага алегарычнага спосабу жыццяпісу. Думаю, што даецца такое нялёгка і не само прыходзіць. Адна з характэрных адметнасцей яго прозы — гэта яе прытчавы характар, які даўно ўжо сцвердзіўся як своеасаблівы прыём, якім Г. Чарказян карыстаецца правамерна і бездакорна. Усё гэта вытрымана ў традыцыях усходняй мудрасці.

Было б несправядліва шукаць у творах даўно прызнанага аўтара толькі нечага ўсходне-мудрага. Хоць па-ранейшаму ў яго творах узвышаюцца тыя ж, ужо знаёмыя нам, горы, бурляць чыстыя і імклівыя горныя плыні. Пісьменнік закранае агульначалавечыя праблемы і ўздымае тыя ж самыя тэмы, якія хвалююць аднолькава ўсіх людзей гэтай зямлі. Усялякая мудрасць, як вядома, вынікае з самога жыцця.

Усюды, не толькі ў гарах, мусяць быць свае вышыні, да якіх заўсёды імкнуцца людзі. Гэта тое высокае, па якім, адпраўляючыся ў вялікі жыццёвы шлях, яны павінны звяраць свае сэрцы і яго не трэба блытаць з райскім спакоем, які нібыта ёсць там, за аблокамі. Той самы «спакой» многія шукаюць усё ж тут, на грэшнай зямлі.

У кожнага чалавека павінна быць свая вышыня, свая гара ці вежа, але святло яе мусіць быць бачным і для ўсіх астатніх. Ці не гэтай філасофіяй кіруецца герой апавядання «Белая вежа» Іскандэр, якога непакоіць думка пабудаваць своеасаблівую белую вежу шчасця? «Ёсць у мяне адна мара. І думаю, што яна магла б стаць і вашай марай. Я хачу пабудаваць вежу шчасця, высокую, белую, як воблакі, каб з яе вышыні кожны мог зірнуць на родную краіну, захапіцца красой яе прыроды, працавітасцю яе людзей. А таксама ўбачыць і іншыя краіны, сумежныя з нашай. Каб кожны хаця б раз на год уздымаўся над буднямі свайго жыцця, азіраў яго высокім і шырокім паглядам. Белая вежа, як казалі нашы дзяды, будзе бачна многім народам. Гледзячы на гэту вежу, яны пераканаюцца, што шчасце — праўда і справядлівасць — усё ж існуюць на зямлі. Такія вежы — я веру ў гэта — уздымуцца потым на ўсёй зямлі. Але наша будзе першай. Дзеля гэтага варта жыць і працаваць».

Алегарычная, амаль казачная выснова ўзвядзення самой вежы падмацавана шчырым спрадвечным жаданнем чалавека пабудаваць сапраўды ідэальную краіну, дзе людзі пачувалі б сябе шчаслівымі, вольнымі і незалежнымі, а самае галоўнае, — разумелі адзін аднаго і верылі ў сваю будучыню. Недзе ў падтэксце бачацца нам і жывыя правобразы гэтай краіны. Падтэкст у творах Г. Чарказяна часамі настолькі выразны, што чытач і сам лёгка ўгадвае ўсе сапраўдныя рэаліі, нават дэталі таго, што хвалюе аўтара. Інакш кажучы, у сваім зацікаўленым расповедзе пісьменнік падводзіць нас да той рысы, дзе падтэкставае, алегарычна пераўвасобленае, пераходзіць у рэальнае. Думаю, найбольш характэрнай у гэтых адносінах можа быць навела «Карабель». Чытачу ўсё дарэшты зразумела ў гэтым іншасказанні, выразна акрэслена і сама думка твора: кожны ў жыцці павінен займацца толькі сваёй справай. Толькі тады не будуць тануць вялікія і прыгожыя караблі.

Згадваючы сёння ранейшыя кнігі Ганада Чарказяна, і паэтычныя, і празаічныя, можна ўжо даволі выразна акрэсліць вобраз яго галоўнага героя, па сутнасці, прадметна ён пачаў ужо акрэслівацца яшчэ ў ранніх яго творах. Гэта — чалавек улюбёны ў сваю зямлю, які памятае сваіх продкаў і шануе іх звычаі, ён адданы змагар за праўду і справядлівасць; гэта чалавек, які здольны зразумець іншага чалавека. У сэрцы яго цэлы скарб дабра і любові, але і шмат чалавечага болю, урэшце ён ведае цану жыццю і яго каштоўнасцям. Ён і да дробязей жыццёвых

неабыякавы. Але на старонках твораў мы сутыкаемся з самага рознага кшталту героямі. Вунь колькі іх, пазначаных таўром таго ж зла! Аднак у пісьменніка заўсёды знойдзецца той, каго можна ім супрацьпаставіць. Не кожнага Усявышні творыць па падабенстве сваім. Мабыць, таму спосабы гэтага і шукаюць творцы зямныя. Пісьменнік заўсёды змушаны тварыць ідэал героя свайго часу. Аднак жыццё і час лепяць чалавека па сваіх формах і параметрах. Працэс гэты няпросты, часта замешаны на крыві, на вострых чалавечых узаемаадносінах, незваротных стратах. І пісьменніку трэба быць пранікнёным і ўдумлівым даследчыкам, каб не толькі патрапляць след у след за сваім героем, а і бачыць тое зменлівае, што ўвесь час адбываецца ў яго душы. Гэта толькі здаецца, што чалавек па сваёй сутнасці нязменны. На самай справе ён часта мяняецца, хутчэй, чым надвор'е за акном. І тут важна засяродзіцца і зразумець тыя абставіны, якія спрыяюць гэтаму. Г. Чарказян шляхам удумлівага даследавання, менавіта даследавання, а не сузірання, і спрабуе пранікнуць у сакрэты чалавечай душы. Іншая справа, як гэта яму ўдаецца. Здараецца, што і адкрывае ўжо даўно адкрытае. Магчыма, ад таго, што даводзіцца амаль увесь час хадзіць аднымі і тымі ж сцяжынамі. Гэта так і не так, бо на тых жа самых сцяжынах ён сустракае ўжо новых людзей, з новымі звычкамі і паводзінамі, з новымі характарамі. Проста ідзе няспынны аўтарскі пошук, а ён патрабуе і сваіх выдаткаў.

У нашай, умоўна акрэсленай напачатку творчай размове, дзе ўвесь час закраналіся самыя розныя пытанні чалавечага існавання і ўладкаванасці на зямлі, заўсёды ўзнікалі дзве асноўныя праблемы: дабра і зла. Як зрэшты чалавецтву ўраўнаважыць гэтыя два паняцці? І ці варта гэта рабіць? Даўно зразумела: пакуль будзе існаваць свет, будуць існаваць у ім, як процівага адно другому, дабро і зло. Аднак кожны сумленны чалавек, і творца ў першую чаргу, ставіць сабе за мэту служэнне дабру, калі не сказаць мацней — змаганне за яго. Вось што кажа мне аўтар вуснамі свайго героя Карахана з навелы «Тры жаданні»: «Калі майму атачэнню будзе добра, добра будзе і старому Карахану… Гэта мой маленькі свет, дзе я жыву і як магу раблю дабро… Шкада, што людзі не разумеюць, што ў гэтым свеце кожная кузурка, кожная істота мае свой лёс, свой асаблівы непаўторны свет, захаванасць якога забяспечваюць зусім старонnія істоты… Своеасаблівы ланцужок… Так і жывём з болем і пакутамі, не разумеючы, што кожны можа хоць крыху, але ўсё ж палегчыць лёс сабе падобнага… Усе чамусьці чакаюць, што адбудзецца цуд і хтосьці іншы, а не ён, зробіць менавіта вось так… А рабіць добрае не шмат хто і можа…»

Гэтак кажа мне ён, аўтар. А я ў сваю чаргу, падтрымліваючы нашу даверлівую размову, сцвярджаю яму наступнае. Вядома, што, шмат гаворачы пра дэфіцытную чалавечую дабрыню, яе ад гэтага ў свеце не пабольшае. Наадварот, сама гаворка можа стаць надакучлівай. Але гэту ісціну аўтар добра ведае сам. А яго героі разумеюць іншае: дабро трэба сцвярджаць не словамі, а ўчынкамі. Гэтым і пераконваюць мяне. Усе тры жаданні таго ж Карахана адрасаваны не сабе, а тым, хто з ім побач.

Менавіта за добрыя ўчынкі паважаюць на далёкай усходняй станцыі беларуса дзеда Гаўрылу («На ціхай станцыі»). І калі ў таго здарылася бяда, згарэў дом, з такімі цяжкасцямі ім пабудаваны, на дапамогу яму прыходзяць усёй грамадою жыхары далёкай станцыі. Больш таго, мы даведваемся, што з добрага ўчынку і пачалося ўсё памятнае ў жыцці Гаўрылы. Гэта здарылася даўно, у Беларусі, на ціхай станцыі Вярэйцы, куды яго будзе цягнуць усё жыццё: «Гаўрыла ішоў неяк уздоўж чыгункі і натыкнуўся на невялічкую валізку. А ў ёй ляжалі вялікія па тым часе грошы. Прынёс дамоў цэлы скарб. Але чужы. Хоць маладым грошы гэтыя былі не лішнія, але вырашылі муж з жонкаю, што сумленне даражэйшае. Прыкінулі, чые яны маглі быць. Па гэтай вузкакалейцы з Лапічаў заўсягды ў канцы месяца вяртаўся касір з зарплатай вярэйкаўскіх чыгуначнікаў. Гэта касір Васіль Прыгун згубіў грошы, вырашылі яны. У Васіля было багата дзяцей. Ці не з рос-

пачы і выпіў. Феня адразу заявіла, што грошы Прыгуну трэба вярнуць, бо сядзе ў турму, а хто дзяцей карміць будзе? І вярнулі».

Той учынак дапамог пацярпеламу нават адчуць сябе зусім іншым чалавекам. Пасля такога здарэння ніхто не бачыў яго болей на падпітку. Дзе ўчынак, там і прыклад.

Новая кніга Ганада Чарказяна зместам сваім ахоплівае шмат якія пласты нашага жыцця, хоць само тэматычнае разгалінаванне як бы і адыходзіць на іншы план, бо гаворка ўвесь час канцэнтруецца вакол чалавечых узаемадачыненняў. Агульначалавечае ў чалавеку нібыта аб'ядноўвае ўсю тэматыку ў адно цэлае.

Быў час, калі пісьменнікаў папракалі за іх няўвагу да сучаснасці, за іх «капанне» ў мінуўшчыне. Але паспрабуй уявіць тую самую сучаснасць без повязі яе з нашым мінулым. Трэба адзначыць, што Г. Чарказян даволі ўважлівы да самой гісторыі, да сваіх каранёў і ніколі не прамінае, каб нагадаць пра гэта не толькі сваім сучаснікам, але і спавядальна звярнуцца да саміх нашчадкаў. Не лішне было б прыгадаць тут размову дзеда з хлапчуком у апавяданні «Разбіты збан». Гаворка ідзе пра чысціню мовы, пра павагу да яе. А самі словы гучаць як зварот да будучых пакаленняў, як мудры наказ: «…Як раней мае продкі казалі «арба», дык і я гэтаксама. Ты ж і сам бачыш, што нічога не памянялася, усё тыя ж чатыры колы ды чалавек. Проста родную мову трэба аберагаць ад чужых слоў. Чым менш гэткія словы будуць засмечваць нашу мову, тым лепш. Тым больш чыстай яна будзе. Бо калі б нашы продкі не дбалі пра чысціню роднай мовы, дык яе ўжо і не было б. Вось як, сынок…» Гэтыя словы змушаюць задумацца. Берагчы родную мову — хіба гэта нейкі вузкамясцовы клопат? Не, у гэтым пытанні ёсць і агульначалавечыя інтарэсы. Відаць жа, нельга дбаць пра чысціню душы, не дбаючы пра чысціню роднай мовы. Такая менавіта думка прачытваецца ў падтэксце апавядання.

Пярэзыўна з папярэднім творам гучыць для нас і навела «Хадан». Зноў жа гаворка ідзе пра традыцыі народа, пра повязь часоў і пакаленняў, пра пераемнасць і працяг роду. Хадан — гэта своеасаблівае збудаванне ў сценах дома курдаў кшталту вялізнага драўлянага ложка. Гэта таямніца і разам з тым вялікі сімвал сямейнага жыцця, дзе ўсё змацавана памяццю і чалавечай вернасцю ўсяму роднаму. А сутнасць таямніцы вось у чым: «…кожны курд перадае з пакалення ў пакаленне і захоўвае ў самым святым месцы дома жменьку зямлі з краіны продкаў ці іх магіл». Герой навелы — хлапчук, які здрадзіў памяці роду свайго і скраў таямніцу, — хоць і не разумее, які грэх ён учыніў, таксама не пазбягае Боскага асуджэння.

Кожная новая прытча, якая часта служыць асновай ягоных твораў, — не столькі павучанне, колькі вяртанне да сваіх вытокаў, жаданне адшукаць, а потым яшчэ тужэй завязаць той вузел еднасці і пераемнасці, які ўсё настойлівей імкнуцца рассячы разбуральныя сілы вераломных стыхій.

Часам у празаічных творах Ганада Чарказяна адчуваеш сэнсавы пераклік з ягонымі вершамі. Кажуць, што паэты, якія канчаткова пераходзяць на прозу, непазбежна пачынаюць празаічна перапісваць свае вершы. Што тычыцца майго суразмоўцы Г. Чарказяна, дык гэта абвінавачванне зусім не ў яго адрас. Празаік Чарказян, як і Чарказян-паэт, звыклыя думаць і прамаўляць вобразамі. А прамаўляюць яны амаль заўсёды рэчы філасофскія.

Ці лёгкім бывае пераход ад паэзіі да прозы і — наадварот? Гэта пытанне, напэўна, мала хвалюе чытача, а вось для самога творцы, як мне здаецца, яно істотнае, а, магчыма, нават балючае. І не таму, што трэба адмовіцца ад таго, што ўжо нібыта сталася тваёй сутнасцю, нават усталяванасцю, а тут трэба, як кажуць, перасаджвацца на іншы воз. Палохае сама творчая адаптацыя, прывыканне да празаічнай уседлівасці і засяроджанасці, паслядоўнасці, заўсёднай боязі, каб не «загусцела фарба». Калі ж імкнуцца «іграць адразу на двух інструментах», ёсць таксама небяспека страціць у адным і не знайсці ў другім. Так думаецца мне, хто крыху паспрабаваў такога творчага «прытулення» на два плячы. Кажуць, што

і раздвоенае дрэва цяжэй ідзе ў рост. Магчыма, я памыляюся, але празаік Чарказян са згоды паэта Чарказяна даўно перасягнуў няпэўны рубеж балансавання ў сваім выбары і стаў на цвёрдую празаічную платформу. Але і з паэзіяй яшчэ канчаткова не развітаўся. І ў новай кнізе «Белая вежа», хоць і невялічкім раздзелам, але прадстаўлены чарговыя чаргаві ў перакладзе Рыгора Барадуліна. Праўда, раздзел гэты заціснуты ў самую сярэдзіну празаічнага тэксту, выглядае як бы сіратліва. Магчыма, гэта своеасаблівы кампазіцыйны ход аўтара, спроба хоць гэтак рассяродзіць празаічную прастору кнігі. А хутчэй за ўсё тут мае месца своеасаблівае афарыстычнае падмацаванне думкі, якая паслядоўна трактуецца ў аўтарскіх апавяданнях і навелах. Чаму б, скажам, пасля працяглых разважанняў пра далёкае мінулае ды карані нашы і не паставіць паэтычную кропку ў выглядзе наступнага чатырохрадкоўя:

Дрыжыць расінка зябла на лісце.
Свае сакрэты ў ліп і туманоў.
Усё, што ўдзячнае зямлі, расце,
Не трэба адрываць ад каранёў.

Ёсць і яшчэ адзін раздзел у новай кнізе Ганада Чарказяна, які таксама не пазбаўлены кампазіцыйнай ды і сэнсавай правамернасці. Назва ягоная «Мініапавяданні». Жанр і сапраўды апраўдвае сваю назву. Часцей за ўсё гэта дзве-тры лаканічныя фразы, але з вельмі прынцыповай «кропкай». Спачатку падумалася, што тут своеасаблівая заяўка на новыя апавяданні. Аднак выразная завершанасць мініяцюр пераконвае ў іншым: гэта спроба сказаць тое, на што часам спатрэбілася б цэлае апавяданне, адной фразай. Шмат тут засведчана добрай аўтарскай назіральнасцю, а часам і роздумам над пабачаным. Спашлёмся на прыклады: «Калі хто незнарок прыхінуўся да цябе ці паклаў галаву на тваё плячо — не спяшайся адхіляцца. Можа, ты змог бы стаць і апорай, хоць бы часовай».

Коратка, але шмат месца для роздуму. А вось яшчэ што ўсхвалявала і зноў жа змусіла задумацца: «На пахаванні Міхася Зарэмбы згадаў яго апошнія словы, сказаныя ў бальніцы, калі мы разам з Камароўскім, Хвалеем і Мазго наведалі яго: «Калі што — не памінайце ліхам». Ён добра ведаў, што жыць застаецца нядоўга. І мы таксама ведалі. На жаль…»

Пэўна ж, усё гэта ўзята з аўтарскіх нататнікаў, магчыма, пісьменнік будзе яшчэ да іх вяртацца. А многае з надрукаванага ў гэтым раздзеле, гучыць сапраўды афарыстычна. Дарэчы, падобнага кшталту фраз знойдзем мы шмат амаль у кожным празаічным творы Г. Чарказяна. Але там яны падпарадкаваны свайму тэкставаму абавязку, іх як быццам і вырываць з тэксту боязна, каб не парушыць своеасаблівай слоўнай сямейнасці.

Часам па творах пісьменніка мяркуюць і аб яго ўласным жыццёвым вопыце. ПераЖытае не схаваеш, яно часта і водзіць пяром пісьменніка. З вышыні свайго жыццёвага вопыту ясней за ўсё бачыцца і тое, што схавана за аблокамі простай будзённай звычайнасці. Як прыемнае хачу адзначыць, што ў апошніх кнігах прозы Г. Чарказяна ўсё больш і больш сустракаем мы жыццёвай канкрэтыкі, прыгадак свайго асабістага. Часам яно з ціхім ды самотным перажываннем, часам з лёгкай лагоднай усмешкай. Як правіла, усе жыццёвыя высновы зыходзяць з самога жыцця. Часта лёсам нашым распараджаюцца і непрадбачаныя жыццёвыя акалічнасці, здарэнні, а то і выпадковасці, якія перарастаюць у цэлыя выпрабаванні, як гэта, напрыклад, здарылася ў апавяданні «Трэшчына». «На ўсё ёсць воля Божая», — кажуць звычайна ў такіх выпадках. Пісьменнік жа знаходзіць магчымасць сцвярджаць, што ёсць яшчэ і воля чалавека. Выратоўніцай і вырашальніцай бывае яна. Менавіта да такой думкі падводзіць нас Г. Чарказян у апавяданні «Трэшчына». Жыццёвая трэшчына, якая сталася для героя твора нейкай недарэчнай наканаванасцю, мусіць урэшце знікнуць, дзякуючы ягонай мужнасці і волі. Але шлях да выратавання цяжкі і пакутлівы. Ён — не для слабых, а моцных духам.

Не абышоў сваёй увагай Г. Чарказян і спрадвечную тэму кахання, якое згодна паэту «так цяжка ўладкаваць на зямлі». Пра сучаснае каханне пішуць і кажуць сёння самае непраўдападобнае. Тут трэба пагадзіцца і з радкамі самога Г. Чарказяна:

Пра сучаснае каханне чуткі й плёткі
Ходзяць, і няма ім дзе спыніцца.
І кахаць, і жыць умелі продкі.
Нам бы ў іх вучыцца і вучыцца.

І сапраўдным урокам у гэтым сэнсе можна лічыць апавяданне «Ангеліна-Анёл». Не кожнаму шанцуе так у жыцці, як пашанцавала герою твора Герману. Ён доўга шукаў і ўрэшце сустрэў жанчыну сваёй мары. Герману, які вырас без бацькі, але стаўся сапраўдным мужчынам, вучоным мужам, у якога з жанчынамі былі толькі «віртуальныя» стасункі, дапамог сам Яго Вялікасць Выпадак. Напатканая ім Ангеліна — узор анёльскай чысціні. І пачуцці ў закаханых чыстыя і непадробныя. Можна б усё гэта лічыць нейкім сном, як здавалася часам герою, калі б не простыя жыццёвыя рэаліі, якія папярэднічаюць гэтаму каханню. І мы шчыра верым у трываласць нечаканага саюза закаханых, бо нас пераконвае ў гэтым аўтар.

Мне здаецца, пісьменнік сказаў сапраўды новае слова, па-свойму падступіўшыся да старой, як гэты свет, тэмы. А чытач, як вядома, прагне заўсёды навізны, адкрыцця.

У навеле «Сімург за гарой…» аўтар малюе нам хлапчука, які разам з дзедам выпраўляецца ў пошукі казачнай птушкі Сімург. Нешта падобнае на пошукі гэтай чароўнай, але няўлоўнай птушкі, нагадвае і праца пісьменніка. Кожны раз адной і той жа сцяжынай ты адпраўляешся ў пошукі чагосьці няўлоўнага, сустракаеш, магчыма, тое, што сустракалі і адкрывалі да цябе ўжо многія шукальнікі. Але, калі ты глянеш на яго па-свойму, сваім здзіўленнем, — гэта і будзе адкрыццём. Такім шукальнікам уяўляецца нам і Г. Чарказян. А хада, спосаб шукання ды сакрэты ў яго свае. У гэтым пераконвае і новая кніга пісьменніка.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ

# ЛІТАРАТУРНА-КРАЯЗНАЎЧАЕ ПАДАРОЖЖА ПА ПУХАВІЧЧЫНЕ

## *Мар'іна Горка і блізкія ваколіцы*

З дня на дзень мы адкрываем для сябе нешта новае. Інфармацыйная прастора, што забяспечвае нас ведамі пра літаратуру і пісьменнікаў, настолькі шырокая, што часам агортвае скрушная думка: «Як жа мала мы паспяваем за жыццё зведаць новае і дагэтуль невядомае!..» А мяне яшчэ непакоіць і тое, што мала, неверагодна мала ведаў у большасці з нас пра родны край, пра тое, дзе нараджаліся творцы, у якіх умовах прыходзіла да іх першае натхненне… Таму і шукаю, спяшаюся адкрыць тыя памяткі, што праліваюць святло на лёс асобных пісьменнікаў і ўсёй беларускай літаратуры. А зараз запрашаю вас у вандроўку на Пухавіччыну, у самае яе сэрца — горад Мар'іна Горка і бліжэйшыя да гэтага старажытнага паселішча ваколіцы.

Калі вярнуцца на стагоддзе назад, то патрапім мы на невялічкую чыгуначную станцыю Пухавічы. Здавалася б, нічым не вызначальную, някідкую. Якраз тут — на станцыі Пухавічы, што сёння знаходзіца ў самым цэнтры Мар'інай Горкі, — 2 снежня 1902 года нарадзіўся паэт, празаік Анатоль Вольны (сапраўднае прозвішча — Ажгірэй, даволі распаўсюджанае на Пухавіччыне і сёння). Біяграфія Анатоля Вольнага — тыповая для перыяду станаўлення беларускай савецкай літаратуры.

Пачатак творчай дзейнасці Анатоля Вольнага — у далёкім 1920 годзе. Нядоўгі літаратурны век выпаў на долю Вольнага. Ён, быццам падаючая знічка, прамільгнуў у часе. Паўтара дзесятка гадоў (трохі болей, калі быць дакладным) творчай працы — і забыццё. Першая кніга (у сааўтарстве з Андрэем Александровічам) — «Камсамольская нота» — пабачыла свет у 1924 годзе. Пасля — кнігі паэзіі «Чарнакудрая радасць», «Табе», аповесці «Два», «Антон Савіцкі», кнігі гумарэсак і фельетонаў. У сааўтарстве з Андрэем Александровічам і Алесем Дударом напісаў раман «Ваўчаняты». А яшчэ ж п'есы, сцэнарыі да кінафільмаў. У 1935 годзе яго, трыццацітрохгадовага літаратара, ушанавалі званнем заслужанага дзеяча мастацтваў БССР. Праз год арыштавалі. Яшчэ праз год — расстралялі. І ніякіх табе слядоў. Ніякай, лічы, памяці. Рэдкія згадкі да юбілеяў (і то далёка не да кожнага), мо два ці тры вершы ўключаны ў зборнік анталагічнага характару.

Зразумелая справа, прычынай, калі гаварыць пра сённяшні час, можа быць і наступнае, вымеранае крытыкам: «У вершах выказваў захапленне і радасць, гонар за сваё пакаленне, якое становіцца будаўніком сацыялізму, у празаічных творах — узнёсла-пафасныя адносіны да рэвалюцыйнай рэчаіснасці, вобразы людзей маляваў у прыўзнята-рамантычным плане». Але ж павінен Вольны быць цікавым яшчэ і як чалавек, дзейсны, энергічны, руплівы… Мо стане з часам хаця б землякам-мар'інагорцам, пухавіччанам, цікавы?

Праз Анатоля Вольнага — і своеасаблівае яднанне з Пухавіччынай таленавітага драматурга, кінасцэнарыста, аднаго з самых яркіх стваральнікаў беларускага кіно Рыгора Якаўлевіча Кобеца (1900—1990 гады). Але перш чым расказваць пра стасункі Вольнага з Кобецам, прывяду наступны фрагмент мар'інагорскай,

пухавіцкай літаратурнай памяці. Вядомая пісьменніца Алена Кобец-Філімонава (здаецца, і зараз сярод кніг, якія рэкамендуюць школьнікам для пазакласнага чытання, — яе аповесць «Жаваранкі над Хатынню»), ведаючы маю зацікаўленасць літаратурнай гісторыяй Пухавіччыны, прынесла ў падарунак кнігу Рыгора Кобеца «Выбраныя творы» (Мінск, «Кнігазбор», 2009 год). Том у 592 старонкі — доўгачаканая падзея. Апошняя кніга Рыгора Кобеца выходзіла ў 1940 годзе (кінааповесць «Трофим Бутан», Хабараўск). Алена Рыгораўна і падпісала кнігу: «Шаноўнаму Алесю Карлюкевічу ад дачкі Рыгора Кобеца. У гэтай кнізе ёсць і Ваш зямляк, Анатоль Вольны, які разам з Кобецам пакінуў вельмі значны след у гісторыі беларускага кінамастацтва…» Так, яны сябравалі — кінадраматургі і пісьменнікі Рыгор Кобец і ўраджэнец чыгуначнай станцыі Пухавічы Анатоль Вольны. Разам засноўвалі падмурак беларускага нацыянальнага кінамастацтва. Абодва былі ўганараваны званнямі заслужаных дзеячаў мастацтва БССР. І абодва патрапілі ў махавік сталінскіх рэпрэсій. Анатоля Вольнага расстралялі ў 1937 годзе. Рыгор Кобец пасля астрога, лагера, высылкі ў Кіргізію, многіх і многіх пакут вярнуўся ў Беларусь болей як праз дваццаць гадоў.

У «Выбраныя творы» ў раздзел «Дадаткі» ўвайшла і гумарэска Анатоля Вольнага «Літаратурны сілуэт. Рыгор Кобец». У творы — пра п’есу «Гута», пра кінасцэнарый «Шукальнікі шчасця», па якім быў пастаўлены мастацкі фільм «Двойчы народжаны».

З «Выбраных твораў» паўстае партрэт сапраўды невядомага Рыгора Кобеца. Вялікую цікавасць выклікае ліст пісьменніка, які быў зачытаны на пяцідзесяцігоддзі кінафільма «Шукальнікі шчасця» ў Мінску ў Рэспубліканскім Доме кіно ў 1986 годзе. На той час Рыгор Кобец быў прыкаваны да ложка ў выніку цяжкага інсульта… І вось што вынікае з чарговага ўспаміну кінадраматурга: «Сцэнарый я пачаў пісаць яшчэ ў Мар’інай Горцы (там знаходзіўся ў трыццатыя гады Дом творчасці беларускіх пісьменнікаў). Побач з ім быў яўрэйскі калгас «Дэр Штэрн». Гэта ў Пухавіцкім раёне. Пад Мінскам…»

Маецца на ўвазе толькі што створаны на той час яўрэйскі калгас у мястэчку Пухавічы. Фільм расказвае пра перасяленцаў, пра тых, хто са сваіх наседжаных месцаў выправіўся ў Бірабіджанскую аўтаномную яўрэйскую вобласць на Далёкі Усход. Але жывыя характары, каларытныя персанажы, мова герояў — з Пухавіччыны. «…Мне было лёгка мець зносіны з калгаснікамі, вывучаць іх працу, шукаць характары…» Захаваўся адзін з першых варыянтаў кінасцэнарыя пад назвай «Бірабіджан». І пачынаецца той тэкст наступным прызнаннем: «Калі вы думаеце, што бірабіджанская тэрыторыя ў 5 мільёнаў га, якую партыя і ўрад выдзелілі ў 1928 годзе для засялення мільёнамі працоўных яўрэяў, пачынаецца на Далёкім Усходзе ля берагоў Амура, паміж рэкамі Бірай і Біджанам, дзесьці ля маньчжурскай граніцы, адкуль пагражаюць нам самураі, то вы глыбока, вельмі глыбока памыляецеся. Бірабіджан пачынаецца ў глыбінцы Беларусі і Украіны, у цэнтры Быхава, Шклова, Бярдзічава, Жмерынкі, Оўруча, Фастава, ад Жароўкі, Пухавіч, Старадуба, Пагары, Суража, Лапічаў, Смалявіч, Вінніцы, Канатопа і яшчэ ад сотняў яўрэйскіх мястэчкаў, народжаных мяжой аселасці царскага ўрада вялікадзяржаўнай Расіі». Потым усё гэта прыйшлося адкінуць, пакуль не атрымаўся лаканічны сюжэт, без лішніх слоў і апісанняў. Пакуль не адшліфаваліся характары.

Як сёння на цытаты, фраземы, крылатыя выразы разабраны сучасныя камедыйныя фільмы, п’есы, так у свой час цытавалі выказванні герояў «Шукальнікаў шчасця».

«Многія лічаць, — пісаў Рыгор Якаўлевіч больш як два дзесяцігоддзі назад, — што радзіма Піні — Бірабіджан. На самай справе яго радзіма — Пухавічы. Калгас «Дэр Штэрн», у якім я вывучаў працу, побыт калгаснікаў, шукаў характары будучых герояў фільма. Менавіта там я знайшоў Піню з яго крылатай фразай, што дала штуршок усяму сюжэту сцэнара: «Я прашу прабачэння. Скажыце, калі ласка, колькі — прыблізна, вядома, — колькі можа каштаваць такі параход?»

Але адкуль на Пухавіччыне, на рэках Цітаўка і Свіслач, параходы? А ўсё было наступным чынам… «Стаяў я аднойчы на паўстанку ў Пухавічах з беларускімі пісьменнікамі Анатолем Вольным і Станіславам Шушкевічам, калі збіраліся ехаць з Дома творчасці ў Мінск. Непадалёку праходзіў пажылы чалавек, апрануты па-замежнаму. Вось падыходзіць, пыхкаючы парам, новенькі, зіхоткі паравоз «Сярго Арджанікідзе». Чалавек залюбаваўся паравозам. Потым падыходзіць да мяне і пытае: «Я прашу прабачэння. Скажыце, калі ласка, колькі можа каштаваць гэты паравоз?» Я са здзіўленнем паціснуў плячыма і нешта невыразна прамармытаў у адказ. Пагаварыўшы яшчэ з намі, чалавек гэты (апынулася, што ён вярнуўся з эміграцыі) памкнуўся сыходзіць, і хтосьці з нас спытаў: «А як ваша імя? — «Піня!» І тады ці то Вольны, ці то Шушкевіч (цяпер ужо і не ўзгадаю) выклікнуў: «Грыша! Вось табе і вобраз гатовы для сцэнарыя! І на Далёкі Усход не трэба ехаць!» Так нарадзіўся Піня. У Пухавічах, у калгасе «Дэр Штэрн». А потым ужо, калі я паехаў у Бірабіджан, гэты характар адшліфаваўся і канчатковае завяршэнне атрымаў у выкананні артыста Зускіна».

«Шукальнікі шчасця», нягледзячы на тое, што ў фільме на высокім мастацкім узроўні пададзены адбітак няпростых часін, маюць шматпакутную гісторыю. У сувязі з рэпрэсіямі супраць Р. Кобеца, акцёраў С. Міхоэлса, В. Зускіна фільм тройчы здымаўся з экрана.

…А зараз мне падумалася вось пра што. На чыгуначным вакзале Пухавічы ў самым цэнтры горада Мар'іна Горка магла б з'явіцца мемарыяльная шыльда: «На вакзале ў Пухавічах у пісьменніка Рыгора Кобеца нарадзілася ідэя першага гукавога савецкага фільма пра калгасы «Двойчы народжаны» (ці «Шукальнікі шчасця»)». Такая згадка была б не лішняй для гісторыі беларускай культуры.

Пухавіцкі раённы цэнтр — радзіма і паэта Алеся Цвяха, якога, на жаль, не стала некалькі гадоў назад. Журналіст па адукацыі, ён вядомы па сімпатычнай, вялікай падборцы вершаў, — фактычна, па кнізе ў кнізе «Крыло». Шкада, што доўгі час Алесь Цвях нідзе не друкаваўся.

Раённая газета ў Пухавіцкім краі да Вялікай Айчыннай вайны насіла назву «За калгасы». Пачынаючы з 1935 года, адказным сакратаром у ёй працаваў паэт Антон Бялевіч. Праўда, хутка разам з усім штатам рэдакцыі быў звольнены. Прычына: газетай нібыта кіравалі «ворагі народа». Пашчасціла — не пасадзілі. Нейкі час Антон Бялевіч працаваў кладаўшчыком у райпрамкамбінаце. У 1937 годзе паэт перабраўся ўжо ў Мінск.

Колькі слоў з біяграфіі Антона Бялевіча. Нарадзіўся Антон Пятровіч 14(27) мая 1914 года ў вёсцы Дуброўка Уздзенскага раёна. Вучыўся ў Магілёўскім палітасветным інстытуце. «За калгасы» — першая газета, дзе ён паспытаў журналісцкага хлеба. Затым былі «Чырвоная змена» і «Звязда». Друкавацца Бялевіч пачаў з 1937 года. У 1939 годзе выдаў зборнік нарысаў «Майстры сацыялістычнага спаборніцтва». У Вялікую Айчынную вайну ўдзельнічаў у партызанскім руху. У 1945—1947 гадах працаваў у газеце «Літаратура і мастацтва». У 1947—1950 гадах — у газеце «Савецкі селянін». Першы зборнік вершаў выдаў у 1945 годзе ў перакладзе на рускую мову ў Маскве — «Человек из дубравы». Аўтар паэтычных кніг «На бацькоўскіх сцежках» (1946), «Дарогай шчасця» (1952), «Жывая рака» (1955), «За салаўінымі гаямі» (1959), «Вясёлка над полем» (1961), «Залатыя ключы» (1963), «Высокі поўдзень» (1964), «Партрэт бацькаўшчыны» (1967), «Сосны ў жыце» (1980) і інш. Дзецям адрасаваў зборнікі вершаў «Ідзі, мой сын», «Дабрадзейны асілак», «Тарасікава дарожка», аповесць «Малюнкі маленства». Напісаў кнігу літаратурных партрэтаў «Чарадзеі» (1970). Пераклаў на беларускую мову паэму А. Твардоўскага «За даллю — даль», многія вершы ўкраінскіх паэтаў А. Юшчанкі, М. Бажана, А. Малышкі, І. Няходы. Імем А. Бялевіча названа вуліца ў горадзе Узда.

У 1939 годзе пухавіцкая раённая газета мела ўжо новую назву «Сцяг камунізму». І сярод яе супрацоўнікаў быў малады паэт Аляксандр Пармон. У адным з яго

вершаў ёсць словы: «Пайду на заклік я гарніста…» Яны і сталі назвай артыкула Анатоля Ярохіна, у якім публіцыст расказаў чытачам пухавіцкай раённай газеты «Сцяг працы» пра ўнікальнага, яркага чалавека. «Упершыню пачуўшы пра свайго калегу з пухавіцкай раённай газеты некалькі гадоў назад, я ўвесь гэты час настойліва збіраў звесткі і матэрыялы аб ім. Тое, што ўжо знойдзена, дае падставу гаварыць, што вайна забрала ад нас аднаго з таленавітых маладых паэтаў, чыё слова ў беларускай паэзіі магло б стаць важкім і своеасаблівым».

А. Пармон загінуў як герой. Ён не мог змірыцца з тым, каб чужынцы таптcorrect нашу родную зямлю.

Перачытваючы нешматлікія вершы А. Пармона (а іх пакуль што ўдалося знайсці толькі тры), кожны раз прыходзіш да думкі, што гэтыя словы мог сказаць толькі сапраўдны патрыёт сваёй радзімы, чалавек, у якога б'ецца ў грудзях палымянае сэрца.

У пачатку ліпеня 1939 года ён пісаў:

Калі ж праклятыя фашысты
Вайны раздзьмухаюць агні,
Пайду на заклік я гарніста
Твае палеткі бараніць.

*(«Зямля»)*

А ў пачатку 1942 года ў няроўнай барацьбе з ворагам А. Пармон пацвердзіў гэтыя радкі сваім лёсам.

Архіўныя пошукі і знаходкі раскрылі яшчэ некалькі рыс характару юнака. У падшыўцы газеты «Сцяг камунізму» ўвагу звярнула выступленне В. Труса, сакратара камсамольскай арганізацыі калгаса «Камунар» Талькаўскага сельсавета.

«Камсамольская арганізацыя, — пісаў ён 30 жніўня 1939 года, — узорна рыхтуецца да XXV Міжнароднага юначага дня. Камсамолка Вера Усцінчык абавязалася падрыхтаваць 20 значкістаў «Гатоў да санітарнай абароны». Камсамолец Аляксандр Пармон — 15 значкістаў «Гатоў да супрацьхімічнай абароны». У калгасе разгарнулася падрыхтоўка да выбараў у мясцовыя Саветы. Шэсць агітатараў-камсамольцаў растлумачваюць выбарчы закон…»

Вялікі інтарэс для даследчыкаў і чытачоў набывае літаратурна-крытычная дзейнасць Аляксандра Пармона. Пакуль у нашым распараджэнні толькі адна рэцэнзія Аляксандра пра кнігу Паўла Левановіча «Дружба». Але і па ёй можна меркаваць аб назіральнасці і вялікай патрабавальнасці аўтара да паэтычнага слова…» («Сцяг працы», 1970, 10 кастрычніка).

Тут у публікацыю Анатоля Паўлавіча Ярохіна закралася памылка: рэцэнзія Аляксандра Пармона, надрукаваная ў газеце «Літаратура і мастацтва», называлася «Апавяданні Паўла Левановіча» і была прысвечана не паэтычнай кнізе, а зборніку апавяданняў «Дружба». Лёс ураджэнца Мсціслаўшчыны, аўтара рэцэнзіруемай нашым земляком кнігі, склаўся ў Вялікую Айчынную вайну трагічна. Спярша Павел Левановіч быў на фронце. Пасля трапіў у палон, уцёк з Крычаўскага лагера ваеннапалонных. Дапамагаў партызанам. З 1943 года зноў ваяваў на фронце. Быў цяжка паранены, ад чаго і памёр. У літаратуру ўвайшоў толькі з адзінай кнігай апавяданняў, выдадзенай у 1939 годзе. У Мсціславе адна з вуліц носіць імя Паўла Левановіча. Вось бы і ў Мар'інай Горцы такім жа чынам ушанаваць памяць Аляксандра Пармона альбо, напрыклад, у гонар яго як супрацоўніка раённай газеты, які не вярнуўся ў рэдакцыю з вайны, устанавіць мемарыяльную дошку!..

Аляксандра Пармона пасля заканчэння дзевяці класаў Талькаўскай сярэдняй школы запрасілі на сталую працу ў «Сцяг камунізму». Адразу — на пасаду літаратурнага супрацоўніка. Па першых ужо допісах на маладога журналіста звярнуў увагу чытач. Аляксандр не баяўся складаных тэм. Пісаў і ў рэспубліканскія выданні. У прыватнасці, газета «Літаратура і мастацтва» надрукавала карэспандэнцыі «Калгасны гурток», «Юныя мастакі», шэраг іншых матэрыялаў.

Аляксандр Пармон у артыкуле «Калгасны гурток» расказваў пра тое, што самадзейныя артысты калгаса «Камунар» паставілі два вадэвілі па творах Янкі Купалы «Паўлінка» і «Прымакі», рыхтуюць да пастаноўкі ў гонар вызвалення Беларусі ад белапольскіх акупантаў п'есу Кандрата Крапівы «Хто смяецца апошнім». У другім матэрыяле — «Юныя мастакі» — размова ідзе пра вучняў Талькаўскай школы Уладзіміра Габрыэльчыка, Аляксандра Бітуса і Івана Падаляку.

«Побач з газетнымі матэрыяламі, — піша Анатоль Ярохін, — з'яўляюцца вершы Аляксандра Пармона «Зямля» і «Астроўскі-Карчагін».

У гэты час юнак перажывае хвалюючую падзею ў сваім жыцці. Разам з іншымі маладымі паэтамі яго запрасілі на курсы-канферэнцыю маладых аўтараў у сталіцу. Тут ён знаёміцца з Якубам Коласам, Пятром Глебкам, Кузьмой Чорным, наведвае музеі і домік I з'езда РСДРП, глядзіць спектаклі артыстаў Ленінградскага тэатра імя Ленсавета, удзельнічае ў абмеркаванні твораў сваіх калегаў па пяры.

9 жніўня 1939 года курсы заканчваюць сваю работу, і Аляксандра Пармона чакае прыемная навіна. Яго разам з іншымі маладымі паэтамі ўключаюць у склад дэлегацыі, якая накіроўваецца ў Маскву на Усесаюзную сельскагаспадарчую выстаўку. У выніку гэтай паездкі ў Пухавіцкай раённай газеце з'яўляецца некалькі матэрыялаў А. Пармона пад рубрыкай «Пісьмы з Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі». Найбольш цікавыя з іх: «У павільёне квітнеючай БССР» і «Савецкі лён» (апошні пад псеўданімам А. Марозаў).

15 жніўня 1939 года выстаўку наведвае 27 перадавікоў сельскагаспадарчай вытворчасці. А. Пармон сустракаецца з землякамі, гутарыць з імі, збірае новыя матэрыялы. Наперадзе шмат задум і творчых планаў». («Сцяг працы», 1970,10 кастрычніка).

Хацелася б працытаваць верш Аляксандра Пармона «Астроўскі-Карчагін»:

У думках, клопатах я лёг у пасцель,
Заснуў гэтак прагна, глыбока;
І сніў, што па стэпу, кавыль дзе расце,
Праходзіць юнак яснавокі.

У стэпу па сцежцы юнак той ідзе,
З усмешкай на твары бадзёрым.
У шэрым шынэлі. Ён повен надзей
І думак глыбокіх, як мора.

Я глянуў раптоўна:
— Дзе бачыў, калі? —
Так доўга стаяў я ў развагах.
І ўрэшце прыпомніў, што гэткім калісь
Байцом быў Астроўскі-Карчагін.

Кавыль рассцілаўся па стэпу, як шоўк,
Ад ветру шумеў, быццам плакаў,
І кветкамі пахла.
Карчагін ішоў
На фронт супраць белапалякаў.

Прачнуўся, гляджу:
Паўкі побач няма!..
Карчагін жыве у народзе.
Я ў сне яго бачыў, я буду трымаць
У памяці вечна, заўсёды.

*(«Літаратура і мастацтва», 1939)*

Яшчэ адна літаратурная сцежка была пракладзена ў Мар'іну Горку да вайны. У гарадской сярэдняй школе настаўнічаў паэт Янка Непачаловіч (з 1939 па

1941 гады). Відаць, да самага пачатку вайны, бо ў гады акупацыі літаратар — сувязны партызанскай брыгады імя С. М. Кірава. Яна дзейнічала і на Пухавіччыне. Што да біяграфіі Янкі (Івана Данілавіча) Непачаловіча, то нарадзіўся ён 12(25) мая 1917 года ў вёсцы Мінкавічы Старадарожскага раёна. Скончыў Мінскі педагагічны інстытут у 1940 годзе. Пасля вайны настаўнічаў у Дзяржынску, Старадарожскім раёне. Працаваў у выдавецтве «Народная асвета». Друкавацца пачаў у 1936 годзе. Аўтар зборнікаў паэзіі «Мера любві» (1958), «Позні паром» (1967), «Перад захадам сонца» (1977). Памёр Янка Непачаловіч у 1969 годзе.

Мар'іна Горка ваеннай пары — прыстанішча празаіка Макара Паслядовіча. Нарадзіўся ён у вёсцы Караваева 21 жніўня 1906 года. Яшчэ да вайны пабачылі свет яго кнігі «Зруйнаваныя межы», «Людзі вясны», «Чатырнаццаты нумар», «Снайпер», «Марсель», «Хада ў заўтра». У гады акупацыі Макар Паслядовіч узначальвае мар'інагорскую падпольную групу, становіцца сувязным асобнага партызанскага атрада. За што ў 1943 годзе і быў арыштаваны і адпраўлены ў Германію на катаржныя работы.

Як для ўсёй Пухавіччыны, так і для Мар'інай Горкі сваё, роднае, блізкае імя Якуба Коласа. Калі зазірнуць у «Анамастычны слоўнік твораў Якуба Коласа», то колькі там пухавіцкіх назваў, імёнаў сустрэнеш! Гэта і шэсць пухавіцкіх паселішчаў, у якіх Колас разам з сям'ёю летаваў, і імёны пухавіччан, з якімі сябраваў… Але падрабязней аб гэтым расповед пойдзе крыху далей, калі мы будзем спыняцца ў Тальцы, Вусці, Загібельцы, Балачанцы, Беразянцы, Падбярэжжы… Зараз жа хацелася б звярнуцца да клопатаў, якія рэалізаваны ў Мар'інай Горцы па ўшанаванні памяці народнага песняра Беларусі Якуба Коласа.

З нядаўніх яркіх коласазнаўчых мерапрыемстваў — канферэнцыя, што адбылася ў Мар'інай Горцы восенню 2008 года. Чытаем у «Пухавіцкіх навінах» у артыкуле «Паклікалі пухавіцкія «Каласавіны»: «Нядаўна наш раён наведалі сын Якуба Коласа, ганаровы грамадзянін горада Мар'іна Горка, доктар тэхнічных навук Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч, паэт, галоўны рэдактар часопіса «Полымя» Мікола Мятліцкі, паэт, рэдактар аддзела прозы гэтага ж часопіса Анатоль Зэкаў. Яны прынялі ўдзел у свяце «Каласавіны», якое праводзіцца ў раёне з 1996 года.

Госці наведалі мастацкую галерэю раённага краязаўчага музея, пазнаёміліся з экспазіцыяй «Якуб Колас: прырода і людзі роднага краю», дзе Міхась Канстанцінавіч правёў экскурсію для наведвальнікаў.

У малой зале раённага Дома культуры адбылася практычная канферэнцыя «Якуб Колас і Пухавіччына». У яе рабоце прынялі ўдзел настаўнікі роднай мовы і літаратуры, бібліятэкары, вучні старэйшых класаў гарадскіх школ. Канферэнцыя была арганізавана аддзеламі адукацыі і культуры, раённым краязнаўчым музеем і раённай бібліятэкай. Яе ўдзельнікаў віталі самадзейныя артысты раённага цэнтра культуры, Блонскага дома культуры і Мар'інагорскай школы мастацтваў.

Дырэктар музея Аляксандр Прановіч расказаў аб той рабоце, якую праводзяць музей, настаўнікі беларускай мовы і літаратуры, бібліятэкары Пухавіччыны па зберажэнні творчай спадчыны Якуба Коласа.

З дакладамі «Якуб Колас і сучаснасць», «З крынічак памяці людской» выступілі Мікола Мятліцкі і пісьменнік з Мар'інай Горкі Браніслаў Зубкоўскі.

Аб стане роднай мовы і літаратуры ў школе і аб вывучэнні творчасці Якуба Коласа гаварыла настаўніца Мар'інагорскай сярэдняй школы N2 Людміла Ажгірэй. Яна зрабіла акцэнт на тым, што недастаткова адведзена гадзін у школе на беларускую мову і літаратуру, што вучні мала чытаюць творы беларускіх пісьменнікаў, і таму многія дрэнна валодаюць беларускай мовай.

Дырэктар раённай бібліятэкі Ганна Лабастава расказала аб той рабоце, якую праводзяць бібліятэкары па прапагандзе творчасці Якуба Коласа сярод чытачоў. Дыспуты, літаратурныя сустрэчы і святы, кніжныя выставы сталі паўсядзённымі ў рабоце бібліятэк раёна.

Аб месцы Якуба Коласа ў сваёй творчасці расказаў паэт Анатоль Зэкаў. Дарэчы, ён — часты госць у бібліятэках і школах раёна.

Цёпла віталі ўдзельнікі канферэнцыі Міхася Канстанцінавіча. Ён падзяліўся ўспамінамі аб сям'і Коласа і тых незабыўных сустрэчах і людзях, што акружалі песняра і яго сям'ю ў Тальцы, Загібельцы, на хутарах Падбярэжжа і Вусце, Беразянцы перад вайною і ў Балачанцы ў пасляваенны час. Сын Якуба Коласа пазнаёміў прысутных з невядомымі доўгі час творамі народнага паэта, у большасці гумарыстычнымі.

Пасля канферэнцыі вучні Блонскай СШ запрасілі гасцей на цікавае літаратурнае свята «Каласавіны».

Міхась Канстанцінавіч арганізаваў для ўдзельнікаў канферэнцыі, настаўнікаў і вучняў Блонскай школы фотавыставу сваіх работ». («Пухавіцкія навіны», 2008, 22 лістапада).

Пухавіцкую «раёнку» ў 1944 годзе, пасля вызвалення, рэдагаваў пісьменнік Уладзімір Ляўданскі.

З раённым цэнтрам Пухавіччыны звязаны лёс партызанскай паэтэсы Яніны Крайнік. Яна ваявала ў складзе партызанскай брыгады «Полымя». Вершы Я. Крайнік ваеннага часу ўключаны ў зборнік «Лясныя песні», які ўкладзены пухавіцкім партызанам вучоным-этнографам Я. Зазекам. Пасля вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў Яніна Крайнік некаторы час працавала ў Мар'інагорскім гарвыканкаме.

Цікавы ў дачыненні да творчай біяграфіі Яніны Крайнік і наступны факт. Пухавіцкі раён быў вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў 2 ліпеня 1944 года. І ў гэты ж дзень у Мар'інай Горцы былі наладжаны ўрачыстасці, якія прысвячаліся першаму Дню вызвалення раёна. Перад жыхарамі горада, усімі, хто трапіў у той дзень у Мар'іну Горку, на плошчы выступілі прадстаўнікі партызанскага камандавання і камандавання воінскіх злучэнняў. Следам за ўрачыстасцямі адбыўся вялікі канцэрт партызанскай мастацкай самадзейнасці. У рэпертуары канцэрта была песня Яніны Ігнатаўны Крайнік (Ліліі Лясной) «Людміла». Твор гэты прысвечаны камсамолцы Людміле Грыгаровіч, якая загінула ў баі з гітлераўцамі, паўтарыўшы подзвіг Аляксандра Матросава. Спявалася «Людміла» на матыў рускай народнай песні «Рябина». Упершыню тэкст «Людмилы» быў надрукаваны ў пухавіцкай раённай газеце «Сцяг працы» 1 ліпеня 1971 года.

Что стоите грустно
Стройные березы,
Что к земле склонились
Ветви белой розы?
Нежным ароматом
Капли вниз спадали,
Встрепенувшись, розы
Тихо прошептали:
За страну родную
Девушка сражалась,
С трудностью и страхом
Вовсе не считалась.
С боевой подругой
В бой друзья спешили,
И в минуты горя
С нею не тужили.
Верная сестрица
Долгими ночами
Раны исцеляла
Теплыми словами.
Темной летней ночью
Шел отряд в сраженье,

И в победе верной
Не было сомненья.
Черный глаз прищурив,
Первая Людмила
Грозным автоматом
Извергов косила.
Бой кровавый длился,
Близко, близко к цели.
Под ударом немцы
Корчились, шипели.
Трудный шаг,
И многим явно смерть грозила.
За страну родную!
Крикнула Людмила:
— За страну родную!
Стройная фигурка
В воздухе вспорхнула,
К амбразуре дзота
Телом всем прильнула,
И головку молча
На бревно склонила
Под салют победы
Патриот Людмила.
Над рекою холмик,
Две сестры-березы,
Встрепенувшись, шепчут
Ветви белой розы.
Милая Отчизна,
Жизнь свою младую
Отдала я честно
За тебя, родную.
Девушки, подруги,
Родину любите
И победы знамя
Высоко держите.
Пусть цветут счастливо
Города и села,
И пусть гордо льются
Песни комсомола.

*(«Сцяг працы», 1971, 1 ліпеня)*

Кожны з вершаў, кожная з песень Яніны Крайнік — сапраўдны дакумент народнага гневу, сведчанне пра гераізм і мужнасць усяго нашага беларускага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Каля ракі Балачанка быў невялікі пасёлак Новая Балачанка (гэта і ёсць, відавочна, сама вёска Балачанка). На краі пасёлка — хата бацькоў Яніны Ігнатаўны Крайнік. Яна, настаўніца, разам са сваім мужам Іванам Іванавічам тут і сустрэла вайну… З часам наладзілася сувязь з партызанамі. Яніна выконвала многія заданні лясных мсціўцаў. Хадзіла нават у Мар'іну Горку, была знаёмая з падпольшчыкамі Сяргеем Паслядовічам, Сцяпанам Буцянцом, Марыяй Амяніцкай і іншымі. Перадавала ім лістоўкі. Прыносіла назад разведдадзеныя па гарнізоне карнікаў у Мар'інай Горцы. Вывела ў лес урачоў з Пухавіцкай бальніцы, якія падтрымлівалі сувязь з партызанамі. Яны патрапілі пад падазрэнне СД і маглі ў любы час быць арыштаванымі.

Сярод літаратараў, якія цесна былі звязаны з Мар'інай Горкай, — і публіцыст Анатоль Ярохін (1940—1995 гады). Анатоль Паўлавіч нарадзіўся ў Краснапольскім раёне. Член Беларускага Саюза журналістаў, выдавецкі работнік. Член

Асацыяцыі пісьменнікаў-баталістаў. У 1963 годзе закончыў Маскоўскі завочны ўніверсітэт мастацтваў імя Н. К. Крупскай, а ў 1968 — факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Быў адказным сакратаром пухавіцкай раённай газеты «Сцяг працы», другім сакратаром Пухавіцкага райкама ЛКСМБ. Працаваў лектарам і інструктарам ЦК ЛКСМБ. Апошнія 15 гадоў жыцця былі звязаны з выдавецкай дзейнасцю. Спярша — у выдавецтве «Полымя», затым — галоўны метадыст Рэспубліканскага цэнтра па выданні гісторыка-дакументальнай хронікі «Памяць». Выступаў у асноўным у жанрах ваеннай дакументалістыкі і біяграфічнай літаратуры. Удзельнічаў у падрыхтоўцы кніг «Памяць», прысвечаных Чэрыкаўскаму, Лунінецкаму, Клімавіцкаму, Краснапольскаму раёнам, а таксама гораду Бабруйску.

Успамінае Браніслаў Зубкоўскі, які ў свой час разам з Ярохіным працаваў у газеце «Сцяг працы», а затым сябраваў з ім усё далейшае жыццё:

«Яго візіт увесну 1968 года ў рэдакцыю «Сцяга працы» пакінуў сімпатычнае ўражанне. Спартсмен (пасля высветлілася, што займаўся боксам), кантактны, з твару падобны на артыста Марка Бернеса… Такім ён запомніўся супрацоўнікам рэдакцыі. Рэдактар Аляксандр Грышан вердыкт на запыт, а ці можна працаўладкаваць выпускніка, вынес наступны: «Залічым у штат пакуль на пасаду літсупрацоўніка. Дапаможам знайсці кватэру. Словам, даю тры дні завяршыць усе мінскія клопаты — і да справы». Першае камандзіровачнае заданне Анатоль выканаў своечасова. Трэба было напісаць матэрыял пра сяўбу ў калгасе імя Жданава. Праўда, матэрыял атрымаўся крыху ілюстратыўны. На што і звярнуў увагу вопытны рэдактар. Але і падтрымаў: маўляў, у агуле ўсё добра, факты збіраць і апрацоўваць малады журналіст умее. Але хацелася б яшчэ дадаць аўтарскае «я». Патрэбны высновы, вартыя ўвагі чытача назіранні… Мяне асабіста здзіўляла, што Толя добра ведае жыццё. Так і ва ўсім выглядаў ён чалавекам ад зямлі, сялянскім сынам. Сумленнасць, настойлівасць у выкананні любога клопату — вось што імпанавала. Памятаю такі прыклад. Прыехалі ў госці да адной даяркі. Якраз у абед патрапілі. Не паспелі адчыніць веснічкі, а яна нясе ежу кабанчыку. Анатоль спыніў жанчыну: «Рана панеслі. Яшчэ ж не астыла». Жанчына здзівілася: «А вам адкуль ведаць?!.» — «У мяне вока навучанае». І здымае пінжак, закасвае рукаў і пад прамым вуглом апускае руку ў вядро, локцем тэмпературу мерае. «Вельмі гарачае пойла… Хвілін праз дваццаць будзе ў самы раз… А пакуль некалькі хвілінак пагутарце, калі ласка, з намі». З вышыні часу мо і някідкі факт, але мяне, гарадчука, ён уразіў…

І хаця за плячамі ў Анатоля Паўлавіча была вышэйшая адукацыя, ён завочна паступае ў Мар'інагорскі сельскагаспадарчы тэхнікум. Жаданне вучыцца растлумачыў усім наступным чынам: «Хачу займець сур'ёзныя агратэхнічныя веды. Пісаць пра калгасы і саўгасы, закранаць пытанні агратэхнічнай вытворчасці і не ведаць многіх рэчаў — сорамна».

…Зраблю ўласнае кароткае адступленне. Мяне з пухавіцкай «раёнкай» звязвае даўняе супрацоўніцтва. Першая мая нататка ў газеце «Сцяг працы» была надрукавана ў 1977 годзе, калі вучыўся ў сёмым класе. Як зараз, перад вачыма стаяць постаці журналістаў тых гадоў: Аляксандр Барысавіч Ісачанка, Галіна Анатольеўна Мазанік, Валерый Уладзіміравіч Паўловіч, Мікалай Шмарлоўскі, Людміла Лабачэўская… Што па-добраму ўражвала, дык гэта жаданне карэспандэнтаў паказваць дасведчанасць, веданне прадмета. Агульнымі словамі не абыходзіліся. Асабліва памятаю матэрыялы Мікалая Шмарлоўскага. Амаль адразу пасля публікацыі ў «раёнцы» іх перадрукоўвала абласная газета «Мінская праўда».

Ізноў звернемся да ўспамінаў Браніслава Зубкоўскага:

«Анатоль Паўлавіч сустракаўся з Петрусём Броўкам, Пятром Глебкам, Максімам Лужаніным, якія адпачывалі ў нашым раёне ў Беразянцы, Падбярэжжы. Яны і расказалі яму пра тыя часы, калі ў нашых мясцінах бывалі разам з Якубам Коласам. І ўжо пасля гэтых аповедаў ездзіў Анатоль Паўлавіч у Балачанку, Падбярэжжа, іншыя «коласаўскія» вёсачкі. Падрыхтаваў серыю артыкулаў «Якуб Колас

і Пухавіччына». Менавіта з прыходам Ярохіна ў нашу рэдакцыю ў газеце пачала фарміравацца гісторыка-краязнаўчая, патрыятычная тэматыка. Анатоль моцна пасябраваў з настаўнікам Шацкай СШ Іванам Пятровічам Чуйковым, які даведаўся, што ў раёне вёскі Старынкі ў чэрвені 1941 года мясцовымі жыхарамі пахавана шмат нашых загінуўшых салдат. Іван Пятровіч з дазволу сельсавета заняўся раскопкамі з мэтай паразахаваць астанкі ў брацкай магіле. Знайшоў у загінуўшых асабістыя медальёны, звязаўся з роднымі. Тыя і не ведалі, дзе знайшлі супакой іх блізкія — сыны, бацькі, браты. Родзічы прыязджалі на сустрэчу ў школу, а Іван Пятровіч стварыў у Шацкай дзесяцігодцы краязнаўчы куток. На некаторых медальёнах тэкст узнавіць не ўдалося. Тады Анатоль Паўлавіч паспрыяў настаўніку, адвёз медальёны ў Мінск экспертам-крыміналістам. Тыя і дапамаглі ў далейшым высвятленні ісціны. Пра ўсю гэту работу, пра настаўніка Чуйкова і яго пошукі Анатоль Паўлавіч расказаў на старонках раённай газеты…»

Публікацыі маладога журналіста зацікавілі першага сакратара Пухавіцкага райкама партыі І. Філімончыка. Той прапанаваў А. Ярохіну перайсці на работу ў райкам камсамола. Працуючы ў райкаме, а затым у Мінску, Анатоль Паўлавіч працягваў цікавіцца гісторыяй Пухавіччыны, часта наведваўся ў Мар’іну Горку, часта сустракаўся са сваім сябрам Браніславам Аляксандравічам Зубкоўскім. Разам яны напісалі дакументальную аповесць пра Героя Савецкага Саюза воіна-«афганца» Мікалая Чэпіка — «Героямі не нараджаюцца». Анатоль Паўлавіч сам ездзіў да бацькоў адважнага воіна, папрасіў у іх лісты салдата. Аповесць пра героя-земляка была напісана дастаткова хутка. З ёю аўтары ўдзельнічалі ў рэспубліканскім конкурсе на лепшы твор пра моладзь, які праводзіў ЦК ЛКСМБ. Б. Зубкоўскага і А. Ярохіна ўзнагародзілі Ганаровымі граматамі ЦК камсамола. Праз некаторы час аповесць была надрукавана асобнай кнігай. Калі Браніслаў Зубкоўскі прыйшоў працаваць дырэктарам Блужскай СШ, якую закончыў Мікалай Чэпік, Анатоль Паўлавіч быў адным з першых памагатых па стварэнні музея воіна-інтэрнацыяналіста.

«Анатоль Ярохін працаваў надзвычай напружана, — успамінае Браніслаў Аляксандравіч Зубкоўскі. — У шэсць гадзін раніцы звычайна садзіўся за пісьмовы стол. У выдавецтве «Полымя» пабачыла свет яго кніга «Людзі з сэрцам Данка». Рыхтаваў перавыданне, атрымаўшы ў архівах дадатковы матэрыял. Напісаў аповесць пра героя Вялікай Айчыннай вайны ўраджэнца вёскі Турын Фёдара Аляксеевіча Смеяновіча. На вялікі жаль, пасля смерці аўтара і рукапіс, і падрыхтоўчыя матэрыялы некуды зніклі… Здароўе не вытрымала такой напружанай працы. Пасля смерці матулі Анатоль перанёс мікраінфаркт. Другі ўдар заспеў яго ў снежні 1995 года. Прама з працы прывезлі ў бальніцу, дзё ён і памёр. Пахавалі літаратара ў Блужы. Развітацца з Антолем Паўлавічам прыехалі землякі з Краснапольшчыны, пісьменнікі і сябры па вучобе ва ўніверсітэце Уладзімір Паўлавіч Вялічка, Алесь Андрэевіч Марціновіч, ды шмат хто яшчэ…

У пухавіцкай раённай газеце працаваў літаратурным кансультантам паэт Мечыслаў Шаховіч (1986 — 1988 гады). Нарадзіўся паэт у гарадскім пасёлку Крывічы Мядзельскага раёна, на Міншчыне. Закончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт (1962), Мінскую вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПБ (1968). Аўтар паэтычных кніг «Па загаду сэрца» (1975), «Паклон зямлі» (1979), Бераг дабрыні» (1990), а таксама адрасаваных дзецям вершаваных зборнікаў «Падарунак», «Сунічная палянка».

У пухавіцкай раённай газеце, пачынаючы з 1981 года, працаваў галоўным рэдактарам Браніслаў Казіміравіч Яблонскі (нарадзіўся 13 лістапада 1947 года ў вёсцы Дубяйкі Нясвіжскага раёна). Сышоў з пасады галоўнага рэдактара ў 2009 годзе. Член Беларускага Саюза журналістаў. Аўтар краязнаўчых кніг, прысвечаных гісторыі Старадарожскага раёна.

Доўгія гады пры рэдакцыі раённай газеты працуе літаратурнае аб’яднанне. Некалі і аўтару гэтых радкоў давялося ўдзельнічаць у яго рабоце. Памятаю, як збіраліся ў кабінеце рэдактара па вуліцы Ленінская, 2. У адным двары былі

і рэдакцыя, і друкарня. Фактычна — адно памяшканне, толькі з двума ўваходамі. Дарэчы, у друкарні працаваў адзін час паэт Алесь Пісарык (нарадзіўся ў Мінску ў 1954 годзе). У розныя гады літаб'яданнне насіла розныя назвы. Адзін час — «Алеся», а зараз — «Мар'інка». Ці не штомесяц раённая газета змяшчае літаратурныя старонкі, як правіла, складзеныя ў асноўным з вершаў паэтаў, хто жыве і працуе ў Мар'інай Горцы і Пухавіцкім раёне.

Хацелася б згадаць імёны і хаця б некаторыя факты, што дапамагаюць узнавіць блізкую і далёкую гісторыю літаб'яднання. Звернемся да артыкула «Пра паэзію і не толькі…» Вольгі Лугавой (псеўданім Вольгі Савасцюк): «У Дзень беларускага пісьменства работнікі раённага цэнтра культуры сустрэліся з мясцовымі паэтамі — членамі літаратурнага аб'яднання «Мар'інка», якое працуе пры раённай газеце.

Вітала паэтаў намеснік дырэктара цэнтра Алена Сяргееўна Салагубава. Яна напомніла, што наступны год — юбілейны для нашай краіны. Мы будзем адзначаць 60-годдзе вызвалення Беларусі. Зараз ідзе распрацоўка мерапрыемстваў, прысвечаных гэтай даце. Магчыма, будзе аб'яўлены конкурс на лепшы верш, песню пра Беларусь, пра нашу Пухавіччыну. Удзельнікі сустрэчы падтрымалі гэту ідэю.

Людміла Каладзінская, Алена Радкевіч, Леанід Дубоўскі прапанавалі часцей сустракацца з моладдзю. У школах раёна ёсць нямала дзяцей, якія спрабуюць пісаць вершы, казкі, апавяданні. Алена Гладышава расказала пра літаратурны гурток, які працуе пры мар'інагорскай СШ № 1.

Было вырашана для старшакласнікаў правесці паэтычны вечар пра каханне. Ішла шчырая, зацікаўленая размова. Свае вершы прачыталі Ганна Морава, Галіна Шаўчэнка, Алена Радкевіч, Людміла Каладзінская, Уладзімір Рунцэвіч і іншыя.

У час сустрэчы выспелі новыя задумкі, якія дапамогуць ажыццявіць работнікі раённага цэнтра культуры. Мясцовыя паэты засталіся задаволеныя сустрэчай, у час якой яны знайшлі сабе новых сяброў і аднадумцаў». («Пухавіцкія навіны», 2003, 17 верасня).

У Мар'інай Горцы жыве член Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Гурын, які займаецца падрыхтоўкай і выпускам серыі кніг «Пухавіччына памятае», прысвечаных у асноўным тэме Вялікай Айчыннай вайны на Пухавіччыне. Была выдадзена і кніга пра ўдзельнікаў вайны ў Афганістане. У пасёлку Новая Зара, што ўжо стаў неад'емнай часткай горада, жыве і працуе паэтэса, аўтар некалькіх кніг лірыкі Аляксандра Лагвіновіч.

Многія дзесяцігоддзі ў беларускай літаратурна-мастацкай перыёдыцы з'яўляецца імя Браніслава Зубкоўскага. Дасведчаны знаўца беларускай літаратуры, сур'ёзны публіцыст, ён нарадзіўся 15 сакавіка 1938 года ў Мар'інай Горцы ў сям'і рабочага. Пасля заканчэння мар'інагорскай СШ № 1 паступіў на філалагічны факультэт Магілёўскага педагагічнага інстытута (сёння — Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт імя А. Куляшова). Размеркаванне атрымаў на Палессе, настаўнічаў у Пінскім раёне Брэсцкай вобласці. У 1964 годзе пераехаў у Пухавіцкі раён. Працаваў дырэктарам Зоркаўскай васьмігадовай школы. У 1968 годзе завочна закончыў аспірантуру пры Беларускім дзяржаўным універсітэце. Працаваў загадчыкам аддзела пухавіцкай раённай газеты «Сцяг працы». Ды педагогіка, настаўніцтва ўсё ж перацягнулі на свой бок. Болей як дзесяць гадоў жыцця аддаў рабоце інспектара аддзела асветы Пухавіцкага райвыканкама. Па асабістай просьбе быў пераведзены дырэктарам Блужскай сярэдняй школы. У гэтай школе вучыўся Герой Савецкага Саюза воін-інтэрнацыяналіст Мікалай Чэпік, які загінуў у Афганістане. Браніслаў Аляксандравіч арганізаваў у школе музей Мікалая Чэпіка (зараз — філіял Пухавіцкага раённага краязнаўчага музея). Школе рашэннем Савета Міністраў БССР было прысвоена імя героя. Працаваў Браніслаў Аляксандравіч і ў Амяльнянскай сярэдняй школе. Болей як 10 гадоў — дырэктарам Светлаборскай сярэдняй школы.

Браніслаў Зубкоўскі адзін з аўтараў кнігі «Блонь» (Мінск, 2007). Многія гады Браніслаў Аляксандравіч займаецца даследаваннем жыцця і творчасці

Якуба Коласа. Руплівы краязнаўца, літаратар, ён абышоў усе мясціны, дзе летаваў з сям'ёю народны пясняр, сустракаўся з многімі знаёмымі Коласа. Як вынік сустрэч — шматлікія публікацыі ў перыядычным друку, кніга апавяданняў пра Якуба Коласа для дзяцей «Чаму Загібелька лепш Парыжа» (выдадзеная на беларускай мове ў Расіі, у Курску, яна ў 2007 годзе адзначана Мінскай абласной літаратурнай прэміяй). Апавяданні друкаваліся ў «Настаўніцкай газеце», газетах і часопісах «Мінская праўда», «Піянер Беларусі» («Раніца»), «Бярозка», «Беларуская думка», «Пухавіцкія навіны», «Звязда» і іншых выданнях, у перакладзе на ўкраінскую мову — у часопісе «Барвінок».

Яшчэ ў 1962 годзе з падтрымкай пісьменніцы, літаратурнага крытыка Веры Палтаран Браніслаў Зубкоўскі выступіў у часопісе «Маладосць» з артыкулам «Аб ілюстрацыйнасці і маралізатарстве». З таго часу шмат займаецца літаратурнай крытыкай. Адгукаецца па свежых слядах на часопісную публікацыю раманаў і аповесцей, на новыя кнігі беларускіх пісьменнікаў. Літаратурна-крытычныя артыкулы, рэцэнзіі Браніслава Зубкоўскага друкаваліся ў газеце «Літаратура і мастацтва», часопісах «Нёман», «Полымя», «Беларусь», у маскоўскіх выданнях «Детская литература», «Народное образование».

У свой час Браніслаў Аляксандравіч Зубкоўскі абагульніў свае навукова-практычныя літаратурна-крытычныя вышукі ў грунтоўнай кнізе. І рукапіс яе прадставіў на разгляд у выдавецтва «Мастацкая літаратура». Час быў ужо не зусім спрыяльны для шырокага выкладання і тыражавання думак. Словам, у адказ дасведчаны літаратуразнаўца, няхай сабе і з правінцыйнай прапіскай, атрымаў такі ліст ад загадчыка рэдакцыі крытыкі і драматургіі Яўгена Лецкі. Датавана ж наступнае пісьмо 19 студзеня 1989 года. З дазволу адрасата цытую ліст сталічнага крытыка і выдавецкага работніка: «Паважаны Браніслаў Аляксандравіч!

У рэдакцыі крытыкі і драматургіі разгледжаны рукапіс Вашай кнігі «Проблемы развития приключенческого жанра (по материалам эволюции белорусской юношеской и детской повести за 70 лет развития литературы)».

Як сведчыць загаловак, а ён цалкам адпавядае профілю кнігі, перад намі тыповая навуковая манаграфія, у аснову якой пакладзена кандыдацкая, а мо і доктарская дысертацыя. Матэрыял, узняты і асэнсаваны Вамі, на нашу думку, цягне на самую высокую навуковую ступень. Але гэта ўсё ж не галоўны, а пабочны момант у нашай гаворцы, бо яна павінна быць скіравана на ацэнку кнігі, адрасаванай у выдавецтва «Мастацкая літаратура». І вось тут, пры ўсім самым добрым стаўленні да рукапісу, мы мусім сказаць прама, што ён абсалютна не адпавядае нашаму профілю, бо тут, паўторым, тыповае навуковае даследаванне з захаванымі ўсімі прыналежнымі гэтаму жанру атрыбутамі. Адзін навуковы спасылачны апарат чаго варты!

Перад Вамі два варыянты: першы, самы, мяркуем, прыдатны, гэта пераадрасаваць кнігу таму выдавецтву, якое адпавядае профілю. Ну, а другі, калі Вы ўсё ж разлічваеце на нас, дык у такім выпадку Вам трэба на гэтым жа матэрыяле напісаць, па сутнасці, новую кнігу, разлічаную на ўспрыняцце масавага чытача. Калі Вы рашыцеся, то тады ўжо мяняйце і мову, бо, дапраўды, сёння, у наш час, калі ідзе працэс нацыянальнага адраджэння, неяк не выпадае настаўніку беларускай мовы пісаць кнігу пра беларускую літаратуру не на беларускай мове…»

Усё, несумненна, правільна, толькі вось аднаго не хапае — энтузіясту з правінцыі ўсё ж, відавочна, трэба было і руку дапамогі болей настойліва працягнуць. Пасля знаёмства з лістом Я. Лецкі складваецца ўражанне такое, што выдавецтва шукала нагоду, каб толькі адмовіць у выданні кнігі… Дзякуй Богу, Браніслаў Аляксандравіч Зубкоўскі настойліва працуе і зараз. У полі зроку — не толькі класічная, але і сучасная дзіцячая літаратура. У памяці — рэцэнзіі мар'інагорскага аўтара на аповесці Раісы Баравіковай, Алеся Наварыча, Алеся Бадака, Анатоля Смалянкі, Васіля Гурскага і іншых пісьменнікаў.

**ВЕРАСЕНЬ**

**1**

110 гадоў з дня нараджэння Баранавых Сымона (сапр. Баранаў Сымон Якаўлевіч; 1900—1942), беларускага празаіка.

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Рэпіна Барыса Фёдаравіча, беларускага сцэнографа, жывапісца, графіка.

**3**

95 гадоў з дня нараджэння Райскага Барыса Іпалітавіча (1915—1993), беларускага дырыжора, заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь.

80 гадоў з дня нараджэння Ткачова Паўла Іванавіча (1930—1998), беларускага празаіка, літаратуразнаўца, крытыка, заслужанага работніка вышэйшай школы Рэспублікі Беларусь.

**4**

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Юшкевіча Леаніда Пятровіча, беларускага піяніста, педагога.

**5**

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Камкова Уладзіміра Цярэнцьевіча, беларускага артыста балета, народнага артыста Беларусі.

50 гадоў з дня нараджэння (1960) Карповіч Алены Аляксееўны, беларускага графіка, экслібрысіста.

**6**

105 гадоў з дня нараджэння Казлоўскага Віктара Іванавіча (1905—1975), беларускага паэта.

**7**

105 гадоў з дня нараджэння Бярозкі Георгія Сяргеевіча (1905—1982), беларускага празаіка, крытыка, літаратуразнаўца, кінакрытыка.

**8**

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Ганчаровай-Грабоўскай Святланы Якаўлеўны, беларускага літаратуразнаўца.

50 гадоў з дня нараджэння (1960) Цімохава Сяргея Аляксандравіча, беларускага жывапісца, графіка.

**11**

155 гадоў з дня нараджэння Раманава Еўдакіма Раманавіча (1855—1922), беларускага этнографа, фальклорыста, археолага, краязнаўца, педагога, літаратара.

120 гадоў з дня нараджэння Шатэрніка Мікалая Васільевіча (1890—1934), беларускага мовазнаўца і педагога.

85 гадоў з дня нараджэння (1925) Ткачова Аляксея Пятровіча, расійскага і беларускага жывапісца.

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Каструкова Аляксандра Міхайлавіча, беларускага скульптара.

50 гадоў з дня нараджэння (1960) Колбышава Аляксандра Іванавіча, беларускага рэжысёра, сцэнарыста, акцёра.

**12**

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Стадольніка Івана Канстанцінавіча, беларускага паэта, празаіка.

**14**

105 гадоў з дня нараджэння Кальцатага Аркадзя Мікалаевіча (1905—1995), расійскага і беларускага кінааператара, заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь, заслужанага дзеяча мастацтваў Расіі.

80 гадоў з дня нараджэння (1930) Лысенкі Антаніны Фёдараўны, беларускага літаратуразнаўца і крытыка.

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Гурыновіча Хведара Хведаравіча, беларускага паэта.

**15**

100 гадоў з дня нараджэння Германа Ізраіля Рыгоравіча (1910—1974), беларускага музычнага педагога, цымбаліста, заслужанага настаўніка БССР.

75 гадоў з дня нараджэння (1935) Коласа Міхаіла Яўхімавіча, беларускага акцёра, рэжысёра, заслужанага работніка культуры Рэспублікі Беларусь.

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Лапунова Анатоля Максімавіча, беларускага дырыжора, заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь.

**17**

150 гадоў з дня нараджэння Лейкі Кандрата Тодаравіча (1860—1921), беларускага празаіка, паэта, драматурга.

90 гадоў з дня нараджэння Крамко Яўгена Ігнатавіча (1920—1999), беларускага празаіка, публіцыста.

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Карэнды Івана Арсеньевіча, беларускага грамадскага дзеяча, паэта.

**19**

105 гадоў з дня нараджэння Туміловіча Янкі (Івана Людвігавіча; 1905—1938), беларускага паэта.

**20**

75 гадоў з дня нараджэння Засінца Міхася Мікалаевіча (1935—1982), беларускага самадзейнага жывапісца, заслужанага работніка культуры БССР.

**21**

95 гадоў з дня нараджэння Папова Іосіфа Сцяпанавіча (1915—1984), беларускага рэжысёра, педагога, народнага артыста БССР.

**22**

85 гадоў з дня нараджэння Траяноўскага Алеся (Аляксандра Пятровіча; 1925—2005), беларускага перакладчыка, крытыка, публіцыста.

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Багушэвіча Дзмітрыя Георгіевіча, беларускага мовазнаўца.

**23**

100 гадоў з дня нараджэння Сергіевіча Юльяна Іосіфавіча (1910—1976), беларускага паэта, мастака.

**24**

100 гадоў з дня нараджэння Карасёва Івана Васільевіча (1910—1983), беларускага жывапісца, сцэнографа.

**25**

115 гадоў з дня нараджэння Лявіцкай Ванды Антонаўны (па мужу Лёсік; 1895—1968), беларускай паэтэсы, празаіка.

75 гадоў з дня нараджэння (1935) Фядуся Аляксея Якаўлевіча, беларускага мастака дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**26**

100 гадоў з дня нараджэння Агіевіча Уладзіміра Іванавіча (1910—1952), беларускага крытыка і літаратуразнаўца.

85 гадоў з дня нараджэння Кісліка Навума Зіноўевіча (1925—1998), беларускага паэта, перакладчыка.

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Арцімовіча Анатоля Яфімавіча, беларускага скульптара.

**27**

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Бусько Міколы (Мікалая Іосіфавіча), беларускага паэта.

**28**

85 гадоў з дня нараджэння Лапава Барыса Сцяпанавіча (1925—1967), беларускага мовазнаўца.

80 гадоў з дня нараджэння (1930—2006) Дайліды Віктара Браніслававіча, беларускага празаіка.

**29**

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Белавусавай-Пятроўскай Таццяны Паўлаўны, беларускага мастака дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**30**

105 гадоў з дня нараджэння Галоўчанкі Надзеі Іванаўны (1905—1990), беларускага графіка.

## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ
## І ПАДПІСЧЫКІ «ПОЛЫМЯ»!

**Ідзе падпіска**
**на II паўгоддзе 2010 года:**

*індывідуальная льготная*
*для настаўнікаў (індэкс — 00471)*

на 1 месяц — 6100 руб.
на 3 месяцы — 18 300 руб.

*індывідуальная (індэкс — 74985)*

на 1 месяц — 9400 руб.
на 3 месяцы — 28 200 руб.

*ведамасная (індэкс — 749852)*

на 1 месяц — 12 900 руб.
на 3 месяцы — 38 700 руб.

*ведамасная льготная*
*для ўстаноў Міністэрства культуры*
*і Міністэрства адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь (індэкс — 00727)*

на 1 месяц — 10 500 руб.
на 3 месяцы — 31 500 руб.

***e-mail: polymya@bk.ru***

Рэдакцыя часопіса «Полымя», 220034, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара,
намесніка галоўнага рэдактара — 284-80-12,
аддзелаў прозы, паэзіі, навукі,
крытыкі і літаратуразнаўства — 288-22-37.

Стыльрэдактар *М. М. Гілевіч*
Камп'ютэрная вёрстка *С. І. Таргонскай*

Падпісана ў друк 14.09.10 г. Фармат 70×108 $^{1}/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80. Ул.-выд. 16,49 арк. Тыраж 2923 экз. Заказ 2343.
Рэгістрацыйны № 9 ад 22.07.09 г.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79. ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.